


03

**Штомесячны
літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны
ілюстраваны часопіс**

**(748) САКАВІК, 2016**

**Выдаецца з 1953 года**



**www.maladost.lim.by**

**Рэдакцыйна-выдавецкая
ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
г. Мінск**

Змест

# Жыць верaю, надзеяй і любоўю

## Гутарка Аксаны Ючкавіч з Хрысцінаю Лялько спецыяльна для часопіса «Маладосць»



**— Спадарыня Хрысціна, маё першае пытанне пра найпершае ў вашым жыцці: пра першыя крокі і першыя словы…**

— Найпершае — гэта радзіма, маці, парог роднае хаты і падворак каля яе, зарослы пругкім румянкам, на які ўпершыню ступілі твае босыя ногі; малады садок у ружовай кіпені цвету, з гудам пчолаў у кронах і жоўтымі цёплымі сонейкамі малачаю ўнізе, каля самага твару.

Найпершае — гэта адкрыццё роднага свету, калі, па словах Гуардзіні, «усё яшчэ жыло ў невымоўнай чысціні пачатку». Гэта высокая і непаўторная паэзія пачатку, якая застаецца з чалавекам на ўсё жыццё і прыходзіць як паратунак у самыя безнадзейныя хвіліны дарослага жыцця. Увогуле, як слушна заўважыў Поль Рыкёр: «Чалавек — гэта істота з доўгім дзяцінствам». І дзякуй Богу!.. А першае слова, зразумела, было: «мама».

**— Вы з пяшчотаю і любоўю пішаце пра сваю матулю ў вершах і прозе, часта згадваеце яе ў інтэрв'ю і размовах. Што з яе жыццёвага вопыту вы змаглі перанесці ў сваё жыццё і чаму ўдалося ад яе навучыцца? Які ўплыў на вашае духоўнае жыццё яна мела?**

— Вельмі вялікі. Мама заўсёды была і застаецца для мяне цэнтрам сусвету, маім маральным аўтарытэтам. Усё сваё жыццё яна кіравалася хрысціянскім, бенедыкцінскім правілам: Ora et labora — малітва і праца. Гэтаму з маленства вучыла і мяне. Мама была вельмі працавітая і гультайства лічыла найгоршым калецтвам для чалавека. Я не бачыла, калі яна клалася спаць і калі ўставала. Яшчэ ў маім раннім маленстве доўгімі зімовымі вечарамі мама прала кудзелю, а ранняю вясною ткала кросны — ручнікі, дзяругі, дываны з непаўторнымі ўзорамі, якія сама прыдумвала-малявала; у нас і сёння ў хаце на хутары стаіць яе ножная машынка — мае самыя прыгожыя сукеначкі ў маленстве з фальбонкамі-пелярынкамі, самыя мяккія і зручныя піжамкі, каптанікі і камізэлькі (нават ужо ў дарослым жыцці) былі пашыты яе ўдалымі рукамі. А як яна шчыравала на зямлі! Наш агародчык каля хаты з ранняй вясны да позняй восені ярчэў самымі рознымі кветкамі. У мамы было тонкае адчуванне прыгажосці. Букеты з палявых і лясных кветак, якія яна збірала і якія заўсёды стаялі ў нашай хаце, былі непаўторныя. Працуючы, мама часта спявала: у яе быў прыемны голас і добры слых. І, бадай, самае важнае, чаму мама мяне ўсё жыццё вучыла, — павазе і любові да ўсяго жывога на зямлі. Я найбольш удзячная ёй за гэтую навуку любові і за жывую веру, якую яна мне перадала — за тое, без чаго немагчыма заставацца чалавекам і, напэўна, увогуле немагчыма выжыць у гэтым свеце.

**— Прыйшоў час і вам давялося пакінуць родную хату і выправіцца ў сталіцу: пасля заканчэння школы вы паступілі на філфак БДУ. Якою была ваша першая сустрэча з Мінскам?**




Хрысціна Лялько ў 3-гадовым узросце, у сукенačцы, пашытай мамінымі рукамі.

— Чамусьці найбольш памятаецца мая вандроўка ў Купалаўскі сквер. Там мяне заспела нечаканая восеньская навальніца. Па небе гойсалі маланкі, пагрукваў гром, а я, як зачараваная, стаяла перад помнікам Янку Купалу і ў нябесных гуках мне чуўся голас паэта. Тады склаўся мой першы «сталічны» верш, а тая сустрэча з Купалам у бронзе ў нечым была сімвалічная, бо адразу пасля заканчэння ўніверсітэта я прыйшла працаваць у ягоны Дом — у Літаратурны музей паэта…

**— Сапраўды, цікава. Распавядзіце, калі ласка, пра першыя ўражанні свайго студэнцтва — пра першыя знаёмствы са сваімі будучымі сябрамі…**

— Самае першае блізкае знаёмства было з дзяўчатамі-аднакурсніцамі, з якімі мы пасяліліся ў 411-м пакоі ў студэнцкім інтэрнаце на былой Паркавай магістралі (цяпер — праспект Пераможцаў). Гэты інтэрнат узгадваў не адно пакаленне айчынных філолагаў. Пра яго ў свой час напісаў таленавіты паэт з трагічным лёсам Анатоль Сербантовіч: «На Паркавай прыгорбленыя хаты, // На Паркавай высокі інтэрнат, // Выходзіш ты на голас глухаваты, // Захутваешся ў тоненькі халат». У тыя, 1970-я гады наш студэнцкі пяціпавярховік сапраўды быў самым высокім будынкам на Паркавай. Цяпер, гледзячы на шклобетонныя хмарачосы на месцы «прыгорбленых хатаў» і нашага інтэрната, ужо цяжка ў тое паверыць… Што ж да сяброў — іх у студэнцтве было шмат і найбольш сярод тых, з кім давялося пазнаёміцца ў літаб'яднанні «Узлёт», якім кіраваў вядомы паэт і літаратуразнаўца, прафесар Алег Антонавіч Лойка. Гэта былі маладыя паэты Мікола Мятліцкі, Анатоль Шушко, Іван Рубін, Васіль Сахарчук, Віктар Стрыжак, Алесь Пісьмянкоў, Уладзімір Марук і паэткі Тамара Купрэвіч і Яўгенія Мальчэўская… На жаль, многія з іх ужо адышлі ў вечнасць. А тады мы часта збіраліся ў тым нашым 411-м пакоі або ў якім-небудзь іншым і чыталі вершы, размаўлялі пра літаратуру, спрачаліся.

**— А якія ў той час былі прыярытэты — у вас, у вашых сяброў? Пра што марылі, што хацелася спраўдзіць у сваім жыцці?**

— Напэўна, не памылюся, калі скажу, што аднымі з самых важных прыярытэтаў былі для ўсіх нас літаратура і творчасць. Мы марылі друкавацца. Памятаю, якая я была шчаслівая, калі на трэцім курсе мае вершы былі апублікаваны ў часопісе «Полымя». Аддзелам паэзіі там загадваў паэт-франтавік Анатоль Вялюгін. Прайсці праз яго патрабавальны адбор лічылася вельмі ганаровым…

У той час у рэспубліцы выходзіў штогадовы альманах «Дзень паэзіі», калектыўныя зборнікі маладых паэтаў, у якіх кожны з нас марыў надрукавацца. Мы жылі родным словам. Паглыбляць гэтае жыццё нам дапамагалі нашы выкладчыкі: народны паэт Беларусі, вядомы фалькларыст, прафесар Ніл Сымонавіч Гілевіч, які чытаў у нас курс народнай творчасці; тэарэтычныя веды па паэтыцы пашыраў вядомы літаратуразнаўца і пісьменнік Вячаслаў Пятровіч Рагойша; хараство літаратурнай мовы

раскрывала перад намі Ніна Іванаўна Гілевіч… А яшчэ ж былі сустрэчы з вядомымі пісьменнікамі і паэтамі ў літаб'яднанні «Узлёт», былі літаратурныя вечарыны, на якія мы заўсёды імкнуліся трапіць. У той час жылі і пісалі такія выдатныя майстры слова як Іван Мележ, Янка Брыль, Уладзімір Караткевіч, Васіль Быкаў, Максім Танк, Пімен Панчанка і многія іншыя, якіх мы мелі шчасце не толькі чытаць і вывучаць на філфаку, але і бачыць, і чуць. Усё гэта паглыбляла любоў не толькі да роднай мовы і літаратуры, але і да беларушчыны ўвогуле, выхоўвала нас патрыётамі.

**— А хто для вас быў першым настаўнікам у літаратуры? Якія былі ягоныя парады ці, можа, урокі?**

— Мне ў гэтым вельмі пашанцавала: маё першае апавяданне, апублікаванае ў 1979 годзе ў тыднёвіку «Літаратура і мастацтва» (я тады была студэнткаю пятага курса), заўважыў выдатны пісьменнік, тонкі стыліст, цудоўны знаўца роднай мовы і светлы, высакародны чалавек Ян Скрыган. З таго часу пачалося наша творчае сяброўства: Ян Аляксеевіч чытаў амаль усё, што я пісала, часам рабіў заўвагі — пісаў на палях маіх тэкстаў свае думкі дробным, акуратным почыркам. Ён быў аўтарам прадмовы і рэдактарам маёй першай кнігі прозы «Дарога пад гару». Я і сёння памятаю, як ён мне раіў: «Калі сумняваешся ў якой-небудзь фразе, уяві, пачуй, як бы яе сказала твая мама ці хтосьці з блізкіх; увогуле, слухай і запамінай, як гавораць дома, у вёсцы. Мова павінна быць натуральнаю, а не штучнаю, выдуманаю. Часам мы пішам так, як усё роўна выкручваем рукі, думаючы, што мове не баліць». Ён не стамляўся паўтараць, што «мова — гэта галоўны знак радзімы» і яе трэба берагчы і любіць. Калі, бывала, я наракала, што вось, маўляў, пішуцца толькі кароткія апавяданні, а за аповесць засесці няма часу, Ян Аляксеевіч далікатна перапыняў мяне: «Запомні, апавяданне — гэта высокі клас літаратуры. На 5—7 старонках можна сказаць вельмі шмат, калі ў цябе ёсць талент». Ён вельмі хацеў, каб я пісала, і ў той, згаданай тут прадмове да маёй «Дарогі пад гару», заўважыў: «…З такою моваю маўчаць проста грэшна», але, на жаль, абставіны склаліся так, што на ўласную творчасць у мяне амаль не заставалася часу. Быў якраз пачатак 1990-х, у краіне пачыналася духоўнае і рэлігійнае адраджэнне, і мы, невялікая група свецкіх католікаў, заснавалі два часопісы: «Ave Maria» і «Наша вера».

**— Так, і вы ад пачатку былі прызначаны іх галоўным рэдактарам і вось ужо больш за дваццаць гадоў рэдагуеце гэтыя вельмі важныя для нашай духоўнай і нацыянальнай прасторы выданні. Скажыце, калі ласка, якія тэмы і праблемы ў іх закранаеце? Хто з вядомых аўтараў друкуецца ў гэтых часопісах?**

— Тэматыка ў нас вельмі шырокая. Зразумела, аддаём перавагу духоўнай, тэалагічнай, філасофскай, але таксама і гістарычнай, і культуралагічнай. Друкуем і літаратурныя творы — прозу, паэзію, хрысціянскую эсэістыку і публіцыстыку. Назваць усіх аўтараў, на жаль, немагчыма, але хацелася б удзячна згадаць най-



З сяброўкаю Чаславаю на родным хутары. 1964 г.

перш тых, хто быў з намі ад самага пачатку, але ўжо адышоў у вечнасць. Гэта народны пісьменнік Янка Брыль, вядомы філосаф і літаратуразнаўца, хрысціянін з вялікай літары Уладзімір Конан, цудоўная паэтка, наша незабыўная Ніна Мацяш, вядомая паэтка, празаік і фалькларыст Валянціна Коўтун…

Удзячна вельмі за супрацоўніцтва з нашымі выданнямі літаратуразнаўцы Еве Лявонавай, мастацтвазнаўцам Тамары Габрусь, Аляксандру Ярашэвічу, Валерыю Буйвалу і Надзеі Усавай, вядомаму рэстаўратару і эсэісту Аркадзю Шпунту, лацііністу і гісторыку Алесю Жлутку, маладому архівісту Андрэю Шпунту… Асаблівая ўдзячнасць нашым таленавітым святарам, якія вядуць рубрыкі ў часопісе «Ave Maria», уваходзяць у склад рэдкалегіі квартальніка «Наша вера», кансультуюць нас…

**— Вашае імя прадстаўляе духоўную паэзію нашай краіны, а якая была ваша першая сустрэча з Богам, з вераю?**

— Першай сустрэчы не памятаю, бо была яна праз сем тыдняў пасля майго нараджэння падчас хросту ў белагрудскім касцёле на роднай Лідчыне, якраз у дзень Спаслання Духа Святога, на Сёмуху. А пасля, калі я крыху падрасла, мама штонядзелі вазіла мяне на ровары, прывязаўшы ясік да рамы, за сем кіламетраў у наш касцёл. Маліліся таксама штодня дома — рана і ўвечары. Сваёю верою я абавязана маме, яе жывому прыкладу і яе малітвам…

**— Ведаю, што вы сустракаліся з ужо святым Папам Янам Паўлам II. Якой вы тады былі, чым жылі?**

— Гэта быў 1994 год. Мы толькі-толькі заснавалі і зарэгістравалі часопіс «Ave Maria». Я яшчэ працягвала працаваць у часопісе «Беларусь», дзе вяла аддзел літаратуры. Быў вельмі напружаны час. Восенню мне ўдалося выехаць на два месяцы ў Італію, у Перуджу, у знакаміты на ўвесь свет Universita per Stranieri, каб падвучыць італьянскую мову. Вось падчас таго побыту ў Італіі мне і пашчасціла трапіць на аўдыенцыю да Папы Яна Паўла II. Гэта сустрэча — на ўсё жыццё. Яна адбылася ў летняй рэзідэнцыі Папы ў Кастэль Гандольфа, за сорак кіламетраў ад Рыма. Падчас сустрэчы я папрасіла ў Яго Святасці благаслаўлення на нашу выдавецка-рэдакцыйную працу, якую мы тады распачыналі. Папа ахвотна ўдзяліў сваё апостальскае благаслаўленне, якое дапамагае нам у працы вось ужо больш за два дзесяцігоддзі.

**— Пра ваш першы верш я не пытаю, а вось пра першы пераклад хацелася б запытаць. Хто быў тым шчаслІўцам, чыя творчасць «уцелавілася» на беларускай мове?**

— Не ведаю, ці быў ён «шчаслІўцам», бо гэта сапраўды быў мой першы перакладчыцкі досвед, на які мяне падбіў Кастусь Цвірка, замовіўшы пераклад нарыса «Мінск» Уладзіслава Сыракомлі. Пэўна ж, сёння я вельмі ўдзячна Кастусю Аляксеевічу, бо ў яго аказалася лёгкая рука і пасля гэтага я шмат перакладала і перакладаю з польскай мовы. У тым ліку ажно сем кніг Папы Яна Паўла II…

**— А якім чынам вы выбіраеце аўтара для перакладу?**



З Папам Янам Паўлам II.

— Здаецца, што гэта не я выбіраю аўтараў, а яны мяне, а часам усім гэтым кіруе Божая воля. Прынамсі, так было з першаю кнігаю Яна Паўла II «Пераступіць парог надзеі». І таксама з яго апошняю кнігаю «Памяць і самасвядомасць», якой я зусім не збіралася перакладаць, баючыся яе філасофскай і тэалагічнай глыбіні. Аднак жа…

**— Ці былі вы знаёмыя з аўтарамі, чые творы перакладалі і перакладаеце?**

— Пра сустрэчу з Янам Паўлам II я ўжо казала. Дарэчы, іх было дзве. І гэта можна назваць знаёмствам, бо праз год, пры другой сустрэчы, Папа мяне адразу пазнаў і сказаў, што памятае. Я была шчаслівая… Знаёмая я таксама з ксяндзом Вацлавам Бурылам, кніжачку вершаў якога «Павінен быць хтосьці» пераклала. Аўтар прыязджаў у Мінск на яе прэзентацыю. Давялося сустракацца на кніжных кірмашах у Варшаве з паэтамі-святарамі Янам Саханем і Ежы Шымікам. З ксяндзом Янам Твардоўскім, на жаль, пабачыцца не пашчасціла, была толькі аднойчы ў тым варшаўскім касцёле, дзе ён служыў усё сваё доўгае і ахвярнае жыццё.

**— Спадарыня Крыстына ці Хрысціна? У чым усё ж сакрэт вашага імя, якое можна сустрэць у дзвюх формах?**

— Імя Крыстына я атрымала падчас хросту. Імя Хрысціна — літаратурнае, дадзенае мне пры першай публікацыі маіх вершаў у лідскай раённай газеце ў 1971 годзе, калі я вучылася ў восьмым класе. Лідскаю раёнкаю тады кіраваў мудры рэдактар і цікавы чалавек Аляксандр Васілевіч Жалкоўскі. Думаю, што яму я абавязана гэтаю формаю свайго імя… Зрэшты, літаратурнае імя я люблю гэтаксама, як і атрыманае на хросце.

**— Вы і паэтка, і пісьменніца, і перакладчыца, і рэдактар… Магчыма, маеце яшчэ якуюсьці грань свайго творчага жыцця, пра якую я не згадала?**

— Ды ўжо і гэтага больш, чым дастаткова…

**— А каго ў вас больш? Паэткі, якая, па словах Дануты Бічэль, перадае сваё найменш здзейсненае пачуццё глыбінёю верша, ці пісьменніцы, публіцысткі, якая вядзе чытача пройдзенымі і перажытымі сцежкамі свайго жыцця і свайго народа? А, можа, строгай рэдактаркі ці засяроджанай перакладчыцы, якая імкнецца як мага дакладней разгадаць чужую душу, каб перадаць яе перажыванні на роднай мове?**


Аўтарка першага апавядання «Груган», надрукаванага ў «ЛіМе». 1979 г. Фота Ул. Крука.

— Цяжка сказаць. Якраз нядаўна ў тэлефоннай размове мы разважалі з Данутаю Бічэль, чаму ўсё ж пішуцца вершы, у тым ліку і празаікамі, перакладчыкамі ды рэдактарамі… І Данута Янаўна слушна заўважыла, што вершам можна ахапіць увесь свет і ўвесь сусвет, бо верш не абмежаваны ні часам ні прастораю, ён неабдымны, як пачуццё, бо ён і ёсць найперш — само пачуццё. Сапраўды, гэтак як Дух дыхае, дзе хоча, гэтак і нашае пачуццё здольнае ўздымацца да горняга, вышняга і ўзварушыць самыя патаемныя глыбіні чалавечай існасці. Проза ж, як правіла, засяроджаная на дэталі, абмежаваная прастораю і часам… І ўсё ж, перакладаючы чужыя вершы і пішучы свае і бясконца рэдагуючы тэксты для часопісаў, я вельмі сумую па сваёй ненапісанай прозе…

# Ад "А" да "Я" — дыпламатыя

**«Зараз я працую над стварэннем беларускага дыпламатычнага слоўніка», — сказаў студэнтам-журналістам Сяргей Лашкевіч, дацэнт кафедры міжнародных адносін аднайменнага факультэта Белдзяржуніверсітэта. Кацярына Захарэвіч вырашыла распытацца пра гэта падрабязна. Пагутарыць пагадзіліся Мечыслаў Часноўскі, загадчык кафедры міжнародных адносін, і сам Сяргей Лашкевіч.**

**— Мечыслаў Эдвардавіч, раскажыце, навошта ствараць такі слоўнік?**

— Патрэба стварыць дыпламатычны слоўнік існуе даволі даўно, і першая спроба на факультэце міжнародных адносін ужо здзейснена. У другой палове 1990-х гадоў склалася ініцыятыўная група, якую ўзначальваў прафесар Леанід Вікенцевіч Лойка. Тады мы падрыхтавалі і выдалі ў вельмі танным папяровым варыянце двухтомнік дыпламатычнага слоўніка на беларускай і рускай мовах. У той час грунтоўны, аб'ёмны слоўнік мы проста не маглі выдаць, таму што Беларусь яшчэ толькі шукала сваё месца ў свеце, што перашкаджала стварыць змястоўны опус, які б паказваў менавіта месца дзяржавы ў свеце. Зараз мы прайшлі ўсе ступені азнаямлення з міжнароднай супольнасцю, Беларусь стала паўнавартасным суб'ектам міжнародных адносін, яна праводзіць самастойную знешнюю палітыку, таму наспеў час зрабіць грунтоўны дыпламатычны слоўнік, які, як мне ўяўляецца, будзе квінтэсэнцыяй дзвюх рэчаў: ён закліканы паказаць месца суверэннай краіны ў свеце, паказаць нашы дасягненні, структуру Рэспублікі Беларусь, яе знешнюю палітыку, сувязі, знешнеэканамічныя магчымасці, а з другога боку — утрымлівае ўсе самыя сучасныя азначэнні, якія прымяняюцца ў сферы міжнародных адносін. На



Мечыслаў Часноўскі

Сяргей Лашкевіч



славянскай прасторы ў апошнія гады такія слоўнікі не выдаюцца, а тэрміналогія міжнародных адносін змяняецца: напаўняецца новым зместам, канкрэтызуецца, і гэты зрэз — самы сучасны — якраз увасобіцца ў нашым дыпламатычным слоўніку.

**— Сяргей Анатолевіч, якая ваша роля ў праекце?**

— Я буду выконваць тэхнічную частку. У праекце будуць удзельнічаць факультэт міжнародных адносін і Міністэрства замежных спраў. Увесь праект мы ўмоўна падзялілі на 14 раздзелаў, на чале кожнага будзе стаяць навуковец, які будзе каардынаваць дзейнасць па сваім кірунку. Будуць раздзелы, прысвечаныя гісторыі знешняй палітыкі і дыпламатыі Беларусі, міжнародным адносінам, міжнародным арганізацыям, пагадненням, міжнародным эканамічным адносінам у кантэксце знешнеэканамічнай дзейнасці Беларусі, міжнароднаму праву, дыпламатычнай і консульскай службе і г. д. У слоўніку будуць вылучаны буйныя прадпрыемствы, якія экспартуюць сваю прадукцыю. Асобна будуць прадстаўлены персаналіі, дыпламаты і навукоўцы-міжнароднікі. Да праекту далучылася кафедра мытнай справы, таму будзе раздзел, прысвечаны гэтай сферы. Раздзелы даволі ўмоўныя, але ў працэсе стварэння слоўніка мы будзем іх прытрымлівацца. Па некаторых тэмах мы вылучылі

600—700 тэрмінаў, па некаторых — толькі 10—20. Але дзесьці каля 3 тысяч слоў ужо вызначаюцца. Пакуль што ідзе чарнавая праца, але ўжо відаць, што слоўнік будзе двухтомны. У бліжэйшы час мы павінны вызначыцца з рэдакцыйнай калегіяй, зацвердзіць спіс слоў і пачаць пісаць артыкулы. Працы тут гады на тры — тры з паловай.

**— Напэўна, шлях да стварэння слоўніка не такі просты…**

**М. Э.:** Безумоўна, падчас падрыхтоўкі і публікацыі слоўніка праблем будзе нямала. Самая вялікая — гэта сціпласць матэрыяльных рэсурсаў, адведзеных на яго складанне. Шмат што выконваецца на энтузіязме. Гэта азначае, што аўтары артыкулаў будуць працаваць на грамадскіх пачатках, адсутнічае самы ўплывовы рычаг кіравання працэсам — дастатковае фінансаванне. Тым не менш на гэту лыжку дзёгцю ёсць цэлая бочка мёду. На факультэце міжнародных адносін працуе высокапрафесійны калектыў навукоўцаў, выкладчыкаў, энтузіястаў, якія не скваплівыя на час дзеля таго, каб сказаць сваё слова ў навуцы, дапамагчы навучальнаму працэсу, зрабіць такую грамадска карысную справу, якой, на наш погляд, і будзе выданне дыпламатычнага слоўніка. Безумоўна, другая праблема — дасягненне патрэбнага ўзроўню навукова-тэарэтычнай і тэрміналагічнай дасканаласці. Дзеля гэтага рэдакцыйнай калегіі і рэдакцыйнаму савету, якія ствараюцца, давядзецца шмат папрацаваць, каб атрымаўся добры прадукт. У тым, што ў рэшце рэшт ён атрымаецца высакаякасным, я ўпэўнены, сумнеў вынікае толькі з адсутнасці матэрыяльных сродкаў.

**— Якім будзе аўтарскі склад?**

**М. Э.:** Пакуль што мы не адчуваем патрэбы шукаць аўтараў за межамі факультэта. ФМА — гэта шматпрофільны факультэт, толькі пералік кафедраў дасць вам падставы лічыць нашы магчымасці цалкам здавальняючымі. Гэта і кафедра міжнародных адносін, і кафедра міжнародных эканамічных адносін, і дзве кафедры міжнароднага права, і цэлых сем кафедраў міжнародна-філалагічнага кірунку, і кафедра міжнароднага турызму, і кафедра мытнай справы — супрацоўнікі іх, безумоўна, справяцца з наплывам тых задач, якія іх чакаюць. Безумоўна, калі ўзнікне неабходнасць унесці ўдакладненні, напрыклад, у персаналіі знешнепалітычных дзеячаў, у іншыя кірункі збору матэрыялаў, то мы, канешне, звернемся да спецыялістаў Міністэрства замежных спраў і іншых устаноў, у пэўныя архівы — дзеля таго, каб атрымаць вычарпальныя звесткі.

**— Ці будзеце вы арыентавацца на аналагічныя выданні?**

**М. Э.:** Безумоўна, не будзем працаваць па прынцыпе «выхожу один я на дорогу». Як я ўжо казаў, у нас ёсць першы крок — слоўнік, які мы выдалі ў канцы 1990-х гадоў. Але добрым узорам для нас будуць роднасныя выданні сучаснай Расійскай энцыклапедыі, выданне «Брытаніка», якое пастаянна папаўняецца, абнаўляецца, мае вельмі сістэмны, добра адшліфаваны падыход і выдатную тэрміналагічную базу. Мы спецыяльна вывучаем асаблівасці выдання роднасных даведачных кніг у розных краінах, і лепшае, спадзяюся, увасобім у нашым дыпламатычным слоўніку.

**— Колькі часу такі слоўнік будзе актуальным, калі ўлічваць, што ўсё вельмі хутка змяняецца?**

**М. Э.:** Думаю, любы слоўнік мае права на доўгае жыццё. Мы, людзі навукі, вельмі ашчадна збіраем усе даведачныя выданні, у маёй дамашняй бібліятэцы ёсць і Савецкая гістарычная энцыклапедыя, якая выдавалася яшчэ ў 60-я гады мінулага стагоддзя, затым — поўны збор Савецкай Энцыклапедыі — 55 тамоў. Такія выданні, хоць у чымсьці яны прайграюць, захавалі ў сабе метадалагічную і тэарэтычную аснову, гэта аснова прыходзіцца дарэчы і сёння. Хачу сцвярджаць, што калі да слоўніка падысці разважліва, грунтоўна, улічыць усе нюансы, тэрміналагічныя і канцэптуальныя, гэта будзе выданне на дзесяцігоддзе, як мінімум. Канешне, потым яно будзе мець права і на перавыданне, наша ж задача — стварыць пэўную матрыцу, якая будзе рухавіком навучальнага працэсу ў ВНУ, каледжах і школах, стане карысным для дыпламатаў і эканамістаў, якія маюць кантакты з замежжам, для юрыстаў-міжнароднікаў і аматараў, якія цікавяцца знешнепалітычнымі адносінамі, асаблівасцямі міжнародных працэсаў, для інтэлектуальнай эліты, якая мае патрэбу ў дакладных тэрміналагічных і канцэптуальных звестках. Карацей, дастаткова карысным для шырокай аўдыторыі.

# Духавыя з гісторыяй і сакральным сэнсам



**Захоўваць традыцыі і эксперыментаваць, распрацоўваць эскізы і сваімі рукамі вырабляць інструменты — усё пералічанае герой рубрыкі называе даволі сцісла — навуковая рэканструкцыя. Супрацоўнік Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, навуковец-даследчык усходнееўрапейскіх дуд Аляксандр Сурба распавёў Юлі Ваўчок пра сваю справу і яе вынікі.**



Фота Сашы САВІЧ

Інструменты, пра якія пойдзе размова, зроблены ў сценах універсітэта. Частка дуд была рэканструяваная, а некаторыя зроблены па матывах старых фотаздымкаў. Ва ўсіх валынак ёсць свае лакальныя назвы, і было б карэктна іх выкарыстоўваць. Напрыклад, у Беларусі — дуда, у Польшчы — dudy (дуды), у Літве — dūdmaišis (дудмайшыс), у Эстоніі — torupill (торупіль), у Швецыі — säckpipa (сакпіпа), у Францыі — cornemuses (карнаус або музет), у Германіі — Dudelsack (дудэльзак), у Іспаніі — gaita (гайта), у Англіі — bagpipes (бэйкпайп).

Па сутнасці, усё пералічанае перакладаецца як мех са скуры.

Звычайна мяхі шыюцца ўручную. У іх устаўляюцца спецыяльныя пераходнікі. У англійскай літаратуры іх называюць «стокі». У беларускай навуцы тэрміналогія яшчэ не распрацаваная. Пераходнікі-стокі — так прынята іх называць у сусветнай практыцы, таму і ў навуковы абарот можна такі тэрмін уводзіць. У стокі ўстаўляюцца асноўныя трубкі. Удзімальная трубка абсталявана клапанам. Яшчэ адзін элемент — гук. Ад яго колькасці залежыць, напрыклад, аднагукавая ці двухгукавая будзе дуда. Перабор складаецца з ігравой трубкі, у якой ёсць адтуліны, і ражка, такі ж самы ёсць на гуку. Гэта адметная рыса беларускай дуды. Ражкі зроблены з суцэльнага кавалка дрэва. Такая справа даволі працаёмкая. Ёсць майстры, якія яго распілоўвалі ўпоперак або ўдоўж, але традыцыйныя экзэмпляры — суцэльныя. Бывае, робяць тэхнічную адтуліну, у якую потым устаўляюць драўляную затычку, зашліфоўваюць, і зразумела, што яе пасля практычна не відаць. Самая галоўная частка, што стварае непаўторны гук, — пішчык. Традыцыйныя пішчыкі рабілі з кавалка чароту, які з аднаго боку разразалі — і фарміраваўся язычок. Сучасныя пішчыкі падобныя да кларнетных, а некаторыя майстры язычок робяць з пластыка ці з вуглевалакна.

Яшчэ адна адметнасць беларускай дуды — інкрустацыя волавам, прычым, у традыцыйным малюнку: нахіленыя элементы ў выглядзе літар «А» або «Х» у розных інтэрпрэтацыях. Гэта не ўплывае на акустыку, але нясе ў сабе сакральны сэнс (праўда, згублены). Між тым, мы можам капіраваць узор і захоўваць яго. Такая інкрустацыя металам сустракаецца і ў суседзяў: палякаў, чэхаў, славакаў і іншых.

У драўніне выразаецца паз, у адпаведнасці з будучым арнаментам, туды ўліваецца гарачае волава прыблізна на глыбіню 3—4 міліметры, потым зашліфоўваецца і атрымліваецца малюнак. Тое ж самае і з пілападобнымі элементамі. Ва ўсіх беларускіх дудах прысутнічаюць таксама бочкападобны элемент і тор. Для належнага выкарыстання і герметычнасці ўсе злучэнні інструмента трэба перамотваць ніткамі. Можна вытачыць дэталі вельмі шчыльна, але ад вільгаці дрэва расшыраецца. Менавіта з гэтай прычыны, дуды, паходжаннем старэйшыя, чым з XIX стагоддзя, не захаваліся. Драўніну насычаюць ільняным алеем, ён запаўняе сітавіны і робіць выраб больш гідрафобным. А галоўнае — на дудзе трэба іграць кожны дзень або хаця б праз дзень, каб яна была настроеная.

**Дуда-мацянка** адрозніваецца ад аднагукавай тым, што тут тры гукі ўстаўлены ў адзін сток. Гэты інструмент даволі блізкі да арыгінала, бо адна дуда-мацянка захавалася ў Віленскім музеі,



Беларуская дуда.



➤ Дуда-мацянка.

Інкрустацыя волавам. ➤



Пераходнік-сток (у руцэ).



Удзімальная трубка.



Пішчык.



Ражок.


Бочкападобны элемент чаргуецца з торам.

яе можна было ўзяць за прыклад. Інструмент, што на фотаздымку, зроблены з ясеню. На дудзе няма ніякага дэкору, магчыма і быў, але ні этнографы, ні супрацоўнікі музеяў нічога пра гэта не кажуць. Дарэчы, некаторыя сучасныя майстры спрабуюць аб'ядноўваць некалькі відаў дуд.

Адна з першых, што з'явіліся ў БДУКМ, — **балгарская гайда**. Гэты інструмент быў набыты ў пачатку 1990-х гадоў Уладзімірам Громам. У музеі ўніверсітэта захаваліся толькі мех, пераходнікі і ўдзімальная трубка. Дарэчы, па-балгарску дуда называецца «гайдуніца», а гук — «рычала». Інструмент быў дароблены эксперыментальнай майстэрняй ВНУ на аснове навуковых даследаванняў і музейных экспанатаў. Узор тачэння: адсутнічаюць бочкападобныя элементы і торы, ёсць праточаныя барозны. Гэта абсалютна традыцыйны малюнак, ён такі ў шматлікіх балгарскіх інструментах.

Мяхі ў дуд бываюць двух відаў: суцэльныя і сшытыя. Лічыцца, што тэхналагічна больш прасунутыя — сшытыя мяхі. У музейнай гайды суцэльны мех, ён злуплены з казляня. Туды, дзе былі ножкі, устаўляюцца трубкі. У балгар захавалася традыцыя рабіць мяхі суцэльнымі. Яны патрэбны для таго, каб награваць паветра і раўнамерна размяркоўваць яго па трубках.

Прататыпам дуды навукоўцы лічаць дзве трубкі, на якіх адначасова іграў музыка. Але гэта было нязручна, таму іх памясцілі ў мех, і з'явілася магчымасць павялічыць колькасць трубак. Людзі, якія ігралі на дудах, былі вельмі дзіўнымі. Яны самі рабілі інструменты. Прычым, драўніна павінна быць адмысловай — пабітая маланкай. Часцей выбіралі клён або ясень. Часам на дуду вешалі чэрап казы. Дарэчы, ва Усходняй Еўропе гэтая звычка захавалася.

**Сакпіпа** — невялікая шведская дуда, якая гучыць ва ўнісон. Гэта сучасны погляд шведаў на сваю традыцыйную культуру. Дуды ў іх, так, як і ў нас, зніклі ў 1940—1950-я гады, а ў 1980-я шведы ўжо займаліся іх рэканструкцыяй. Майстры выкарыстоўваюць пластыкавыя кольцы, якіх не было ў традыцыйных інструментах, — брутальныя, простыя, без усякага арнаменту. Ёсць бочкападобныя элементы, вельмі выцягнутыя. На фотаздымку прадэманстравана, як сёння робяць сакпіпы ў Швецыі. Іх зручна эксплуатаваць, іграць на іх дома, бо яны не вельмі гучныя.

Самая знакамітая ў свеце дуда — **шатландская, хайлэнд**. І пры гэтым самая маладая. Гэты інструмент распрацаваны ў Віктарыянскую эпоху для ваенных патрэб. Канструкцыя тая ж самая:


Балгарская гайда.


Сакпіпа.

мех, трубкі, стокі. Раней, праўда, кольцы рабілі з косткі слана. На скураны мех можа быць надзета кашуля, у клетачку — самая папулярная. Адзін добры чалавек перадаў рэшткі дуды, і Аляксандр з таварышам яе рэканструявалі: змянілі мяшок, некалькі дэталяў датачылі — давялі да ладу.

**Торупіль** — гэта эстонская дуда. Тачэнне, асабліва ў ніжняй частцы гука вельмі падобнае да беларускага, але тут ужо няма волава. Інструмент — копія, зробленая па матывах музейных даследаванняў. У Пецярбургу ёсць калекцыя торупіляў. Матэрыял — ясень. У дадзеным выпадку — двухгукавы інструмент, бываюць і аднагукавыя. Няма ражкоў, няма канічных раструбаў, ёсць бачочкі, якія выконваюць функцыю раструбаў.

Блізкая сваячка беларускай — **літоўская дуда**, дакладней жамойцкая. Тут ёсць выцягнутыя ражкі, у беларускіх дудах яны больш кампактныя і закручаныя. Мае сэнс звярнуць увагу на ліццё: тры кольцы, пілападобныя элементы, але палосачкі вертыкальныя. У ніжняй частцы тачэння гука бочкападобны элемент ідзе праз чатыры тора — гэта традыцыйна для літоўскіх дуд. А мех больш кроплепадобны.

Сярэднявечная дуда — **нямецкі дудэльзак**. Аднаўляць вырабы пачалі ў 1970—1980-я гады па старых малюнках і гравюрах. Такі інструмент цяпер папулярны ў Германіі ў фольк-рокавай галіне напрыклад, яго выкарыстоўвае нямецкі гурт In Extremo. Звычайна на дудэльзакі вешаюць розныя дробязі, у гэтым ёсць нейкі сакральны сэнс, якога музыкі, напэўна, не ўсведамляюць. Да таго ж, і сама дуда — не толькі музычны, але і агорнуты таямніцай і звышсэнсам інструмент.


Шатландская дуда.


Торупіль.



Майстар на інструментах пакідае аўтарскі знак.


Жамойцкая дуда.



**Яна Мусвідас**

# Святло — вучэнне

Нядаўна я правяла рэвізію сваіх кніжных паліц. Любоў да хатняй бібліятэкі ў нас сямейная, таму з дзяцінства я мару, што аднойчы вылучу пад яе вялікі пакой. Я адношуся да тыпу людзей, якія не могуць выкінуць нават самае нізкапробнае выданне. Ад падобных думак мурашкі па целе, а перад вачыма з'яўляюцца нацысты, якія спальваюць вялікія стосы кніг. А ўсё ж перыядычна знаходзяцца «непажаданыя» кнігі. Гэтым разам пад маю няміласць трапілі два томікі Савецкай Энцыклапедыі: я стамілася ад прапанаваных ёю сустрэч з Марксам, Энгельсам і Леніным на кожнай старонцы. Рашэнне знайшла хутка: рэпрэсія і высылка. Выбіраць месца зняволення доўга не прыйшлося. Набрала нумар сваёй прабабулі: большую частку жыцця яна пражыла ў Савецкім Саюзе — значыць, зможа падтрымаць нявінна асуджаных. Як я і чакала, яна вельмі ўзрадавалася, калі пачула пра магчымае папаўненне сваёй хатняй бібліятэкі.

Вользе Міканораўне, маёй бабулі, ўжо дзявяты дзясятак, але яе памяць не горшая за маю. Ужо праз два дні пасля перадачы ёй энцыклапедый я праслухвала кароткі курс лекцый на тэму фармацыйнай тэорыі і даведалася аб некаторых тонкасцях Старога Запавету.

У адной са сваіх перадач Гардон распавёў пра знаёмага паталагаанатама, які пасля шматлікіх ускрыццяў зразумеў прычыну хуткага старэння. Парушэнне кровазвароту ў малым крузе адбываецца ў той момант, калі мы перастаём «напружваць» свой мозг. З тых часоў гэты лекар кожны дзень вывучае нешта новае. Адказваць за дакладнасць гэтай інфармацыі я не магу, але, мабыць, менавіта ў гэтым сакрэт маладосці маёй прабабулі.

Вольга Міканораўна — жанчына самая звычайная, але пры гэтым заслугоўвае асаблівай павагі. Нарадзілася ў вёсцы, у вайну была юнай партызанкай, пасля — адукацыя, адукацыя і яшчэ раз адукацыя. Потым — вяселле, двое дзяцей і сорак два гады педагагічнага стажу, і зноў — адукацыя. Яна ўжо шмат гадоў на пенсіі, але пры гэтым кожны дзень яе распісаны па хвілінах. Раніцай — крыжаванка, потым — вывучэнне новых кніг, паўтор формул па матэматыцы і напісанне ўспамінаў пра вайну. У прамежках — перапынкі для любімых тэлеперадач.

Такіх прыкладаў, якія «не старэюць», побач з намі шмат, і ніякай магіі.

Зараз у свеце назіраецца тэндэнцыя да адмовы ад вышэйшай адукацыі, усе наперабой прыводзяць у прыклады знакамітых людзей — ад Біла Гейтса да Макса Каржа. Але мала хто задумваецца, што для такога ўчынку патрэбна высокая самаарганізацыя. У стваральніка фэйсбука няма вышэйшай адукацыі, так. Але гэта ні ў якім разе не памяншае яго ведаў, бо Марк Цукерберг **паступіў** у Гарвард і толькі **там** зразумеў, што далей хоча развівацца і фарміравацца **самастойна**.

У беларускім грамадстве наяўнасць «корачкі» яшчэ актуальная, і збольшага гэта справядліва, таму што амаль усе школьнікі, якія крычаць пра непатрэбнасць вышэйшай адукацыі, на самай справе нават прымусіць сябе прачытаць параграф не могуць.

Зараз я ўнутры адукацыйнага ланцужка, спадзяюся, што ў перадпачатку свайго дзевяностагоддзя змагу сказаць тое ж самае.



Юльяна Пятрэнка

**нарадзілася 13 снежня 1981 года ў вёсцы Жгунь Добрушскага раёна. Скончыла БДПУ імя Максіма Танка, паводле адукацыі – сурдапедагог. Займаецца сакратарскімі паслугамі і паслугамі па перакладзе. Жыццёвы дэвіз: «Не чакайце дзіва – дзівачце самі!» Таму аддае перавагу сюжэтам, дзе містыка цесна перапляятаецца з рэальнасцю.**

# Юльяніны байкі

## Легенда Гром-возера

Стары аўтобус амаль дзве гадзіны грукатаў па прасёлкавых дарогах, падымаў клубам пыл і шалёна падскокваў разам са сваімі нешматлікімі пасажырамі.

Віта чарговы раз стукнулася аб даўно нямытае шкло, пакруцілася на жорсткім сядзенні і мацней прыціснула да сябе сумку. Побач вастраносая бабулька ў квяцістай хустцы ўсю дарогу прыводзіла ў парадак торбы і торбачкі, авоські і скрыначкі, з зайздроснай упартасцю перакладаючы рэчы з адной у другую. Перад ёю хістаўся з боку ў бок хлапчук гадоў дванаццаці, не выпускаючы з рук тоўстай кнігі. Часам ён у задуменні пазіраў у акно, маляваў на ім пальцам, праганяў лянівага авадня, затым зноў папраўляў акуляры, якія з'ехалі набок, і вяртаўся да чытання, набліжаючы разгорнутую кнігу да кірпатага носа. Наперадзе трэсліся дзве весялушкі-дзяўчыны і, мяркуючы па шэпце і частым смеху, пляткарылі пра штосьці вельмі цікавае. Ззаду мірна пахрапваў барадаты дзядзечка, выставіўшы ў праход ногі ў велізарных брудных ботах.

Віта стомленым позіркам абвяла салон, уздыхнула і зноў уткнулася ў мутнае акно. Перспектыва адпрацаваць два гады ў сельскай школе ўжо не здавалася такой радаснай. Яшчэ ўчора Вітка расказвала бацькам пра перавагі цішыні, свежага паветра і экалагічна чыстых прадуктаў. А літаральна пасля пары гадзін па выбоістай пыльнай дарозе ўпэўненасць пачала кудысьці знікаць. Што яе там чакае? З раніцы — кніжкі, сшыткі. А па вечарах? Семкі на лаўцы?

— Прыпынак «Старыя Крыніцы»! — гучна крыкнуў кіроўца, павярнуўшыся ў салон.

Віта падхапіла сумку, другую выцягнула з-пад сядзення, яшчэ раз уздыхнула і нехаця пацягнулася да выхаду. Разам з ёю выйшаў і раскудлачаны хлапчук з цяжкім на выгляд заплечнікам і кнігай пад пахай.

— Кніжка хоць цікавая? Дачытаў?

— Не-а… Вой! У тым сэнсе, што цікавая, але дома дачытаю. Навуковая. Нават без малюнкаў, — хлопчык пачырванеў і шырока заўсміхаўся.

— А да школы як прайсці, не падкажаш?

— А-а-а, новая настаўніца? Тады да школы і не трэба, лепш адразу да бабкі Алі. Я праведу!

— Хіба ж я пра бабку пытаюся? Калі не хочаш дарогу паказваць, так і скажы, — дзяўчына паспрабавала надаць сабе сур'ёзны выгляд. — І не адварочвайся!

— Чаму ж не хачу? Да школы, дык да школы. Вярнуцца трошкі трэба. І ву-у-унь за той драўлянай хатай налева павярнуць. Убачыце зялёны плот… ці не… сіні, здаецца… Мо ўсё ж такі праводзіць?

— Дзякуй, абыдуся.

Віта завярнулася і пацягнула сумкі.

— Біялогію будзеце весці? А мяне Лёшкам клічуць! — данеслася ёй услед.

…Віта вырашыла не падымаць сумкі ў будынак школы, а пакінуць на чыста прыбраным, амаль бліскучым ганку, тым больш, побач фарбавалі турнікі пажылы мужчына ў сінім працоўным халаце і высокі хударлявы хлопец.

Знайсці ў пустым бязлюдным будынку прыёмную не было занадта цяжкай справай. Там і школы той — як кот наплакаў, за хвіліну абыдзеш. Віта дзеля прыстойнасці пагрукала ў прыадчыненыя дзверы з шыльдай «Дырэктар» і, не дачакаўшыся запрашэння, тузанула за ручку.

Дырэктарам аказалася поўная жанчына гадоў пяцідзесяці, з ветлівым тварам, светлымі валасамі і хімічнай завіўкай. Чамусьці менавіта такой Віта яе і ўяўляла.

— А-а-а, добры дзень, добры дзень! Мы вас ужо зачакаліся! — дырэктар кінула корпацца ў паперах і ўзняла кучаравую галаву. — Праходзьце, сядайце-сядайце, не саромейцеся… Як вас там зваць?

— Віта. Віталіна Сяргееўна.

— Вельмі прыемна, Віталіна Сяргееўна! Кавы? — працягнула яна руку да старога зжаўцелага электрачайніка.

— Дзякую. Мне б дадому ўжо, стамілася ў дарозе, — Віта вымучана ўсміхнулася.

— Як жа мы рады, што вы прыехалі! — працягвала шчабятаць дырэктар, наліваючы ў свой кубак кіпеню і гучна бразгаючы па ім лыжкай. — Дзеткі ў нас цудоўныя, разумныя. І калектыў дружны. Па ўсіх пытаннях звяртайцеся да старэйшых калег — дапамогуць маладому спецыялісту. І да мяне звяртайцеся, не саромейцеся. Расклад заняткаў першага верасня ўдакладніце, лінейка ў дзевяць, — узяўшы ў рукі кубак, яна паднялася з крэсла і наблізілася да вялікага акна. — А што наконт жытла… тут невялічкая заміначка выйшла. Домікі для маладых спецыялістаў маюцца, што ёсць, то ёсць, але такая справа… Карацей кажучы, аздобы ніякай. І шпакляваць трэба, і фарбаваць, і шпалеры якія-ніякія набыць. Але гэта часова, часова. У наступным годзе абяцаюць даць грошы. Так што зусім трошкі пацярпіце. А пакуль мы вас накіруем на Зялёную, адзінаццаць. Дом вялікі, з цудоўнай гаспадыняй! Вам спадабаецца! — дырэктар паставіла на падаконнік кубак, які пакінуў за сабой круглы буры след, і крыкнула ў разнасцежанае акно: — Антон Яўгенавіч! Хопіць ужо! Адарвіцеся на хвіліну, праводзьце калегу на Зялёную!

— Не хвалюйцеся, сама дайду, — Віта чарговы раз цяжка ўздыхнула, штурхаючы дзверы.

На ганку высокі смуглы хлопец адной рукой хаваў у кішэню запэцканую фарбай бандану, а другой — ужо трымаў яе сумкі. «Не, зусім не вучань, — падняла Віта вочы. — Нават старэйшы за мяне».

— Дзякуй, я сама.

— Ісці хвілін дваццаць, я дапамагу, чаго там…

— Сама дайду, не цяжкія! — дзяўчына з абурэннем вырвала сумкі.

Хлопец абыякава пацісnуў плячыма і паспяшаўся вярнуцца да сваіх бляшанак з фарбай.

Застаўшыся адна, Віта вырашыла заняцца любімым заняткам: на ўсіх паскардзіцца і сябе пашкадаваць. «Гэта ж трэба, — думала яна, цягнучы сумкі па пыльнай узбочыне, — абяцанага жытла і то ў іх няма! Маме скажу — наогул знервуецца! Прыехала, на сваю галаву! І навошта я ў педагагічны пайшла? Каб вуліцы вясковыя торбай падмятаць? А галоўныя сюрпрызы, пэўна, яшчэ наперадзе!»

…Дом нумар адзінаццаць на Зялёнай вуліцы аказаўся вялікім, абкладзеным белай цэглай, з мноствам яркіх астраў і пажоўклай папараці пад вокнамі.

Гаспадыню, невысокую і ахайную бабульку, звалі Аляўціна Сямёнаўна.

— Праходзь, праходзь, красачка! Пакояў у мяне шмат, выбірай любы! І нават ванная маецца, што ў тваім горадзе! Дом вялізны — ты мяне, старую, і бачыць не будзеш, перашкаджаць не стану — усё разумею… — бабуля хадзіла следам за Вітай і не пераставала прыгаворваць: — Ты давай размяшчайся хуценька ды на кухню прыходзь. Толькі рукі памый, вось табе ручнік, — пляснула яна рыпучымі дзверцамі шафы.

— Не трэба, у мяне ёсць.

— Мой прыгажэйшы, з ружамі, падабаецца? Ванная там. А мне яшчэ на тым тыдні Таццяна Міхайлаўна, дырэктар, значыцца, патэлефанавала, паведаміла, што настаўніцу да мяне падселяць. Мне і радасць — весялей. Сваіх дзяцей-унукаў у мяне няма. Я вось тут бульбачкі натушыла ў печцы, ты, пэўна, такой не каштавала. А зваць цябе як? Віталіна? Вельмі прыгожае імя. Ніколі не чула… І піражкоў напякла… Якія любіш — з яблыкамі альбо з тварагом?

Вітка зачыніла дзверы і прысела на гарбаты спружынны ложак з гарой пуховых падушак. Сумкі кінула пад ногі. Нічога, пачакаюць, іх і пазней разабраць можна. Пакойчык чысценькі, утульны. Акно з белымі фіранкамі выходзіць на двор. Столік, люстэрка на светлай сцяне, вялікая шафа. Нават лепш, чым уяўляла. Спакойна неяк, камфортна нават. І балбатня Аляўціны Сямёнаўны зусім не стамляла — яна нагадвала Віце клапатлівую бабу Валю: маміны бацькі таксама калісьці жылі ў вёсцы, і ў маленстве дзяўчына праводзіла там усе летнія вакацыі.

Пасля вячэры Віта вырашыла прайсціся. За хатай раскінуўся вялікіх памераў агарод, на якім акрамя гарбузоў, буракоў і морквы ўжо ўсё было прыбрана ды яшчэ дзе-нідзе на сухіх падвязаных галінках чырванелі памідоры. Вялікую частку агарода займалі пладовыя кусты, старыя раскідзістыя дрэвы і мноства кветнікаў з пахучымі зёлкамі, з якіх Віта ведала толькі мяту і мелісу. Была і невялічкая гаспадарка, якая складалася з дзясятка курэй, дзвюх козачак і пярэстага гультая — ката Сёмкі.

За кубачкам заваранай з духмянымі зёлкамі гарбаты засядзеліся дапазна. Гутарка лілася лёгка. Вітка расказвала пра бацькоў і сястру, сяброўак і вучобу. Сямёнаўна — пра сваё жыццё, прычым ні кроплі не скардзячыся. Нягледзячы на сваё нялёгкае жыццё і цяжкае

дзяцінства, яна не страціла аптымізму і жыццярадаснасці. А гэта ў корані адрознівала яе ад тых бурклівых бабулек, якіх Віта сустракала каля свайго пад'езда.

…На лінейцы Віталіна крыху нервавалася, адчуваючы на сабе дапытлівыя позіркі дзяцей, іх бацькоў і наваспечаных калег. Аднак, вярнуўшыся ў клас з велізарнымі букетамі кветак, яна расправіла плечы і ўздыхнула свабодна. Крупко Лёша тым часам усім і кожнаму распавядаў, як ён разам з настаўніцай ехаў, і як да школы праводзіў, і як яна за кніжку пахваліла.

Першы ўрок — знаёмства з прадметам і паміж сабой — прайшоў на адным дыханні. Класы па колькасці тут былі зусім маленькімі: напалову менш, чым у гарадской гімназіі, дзе Віта праходзіла практыку. Да таго ж, палова дзяцей прыязджала з суседніх вёсак.

Пасля ўрокаў маладая настаўніца засталася навесці парадак у кабінеце біялогіі, перагледзець і раскласці ў патрэбным парадку пыльныя экспанаты, якія засталіся ёй у спадчыну. Яна капашылася ў антрэсолях старой шафы, калі ў дзверы нясмела пагрукалі. Праз секунду ў кабінет зазірнуў той самы смуглы хударлявы хлопец, які няўдала спрабаваў праводзіць Вітку дадому.

— Дзень добры! Можна? — не дачакаўшыся запрашэння, ён увайшоў і сеў на край настаўніцкага стала. — Я — Антон Яўгенавіч, памятаеце?

— Памятаю, — буркнула ў адказ раздражнёная бесцырымоннасцю Вітка, злазячы з крэсла і абцягваючы вузкую спадніцу.

— Хацеў даведацца, як вы ўладкаваліся. Як вам школа?

Віта паціснула плячыма:

— Нармальна ўсё.

— Вы, калі што, звяртайцеся.

«Цікава, з чаго гэта я буду да яго звяртацца? Канспект заняткаў напісаць ці сшыткі з хатнім заданнем праверыць? Ах, ну так, ён жа эксперт па афарбоўцы турнікоў і цяганні сумак!»

— Дарэчы, Таццяну Міхайлаўну ў калідоры сустрэў. Яна вас да сябе кліча. Зараз гадзіны хіміі прапануе, як піць даць.

— Хімія? Гэта не мой канёк. І да таго ж, як я паспяваць буду? Не падкажаце, як адкруціцца?

— Сам бы хацеў ведаць, — арэхавыя вочы свяціліся хітрасцю. — Я, акрамя геаграфіі, яшчэ і гісторыю вяду.

— Спачуваю.

— Ды тут усяго адна паралель, можна і двума настаўнікамі на ўсю школу абысціся. Выключэнне — настаўнікі працы і фізкультуры: самыя цяжкія прадметы і паняцці ўвогуле несумяшчальныя.

Віта засмяялася і села побач:

— Даўно тут працуеце?

— Другі год. Як і вы, па размеркаванні. Думаў на другое вышэйшае падацца — геадэзію. Ды цяпер ужо і не ведаю. Мабыць, тут і застануся. Павінны ж калі-небудзь гэтыя домікі дабудаваць, пакуль я не ператварыўся ў старога спецыяліста.

— І што, па гарадскім жыцці не сумуеце?

— Дык было б па чым сумаваць.

Дзверы расчыніліся, і паказалася кучаравая галава дырэктара:

— Ну, дзе вы там згубіліся, Сяргееўна? Хуценька! Потым языкамі часаць будзеце, я ў раёна спазняюся!

Счырванелая Віта саскочыла са стала і выбегла следам.

…Асвоілася Віталіна хутка. З дзецьмі адразу зладзіла, а вось з калегамі не ўсё было так проста. І людзі, здаецца, няшкодныя, нават прыемныя, але агульных тэм пакуль не знаходзілася. А вось з Антонам Яўгенавічам было пра што пагаварыць. Ды практычна пра ўсё. Пасля ўрокаў той штодзень зазіраў у кабінет біялогіі, і сумеснае абмеркаванне мінулага дня зусім непрыкметна ўвайшло ў звычку.

…Мінула ўсяго два тыдні, а «маладым спецыялістам» ужо даручылі правесці пазакласную працу — вольны час з сёмым і восьмым класамі.

Цэлы перапынак Віталіна Сяргееўна пераконвала Антона Яўгенавіча, што лепей ісці ў паход.

— Ды што вы, які паход! Віта, вой, Віталіна Сяргееўна, паверце майму вопыту! Можа, гарадскім дзецям і хочацца калі ў лес наведацца (і то я сумняваюся), а тутэйшыя дзеткі і так заўсёды на прыродзе, ды яны гэты лес лепш за нас з вамі ведаюць! Нават у грыбы без бацькоў ходзяць!

— Дык то — грыбы, а гэта — культурны адпачынак. Палаткі, вогнішча, песні пад гітару — вось так сяброўства і выхоўваецца.

Антон Яўгенавіч толькі ўздыхаў і круціў галавой.

— Клас! — абвясціла Віталіна Сяргееўна на класнай гадзіне. — Наперадзе ў нас выхадныя. Прапаную правесці іх весела і з карысцю: пайсці ў паход з палаткамі. Я ведаю, што непадалёк ёсць цудоўнае возера. Вось і пакажаце мне яго. Пераначуем, бульбу на вогнішчы запячом. І заадно назбіраем гербарый. Цяпер вельмі прыгожа, і не холадна пакуль. Кладу на стол паперу, падыходзьце, калі ласка, па адным, запісвайцеся.

Гэтую прапанову клас сустрэў нямым маўчаннем. Ніхто нават не варухнуўся.

— Няма там чаго рабіць, на возеры тым, — нарэшце падаў голас Лёша.

Віта разгублена залыпала вачыма і павярнулася да Антона. Географ, як мог, ратаваў становішча:

— Але ў нас з Віталінай Сяргееўнай ёсць яшчэ адзін варыянт, запасны — у суботу паехаць у горад на экскурсію. Паходзім па музеях, па парку, марожанага накупім.

— Ур-ра-а! Выдатна! Супер! А каруселі яшчэ працуюць? А ў Макдональдс можна? Дзе запісвацца? — пачуўся хор дзіцячых галасоў.

Дзеці запісваліся і пакідалі клас, абмяркоўваючы будучую паездку.

— Нічога не разумею, — прысела на край стала Віта, калі яны з Антонам засталіся адны. — Калі я вучылася, было цікава і на рэчку схадзіць, і ў лес. Камп’ютары з прыстаўкамі зусім мазгі высушылі — нічым дзеці не цікавяцца.

— Ды не ў гэтым справа. Дзеці такія ж няўседлівыя і дапытлівыя. Толькі вы маршрут няправільны прапанавалі. Мясцовае возера нядобрай славай карыстаецца. Там людзі знікаюць. І мясцовыя, і, па большай частцы, турысты. Нават рэдкі рыбак адважыцца падысці. Каля возера б’е пяць крыніц — адсюль і назва вёскі, — а ўзровень вады ніколі не падымаецца. І да дна не дастаць. Кажуць, там нячыстая сіла водзіцца, — Антон усміхаўся, і было незразумела — жартуе ён ці не.

— І што, вы — дарослы адукаваны чалавек — верыце ў гэтыя забабоны?

— Вядома ж, не. Я і сам купаўся ў тым возеры пару разоў. Думаю, там падводныя плыні альбо віры. Але ў любым выпадку ісці далёка, ды і на ровары нязручна: дарога занадта зарослая, уздоўж лесу. Не бачыў я, каб туды гуляць хадзілі. Так што — у горад!

…Калі Вітка вярнулася дадому, бабуля Аля размаўляла па тэлефоне:

— І што, па начах плача? Во-я-ёй… А тэмпература? Няма? Вой, не, харошая мая, я сама да вас прыйду, палячу. У мяне ж цяпер настаўніца жыве, навошта турбаваць… Ага-ага, праз гадзінку. Усе патрэбныя зёлкі ў мяне з сабой — за гэта не хвалюйся.

«Вой, мама… — падумала дзяўчына, здымаючы на стракатым палавічку туфлі. — Ды тут увесь фальклор: і сіла нячыстая ў возеры, і Баба-Яга ў хацінцы…»

— Вярнулася, красачка? Ну, як дзень прайшоў? Як там Лёшка, сусед наш? Калоў шмат нахапаў? Ты з ім больш строга, спуску не давай! Зараз абед пагрэю і сыходжу. Адвячоркам буду.

…Пасля абеду Віта вымыла посуд і вырашыла адправіцца на возера. «Раз усе такія прымхлівыя — сама пайду, на возера пагляджу і заадно калекцыю назбіраю, бо як я буду дзецям тлумачыць, дзе плод скрыначка, а дзе суквецце парасонікам — на пальцах, ці што?»

Віта прайшлася па двары ў пошуках кошыка. На шчасце, у хляве нават знайшоўся ровар. Сыдзе — пыльны, але шыны напампаваныя. Ключ — пад дыванок. Як там Антон казаў? Уздоўж лесу?

Па выбоістай зарослай дарозе зусім не ехалася, месцамі даводзілася ісці пешшу, але гэта было нават у задавальненне. Злева распасціралася ўжо прыбранае калгаснае поле, дзенідзе на ім яшчэ можна было ўбачыць гракоў, якія рыліся ў чорнай зямлі. Аднаго разу нават трапілася пара буслоў, яны нічога не баяліся і дазволілі Віце падысці зусім блізка. Справа цягнуўся змешаны лес, вельмі густы і зарослы хмызняком. Дзяўчына пакінула на зямлі ровар і нырнула з кошыкам пад шаты дрэў, каб сабраць узоры лісця.

…Возера яна заўважыла яшчэ здалёк. Невялічкае, круглае і занадта роўнае, парослае ля берагоў чаротам і асакой. Удалечыні віднеліся белыя баранчыкі хваль, а бліжэй да берага вада была гладкай, як люстэрка, і такой чыстай ды празрыстай, што адразу ж захацелася яе зачарпнуць. Віта дакранулася далонямі да халоднай вады — і з жахам адхапіла рукі. На хвіліну здалося, што па яе пальцах працягнуліся доўгія чорныя валасы, якія атачалі бледны твар. Спачатку Віта спалохана адскочыла, затым наблізілася, пачала асцярожна разглядаць дно. «Фу-ух, ды гэта ўсяго толькі багавінне, ціна зялёная. Вунь яна, калышацца. Наслухалася баек, вось і здалося…»

На змярканні Вітка вярталася дадому. Сямёнаўна ўжо чакала яе каля брамкі, углядаючыся ў прыцемкі:

— Вітачка, ну нельга ж так знікаць, чаму бабулю не папярэдзіла? Хоць бы запіску пакінула! А я тут сядзі, валяр'янку пі! Ужо хацела да суседзяў ісці, прасіць, каб Лёшка цябе пашукаў!

— Аляўціна Сямёнаўна, ну хіба ў вёсцы згубішся? Да лесу праехалася, гербарыя назбірала.

— Чаго назбірала?

— Ну, лісточкаў усялякіх, кветак, каб засушыць, — Вітка працягнула бабулі поўны зеляніны кошык.

Сямёнаўна пляснула рукамі:

— Табе ў маім агародзе кветак мала? Каб па начах у лес катацца? Ай, божачкі, хадзем у хату!

За гарбатай дзяўчына набралася смеласці і пацікавілася:

— Скажыце, Аляўціна Сямёнаўна, вы — мясцовая знахарка?

— Вой, што ты, красачка! І слова ж якое прыдумала!

— Чула, як вы па тэлефоне размаўлялі, лячыць некага хадзілі. Ну, і падумала...

— Ды маці мая, нябожчыца, навучыла ў зёлках разбірацца. Вось да яе, дык з цэлай акругі ехалі — усіх лячыла, нікому не адмаўляла і грошай не брала. У той час зеллем толькі і лячыліся, не было ніякай хіміі. Вось і я — што ў полі-лесе збіраю, што сама вырошчваю. У мяне і чабор, і шалфей, і нават святаяннік. Выбірай, што хочаш, для свайго гер… гера… гербарыума. А варажыць — я не варажу і чараўніцтвам не займаюся, калі ты пра гэта.

Віце чамусьці падалося, што Сямёнаўна не дагаворвае — напэўна, без замоў не абыходзіцца, але вырашыла сваімі роспытамі не дапякаць.

— А мне яшчэ і чарот патрэбны. Чула, ёсць тут цікавае возера, — здалёк пачала Вітка.

— Ёсць, красачка, Гром-возера завецца. Толькі ты сама туды не хадзі.

— Чаму гэта?

— Далёка, ды ісці лесам. Заблукаеш яшчэ, — Сямёнаўна энергічна выцірала талеркі.

— Дык праводзіць мяне ніхто не хоча. Прыйдзецца самой...

Аляўціна Сямёнаўна павесіла ручнік на плячо і прысела на табурэтку.

— Дрэннае гэта возера, нядобрае.

— І адкуль такая слава?

— Людзі кажуць, што ў даўнія часы паселішчаў тут шмат мелася, а возера не было. І вось аднойчы ўначы стала так ярка, як днём; спусцілася, значыцца, з самага неба на вогненнай калясніцы Панна і пайшла пад зямлю, а на тым месцы возера ўтварылася. І рыбы было ў ім шмат, і людзі радаваліся. А ў падзяку азёрнаму духу сталі прыносіць ахвяры: чатыры разы на год адпраўлялі на сярэдзіну возера на вялікіх плытах упрыгожванні ўсялякія, пачастункі — хлеб, напрыклад, мёд, яйкі, часам нават і жывёл, пеўня чорнага ці ягня. І ладзілі вялікія святы на беразе, з песнямі, скокамі ды вогнішчамі. Мінуў час, людзі сталі забывацца, звычаі сышлі ў мінулае. Але аднойчы Нябесная Панна выйшла з возера і, убачыўшы, што няма свята ў яе гонар, дужа раззлавалася. Ад яе гневу дрыжала зямля, і возера выйшла з берагоў, шмат шкоды нарабіла… Але людзі ўжо не вярнуліся туды. Вось і пачаў дух возера помсціць. Колькі стаяць тут навакольныя вёскі, столькі і людзі там знікаюць. Не кожны дзень, вядома, але часам здараецца. Вось рыбакі, хто не баіцца, ходзяць — і нічога, калі не рызыкаваць ды ля берага рыбачыць. А мінулым летам старшакласнік з тваёй школы патануў — толькі заплечнік з падручнікамі на беразе знайшлі.

— Але калі чалавек патоне, яго рана ці позна ўсё адно знойдуць.

— У тым і справа, што не знаходзяць. Глыбока там так, што у-ю-юй!

— А вы самі ў гэта верыце?

— Чаму ж не верыць? Усё можа быць. Так што не хадзі, не турбуй бабулю.

— Добра, Аляўціна Сямёнаўна, не трывожцеся. На гэтай вясёлай ноце пайду я спаць, а то заўтра адказнае мерапрыемства — экскурсія па гарадскіх музеях…

Калі раніцай Віта расплюшчыла вочы, настрой адразу сапсаваўся. Не трэба было і падыходзіць да акна, каб зразумець, што ідзе дождж, дробны, марудны восеньскі дождж. «Дарма спала на бігудзях — усё роўна валасы раскруцяцца, толькі на вуліцу выйдзеш. І куртку давядзецца апрануць нялюбую, цяжкую і з капюшонам. А так хацелася выглядаць сёння па-асабліваму... Стоп. Гэта таму, што еду ў горад? Ці таму, што еду з Антонам у горад? А вось і не. Выключна для сябе», — думала Віта, нацягваючы свае самыя вузенькія джынсы.

У цэлым запланаваная экскурсія прайшла нядрэнна. Нягледзячы на дождж, нават наведалі заапарк. Усе задаволеныя, ніхто не згубіўся, здарэнняў не было. Вось толькі Віта вельмі нацерла ногі новымі боцікамі, якія прызначаліся для больш халоднага і сухога надвор'я, але былі абутыя «выключна для сябе». А на вакзале яшчэ і набойка адляцела. Дзеці адно за адным заляталі ў аўтобус і смяяліся, гледзячы ў акно на сваіх настаўнікаў. Антон Яўгенавіч цягнуў за руку Віталіну Сяргееўну, якая ледзь скакала на адной назе. Страціўшы цярпенне, географ падхапіў яе на рукі, біялагічка пры гэтым лаялася і шалёна брыкалася. Вось дзе пацешнае відовішча!

Антон лёгка ўнёс яе ў аўтобус і плюхнуўся на сядзенне побач. Вітка надзьмулася і ўпарта глядзела ў акно, турбуючыся аб тым, што цяпер будуць думаць пра іх вучні. Але Антона такія дробязі зусім не хвалявалі, усю дарогу ён забаўляў дзяцей і сваю суседку байкамі пра гісторыю горада.

…Дваццаць першага верасня ў вёсцы адзначалі свята ўраджаю. Віта дзеля цікавасці вырашыла наведацца ў сельскі клуб на ўрачыстае мерапрыемства. Каля ўвахода цяснілася дзятва, там жа пераступаў з нагі на нагу і Антон:

— Вы ж казалі, што не жадаеце ісці... Праходзьце, клас, хутчэй, займайце месцы…

— На танцы не хачу, а на спектакль можна. Тым больш, з заняткаў на рэпетыцыі дзеці часцяком адпрошваліся — цікава паглядзець, што ў іх атрымалася. Дарэчы, вы не ведаеце, чаму свята ўраджаю так позна — у канцы верасня? Даўным-даўно ўвесь ураджай сабраны.

— Мясцовыя жыхары адзначаюць некаторыя святы, самі не ведаючы, чаму і з якіх часоў — традыцыя, і ўсё тут. У іх нават прынята адзначаць дзень зімовага і летняга сонцастаяння. Вядома, з размахам не святкуюць, але шануюць і віншуюць адно аднаго. Вы яшчэ глянеце на свята вясны — дзень вясновага раўнадзенства. Культура і звычаі ў гэтай і суседніх вёсках проста ўнікальныя — дысертацыю можна пісаць!

На погляд Віты, выбар пастаноўкі быў не вельмі ўдалым — як легенда пра возера адносіцца да свята ўраджаю? Але глядзець было цікава. А дзесяцікласніца Паліна Свірыдава, з яе русальнай знешнасцю і даўгімі светлымі валасамі, так выдатна паказвала разгневаную Панну Возера, што ёй апладзіравалі стоячы. Затым распачаліся танцы.

— Віталіна Сяргееўна, заставайцеся! Тут весела! — енчыў Лёшка.

— Няма калі. Да заняткаў трэба рыхтавацца. Заўтра лабараторная, не забыўся?

У адказ хлапчук толькі махнуў рукой і знік у натоўпе.

Апынуўшыся на вуліцы, Віта ў прыцемках не адразу зразумела, адкуль яе кліча Антон.

— Віта, пачакайце! Хадзіце да нас!

Непадалёк пад раскідзістым пажоўклым каштанам чакала невялічкая кампанія.

— Вось, пазнаёмцеся, — Антон махнуў рукой, — гэта — Віталіна, разам працуем. А вось гэты рыжы тып — Слава, мой сябар і проста цудоўны чалавек.

— Вельмі прыемна, — расплыўся ва ўсмешцы «рыжы тып», нахабна разглядаючы Вітку з галавы да ног. — Такое незвычайнае імя. І чаму мы раней не пазнаёміліся?

— Бог збярог, — буркнула Віта сабе пад нос.

— Гэта Насця, на адной вуліцы жывём, — працягваў Антон.

Насця, дзяўчына гадоў васямнаццаці, нават не паглядзела ў яе бок, працягваючы жаваць жуйку і завязваць шнуркі на красоўках.

— Вось гэта Саша, ён з Запруддзя, самі толькі што пазнаёміліся.

Саша ўсміхнуўся і кіўнуў.

— А гэта... э-э-э...

— Алёна, — аксамітным голасам прамурлыкала дзяўчына і працягнула Антону руку.

Віце падалося, што гэты поціск зацягнуўся даўжэй, чым трэба. Дзяўчына не выглядала равесніцай, ёй было гадоў дваццаць пяць — дваццаць сем. Высокая, прыгожая. Кароткае белае паліто асабліва пасавала да доўгіх чорных валасоў.

— Карацей, Віта і Антон ідуць з намі на шашлыкі, — усміхаўся Слава, не зводзячы з маладой настаўніцы зацікаўленых вачэй.

— Шашлыкі — гэта занадта сказана, — Саша ўзняў вышэй пакет, паказваючы хлеб, упакоўку каўбасак і нейкую гародніну. — Так, да возера прагуляемся, вогнішча раскладзём.

Прыгажуня-Алёна ўсміхнулася, як сытая котка, і ўпэўнена ўзяла пад рукі Антона і Сашу.

— Віт, пойдзем? — з надзеяй паглядзеў на яе Антон.

— Не, дзякуй, халодна нешта на возера цягнуцца, я лепш дадому, — Віта развярнулася і закрочыла па вуліцы. Але Антон у адзін момант дагнаў яе:

— Чаму не? Прагуляліся б, паветрам падыхалі…

— Ідзіце! Гуляйце і дыхайце!

— Я вас... цябе дадому правяду.

— Ды адчапіся ты! — Віта паскорыла крок, пакінуўшы няўдачлівага кавалера ззаду.

Ноччу яна амаль не спала, усё круцілася з боку на бок, пракручвала ў галаве вячэрнюю размову, не на сваю карысць параўноўвала сябе з высокаю і фігурыстаю Алёнаю і нарэшце прыйшла да высновы, што «ўсе хлопцы аднолькавыя» і «ну іх усіх к чорту».

У школу Віта з'явілася без настрою, да таго ж добра спазнілася, і таму цэлы дзень чаплялася да вучняў і не выходзіла з класа, баючыся сустрэцца з Антонам. Але пасля заняткаў ён заскочыў сам:

— Віт, там участковы прыйшоў, цябе пытаецца. Нас бачылі ўчора каля клуба з Сашам — ну, гэтым, з Запруддзя, а дадому ён не вярнуўся.

Вітка падскочыла:

— Значыцца, і на возера ты не хадзіў?

— Без цябе нецікава... Хадзем у настаўніцкую…

Зусім малады белабрысы хлопец у новенькай форме прадставіўся Паўлам Аляксеевічам і паціснуў Антону руку. Віталіна прысела на старую канапу і расслабілася: значыць, яны ні ў чым не падазраюцца. Як высветлілася, сведкі-аднавяскоўцы бачылі Аляксандра Зубкова ў вёсцы Старыя Крыніцы, а дадому ён так і не вярнуўся. Паколькі раней такога не здаралася, устрывожаная маці паспяшалася звярнуцца ў міліцыю. Слава і Насця ўжо былі апытаныя. Паказанні ў іх сыходзіліся, толькі гэта нічога не давала: абодва памятаюць, як хадзілі на пікнік, а што там было і як дадому дабраліся — толкам растлумачыць не могуць.

— Раней ведалі Аляксандра Зубкова? — участковы прысеў на край крэсла і пачаў запісваць.

— Не, Слава ўчора пазнаёміў, — павіс над ім Антон, заглядаючы ў паперы.

— Яны нас на шашлыкі звалі, на возера, але мы не пайшлі — позна ўжо было і халодна, — затарахцела Вітка.

— Вось што загадаеце рабіць? Крымінальную справу заводзіць ці на возера чортава ўсё спісаць? — нявесела ўсміхнуўся ўчастковы. — Добра, следчы прыедзе — сам няхай

разбіраецца! — Павел Аляксеевіч узяў пад паху папку і, на хаду апранаючы фуражку, выйшаў за дзверы.

Віта з Антонам пераглянуліся:

— Можа, знойдзецца яшчэ?

— Будзем спадзявацца, — пагадзіўся Антон, — праспіцца і вернецца. Заначаваў у каго, а родзічы — адразу ў паніку.

— Напрыклад, у той дзяўчыны, Алёны.

— Але. Ён жа з ёю і прыходзіў.

…Але мінула чатыры дні, а Саша так і не аб'явіўся.

Антон вырашыў сам наведацца да Славы і ўсё высветліць. Ну, і Віта, вядома ж, не магла адмовіцца ад такой задумы.

Па дарозе зайшлі да Насці, даведацца, як справы.

— Ды не памятаю я, што мы там рабілі! Я дадому не памятаю, як дайшла. Два дні галава балела. І навошта я туды пацягнулася? А цяпер міліцыя кожны дзень ходзіць… Яны што, мяне — у турму?

— Пілі што?

— Яшчэ адзін! Нічога не пілі! — Насця захлюпала носам, выціраючы рукавом слёзы.

— Не плач, ніхто цябе ў турму не пасадзіць, — супакойваў Антон, — ты — усяго толькі сведка. Можа, успомніш: у ваду ён палез альбо ў лес пайшоў, альбо да той дзяўчыны? Што за яна, дарэчы?

— Ды кажу, што не ведаю! А гэтую лялькку наогул першы раз бачыла, з горада яна, здаецца...

Тое ж самае паўтараў і Слава:

— Вас ля клуба памятаю, па дарозе ўздоўж лесу ішлі, смяяліся — памятаю, потым нічога не памятаю. Дзяўчыну не ведаю, гэта Саша з ёю дзесьці пазнаёміўся.

Вярталіся пад дробным дажджом. Антон нёс парасон, Віта крочыла побач, учапіўшыся за яго локаць і старанна абыходзячы лужыны і бруд.

— Віт, павер, я Славіка вельмі добра ведаю. Нападпітку яго ніколі не бачыў. Ну, не мог ён таварыша кінуць, а тым больш... са злым намерам нарабіць чаго-небудзь...

— Канешне, не мог. Успомні, Саша паказваў пакет, і ніякіх бутэлек там не было.

— Ну, гэта ні пра што не кажа. Ты ж кішэні не абшуквала. Да таго ж, маглі і ў краму наведацца, яшчэ не позна было.

— Не маглі. Крама па іншы бок ад клуба. Памятаеш, я пайшла, ты — за мной, а яны — да возера.

— Ну, быццам бы так.

— Ты ведаеш, бабка Аля, гаспадыня мая, упэўненая, што дух возера яго забраў. Толькі не разумею, як можна было дадумацца лезці ў ваду ў канцы верасня. Я ўжо і сама думаю, што без містыкі не абышлося...

— Пытанне ў іншым. Калі там людзі тонуць, то куды тапельцы дзяваюцца?

— Фу, Антон, ну цябе! Умееш ты настрой падняць...

…Выхадныя, на шчасце, выдаліся без дажджу, нават заспанае сонейка выглянула. У хаце Віты сядзець было сумна, таму яна пісала канспекты заняткаў на старой драўлянай лаўцы, што пад вішнямі ў агародзе. Бабуля сноўдала туды-сюды, перакладаючы з месца на месца ўжо непатрэбныя капаніцы і граблі ды носячы ў хату вязанкі буйной залатой цыбулі.

Адклаўшы ўбок сшыткі і паперы, дзяўчына падахвоцілася дапамагчы Сямёнаўне прыбраць апошнія лекавыя травы з маленькіх, акуратна акапаныхградачак. Затым пілі пад старой ігрушай ліпавы адвар з калінаю. Увечары дзяўчына тэлефанавала дадому, запэўнівала родных, што ўсё выдатна і сумаваць не даводзіцца.

…У панядзелак з раніцы Віта яшчэ толькі пераабувалася ў настаўніцкай, як заскочыў Антон Яўгенавіч з газетай у руках. Пачакаў, пакуль настаўнік фізкультуры разбярэцца з класным журналам і выйдзе, і падсеў да калегі на канапу:

— Вось, глядзі, што я ў школьнай бібліятэцы знайшоў. Ператрусіў усе падшыўкі мясцовай раённай газеты. Няма ніякай містыкі. Пра знікненні людзей, у асноўным прыезджых, мінімум раз на год паведамляецца. А вось цікавы артыкул за чэрвень пазамінулага года: «Неаднаразова паведамлялася, што на Гром-возеры, размешчаным у вёсцы Старыя Крыніцы, знікаюць людзі. Маюцца сведчанні відавочцаў, якія сцвярджаюць, што бачылі, як адзін з неасцярожных турыстаў заплыў на сярэдзіну возера, затым ускрыкнуў і схаваўся пад вадой. Двое рыбакоў наблізіліся на лодцы, каб аказаць пацярпеламу дапамогу. Астатнія рыбакі, якія назіралі з берага, раптам убачылі, як дно лодкі асвяцілася зеленаватым колерам. Гэта доўжылася некалькі секунд, затым з вады ўдарыў фантан вышынёй два-тры метры. Рыбакі адчулі недамаганне і паспяшаліся выбрацца з небяспечнага месца. Цела знойдзена не было.

Вадалазы, якія праводзілі абследаванні дна возера, выявілі некалькі расколін і варонак у грунце. Што тычыцца свячэння возера і недамагання відавочцаў, навукоўцы тлумачаць гэты феномен газамі, якія вылучаюцца са дна возера. Была прапанаваная гіпотэза, што само возера з'яўляецца метэарытным кратарам…» Вось таму і целы не знаходзяць, я так і думаў, што ёсць там падводныя плыні, — Антон загарнуў газету і самазадаволена ўсміхнуўся.

— Праўду кажаш. Вось і легенда лёгка тлумачыцца: вогненная нябесная калясніца — гэта і ёсць метэарыт. Таму і Насця са Славікам нічога не памятаюць, і галава баліць — усё праз атрутныя газы. Абяцай, што не будзеш там больш купацца.

— Прыемна, што турбуешся. Абяцаю.

…Дні беглі за днямі. Тыдзень за тыднем скончылася восень. Віта ўжо даўно не сумавала па доме. Нават на восеньскія вакацыі засталася ў вёсцы. Уцягнулася ў працу, увайшла ў каляіну. Толькі педсаветы і нарады ёй па-ранейшаму здаваліся сумнымі і маркотнымі забойцамі часу.

За тыдзень да зімовых вакацый дырэктар запрасіла Віту ў кабінет.

— Віталіначка Сяргееўна, вы ў нас такая разумніца і прыгажуня, і самая маладая… Карацей кажучы, будзеце Снягуркай на навагоднім ранішніку. А наконт Дзеда Мароза я пакуль разважаю. Як лічыце — браць Антона Яўгенавіча альбо выкладчыка працы, Сцяпаныча? Я вось да Антона больш схіляюся — добра з дзецьмі ладзіць.

— Пачакайце, Таццяна Міхайлаўна! Гэта як? Я Снягуркай не магу!

— Не магу ці не хачу? Няма чаго саромецца! Ну, калі больш падабаецца Снегавіком ці Бабай-Ягой — то калі ласка.

— Ды не, проста... проста я... зусім прастыла... кхе-кхе... і голас увесь час знікае. Ага… І яшчэ… яшчэ тэмпература!

Вітка хлусіць не ўмела — і таму адразу чырванела. Ну, не скажаш жа наўпрост: «Я наогул педагагічны заканчвала, а не тэатральны!»

— Ну, мілая мая, да ранішніка часу шмат, Сямёнаўне патэлефаную — хуценька на ногі паставіць. А які добры сцэнарый! Завуч сама прыдумала! Вось, трымайце і хуценька ідзіце вучыць!

«Баюся, што гэтага сораму я не перажыву», — ледзь перастаўляючы ногі, Віта пакінула кабінет. Яна заўсёды баялася прыцягнуць да сябе ўвагу і тым больш — выступіць перад публікай. Але прыйшлося. На пару з Антонам. Па праўдзе сказаць, у блакітным прыталеным кажушку і белай футравай шапачцы яна сабе нават падабалася. І, мяркуючы па зачараваным поглядзе Дзеда Мароза, не толькі сабе.

Пасля ранішніка дзеці трыбушылі скрынкі з цукеркамі і разыходзіліся па дамах, а педкалектыў затрымаўся папіць гарбаты з тортам і выслухаць віншаванні дырэктара.

— Заўтра дадому еду, — шапнула Віта Антону, ледзь не пазяхаючы ад віншаванняў, якія зачытваў дырэктар.

— Чаму заўтра? Мы ж у чацвер збіраліся.

— Засумавала. Ды і спраў шмат, і з сяброўкамі трэба сустрэцца.

— А назад калі?

— Не ведаю. Да пачатку чвэрці абавязкова вярнуся. А ты?

— І я не ведаю. У цябе ёсць мой тэлефон. Тэлефануй. І... і ў госці заходзь... Калі хочаш.

Патэлефанаваць яна так і не адважылася — некалькі разоў брала тэлефон і нумар набіраць пачынала, але потым зноў кідала, нават не дачакаўшыся гудкоў. «Чаму гэта я павінна першая тэлефанаваць, мне што, больш за ўсіх трэба? У яго таксама мой нумар ёсць». Тым не менш пасля бою курантаў усе ж такі першай даслала віншавальную смс-ку і атрымала адказ: «Дзякуй, цябе таксама! Пабачымся:-)»

Аляўціне Сямёнаўне Віта прыдбала скрынку шакаладных цукерак і набор яркіх шкляначак для захоўвання сыпкіх прадуктаў. Стоячы ля вітрыны з салíднымі скуранымі штодзённікамі, доўга разважала, ці варта купляць падарунак Антону. Парадаваць яго хочацца, але ж афіцыйна ён нікім не даводзіцца. «Добра, куплю. А там на месцы разбяромся. Калі што, самой спатрэбіцца».

…У вёску Вітка вярнулася на пачатку студзеня.

— Вось і красачка мая вярнулася! Малайчына, Каляды разам адзначым, раскажу, як дзяўчаты ў нас варожаць. А чарнявенькі твой ужо трэці дзень пад вокнамі сноўдаецца — ніяк цябе не дачакаецца… Во-я-ёй, бач, чаго выдумала — бабулі падарункі цягнуць! Ды мне ўжо не трэба нічога!

Але відаць было, што Сямёнаўна засталася задаволеная, доўга вярцела ў руках каляровыя шклянкі, па некалькі разоў закрывала і адкрывала, нават паднесла да вачэй акуляры, каб пачытаць, што на іх напісана.

— У мяне таксама ёсць для цябе падарунак, — склаўшы атрыманае багацце на палічку, яна знікла ў сваім пакоі і загрукацела шуфлядкамі. Вярнуўшыся праз пяць хвілін, Сямёнаўна працягнула Віце на мяккай далоні масіўны кулон на старым счарнелым ланцужку.

— Вось, я ведаю, табе прыгожа будзе. Памерай. Рабілі яго ў даўніну, срэбра пацямнела ўжо, пачысціць трэба. А вось там, усярэдзіне — здаецца, аметыст. Гэта абярэг. Загаворany. Яшчэ маці мая насіла.

— Аляўціна Сямёнаўна, я не магу ўзяць такі дарагі падарунак, тым больш — гэта памяць, ваша сямейная рэліквія.

— Мне перадаць яго няма каму, а так у цябе будзе памяць. Пра мяне. Бяры, не крыўдзі бабулю.

Віта працягнула далонь. Дзіўнае ўпрыгожванне — нічога, што масіўнае, цяпер модна. А срэбра чысціць не трэба — з эфектам даўніны нават цікавей.

На змярканні, вядома ж, з'явіўся Антон. Бабуля адразу ўпусціла яго ў дом, каб на двары не мёрз, запаліла газ, паставіла на стол кубкі і паважна прайшла ў свой пакой, канцэрт глядзець.

— Ну, прывітанне! Як святы правяла? — пацікавіўся Антон, на хаду здымаючы паліто і разматваючы шалік.

— Нічога сабе, асабліва хваліцца няма чым.

— А я трэцяга прыехаў. О! Прыгожыя каралі!

— Каву будзеш? Гэта не каралі — кулон на ланцужку. Падарунак Аляўціны Сямёнаўны.

— Без цукру, калі ласка… У мяне таксама ёсць для цябе падарунак — да твайго кулона, напэўна, падыдзе.

Антон выцягнуў з кішэні маленькую скрыначку і раскрыў яе:

— Ну, гэта… З Новым Годам. Мінулым.

У скрынцы весела паблісквaў тонкі серабрысты бранзалецік.

— Антон, дзякуй, канешне, але не варта было...

— Не падабаецца? Тады памяняем.

— Ды не, падабаецца, нават вельмі, але я не ведаю...

— Ну, раз падабаецца, тады давай надзенем.

Ён зашпіліў на тонкім запясці бранзалет і нязграбна цмокнуў дзяўчыну ў шчаку.

Віта адразу разгубілася і, не знайшоўшы, што сказаць, уцякла ў свой пакой. Там яна прысела на ложак, усміхнулася, затым пакруцілася перад люстэркам і нарэшце выцягнула з сумкі штодзённік, упакаваны ў пярэстую абгортачную паперу.

— І цябе са святам, — нясмела працягнула яна скрутак, вярнуўшыся на кухню.

— Дзякуй, — Антон паклаў падарунак на стол, нават не адкрыўшы яго. — У мяне ёсць цікавыя навіны, — працягваў ён, размахваючы цукеркай. — Гэта яшчэ ў мінулым месяцы было, ды даведаўся толькі ўчора. Уяўляеш, наш школьны вартаўнік адправіўся на возера рыбу лавіць. Мо ты не ведаеш, з-за крыніц возера не замярзае. Дык вось, пайшоў ён туды з сабакам, а вярнуўся без рыбы, без сабакі, без вуды і ўвесь мокры. Сцвярджае, што Панну Возера бачыў.

— Не ведаю, што табе сказаць. Цвярозым ён, вядома ж, не быў.

— Можа, і так. А ведаеш, у які дзень ён туды хадзіў? Дваццаць першага снежня. Дзень зімовага сонцастаяння.

— Ну, і?

— А ўспомні, калі Саша Зубкоў прапаў? Дваццаць першага верасня. Дзень восеньскага раўнадзенства. Яшчэ свята ўраджаю было, памятаеш?

— Памятаю, але прычым тут... Ты думаеш...

— Сашу так і не знайшлі, пытанне без адказу засталося. А я яшчэ разок па газетах прайшоўся, нават да ўчастковага заскочыў даведацца. Увогуле, усе зніклыя станавіліся такімі дваццаць першага верасня, дваццаць першага снежня, дваццаць першага сакавіка альбо дваццаць першага ліпеня. Дзіўна, ці не так? Я думаю, што і ахвяры прыносіліся раней па такіх жа асаблівых днях — восеньскага і вясновага раўнадзенства ды зімовага і летняга сонцастаяння.

— Значыць, у астатнія дні там цішыня і спакой? І як наогул можна гэта растлумачыць?

— Не ведаю. Чыста навукова не атрымліваецца. Безумоўна, нельга сцвярджаць, што чатыры разы на год па пэўных днях раптам возера становіцца небяспечным.

— Давай гэтага рыбака больш падрабязна распытаем, як усё было, што ён там бачыў, і пра гэтую загадкавую Панну.

— Смяешся? Яго жонка чапялой так адхвастала і за рыбу, і за Панну, што ён яшчэ тры дні на працу не хадзіў.

— Антон, а давай туды хадзіць і правяраць, што мяняецца. Будзем здалёку сачыць, га? Можна хоць заўтра пайсці.

— Пакуль такія сумёты — не атрымаецца.

— Добра, давай, калі пацяплее.

— Давай. А не баішся?

— З табою — не.

У выніку да возера хадзіў толькі Антон, ды і тое — у канцы лютага. Віта тады на бальнічным была — захварэла, нягледзячы на вітамінныя адвары Аляўціны Сямёнаўны. Нічога цікавага і незвычайнага на возеры Антон не знайшоў, але да Віткі наведаўся. Заадно і апельсінаў з цукеркамі прынёс.

…Апошнім аўтобусам Вітка вярталася дадому — наперадзе было яшчэ трое выхадных. Па дарозе яна ўсё разважала, што сказаць бацькам, калі заўтра прыйдзе Антон. «Як яго прадставіць? Калега? А яшчэ, пэўна, з кветкамі завітае. А куды пойдзем, не сказаў. І наогул, ні тое ні сёе. Ці сябры, ці ёсць усё ж між намі нешта большае? Ад яго хіба даб'ешся?»

Завітаў з цюльпанамі для Віты і архідэяй для мамы — гэта плюс.

Вельмі сціпла адказваў на пытанні бацькоў — гэта мінус.

Пагулялі, у кавярні пасядзелі — гэта плюс.

Тэмы для размоў — праца і таямніца возера — гэта мінус.

Праводзіў, пацалаваў у шчочку — ну, напэўна, плюс.

Вось і ўсё на гэтым. «Ад яго хіба даб'ешся?»

…Дваццаць першага сакавіка калегі вырашылі абавязкова прагуляцца да возера. Нягледзячы на тое, што снег ужо сышоў, дарога была вельмі бруднай і разбітай, месцамі даводзілася збочваць і ісці лесам. Але і там не было лепш — мяккая раскіслая зямля хлюпала пад нагамі, мясілася ў гразь.

— Глядзі! Там нехта ідзе, наперадзе, — раптам заўважыў Антон.

Сталі даганяць.

— Дык гэта ж Лёша Крупко! У школу, значыцца, не ходзіць — на бальнічным, а як па вуліцы шпацыраваць — калі ласка! — Віта паскорыла крок. — Гэй! Лёша! Чаму ў школе не быў? Я маці тваёй патэлефаную!

— Я ж хварэю, даведка ў мяне. Не верыце — у мамы спытайцеся, як з працы вернецца.

— А я думала, што дома звычайна лечацца.

— А я хуценька, на возера і назад. Вось, рыбак выпусціць, — Лёша выцягнуў з торбы трохлітровы слоік з карасікамі.

— І навошта ты прыдумаў іх сёння выпускаць? — пацікавіўся Антон. — Калі ўжо добры такі, эколаг ты наш, праз месяц выпусці, бо ім цяпер корму няма.

— А мне цётачка сказала сёння выпусціць.

— Якая такая цётачка?

— Прыгожая. Калі з крамы ішоў.

— І што, так і сказала: ідзі ты, Лёша, рыбак выпускаць?

— Не, не так. Сказала, што рыбкі сумуюць, у возера просяцца...

— А ведаеш, што? Ты ідзі дадому, а то зусім захварэеш, а мы з Віталінай Сяргееўнай сходзім і тваіх рыбак выпусцім. Дамовіліся?

— Добра. Толькі абавязкова выпусціце, не забудзьцеся!

— Не забудземся, абяцаю. Бяжы дадому… Здаецца, не дарма мы сёння туды сабраліся, — заўважыў Антон і ў задуменні паглядзеў услед хлапчуку, які весела скакаў праз лужыны.

…Наблізіўшыся да возера, над якім слаўся густы туман, Віта схапіла Антона за руку і спынілася. Па беразе гуляла, гледзячы ўдалячынь, дзяўчына. Тая самая чарнявая Алёна, нават у тым самым беласнежным паліто.

Яна павярнулася на гукі крокаў і ўсміхнулася:

— О, дзень добры. Антон — так, здаецца?

— Дзень добры. Чакаеце каго?

— Я? Так… Гуляю. А вы?

— Мы вось рыбак вырашылі выпусціць, а то цесна ім.

Антон, не выпускаючы Віткінай рукі, падышоў да берага і перавярнуў слоік.

— А давайце разам прагуляемся, надвор'е сёння цудоўнае! — прывабна ўсміхнулася Алёна.

— Мы і так гуляем. Э?! — Антон са здзіўленнем зірнуў на яе босыя ногі і нават не дагаварыў, разгубіўся.



Ілюстрацыя Вікенція Пузанкевіча.

— Не, мы без яе, — дзяўчына кіўнула ў бок Віты. — Пагаварыць трэба, — яе мяккі і глыбокі голас закалыхваў.

— Гавары, — неяк недаверліва пагадзіўся Антон.

Па меры таго, як яны набліжаліся, Алёна павольна адступала, неўзабаве ўвайшоўшы ў халодную ваду па тонкія шчыкалаткі:

— Не! Без яе! — раптам раззлавалася яна.

Цяпер, зблізу, добра былі бачныя яе вялікія, сінія і вадзяністыя вочы, бяскроўныя вусны ды празрыстая, бледная да блакіту скура.

Віта, нервова ўчапіўшыся ў рукаў Антона, замерла на месцы, спадзяваючыся, што гэта ёй толькі мроіцца. Ашаломлены Антон нібы здранцвеў. Стаіўшы дыханне, ён не зводзіў вачэй з чорнавалосай шэльмы, не ў сілах павярушыцца.

Вадзяная прыгажуня спынілася, на яе твары з'явілася дзікая ўсмешка. Раптам яна рванула з месца, адным скачком дасягнула Антона і, схапіўшы яго за шыю, з нечалавечай сілай імкліва пацягнула ў ваду.

Віта, як была — у ботах і куртцы, — кінулася следам. Але нават удваіх справіцца з гэтай істотай было няпроста. Цяжкая, набраклая вопратка перашкаджала рухацца ў ледзяной вадзе і цягнула ўніз. «Алёна» тым часам лёгка валакла Антона ўсё далей ад берага. Віце ўдалося схапіць яе за паліто, рассыпаліся градам бліскучыя гузікі, і яно лёгка саслізнула з цалкам агаленага мармурова-белага цела. Але бессаромніца не звяртала на гэта ніякай увагі, усёй сваёй вагой навальваючыся на няшчаснага хлопца, акунаючы яго з галавой і спрабуючы ўтапіць. Віце нарэшце ўдалося злавіць яе, схапіўшы за доўгія валасы. Істота адразу кінула Антона і стала адчайна выгінацца, абедзвюма рукамі трымаючыся за галаву. Яе моц сыходзіла на вачах, і Вітка, асмялеўшы, цягнула яе за валасы да берага, адначасова азіраючыся ў пошуках Антона. Ён ужо выбіраўся на бераг, кашляючы і скідаючы мокрую цяжкую вопратку.

— Адпусці мяне... Ты не разумееш, я — праклятая... — злосна шыпела Панна — ад мяккага аксамітнага голасу не засталося і следу.

— Ты баішся мяне? — Вітка і не думала кідаць чорныя жорсткія валасы.

— Не цябе, — твайго каменя, гэта — асколак, — істота змякла і цяжка дыхала, — ты нічога не ведаеш… Яно прымушае мяне… — яна кіўнула на возера. — Толькі я магу адыходзіць ад берага... Дапамажы, — падняла яна глыбокія бяздонныя вочы, у якіх зусім не было зрэнак. — Я не хачу належаць гэтаму свету, ён чужы...

Тым часам вада ў сярэдзіне возера падымалася на вачах, разганяючы туман і вялізныя хвалі, і закручвалася ў шчыльны жгут, які нагадваў рукаў смерчу.

— Што гэта?! — не паверыла сваім вачам Віта.

Вадзяная калона расла, прымаючы абрысы вялізнай нязграбнай істоты, падобнай ці то на васьмінога, ці то на медузу. Неўзабаве вада ў возеры запенілася і зубулькацела, загула пад нагамі зямля. Ад нечаканасці і здзіўлення Антон застыў на беразе з адкрытым ротам, а Віта выпусціла з рук чорныя валасы.

— Медальён.... ён абароніць, — прашыпела вызваленая істота, адплываючы далей і далей ад берага.

Віта здымала з сябе медальён дрыжачай рукой, не ў сілах крануцца з месца. Калені дрыжэлі, усё гэта здавалася страшным сном… Цяпер дзяўчына заўважыла, што пачвара, якая набліжалася да яе, цалкам складалася з вады, якая бесперапынна рухалася. Вось яна працягвае да Віты свае доўгія вадзяныя шчупальцы, якія нібы аддаюць зеленаватым

прывідным святлом, і здаецца, што ў сярэдзіне гэтага віру ўтвараецца вялізная варонка, падобная на адкрытую драпежніцкую пашчу.

— Ві-і-та-а! — як скрозь сон, далятае да дзяўчыны голас Антона, які бяжыць, спатыкаючыся і ўздымаючы пырскі.

Але яна не азіраецца, ёй трэба заплюшчыць вочы, засяродзіцца і супакоіць дрыжачыя рукі, каб паспець узняць над сабой медальён, магічны шчыт, апошнюю надзею…

Пачуўся жудасны працяглы рык, які, здавалася, выходзіў з самай глыбіні возера; усё загуло, задрыжэла, скалыхнулася пад нагамі зямля. Віта адчула, нібы ўдар току прайшоў праз яе, а медальён, чорны і гарачы, нясцерпна абпаліў руку — і страціла прытомнасць, падаючы ніцма ў халодную ваду...

Расплюшчыўшы нарэшце вочы, дзяўчына перш за ўсе ўбачыла маму.

— Віталіначка! Дзякуй Богу! — нахілілася яна да дачкі.

Ва ўсім целе адчувалася незвычайная слабасць, у галаве ўсё блыталася, шумела ў вушах, і нясцерпна пякло ў руцэ… Дзяўчына абвяла затуманеным позіркам памяшканне і зразумела, што знаходзіцца ў бальнічнай палаце. Кінуўшы чыркаць ў картцы, да яе наблізіўся вусаты доктар:

— Ну-с, Віталіна Сяргееўна, вам пашанцавала. Несур'ёзныя траўмы, апёк лёгкай ступені. Яшчэ паназіраем. Думаю, у канцы тыдня выпішам.

— Мам? — дзяўчына паднялася на руках, прычым правая аказалася туга забінтаванай.

— Цябе на беразе знайшлі. Вучань твой, Лёша, усю вёску на ногі падняў, міліцыю выклікалі, ратавальнікаў, — маці выцірала слёзы. — Прыехалі — двое настаўнікаў на беразе ляжаць, а вады ў возеры зусім няма, уся пад зямлю сышла. Толькі рыба валяецца ды птушкі кружаць.

— Антон! Дзе Антон? Што з ім?

— Не хвалюйцеся, Антон Звягінцаў у суседняй палаце. З ім усё ў парадку. Шок і лёгкае пераахаладжэнне. Вось, на тумбачцы вашы асабістыя рэчы. Усё наскрозь мокрае — тэлефончык выкінуць прыйдзецца.

Віта кінула здзіўлены позірк на тумбачку і раптам падскочыла, згрэбла з яе рэчы і, накінуўшы халат паверх начной кашулі, выбегла за дзверы.

— Куды ты? А тапкі? — крыкнула ўслед мама. — Ну што за чалавек!

Як толькі Вітка ўляцела ў палату, Антон адарваўся ад падаконніка і кінуўся да яе. Абняў, моцна прыціснуўшы да сябе, і пацалаваў у гарачы лоб.

— Вітка... Вітачка! Я так хваляваўся! Суткі не ачувалася, а да цябе не пускалі!

— Са мной усё ў парадку, — Віта вызвалілася з яго абдымкаў, — ты лепш скажы: усё памятаеш, усё-ўсё?

— Вядома. Толькі апрытомнеў, пачаў расказваць, як усё было. Тады да мяне псіхіятра выклікалі. Ён мне і растлумачыў, што гэта адбіваецца стрэс, болевы шок і пераахаладжэнне. А яшчэ мы з табой атрутнымі газамі надыхаліся. Вось і здалося немаведама што.

— Антон, ты сапраўды ў гэтым упэўнены?

— Здаецца, так.

— Сапраўды-сапраўды?

— Вядома ж, псіхіятр лепш ведае…

— Вядома ж, а як ты тады растлумачыш вось гэта? — загадкава ўсміхнулася Віта, вывуджваючы з кішэні бальнічнага халата чорны аплаўлены медальён.

## Начное вяртанне

Якое тут прыгожае, дзіўнае і надзвычай чароўнае месца! І чаму я раней яго не заўважала?

Пакаты бераг з усіх бакоў абступае смарагдавая зеляніна, свежыя бірузовыя лісточкі свецяцца, ззяюць у пяшчотных сонечных промнях. Галлё старой вярбы звісае пышным вадаспадам і дакранаецца да празрыстай вады, нібы пагружаецца ў купель. Мерна калыша плынь кволыя водарасці, жоўтымі вочкамі паглядаюць гарлачыкі, і стракозы праносяцца паўз іх, выпісваючы неймаверныя кульбіты і піруэты. Маленькія плывунцы носяцца адно за адным, гуляючы ў даганялкі. Недзе зусім блізка сакочуць конікі, а з вышыні чуецца вясёлае птушынае цвырканне. І так вабіць, казыча нос духмяны водар траў! Прыгажосць! Абавязкова вярнуся сюды ўначы, калі гарэзлівы месяц заблытаецца ў кроне старой вярбы. Так і ўяўляю сабе срэбную дарожку на чорнай вадзе і шамаценне цёплага летняга ветрыку ў мяккіх пушыстых галінках…

Усё мне міла, усё даспадобы. І я адчуваю яднанне з гэтай раскошай і веліччу. Ганарліва гляджуся ў адпаліраванае люстэрка вады: лебядзіная шыя, доўгія хвалістыя валасы, бялюткія пакатыя плечы, вабны і тонкі стан — хіба ж я не прыгажуня? Дзіва, якая прыгажуня! Ах! Нават спяваць хочацца ад шчасця! Але ад пякучага сонца песня не льецца, быццам засела на перасохлых вуснах…

Але што гэта? Незнаёмая дзівосная істота асцярожна набліжаецца да мяне. Я заміраю — яна таксама.

Раптам істота палохае мяне:

— Мама! Мама! — крычыць яна. — Там! Паглядзі, русалка!

Усплёск — і я ўжо пад вадой. Яна супакойвае, ахінае маё цела і прыемна халодзіць разгарачаную скуру. Глыбей, яшчэ глыбей, прэч ад гэтай непатрэбнай мітусні і клопату, прэч ад зямных істот, такіх крыклівых і непрыгожых!

Але я вярнуся, абавязкова вярнуся выпрабаваць усю асалоду і шчаснасць цёплай летняй ночы, таму што ноч — гэта мой час…

## Мой скарб загавораны

Пад агромністым начным небам весела гарыць і патрэсквае запаленае на жардзіне кола, так падобнае на сонейка. Тут, на ўскраіне вёскі, сабралася сёння мноства народу, мала хто ў хаце застаўся ў такое свята. І старыя прыйшлі пацешыцца, і дзеткі, што прыехалі на вакацыі, прыбеглі паназіраць за гэткім дзівам, прытаіліся каля бацькоў і заварожана глядзелі на высокае барвістае полымя, якое з вялікай нагоды сабрала ўсіх вакол сябе.

Але больш за ўсё моладзі. Дзяўчаты прыбраліся ў даўгія расшытыя кашулі, вянкоў наплялі: хто нарваў у бабулінім кветніку пяшчотных духмяных руж, хто з калосся звіў ды з палявых сціплых кветак, а ў каго і з вярбы нядрэнна атрымалася. Апоўначы пабягуць дзяўчаты варажыць, пускаць вяночкі ў віхлястую бурлівую рачулку. Як паплыве вяночак далёка — здзейсняцца запаветныя жаданні, як прыстане да беражка — адтуль і лёс прыйдзе, а чый патоне ці на кветкі разваліцца — наступны раз долі шукаць.

А хлапцам адно падурэць: прывалаклі старых покрывак і — давай у вогнішча шыбаць; дым каромыслам стаіць, ляніва падымаецца ў бязмежнае зорнае неба. Дзяўчаты сварацца, а ім хоць бы дзічкі, знай, смяюцца сабе.

Дзіўная, нястрымная весялосць ахоплівае ўсіх, зацягвае ў спрадвечны карагод, з легкадумнымі гульнямі і звонкімі бесклапотнымі песнямі.

Зайгралі гармонікі, зазвінелі бубны. Жанчыны ў квяцістых хустках зацягнулі старую песню, якой навучыліся яшчэ ад маці, заззялі смяшлівыя іскрынкі ў натхнёных вачах. Зашапталіся жартаўлівыя дзяўчаты, насмешліва паглядаючы на прыезджых і незнаёмых пакуль хлопцаў. Радасна загойсалі вакол траскучага залатога полымя хлопчыкі і дзяўчынкі, здалёк падкідаючы ў яго маленькія галінкі. Быццам невядомая чароўная сіла прымусіла ўсіх забыцца і пачала цягнуць да дзікага жыватворчага агню.

Як толькі полымя паменшае, пачнецца самае займальнае. Цікава, а ці адважуся я пераскочыць праз вогнішча? Лепш пачакаю, померапаю здалёк за іншымі. Калі не будзе вялікага жаху, можа быць, і сама паспрабую.

Зрабіўшы некалькі крокаў назад, аддаляюся ад высокага языкатага полымя. Асцярожна азіраюся, каб не ўваліцца ў зараснікі адзічэлага духмянага язміну, і сустракаюся з кімсьці позіркам. Нехта прыціх за кустоўем і ва ўсе вочы ўглядаецца ў трапяткое полымя. І хто гэта ў нас такі сціплы хаваецца? Вольга? Не, вунь яна, стаіць каля самага вогнішча. Дакладна дзяўчына, і быццам нетутэйшая. Павярнуўшыся да вогнішча, я пацiскаю плячыма: няхай сабе стаіць. Але адвечная жаночая цікаўнасць бярэ верх, праз пэўны час я зноў абарочваюся і зноў бачу ўсё тыя ж зацікаўленыя вочы. На гэты раз яны ўсміхаюцца мне. Выходзіць, што знаёмая. Прабіраюся праз густыя пухнатыя галіны, пакідаючы ўсеагульнае свята па той бок.

Здзіўляюся і маўчу. Не, незнаёмая. І зусім распранутая, толькі доўгія, ледзь не да каленяў, валасы прыкрываюць аголенае цела.

— Вой… прабачце, — я ўжо пачынаю адступаць скрозь зараснік назад.

— Ах! — раптам уздыхае дзяўчына, ухапіўшыся за маю доўгую сукенку. — Гэта што?

— Купалле, — разгублена адказваю я.

— Не, гэта што? — не жадае яна адпусціць падол сукенкі.

— Э-э… Вам паклікаць каго? — я пачынаю шкадаваць, што апынулася тут.

— Падорыш? — зачаравана ззяюць яе агніста-чорныя вочы.

— Не, я не магу, мне ісці трэба, — спрабую я вырваць край сукенкі з рук ашалелай дзяўчыны.

— Падорыш? — ужо ціхенька шэпча яна і даверліва глядзіць на мяне вялікімі бліскучымі вачыма.

— Табе дайсці няма ў чым? — нарэшце разумею я.

Яна маўчыць, не зводзячы з мяне цікаўнага позірку.

— Ну добра, чакай. У мяне недзе кофта ёсць. Зараз прынясу, не занадта доўгая, канешне, але дадому дойдзеш, — я выныраю на паляну, дзе ўжо распачынаецца сапраўднае свята, і капаюся ў кучы сумак і вопраткі, зваленай непадалёк. Сама смяюся і кручу галавой: «Вось дзяўчо дурное, па якіх кустах лазіла, дзе сукенку згубіла? Ужо я б на месцы яе маці добранька дубцом прайшлася!»

— Вось, — працягваю я кофту, зноў ныраючы ў густыя кусты, — бяры, заўтра вернеш.

Яна стаіць, як слуп, пакуль я нацягваю на яе доўгую кофту.

— А гэта што? — нахіляецца яна, разглядаючы мае басаножкі, і я прыходжу да высновы, што ў яе дакладна не ўсё ў парадку.

— Падабаюцца? Забірай, — я скідаю плеценыя басаножкі, і яна адразу ўскоквае ў іх. — Дзе жывеш? Давяду, — я ўжо разумею, што свята мне сёння не відаць, прыйдзецца весці гэтую недарэку дадому.

А яна тым часам весела і задаволена скача ў лес, нават кофту не зашпіліла — і навошта, пытаюся, апранала? Я спяшаюся за ёю і сваруся на сябе за тое, што звязалася. Вось і адказвай цяпер, не кідаць жа тут…

Далёка застаюцца вясёлы гоман, дружны смех і шумныя гульні, слабым рэхам разносяцца шматгалосыя песні…

Тут, далей ад чужых вачэй і людской таўкатні, разліваецца па наваколлі аглушальная спрадвечная цішыня. Ні гуку, ні ветрыку, ні млявага шэпту… Не варухнецца соннае паветра, не гойдаюцца тонкія галінкі ляшчыны, не калышуцца пад ветрам высокія духмяныя травы, не хістаюцца кволыя суквецці дудніка, замерлі, закрыліся мядункі, прыціхлі палахлівыя асіны.

Змоўк на ўзлессі салавейка, сціхлі берасцянкі і лялякі, затаіліся ў безгалосым полі вёрткія палёўкі, супакоіліся ў далёкім гушчары совы, не мітусяцца над верхавінамі бухматых разлапістых елак кажаны, нават начныя матылі спынілі свой лёт.

Здаецца, што ўсё тут знямела, апусцілася ў глыбокі чароўны сон. Але гэта толькі здаецца нам, непасвячоным, далёкім ад таямніц сусвету… У гэтую ноч, ноч найвышэйшага росквіту жыватворных сіл зямлі, наліваюцца асаблівай сілай зёлкі, загадкава шэпчуцца між сабою векавыя дубы і старыя камлюкаватыя сосны…

Я спяшаюся наперад, каб не згубіць, не страціць след дзівоснай дзяўчыны. Раптам мая падапечная спыняецца:

— Поўнач, поўнач, палуноч, на ўзгорку вырас хвошч, хто яго сарве, сто гадоў пражыве, — звонка прамаўляе яна і працягвае мне калматы, як маленькая елачка, хвошчык.

Я са здзіўленнем прымаю гэты падарунак, а яна спяшаецца наперад. Але праз некалькі крокаў ізноў замірае, узіраецца ў высокую траву, працягваючы руку да мяккай зямлі:

— На зялёным на пагорку палын вырас пахкі, горкі, як змяшаецца з травою, будзеш вечна маладою, — працягвае яна мне сарваную зёлку. Цяпер і я іду больш уважліва, збіраю па дарозе пахучы любізнік і духмяную мяту, сінявокую тою, каляровыя ясноткі і пушыстыя шарыкі багаткі, па перададзенай продкамі памяці звіваю, сплятаю гаючыя цудадзейныя зёлкі ў пышны духмяны вянок.

А ночка светлая-светлая, ясная-ясная, як ніколі бесклапотная і хмельная. Зіхацяць яснымі вочкамі ў густа-сінім небе маленькія зорачкі, з усмешкай назірае за намі мядовая поўня, і бруіцца, распаўзаецца светлымі плямамі па гулкай зямлі яе таямнічае святло. Яно здаецца мне нетутэйшым і магічным, а ўвесь агромністы свет — такім дзівосным і чарадзейным! Спыніўся час, закруціўся, як той купальскі вянок.

— Плюшч, мой плюшч, малю цябе, каля сэрца нашу цябе, хто сустрэнецца са мной, той каханы будзе мой, — шэпча тым часам дзяўчына і працягвае мне цёплы лагодны лісток. Чамусьці я прымаю яго і ўжо пакорліва крочу за ёю пад шаты лесу.

Разліваецца па ўзлессі спрадвечная таямнічая сіла, старажытная, як сам свет, старэйшая за ўсе людскія мроі і думкі. Сцелецца па парослых верасам узгорках, сцякае ў цёмныя нізіны, нібы лёгкі шаўковы туман, ахапляе сабою танканогія алешыны, прасочваецца ў загадкавыя цені ядлоўцу, нырае пад карункавыя кусты малінніку.

— Распусціўся святаяннік, усіх немачаў выгнаннік, хто з сабой будзе насіць — той у шчасці будзе жыць, — дзяўчына вабіць мяне далей, і я паслухмяна іду за ёю ў цёмны гушчар.

Босыя ногі прыемна халодзіць святлістая раса. Мякка згінаецца пад нагамі сакавітая трава, у якой утойліва квітнеюць начныя фіялкі, распаўсюджваючы дзівосны вядзьмарскі водар. Падымаецца з зямлі п'янкі цягучы пах чабару. Разам з водарам духмяных траў пранікае ў самую душу асаблівая маўклівая пяшчота, велічны глыбокі спакой. Сэрца ажыла і гулка б'ецца, скінуўшы з сябе непатрэбныя ўмоўнасці і кайданы жыццёвых роляў. Блаславлёная, незабыўная пара. Яднанне з усім жывым, з гэтым дзівосным бясконцым сусветам і адчуванне сябе яго часткаю — вось што такое шчасце.

— Хмель, мой хмель, засцялі мяккую пасцель, — зноўку шэпча мая праважатая, схіліўшыся і раскінуўшы па густой траве доўгія валасы. — Звіўся хмель з тычынаю, злюбіўся хлопец з дзяўчынаю, — затым падымаецца, уплятае шышачкі хмелю ў мой вянок і апранае яго на маю галаву. І я ўжо зусім не баюся яе, гэтай незвычайнай дзяўчыны, і сама неяк непрыкметна раствараюся ў чароўным наваколлі, у велічнай ап'яняльнай прыгажосці, кожнай клетачкай цела ўбіраю ў сябе казачную купальскую таямніцу.

Выходзяць няспешна з-за цёмных ствалоў адна за адной доўгавалосыя дзяўчаты, выплываюць з беласнежных кустоў бружмелю, вырастаюць з-пад засцеленай барвенкам і мохам зямлі. Бясшумна плывуць яны ўслед за мною па зарослых верасам купінах, з захапленнем разглядаючы маю вопратку і апранутую ў незвычайную кофту сяброўку.

Наперадзе з'яўляецца з гушчару вялікі мядзведзь, не спяшаючыся, па-гаспадарску набліжаецца да нас і раптам уздымаецца на заднія лапы. Цяпер я бачу, што гэта зусім не звер, а парослы густым мохам і поўсцю стары.

— Унучкі мае, гаёўкі, ці зноў да людзей бегалі? — хрыпла прамаўляе ён чалавечым голасам, нібы нараспеў, расцягваючы словы.

— На крышачку толькі, — адказвае мая праважатая, — адным вочкам зірнуць.

— Свавольніцы, непаслухмянкі, — цяжка ўздыхае лясун, незадаволена разглядаючы нас. — Ізноў начапілі на сябе немаведама што, — сіпла смяецца.

Няўжо і мяне прыняў за ўнучку? Здзіўляюся, але маўчу. Няўжо і ў мяне выгляд такі? Вось гэтак жа раскудлаціліся яловымі лапамі валасы, разарвалася хмызняком вопратка, вось гэтак жа ззяюць дзікім агнём вочы? Дзіўна.

Дзяўчына вядзе мяне далей, прэч ад шматлікіх цікаўных сясцёр і свайго чароўнага дзеда.

— Вунь, — ківае яна галавой у бок паляны, — хто гэту кветку здабудзе, што душа пажадае, мець будзе, — і гарэзна ўсміхаецца, хутаючыся ў доўгую ўтульную кофту. — Толькі дадому ідзі і не абарочвайся, лесуна не слухай, гаёвак не бойся…

Я паварочваюся да зарослага папарaццю ўзгорка і ад захаплення перастаю дыхаць: сярод цёмнай зеляніны гарыць чырвонаю палымянаю зоркаю дзівосная агністая кветка, залiваючы жывым казачным святлом усё навокал.

І дзякуй няма каму сказаць — знікла, растала ў паветры мая праважатая, быццам і не было яе ніколі. Павольна апускаюся на мяккую зямлю, любоўна абдымаючы абедзвюма далонямі гарачую святлістую кветку.

Што, не верыце? Кажаце, не цвіце папараць? Вось таму і не знаходзілі. А я знайшла, таму што верыла, таму што знала…

А хто імкнецца — шляхі заўжды адкрытыя.

## Спатрэбіўся

«А надвор'е для восені нічога, нават шыкоўнае, — разважала пра сябе Даша, бадзёра пастукваючы абцасамі па коса выкладзенай тратуарнай плітцы. — І парасон, як заўсёды, узяла дарэмна — цягай увесь час за сабою. І ў сумку не змяшчаецца, і ў руцэ няёмка, хоць выкідай! А калі б не ўзяла — прагноз сіноптыкаў абавязкова б апраўдаўся — закон подласці...»

Даша зірнула на гадзіннік і запаволіла крок. Аўтобус толькі а чацвёртай, часу — непачаты край. Але хто дадумаўся прыпынак так далёка ад навучальнага корпуса рабіць? Не, прайсціся, вядома, карысна, якая-ніякая фізкультура, але ўсё гэта — каштоўны час, асабліва калі на пару спазняешся. А калі часу хапае — можна і праз скверык няспешна пашпацыраваць.

Праўду кажучы, праз скверык яна хадзіла часцяком, калі не сказаць заўсёды — нават калі спазнялася. Галоўнае — паскорыць крок ды варон менш лічыць. Але лёгка сказаць… Каб галавой па баках не круціць — гэта яшчэ пастарацца трэба. Такое захапляльнае хараство! Надвор'е сёння як ніколі цудоўнае: празрыстае, нават крыштальнае, і паветра надзвычай бадзёрае. Гаваркі ветрык шэпчацца з тонкімі рабінкамі, бясклапотнае вераснёўскае сонейка ўсе яшчэ ветліва ўсміхаецца, кідае зайчыкі на пярэстыя бакі вогненна-чырвоных клёнаў і залатых бярозак, жартаўліва скача па вінна-барвовых вяршынях ву-у-унь тых цудоўных дрэўцаў — ці то вязаў, ці то ясеняў, ці то яшчэ чаго (Даша ўсё спрабавала ўспомніць, як тыя мудрагелістыя вязы ды ясені на малюнку ў падручніку выглядаюць, але ніяк не атрымлівалася).

Наогул, як ідзеш праз вясёлы сонечны скверык, думкі зусім з галавы вылятаюць. Іх шмат, але яны раяцца недзе далёка-далёка, і ніяк не атрымліваецца выхапіць адну з іх і на ёй засяродзіцца. І застаешся сам-насам, і адчуваеш сябе зусім па-іншаму, па-новаму неяк. Быццам ты — і не ты зусім, і наогул цябе не існуе, паціху раствараешся, растаеш у наваколлі… Як дзіця малое, адчуваеш глыбокую асалоду ад шолаху сухога лісця пад нагамі, асаблівага паху самлелай вільготнай зямлі і пажоўклай зеляніны. І нават перастаеш заўважаць сварлівых варон, гоман транспарту, што бяжыць дзесьці паблізу, і гэткіх жа задуменных пешаходаў, якія цягнуцца насустрач.

Але раптам Даша стала. Як скамянелая. На фоне гэтага чырвона-жоўтага хараства велічна рассеўся раскошны кот. Агромністы, вогненна-рыжы, з велічэзнымі зялёнымі вачыма на акруглай асалавелай мордачцы, ён ляніва міргаў і жмурыўся на меднае восеньскае сонца.

— Кі-і-са, — працягнула зачараваная відовішчам дзяўчына. — Кіса-кіса-кіса! Згубіўся?

— Мі-а-а-ў, — пачулася ў адказ.

— Ну, ідзі, ідзі сюды, мале-е-енькі…

Але кацяра і не думаў варушыцца, не зводзячы з дзяўчыны гіпнатычнага позірку.

— Не бойся, кіс-кіс-кіс, — ласкава, як маленькага, клікала яго Даша, разам з тым сядаючы на старую лаўку і кешкаючыся ў сумцы — павінен быў застацца бутэрброд... Хіба тут што знойдзеш?! Не сумка, а Бермудскі трохкутнік, слова гонару! І парасон гэты пракляты, каб яго, з рукі ў руку перакладаеш: і на лаўцы забыцца не хочацца, і ў сумку аніяк не змяшчаецца. «Вось вазьму і кіну тут! Гары яно гарам! Мо хоць каму згадзіцца!»

Раптам, у адзін момант кот пераадолеў з дзясятак метраў і апынуўся ў Дашы на каленях, гарачы-гарачы, быццам распалены прас.

— Зусім звар'яцеў? Ці такі галодны? — дзяўчына што ёсць моцы спрабавала пасунуць ката на лаўку, пакуль той зусім не запэцкаў новенькі плашчык дзіўнага колеру кавы з малаком, які каштаваў, між іншым, больш, чым дзве стыпендыі. Але шкадлівы кацяра ўпарта працівіўся, намертва ўчапіўшыся ўсімі чатырма лапамі.

Адчуўшы на сабе чужы пільны позірк, Даша кінула змагацца з вёрткім, як вужака, катом і павярнулася.

Перад ёй стаяў цыбаты хлопец, які з'явіўся невядома адкуль. Ускудлачаныя вогненна-рыжыя валасы, брудная, расшпіленая на голым целе кашуля і падраная штаніна. «І як толькі яму не халодна?» — прамільгнула першая думка.

— Прыгажуня, колькі часу на тваім гадзінніку натахкала? — з'едліва ўсміхаючыся, хлопец упэўнена зрабіў крок наперад.

— Амаль чатыры, — суха адказала Даша. Працягваць гутарку і знаёмства зусім не хацелася.

— Пэўна, на аўтобус спазняешся, угадаў?

Дзяўчына паціснула плячыма, адвярнулася ад нахабнага хлопца і зноўку занялася ашалелым катом.

— Даша, вярні майго ката, — не жадаў адчапіцца саманадзейны хлапчук, не зводзячы з яе пільных вачэй.

— А мы знаёмыя? Няўжо вучымся разам? — Даша пачала ўважліва разглядаць рыжага, скрозь пакрытага яркімі вяснушкамі хлопца.

— Вучымся… разам... — быццам робат, паўтарыў ён.

— Нешта не ўспомню... А на якім вы курсе?

— На курсе, Даша, на курсе, — навіс цыбаты над дзяўчынаю і шклянымі вачыма ўтаропіўся на прыціхлую жывёлу. — Ката аддай... у рукі.

— Ды здаўся мне ваш кот! Забірайце! — з абурэннем падскочыла з лаўкі Даша, працягваючы крыклівага ката.

Але раптам у вачах пацямнела, задрыжалі гатовыя вось-вось падкасіцца ногі, сэрца ашалела закалацілася і паляцела некуды ў бяздонне — адчуванні, як на новым атракцыёне ў парку, калі кудысьці ці то ляціш, ці то правальваешся (а ад такога экстрыму Даша, у адрозненне ад сваіх сяброўак, задавальнення зусім не атрымлівала). Не расплюшчваючы вачэй, яна адчула, што ляжыць на цвёрдай зямлі. Затым няспешна паднялася і села, схапіўшы абедзвюма рукамі галаву, якая жадала развваліцца на часткі. «Малайчына, няма чаго сказаць… Давучылася па начах. І на дыеце дасядзелася. На лаўку, хутчэй на лаўку, пакуль якая бабуля хуткую дапамогу не выклікала», — яна павольна прыводзіла ў парадак свае думкі, падымаючы з зямлі сумку і пракляты, чырвоны ў белую крапінку парасон, які дрыготкія рукі не ў сілах былі ўтрымаць. Цяжка ўздыхнуўшы, Даша нарэшце паднялася на ногі.

І тут рэчы ледзь было зноў не выпалі з рук... Ніякай лаўкі не было і ў паміне... І сцежкі з сухім шаматлівым лісцем... І наогул, знаёмага скверу з гаманлівымі варонамі, бязупынным шумам транспарту, рознакаляровымі клёнамі і тонкімі рабінкамі таксама не было...

Куды ні кінь — толькі пустэча, што з'явілася невядома адкуль і на якой дзе-нідзе тырчалі з растрэсканай зямлі сухія пажоўклыя травінкі. Вязкае паветра здавалася такім гарачым, што нават дыхаць было цяжка. Навіслае маўклівае неба свяцілася чырванню, нібы распаленае вугалле.

І ўсё можна было б спісаць на цяжкі навучальны дзень ці звыклы недасып, калі б не адно дзіва: дзве істоты, велічынёй не большыя за пяцігадовае дзіця, ахопленыя трапяткім і

бурлівым полымем, напружана замерлі па абодва бакі ад Дашы. Падалося? Такое на падман зроку і галюцынацыю спісаць нельга, такое ў сне не ўбачыш і знарок не прыдумаеш.

Істоты тым часам закружылі вакол дзяўчыны, пільна гледзячы адна на адну, нібы гуляючы ў кошкі-мышкі.

— Вы хто? — Дашын голас па-здрадніцку дрыжаў, гатовы сарвацца на плач. — І што ўсё гэта значыць?

Але дзіўныя вогненныя чалавечкі не звярталі на яе ўвагі, нібы яе тут і не было зусім.

— Ты дрэнна ведаеш мяне, Іргліс, калі вырашыў, што я не знайду цябе. Знайду. У любым са светаў. У нас засталіся няскончаныя справы, калі ты памятаеш, — хрыпла прамовіў адзін з іх.

— Гэта твае справы, не мае…

— Памыляешся, нашы агульныя… Мы павязаныя. І ты ведаеш — мне патрэбна твая сіла.

— Табе ніколі не захапіць алтар элементаляў, Трыклар. Гэтым ты нічога не даб'ешся.

— Эй… хто-небудзь, — слаба запратэставала Даша, адчуваючы, як стыне ў жылах кроў і па целе бягуць мурашкі, — я дадому хачу-у-у!

— А ты наогул змоўкні, ніхто не прасіў цябе чапляцца ў яго скуру, смертная! Скажы дзякуй, што жывая засталася. Пакуль...

Даша ўсхліпнула і збянтэжана заморгала вачыма, не перастаючы шчыпаць ужо ссінелую руку, каб нарэшце прачнуцца…

Тым часам дзіўныя істоты працягвалі драпежна кружыць вакол дзяўчыны, выкарыстоўваючы яе як прыкрыццё:

— Ха! І ты нават не здолеў падабраць сабе больш прыстойнае аблічча! Роля нямой бязглуздай жывёліны табе пасуе! Даю табе апошні шанс, Іргліс. Калі ты не са мной — ты супраць мяне. Я вярну цябе ў свет людзей у тым самым жаласным абліччы, але без мяне табе не выбрацца. Ніколі. Абяцаю.

— Я ўсё сказаў, Трыклар. Доўгія рукі часта ламаюць… Ты загінеш…

— Я? Ха! Ды ты забыўся! — грозна палыхнуў чалавечак асляпляльным агнём. — А ведаеш, што? Я перадумаў. Пакінуць цябе смяротнай жывёлай — гэта занадта вялікая міласць. Бывай. Ты сам зрабіў свой выбар. Святыя кроплі знішчаць цябе хутка... і я сам вазьму тваю сілу.

Элементаль горача ўспыхнуў і знік, пакідаючы ля ног дзяўчыны вялізнага рыжага кацяру.

Вокамгненна заклубіліся ў мутным барвістым небе цяжкія грывастыя хмары, пракаціўся аглушальны раскацісты выбух грому, і ўдушлівае паветра задрыжэла. Чыркнула асляпляльная змяістая маланка. І раней, чым першыя кроплі паспелі дасягнуць зямлі, Даша падхапіла на рукі ката і машынальна раскрыла чырвоны ў белую крапінку парасон.

На гэты раз дзівосны атракцыён не быў такім шалёным. Нясмела расплюшчыўшы адно вока, а затым другое, Даша выявіла, што стаіць у знаёмым скверыку ля старой аблупленай лаўкі, крэпка прыціскаючы да сябе спалоханага, атуманенага ката, неймаверна гарачага, як распалены прас. Крычалі на ўсе лады асіплыя вароны, свежы ветрык абдуваў разгарачаны твар, і лагодна ўсміхалася восеньскае сонца, што гуляла на пярэстых кляновых вяршынях. Новенькі плашчык дзіўнага колеру кавы з малаком, які каштуе больш, чым дзве стыпендыі, быў безнадзейна сапсаваны. Але шырокая задаволеная ўсмешка распаўзалася па Дашыным твары: «Вось табе і маеш! Парасон! Парасон ўсё ж такі спатрэбіўся!»

## Воўчы пастыр

Гучна трубяць паляўнічыя ражкі, гарцуюць і топчуць капытамі аселы снег гарачыя быстраногія коні, віскліва заліваюцца танкацелыя харты, нястрымна рвуцца наперад спрытныя ганчакі…

Папраўляе цвёрдай рукой сабалёвую шапку малады князь і мацней сціскае аздобленую срэбрам аброць.

«Не хадзі, не хадзі, Густын! Густынка! — круцяцца, мітусяцца ў галаве словы старой карміцелькі, што ўчапілася ў яго аксамітны рукаў. — Не будзі ліха — будзе ціха!» — і з надзеяй глядзяць знізу ўверх бурштынавыя вочы, ад якіх разыходзяцца танюткія павуцінкі маршчынак.

Не хадзі… Як жа! Сяляне плачуцца, абароны просяць. Ваўкі ўжо зусім сорам страцілі — што ні дзень, то новае здарэнне. То цяля зарэжуць, то ягня задзяруць, то гусей парвуць, горшыя за тых лісіц. Прыйшоў, нарэшце, канец цярпенню, калі паважаны бурмістр вярсту да княжага замка пешшу прабег, роў немым голасам, ледзь супакоілі. Нат не пабаяліся ашалелыя ваўкі сярод белага дня коней парваць, каб іх зямля не знасіла!

«Што пастыр воўчы накажа, тое зграя і вытварыць», — прымхліва шэпча старая карміцелька, і першабытны, нечалавечы страх чытаецца ў яе вачах. — Каго ахвярай абярэ, той свайго лёсу не пазбегне, страшнай долі не міне…»

Малады князь смелы і адважны. Хто ж народу свайму дапаможа, як не ён?.. Храпе, нясецца галопам лепшы вараны конь у раскошнай багатай апоне, весела рыпае новае сядло.

Бліжэй і бліжэй падыходзяць нахабныя ваўкі завірушнымі непраглляднымі начамі. Адзін з іх, самы вялікі, стары, без страху падыходзіць пад самыя муры замка, вые працягла, не дае спаць маладому князю. Як схаваецца крутарогі месяц, перастане выць і магутны воўк, пакладзе калматую морду на вялізныя лапы і будзе чакаць невядома чаго, пракляты звер…

«Не хадзі, княжа, не турбуй майго сэрданька! — спявае вецер словы старой карміцелькі. — І бацька твой год, як згінуў, не вярнуўся з ліхога палявання, толькі вопратку ды зброю ў лесе знайшлі…»

А як вернецца малады князь з палявання, закоціць у гонар паляўнічых сапраўдны баль. Стараста, бурмістр, ваявода,ураднік, маршалак і гетман — усім знойдзецца месца за шырокім і багатым княжым сталом.

— Княжа! — крычыць, параўняўшыся з ім на буланым кані, Тэадор — удзельнік усіх княжых забаваў з самага маленства. — Паварочвай каня! Не выйдзе добрага палявання! Ці чуеш? Заяц дарогу перабег!

Але князь усміхаецца, не глядзіць у яго бок. Прышпорвае крутыя ўзмакрэлыя бакі каня і ляціць наперад… У іх што ні звер, то забабон. Ні воўк, ні заяц, ні крумкач не прымусяць яго павярнуць назад. Князь вернецца толькі са здабычай, між іншым, кідаючы пад ногі сівыя кудлатыя скуры…

І Ядвіга… Няўжо і цяпер прамаўчыць, не захопіцца сваім князем? Бог ведае, чыёй крыві, і род збяднелы… А гонару — на траіх хопіць! Выйдзе, бывала, ясны князь у цяністы сад, абступяць яго жартаўлівыя дзяўчаты, смяюцца, лашчацца, гуляць завуць. А Ядвіга? Не ўсміхнецца, не кіўне ветліва, не кіне зацікаўлены ласкавы погляд. Нахмурыць чорныя, выразна акрэсленыя бровы, сцісне вішнёвыя вусны і стаіць убаку, як мармуровая статуя… Аднаго разу, на Вялікдзень, надумаўся князь яе завушніцамі з праламі адарыць, што ад маці засталіся. А як уявіў сабе бяздушную дзяўчыну… Чорныя вочы долу апусціць і будзе стаяць, нібы вады ў рот набраўшы… Ізноў будуць з яго пацяшацца Тэадор і Любард, ізноў зашэпчуцца між сабой

бойкія дзяўчаты, няўмела хаваючы беглыя зайздрослівыя ўсмешкі. Закалацілася сэрца, задрыжала рука, загарнуў князь завушніцы ў мяккі аксаміт і схаваў да лепшых часін…

Уцякаюць, баяцца праклятыя ваўкі, гоняць іх спрытныя ганчакі на самую ўскраіну лесу, павярнулі за імі гарачых коней Тэадор і Любард. Кінуў сваю зграю велізарны сівы воўк, пастыр пракляты, сігануўшы ў самы гушчар.

Але ад князя не ўцячэш, не схаваешся. Замахнуўся ён цвёрдай рукой і паслаў дзіду ў касматы бок. Бяжыць воўк, нясецца, што ёсць моцы, і сцелецца за ім барвяны след.

Збіла галінай сабалёвую шапку, учапіліся за плашч і чорныя, як смоль, валасы, раскінутыя ў бакі лапы, пасыпаўся за каўнер халодны шурпаты снег. Але князь ідзе наперад, у гушчар, пакінуўшы вернага каня і выхапіўшы звонкі бацькоўскі меч…

Не рыкае, не абараняецца драпежны звер, а жалобна скуголіць, адступаючы пад купчастую яліну. І столькі маўклівага болю і нясцерпнага жалю ў яго вачах, чалавечых і светлых…

Паднялася ў сэрцы князя хваля нянавісці, занёс ён важкі меч і з сілай, адным махам уваткнуў пачвары ў самае сэрца…

Цямнее ад хуткага бегу ў вачах, кружыцца галава, і падае малады князь на брудны ад гарачай крыві жорсткі снег. І цяжка становіцца яму дыхаць, і не ў сілах узняцца малады князь, і цягне яго да зямлі невядомая магутная сіла, і спаўзае долу аблямаваны куніцай плашч, і раптам становіцца вялікай кашуля, з якой тырчаць чорныя касматыя лапы, і ахрыплым здзічэлым рэхам чуецца ў вострых вушах голас старой карміцелькі: «А хто заб'е воўчага пастыра, той і займе ягонае месца…»

## Анёл

Дождж… Шэры марудлівы дождж накрапвае з аслізлага, вадзяністага неба, і здаецца, што і ў душы вось гэтак жа імжыць і цвякае. А між іншым, зімовыя святы ўжо на носе. Зусім заблыталася стомленая прырода, збілі мы яе з панталыку сваімі супярэчлівымі жаданнямі, спажывецкімі адносінамі і абыякавасцю. «Вам усё роўна — мне тым больш», — быццам уздыхае яна. Не, уздыхае не горка і не жаласліва, а гэтак абыякава: адчапіцеся, маўляў, жывіце, як жывецца, вы мяне не чапайце, і я вас не стану…

З далёкага цёмнага кута нахабна паглядае на мяне чорная котка, незадаволена лупцуючы па падлозе доўгім хвастом.

Прытуляюся гарачым ілбом да шыбы, па якой сцякаюць дробныя халодныя кроплі. Якія тут цуды, нават і настрою святочнага няма…

Слаба мільгаюць бляклыя агеньчыкі на грамозным абшарпаным будынку старой школы. Не соваюцца па крамах спрытныя бабулькі з авоськамі ў руках, не бягуць дадому руплівыя жанчыны з напакаванымі мандарынамі і прысмакамі торбамі, не валакуць маладзенькія зубчастыя елкі мужчыны, не гарцуе на маркотных завулках жартаўлівая дзятва.

Куды ні кінь — глухія бязлюдныя вуліцы, па якіх бягуць брудныя ручаі мутнай шэрай вады. І туляцца адно да аднаго мокрыя аблезлыя вераб'і, праводзяць патухлым позіркам буйныя кроплі, што падаюць са стрэх.

— Не хвалюйся, усё будзе добра! — раптам чую я за спінай роўны голас і паварочваюся.

— Ты хто?

— А якая розніца… Цуды пад Новы год абавязкова здараюцца — так ці не?

— Так… Ці не, не ведаю, — я пільна ўглядаюся ў вячэрнюю дажджлівую шэрань. — Пэўна, Дзед Мароз?

— А хоць бы і так, — смяецца ён у адказ.

— Няўжо анёл?

— Выпадковых сустрэч не бывае, — зноў незразумела і насмешліва адказвае ён.

— Ці ўсё ж такі чалавек?

— Можа быць, і чалавек. Рабі, што хочацца, слухай сэрца. Усё будзе добра. Верыш?

— Веру… здаецца…

— Тады са святам!

І знік. Хто такі, адкуль з'явіўся, як мяне знайшоў? І чаму менавіта мяне? Нічога не разумею. Але гэтак спакойна пад ягоным крылом, цёпла і ўтульна…

І верыце? Раптам спыніўся самотны дождж, і закруціліся ў паветры пухнатыя белакрылыя сняжынкі. Пасыпаў густы бялюткі снег, укрываючы мяккай коўдрай голую зямлю. І адразу замільгалі агністыя вокны двароў, павыглядвалі з пад'ездаў вастраносыя бабулькі, заспяшаліся кудысьці румяныя жанчыны, на хаду захінаючы новыя, яшчэ неапрананыя футры і хаваючы кароткія валасы пад цёплыя хусткі і шалікі. І сур'ёзныя мужчыны раптам забыліся пра сваю сур'ёзнасць і пабеглі па елкі і падарункі, падстаўляючы пад снегапад спрацаваныя рукі і з надзеяй гледзячы ў вышыню. Павыбягала з зычным гвалтам і санкамі гарэзлівая дзятва, заззялі бліскучымі каляровымі агнямі гарадскія елкі, збіраючы вакол сябе жыхароў, якія чакалі святочных цудаў. І страпянуліся адразу вераб'і, набраліся адвагі і загойсалі ў кармушках, расштурхоўваючы ганарыстых снегіроў і вёрткіх сінічак.

І нават недаверлівая чорная котка нечакана пакінула свой аблюбаваны кут, пачала вытанцоўваць, церціся аб мае ногі аксамітным бачком і спяваць свае ціхія калыханкі…

Вось з'явіўся нехта, зусім нечакана, упаў як снег на галаву, і раптам усё змянілася. І настрой пераменіўся, і наваколле зайграла новымі фарбамі, заклубіліся, паляцелі ўдалечыню думкі…

А анёл…

За снежнымі палямі, белымі лясамі і скаванымі лёдам іскрыстымі азёрамі сядзіць цяпер мой анёл у мяккім утульным крэсле. Бязгучна мільгае сінім вокам тэлевізар, побач дыміцца ў кубку духмяная кава, а ён накінуў мяккі бязважкі плед, начапіў на нос строгія акуляры, якія надаюць яму занадта сур'ёзны выгляд, чытае гэтыя радкі і ўсміхаецца…





Стах ЛЫСЫ

**нарадзіўся 19 студзеня 1991 года ў Мінску. Хрысціянін-каталік. Спявае ў касцельным хоры. Працуе ў сферы камп'ютарнай лінгвістыкі. Любіць быць побач з кнігамі, далёка забірацца пешшу, назіраць за зорамі. Шукае ва ўсім Божую прысутнасць і Любоў.**

# Позіркам праз шкло

## Марозішч

Марозішч
хоча
знішчыць
шыбы.
Ён прачынаецца пад вечар,
расплюшчвае павекі-глыбы
і можа кожнага знявечыць,
хто толькі трапіцца на вока.
Марозішч
зазірае
ў вокны
з глыбіняў вонкавай цямрэчы.
Кладзіся спаць. Той позірк вечны
табе праз шкло не небяспечны.

Багата зор ў нябыт сышло,
зусім здранцвеў Гасцінец Млечны.
Ты шмат варочаешся ў сне.
За тым, як ходзяць твае плечы,
Марозішч
сочыць
неўпрыкмет.
Напэўна, па падлозе дзьме.
Хавайся ад яго у коўдрах
і спі сабе. Твой цёплы подых
абудзіць літасць халадэчы.

Разліта бляклае святло,
адскочылі ўсе цені прэчкі:
скалелы Месяц узышоў,
навідавок акрэсліў рэчы.
Марозішч
шчыліну
знайшоў,
Марозішч
трэшчыну
прыкмеціў,
каб увайсці ў пакой і ў сэрца,
але абняць — скаваць да смерці.
І толькі позіркам праз шкло...
А ранкам шыбы не працерці:
узорамі
акно
пайшло.

## Жменька каштоўных каменьчыкаў

Паклікаўшы вечныя светачы ў сведкі:
і човен-паўмесяц, і зорышчы-кветкі,
што цемры начной працінаюць абшар,
і жарам напоўнены сонечны шар —
рашуча абвесціш фальшывым
наш скарб.
«Толькі ўсцяж каляровыя шкельцы».
Зачэрпнеш іх жменя за жменяю з сэрца,
а певень спяе, выкрываючы здраду,
як высыплеш перлы, каралі, смарагды
у прах.
І раптам Паўмесяц ў нябёсных мара́х
пацерпіць крушэнне, нібы ад праклёну.
І ніцма абрынецца вогнішча клёнаў

і плечы пакрые чырвоным плашчом.
Па шчоках вятрыска адхвошча дажджом,
абразіць, пакпіць, насмяецца уволю.
Апалава-чорным знявагі вуголлем
патухнуць бурштыны.
Якраз і яскравае Сонца астыне,
далоні праколе бязлітасны холад.
Абрушыцца бруднымі гурбамі долу
навіслае неба няветлых адценняў.
Працятыя дзідай наскрозь летуценні
крывёю сцякуць, заструменяць вадою.
З гранатавых ранаў каменнем барвовым
сарвуцца рубіны.
Адразу, як разам Сузор'і загінуць
і цемра ўвап'ецца цярновай каронай,
крану пацалункам скароныя скроні,
навобмацак цемя тваё адшукаўшы.
Ў абдоймах падманутых і ашукаўшых
ізноў зацурчаць капяжом залацістым
крышталі расталыя, і аметысты,
пырскі перлаў, тапазаў, сапфіраў...
Толькі жменька каштоўнага жвіру
нефальшывая ўсцяж застанецца.
Зачэрпне іх Вечны са змучаных сэрцаў,
«Хай стане Святло!» — літасціва прамовіць
і высыпле ўверсе — сваціўлы адновіць.

## Крэйдаванне

Крэйдава́нне
іржавых падножжаў бяроз.
На дыване з лісця́, нібы манна з нябёс,
распасцёрліся поўсцінкі белыя ўсцяж.
Над зямлёю аблокаў вісяць цэпеліны.
Бліжэйшыя дзесяць-пятнаццаць хвілінаў
ледзь бачныя цені не мкнуцца на ўсход,
быццам час прыпыніўся, жыцця карагод
абірае кірунак.
Сняжыны ў нялоўкім маўчанні віруюць.
Алоўкі намоклы расчэрчваюць ватман:
слупоў праўды зацмяваюць арбіты
планетаў.
І раптам з нябёсаў, слупамі прабітых,
абрынула долу спісаная крэйда!
І нехта ў прышчуры, напэўна, скрывіўся
ад неба закрыўшы свой твар даланёю.
А крэйда ішла...
Хтосьці ўсцяж не стаміўся
бясконца пісаць да людзей аб Любові.

## Твае слёзы ў маіх вачах

*А.М.J.*

Твае слёзы ў маіх вачах —
не капрыз, не блазнота.
Пяць, чатыры, тры, дзве, адна —
як капеж адзіноты.
Дзьме — не бачна нябеснага дна.
Мне праз слёзы прасцей сцяміць, хто ты.
Сі, ля, соль, фа-бемоль, фа-бекар —
тваёй горычы ноты
без лінеек і без ключа.

Твае слёзы ў маіх вачах —
мокры снег на шчацэ,
перлы шэра-ружовых адценняў.
Лістапад, снежань, студзень —
асеннія.
Дзень — усмешкі прывід,
золак, захад — што цені:
ні кроплі крыві.
І як дрэвы наўкола, так думкі твае —
без адзення
зранку, ўдзень, па начах…

Твае слёзы ў маіх вачах —
крык душы скрозь маўчанне веек.
У цішы, у цішы, у цішы...
растае́ завея.
Цемрадзь хмарных вышынь —
зор няма, і не сцяміць, дзе я:
у сваёй, у тваёй ці у іншай душы
ўсё шукаю надзею,
што пачвара адчаю зачахне.
Няйначай.
А пакуль — твае слёзы ў маіх вачах.
Халодных.
Гарачыя.



Таццяна Кіявіцкая

**нарадзілася 23 лістапада 1981 года ў Мінску. Скончыла філфак БДУ, аспірантуру Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі, кандыдат філалагічных навук. Піша рэкламныя сцэнарыі для радыё. Марыць паўдзельнічаць у напісанні кінасцэнарыя і… пабываць у Новай Зеландыі. Прадстаўленая падборка вершаў незвычайная: яна нібыта створана не Таццянай, а лірычнымі героямі яе празаічнага твора «Раманава кніга». Зрэшты, чытач мае магчымасць прачытаць тут і гэты твор.**

# Дыялог маналогаў

***

Я падмануў цябе. Я падмануў.
Зманіў табе, не даўшы запавету.
Я падмануў... А ведаеш — чаму?
Ты ведаеш, хлусня навошта гэта?

Маўчыш… Скажы, каму ты аддасі
П’янкія вусны ў шчырую ахвяру?
Я думаў, нам — нябёс вячэрніх сінь…
Я і цяпер аб вуснах тваіх мару.

Краніся келіха. Я п’ю, а ты не п’еш.
Цураешся налітага. Нявер’е!
...Ты выйдзеш замуж — і не пазавеш.
Твая душа — такое падзямелле,

Як у нікога!.. Ўсё яшчэ маўчыш.
Вазьмі ж віно, і вып’ем. За каханне!
Ты праз імгненне птушкай адляціш,
Не зведаўшы, што тоіцца ў падмане...

***

Ты падмануў мяне.
Ты гэта знаеш.
І ты віны сваёй не адмаўляеш.
Але ў чым — скажы —
Твая віна?
Я і цяпер,
як і тады, —
адна!
Не набыла нічога,
Не згубіла.
Мне апастылела.
І я астыла.
Магчыма, пройдзе час —
І разгаруся.
Але пакуль я полымя баюся.

***

Я не шукаў ні цябе, ні іншай.
Чаму ж — не магу зразумець — так выйшла?
Не адчуваў — і не быў адзінокі.
Не меў на сэрцы ранаў глыбокіх.

Любіў пад дажджом паблукаць уночы,
Паслухаць, як кроплі сваё шапочуць.
Знікаў. Вяртаўся. І зноў — ад'езды.
Жаданне новага ў свет панесла.

Сяброў трымаўся — таму не страціў.
Ды толькі цябе — прабачай — вінаваціў.
Ты не давала ніколі спакою.
На глупствы ішоў і змагаўся... з табою.

Ты быццам пакінула драпіну ў сэрцы.
Збалела яно. Зненавідзеў, здаецца!
Гады праляцелі. І вось адчуваю —
Не гоіцца рана, не зажывае.

І толькі адзіным яе супакою —
Табою.

***

Маўчанне — золата. Ты скраў яго і страціў.
Пакінуў мне шумлівы Вавілон.
Ва ўсіх грахах мяне абвінаваціў.
І кінуў слоў абразлівых мільён.

Я не выношу гэткую шматслоўнасць,
Збягаю ад яе, як ад агню, —
Бясконцых слоў пустую бессэнсоўнасць
Мяняць на дарагую цішыню.

Маўчанне — як каштоўнае каменне,
Знікае ў ім мой стомлены адчай.
Ды прыйдзеш ты і, стаўшы на калені,
Заб'еш маўчанне ціхім «выбачай».

***

Я толькі думаю пра гэта —
А ўжо, нібы ўчыняю грэх.
І вось ужо мінае лета,
Мы застаёмся без пацех,

Пра адпачынак — марым толькі,
У перапынках — зноў і зноў —
Мы пра жыццё вядзём гаворкі —
І спазнаём яго наноў.

І вось яшчэ адно спазнанне
(Што застаецца ў галаве) —
Ах, платанічнае каханне,
Як быццам бы пятнаццаць мне!

Ды сэрца ўжо не вырашае,
І правіць «рацыя» дыктат.
А недзе там… няхай кахае
Без крыку і на добры лад,

У думках і метафарычна,
І не трывожачы у сне.
А гэта ўжо — не так трагічна,
Як у пятнаццатай вясне.

***

Абцасы зняты. Я іду
Насустрач снам, насустрач ночы.
Заплюшчваю ў чаканні вочы —
У сон чароўны я іду.

Мне ноч працягвае руку,
Атрамант густа разлівае.
Па мяккім дыване ступаю —
І аддаю сваю руку.

Я бачу вобраз, бачу сон,
Але сапраўдным ўсё здаецца.
І захаваць хачу ў сэрцы
Такі рэальны дзіўны сон.

Прачнуся рана, прад вачыма
Ўсё той жа вобраз. Не знікай!
Хоць дзень са мною паблукай.
Хоць дзень застанься прад вачыма…

Вітанне простае — і ўсё.
Але адна твая ўсмешка…
Ты нібы ўспамінаеш нешта,
Ты нібы ведаеш усё.

Ты быццам бачыў, як іду
Праз ноч, у сне. Ты быццам знаеш.
І ты насустрач мне ступаеш,
І я шчаслівая іду…

**Таццяна Кіявіцкая**

# Раманава кніга

* * *

Вось ужо другі месяц маё жыццё было падзелена на дзве палавіны. Адна, большая, засталася там, з маці, дзядзькам Антосем і малой Касяй. Другая знемагала тут, у спякотным Стамбуле, і не было ёй спакою.

Я шмат працаваў, бясконца правяраў і пераправяраў зробленае і амаль не думаў пра тое, чаму… Чаму мне было так неспакойна.

Я схапіўся за гэты праект як за магчымасць — збегчы, знікнуць і пачаць з нуля. Ды і толькі дурань адмовіўся б ад такой прапановы.

Грошы лішнімі не бываюць. Мне хацелася зарабіць больш, хоць пакуль я не меў канкрэтных планаў на тое, куды буду ўкладаць.

Тут усё было проста і зразумела: з раніцы працуеш, абмяркоўваеш, выпраўляеш, звяраешся з планам — абед — сустрэча з галоўным менеджарам — і гадзіне а пятай можна ісці адпачываць на карпаратыўную кватэру. Тут мы былі ўтрох: такі самы праграмер, як і я, галоўны донжуан нашай канторы Лявон, які збег сюды ад сваёй чарговай каханкі, і магістрант мехмата, акулярык Алесь. Ён працаваў ад святла да святла.

* * *

На кватэру я вяртаўся позна, ужо спустошаны. У маім пакоі было змрочна і няўтульна. Хацелася адчыніць акно і выйсці да сонца. Але стамбульскае сонца ўжо заходзіла (а наша мне толькі снілася), і апошнія промні хаваліся ў кронах маладых дрэўцаў пад маімі вокнамі. І здавалася, што пустка і тут. А калі ёсць пустоты — іх трэба запаўняць. Хутка я сышоўся з супрацоўніцай аўтасалона Аленай, што прыехала сюды ў пошуках прыгожага жыцця гады два таму, пакінуўшы ў Гродне свайго мужа — цяпер былога — і бацькоў. Мы сустракаліся ледзь не штодня, і не ведаю, што гэта было — удзячнасць ці шкадаванне.

* * *

Званок ад маці.

— Нешта не чуваць цябе.

— Мам. Я сумую.

— Мы таксама. Як праект?

— Усё добра. Як мае быць.

— Кася надта чакае цябе.

— Яшчэ два месяцы. Ты ведаеш.

— Яна рыхтуе нешта адмысловае для цябе.

— Што?

— Не магу сказаць.

— Скажы. Яна не дазнаецца. Не магу столькі чакаць.

— Яна піша «Кнігу жыцця».

* * *

— Калі яна вернецца?

Мне было дваццаць. Касі — толькі чатыры. Маці сур'ёзна захварэла. І айчым, дзядзька Антось, штодня ездзіў у бальніцу. Мне ж трэба было клапаціцца пра наша сонейка — маю малодшую сястру, дачку маці і дзядзькі Антося, чарнявую непаседлівую Касю.

— Яна хутка вернецца. Ёй проста трэба адпачыць.

— Яна стамілася ад нас?

— Не, радасць мая. Яна шмат працавала. Мама адпачне крыху і вернецца.

— І мы ўсе будзем разам?

— Будзем разам, радасць мая. І будзе нам шчасце!

— А ты ведаеш, што такое — гэтае шчасце?

Тут мне здалося, што ўсе словы сцерліся з маёй галавы. Як патлумачыць дзіцяці, што шчасце — гэта не словы? Гэта адчуванне. Калі мы вось так сядзім поруч. Калі збіраемся ўсе разам за вячэрай. Калі…

— Я не магу сказаць. Ты прачытаеш пра гэта, калі вырасцеш.

— Не. Калі я вырасту, я напішу пра гэта. Для цябе. Там будзе і пра шчасце, і пра радасць, і пра боль, і пра тое, як мы чакалі маму.

— Што гэта будзе за кніга?

— Гэта будзе кніга жыцця.

* * *

На халодным ложку, у чужой кватэры. Недзе паміж небам і зямлёй. Я марыў пра тое, каб хоць на хвілінку зазірнуць у тую «Кнігу жыцця», што пісала мне малая Кася. Я б мог там прачытаць пра шчасце і радасць, пра сапраўдныя пачуцці і атрымаць такія простыя адказы на ўсе мае пытанні.

Ёй чатырнаццаць. Але, напэўна, яна ведала больш, чым я ў свае трыццаць. Бо я не мог знайсці слоў, каб апісаць радасць, боль, каханне, надзею… І таму так прагнуў апынуцца там, дзе мяне чакала кніга адказаў, кніга майго жыцця, напісаная дзяўчынкай-падлеткам. Але я сам збег. Магчыма, каб не шукаць адказаў. Каб сцерці, быццам з дошкі, пытанні, якія ўвесь час былі ў маёй галаве.

А тут не было пачуццяў. Тут быў бізнес, грошы, рахункі і фізічныя патрэбы. На той палавіне свету засталося ўсё: вера, сям'я, надзея, мары, жаданні, сумненні…

Алена спала. Але я не адчуваў яе цеплыні. Хутчэй гэта было проста месца, занятае побач. На ложку.

Я апрануўся. І сышоў.

— Вах! Вах! — сусед насупраць кожны раз сустракаў мяне з непрыхаванай варожасцю.

— І вам merhaba! — адказаў я. Як заўсёды.

— Нешта ты рана, — сустрэў мяне Лявон. — Усё? Нарэшце надакучыла?

— А табе абы новую ахвяру знайсці.

Я ўключыў ноўт і з галавой паглыбіўся ў сеціва.

* * *

Прыходзілі сны. Я іх чакаў. Нават больш — я імі жыў. У іх шукаў адказы на свае пытанні. Але так пакуль і не знайшоў.

Я жыў у сваіх снах сапраўдным жыццём. Я цяжка прачынаўся і не хацеў адпускаць тое, што яшчэ імгненне таму было такім рэальным.

Учора мне прысніўся ўніверсітэцкі двор. Усюды — дрэвы і скульптуры знакавых асоб. Мне больш за ўсё падабалася месца каля заходняй сцяны галоўнага ўвахода. Тут было зацішна, спакойна. Стары клён восенню закідваў пляцоўку лісцем.

Калі мы здавалі ўступныя іспыты, тут паставілі невялічкі павільён з вавёркамі. Іх можна было заўважыць, толькі калі звярнуць убок. Большасць жа патэнцыяльных студэнтаў беглі напрасткі да галоўнага ўвахода.

Вавёркі былі надта пацешныя. Скакалі туды-сюды і зусім не звярталі на мяне ўвагі.

Іспыты скончыліся. Павільён некуды знік. І больш яго не ставілі. Толькі ў маім сне. Вавёркі няўрымслівa скакалі туды-сюды — і мне было неспакойна. Я ведаў: іспыты здадзены, конкурс пройдзены, і я без пяці хвілін студэнт найлепшага ўніверсітэта краіны, толькі… Што «толькі»?..

* * *

Сёння мне нічога не снілася. Прачнуўся спустошаны. Хоць было рана, пацягнуўся ў офіс. У жыццё, якое мне здавалася несапраўдным.

Праверыў пошту. Нічога, вартага ўвагі. Прынеслі новыя планы. Увечары — сустрэча з куратарамі. Дзякуй богу, вечар заняты.

* * *

— Мы паглядзім, як усё запрацуе. Ёсць ідэя для новага праекта. Але гэта абмяркуем ужо пасля Калядаў.

— Прыедзеце да нас на абмеркаванне?

— Думаю, прызначым пасяджэнне з усімі патэнцыяльнымі ўдзельнікамі і з тымі, хто працуе ў нас цяпер, дзе-небудзь у Афінах.

— Чаму раптам у Афінах?

— Наш новы бос марыць з'ездзіць у Грэцыю. Банальна. Усюды быў. Там — яшчэ не. Адсюль і геаграфія новых праектаў. Ды і падтрымку там нам абяцалі.

Я таксама ведаў аднаго чалавека, які марыў з'ездзіць у тую самую Грэцыю. Але мара, наколькі я ведаў, так і засталася марай. Па праўдзе, я ёй нават зайздрошчу — гэтай асобе. У яе ёсць мара. У мяне — не.

Мы тады з ёй выпадкова апынуліся побач за сталом. Сустрэча аднакласнікаў. Бла-бла-бла… Сустрэчы заўсёды былі шумныя — збіраліся гуртам, цэлая паралель (прыходзілі не ўсе, канечне). Яна прыходзіла.

Чаму яна гэта сказала? Марыць паехаць у Грэцыю… Што за мара такая? Збірайся і едзь!

— Не разумееш. Гэта фантазія. Гэта вобраз. Я ўяўляю, якое там мора, якія людзі, што я ем, чым жыву. Там. Чым больш фантазірую, тым больш гэта вырастае ў прыдуманую казку. Не хачу ператварыць яе ў банальны адпачынак «мора — сонца — магніцік для сваіх».

Бязглуздзіца. Як можна такое выдумаць? Тады я спаслаўся на нейкія справы і сышоў раней, чым звычайна.

Праз год мы зноў сустрэліся. Гэтым разам я вымушаны быў запрасіць яе, і мы танчылі пад музыку з нашых школьных дыскатэк.

— І як? Грэцыя — усё яшчэ мара? Ці «мора — сонца — магніцік для сваіх»?

— А ты маеш перад сабой які-небудзь ідэал, да якога баішся наблізіцца, каб толькі не запляміць, не расчаравацца?

Зноў нейкая бязглуздзіца. Якія ідэалы? Мне было дваццаць пяць! Я дасягаў усяго, што пажадаецца. Стаўлю мэту — іду. Мэта дасягнута? Цудоўна! Ставім наступную.

— Мэта не ідэал.

* * *

Ідэал быў. Я зразумеў гэта пасля. Ідэалам былі адносіны маці і дзядзькі Антося. Я не называў яго бацькам, бо ён з'явіўся ў маім жыцці даволі позна. Мне было чатырнаццаць. Як Касі цяпер. Пра такога бацьку можна было толькі марыць. Але ў мяне быў свой. Рэдкі госць. Заўсёды ў пазыках. Кожны раз — новая праца. Кожны раз — новыя абяцанкі. Кожны раз… я спадзяваўся, што гэта апошні.

Мы разумелі адзін аднаго з паўслова. Не з бацькам. З дзядзькам Антосем. Ён быў мастак. Самы таленавіты з усіх. Геній! — так мне здавалася.

У яго майстэрні, нібы абраз Боскай Маці, вісеў партрэт найпрыгажэйшай жанчыны, са спелымі яблыкамі на каленях. З вачыма, як у анёла. Гэта была мая маці. Такая, як яе бачыў дзядзька Антось. Такая, якую ён кахаў.

Гэта быў ідэал. І я баяўся, што ў мяне будзе ўсё банальна, празаічна, што быт з'есць усю непаўторнасць гэтага неверагоднага пачуцця.

Я ведаў, што такое здараецца. Як здарылася ў майго сябра, Стася. Прыгожая пара, зайздрасць тых, хто побач, рамантыка напачатку — біты посуд і рэчы на лесвічнай пляцоўцы праз тры гады. Я быў гэтаму сведкам.

* * *

Таму я прыходзіў і сыходзіў. Ніколі не заставаўся болей, чым на ноч. Каб не паспець адчуць замілаванасці і не паспець увязнуць у быце. Маіх даўганожак гэта таксама задавальняла. Бо, калі ім хацелася вырашыць нейкія свае праблемы, яны атрымлівалі — не мяне — мае грошы, і праблемы вырашаліся вельмі хутка.

Алена была з такіх. Розніца заключалася толькі ў тым, што яна ўжо адчула на сабе ўсе «радасці» студэнцкага сямейнага жыцця.

Ёй хацелася лёгкасці. Без абавязкаў. Прынамсі, пакуль. Прынамсі, яна не хавала ад мяне свае карты. Як і я.

Раней была іншая. Там, у Мінску. З нашай школы яшчэ. Але сышліся мы пасля чарговай сустрэчы аднакласнікаў. Нас сабралася тады чалавек пад сорак. Усе ўжо ганарыліся — хто рамонтам, хто кватэрай, хто пасадай і — амаль абавязкова — дзецьмі. З несямейных былі толькі дзве развядзёнкі, супрацоўнік міліцыі Антось (сядзелі за адной партай) і тая, што марыла пра небанальную Грэцыю.

Мне было весела. З Антосем мы хутка перайшлі на шчырыя размовы «за жыццё» — тое жыццё, што цяпер здавалася кінастужкай, перагледжанай да бясконцасці, тое жыццё, калі свет быў толькі наш.

— А яна змянілася, — у нейкі момант хітнуў галавой міліцыянт.

— Хто?

— Маша.

Я паглядзеў на супрацьлеглы край стала. Так, яе звалі Маша. Толькі цяпер я ўспомніў яе імя. Гэта была «небанальная мара». З ёй поруч сядзела даўганожка Наташка. Яны ўсміхаліся, абмяркоўвалі нешта, хоць астатнія асобы жаночага полу тупалі на танцполе.

— Ты не памятаеш, якой яна была?

— Не, — я насамрэч не мог згадаць, якой яна была ў школе, хоць выразна ўяўляў і Наташку, і Алеся, і шмат каго яшчэ.

— Мы былі ў розных класах. Але я памятаю. Яна мяне раздражняла. Цяпер — не.

— Пляцеш ты нешта… не тое…

— Ведаеш, яна на выпускным падышла да мяне і сказала, што я абавязкова — чуеш? — абавязкова буду вельмі шчаслівы. І пацалавала ў скроню.

— Ты не расказваў.

— Сорамна было.

— А цяпер?

— Не.

— І ты шчаслівы?

— Ведаеш, я дагэтуль не магу знайсці для сябе адказ: а што ёсць шчасце?

* * *

Мне б тады мець пад рукой «Кнігу жыцця»! Там было б напісана, што з'яўляецца шчасцем для Антося і для мяне. Я б яму прачытаў, і мы б разам вырашылі, ці сапраўды ён шчаслівы.

Тады я сышоў з даўганожкай Наташкай. Яна была замужам, але мела сваю, адмысловую, логіку. Маўляў, зразумець, наколькі муж для яе значны і неабходны, можна толькі здрадзіўшы яму — неаднойчы і не з адным. Трэба параўнаць. Вось і параўноўвала. Наташка выйшла мне бокам. Я атрымаў па шыі і па кішэні ад яе свякрухі, што прыехала неспадзявана, але з ключамі і з вялікім зубам на нявестку.

* * *

— Калі?

— Заўтра.

Дзядзька Антось нарэшце выспаўся і паспакайнеў. З нагоды добрай навіны я забраў Касю крыху раней і па дарозе дадому паведаміў ёй, што маці вернецца заўтра.

— Калі я прачнуся, яна ўжо будзе дома?

— Не. Але калі ты вернешся з садка…

— Тады забяры мяне адразу, як прывядзеш.

Як лёгка знаходзіць выйсце, калі табе чатыры і калі выйсце ў тваіх фантазіях!

Увечары мы прыбіралі і гатавалі. Прыемна было чакаць нечага новага, радаснага. Назаўтра ў кватэры ўсюды былі кветкі і адчуванне здзейсненай мары.

* * *

Тут, на беразе Басфора, было адчуванне, што я чытаю чужую кнігу. Старонка за старонкай. Чакаю нечага грандыёзнага, а выходзіць зусім звычайнае, нават банальнае, без надзеі на арыгінальнасць.

Там няма мяне, а ёсць хлопчык, схаваны ў целе трыццацігадовага здаравяка, які НЕ ТАМ, НЕ З ТЫМІ і робіць нешта НЕ ТОЕ.

* * *

— Як ты?

— Увесь у справах. Завяршаем. Працуем над памылкамі.

— Нам давядзецца паехаць на тыдзень у Мадрыд. Ты ж яшчэ не вяртаешся?

— Не. Яшчэ не. Шмат што не завершана.

— Добра. Тады я спакойная. У Антося там выстава. Касю возьмем з сабой.

— Шыкоўна.

— Абавязкова паведамі, як вызначышся з датай вяртання.

— Не хвалюйся.

Я зманіў. Я вяртаўся на тым самым тыдні, калі яны з'язджалі ў Іспанію. Але я ведаў, наколькі значная гэта была падзея для дзядзькі Антося, і самыя блізкія былі яму неабходныя — як паветра. Мне даводзілася вяртацца ў пустую кватэру, але так нават лепш.

* * *

Мы вярталіся з магістрантам. Лявон заставаўся яшчэ на тыдзень, каб закрыць розныя фармальнасці і… «зачапіць» нарэшце Алену.

Ён чакаў, калі я сыду з дарогі. Бо рыжая Алена з ідэальным бюстам не выходзіла ў яго з галавы з таго самага моманту, як я пазнаёміў іх каля Ая-Сафіі. Цяпер я пакаваў чамаданы, і Алена была для мяне перагорнутай старонкай — нескладанай казачкай пра дзяўчынку-Папялушку, якая так і не здолела ўбачыць залатую карэту ў напаўгнілым гарбузе.

Лявону я пакінуў каардынаты і некаторую інфармацыю пра тое, на што добра вядзецца Алена і такія самыя супрацоўніцы аўтасалона.

Сны ўсё менш і менш займалі маю прастору. Я высыпаўся. Але адчуваў неабходнасць. Неабходнасць у той рэальнасці, дзе былі адказы і не было пусткі.

Мне сніліся пустыя вуліцы невядомага горада. Я блукаў, я шукаў выйсця, і мне здавалася, што вось цяпер, тут, на рагу, я абавязкова сустрэну чалавека, і ён скажа мне, што я сплю, а насамрэч горад жывы, тут ёсць свая адмысловая музыка, снуюць людзі і таксоўкі чакаюць сваіх шчаслівых пасажыраў.

Але толькі аднойчы ў сне я ўбачыў дзяўчынку з рознакаляровым парасонам, у ружовым паліто.

Яна ішла паперадзе. І там, дзе крочыла яна, горад ажываў. Я не мог яе дагнаць, хоць спяшаўся неверагодна.

— Навошта парасон? — крычаў ёй я. — Дажджу няма!

— А я адчуваю дождж.

* * *

Дома было пуста і ціха. Я кінуў рэчы ў калідоры. Цёплыя струмені вады вярнулі мяне да жыцця.

Я сеў на свой ложак і азірнуўся. Святло з калідора падала на падлогу і бязбожна выстаўляла напаказ мокрыя адбіткі маіх ног.

Калі я збіраўся ў аэрапорт, пайшоў дождж.

— На шчасце, — сказала б мне мама, калі б была побач.

— На бяду, — сказала б Кася, — бо якая радасць вяртацца дадому ў мокрым паліто?

Мне захацелася ўспомніць нешта добрае. Я выцягнуў з шафы школьныя фотаздымкі.

Такія смешныя! Зусім дзеці. Пяты, шосты, дзявяты, адзінаццаты... Як мы дурэлі ў актавай зале, калі нас прымушалі ставіць нейкія сур'ёзныя пастаноўкі для самых малых! Як прасілі прабачэння ў класнай, калі збеглі з яе ўрока! Як гадзінамі не сыходзілі са школьнага стадыёна пасля заняткаў! Як праводзілі пасля дзяўчат да пад'езда… Мы так жылі — сваім сапраўдным адмысловым жыццём.

Вось, здаецца, дзявяты клас, дзень народзінаў. Мой. Ужо было снежна. І мы рабілі на школьным стадыёне розныя фігуры, лежачы на зямлі. Называлі гэта «анёламі». Але хто з нас тады быў анёлам?

Апошні званок. Чырвоныя стужкі з надпісам «Выпускнік…» Дзяўчаты з каснікамі — наўмысна, нібы ў першы клас. Тады адзін з нас сышоў. Назаўсёды. Пайшоў — і не вярнуўся.

Выпускны не адмянілі. Цяпер — сорамна, тады — не. Вось Антось, пакуль яшчэ толькі крыху п'яненькі, будучы міліцыянт, добры хлопец. Тады ён напіўся да чорцікаў. Бо лічыў, што вінаваты. За тое, што сышоў адзін з нас. Ніхто не мог узяць на сябе хоць частку віны. Антось быў апошнім, хто бачыў, хто гаварыў, хто падаў руку на развітанне…

А вось тая, што пацалавала Антося ў скроню… Вось яно што! Столькі часу прайшло. Ён не можа забыць. А я, нарэшце, успомніў. Такую, якой яна была.

* * *

Мае вярнуліся ў нядзелю. Крыўдавалі на мяне, што зманіў. Яны б не паехалі. Сустрэлі б. Але крыўда была несапраўдная. Так, для птушачкі.

І я спытаў у Касі:

— Ну, і дзе абяцаны мне падарунак?

Яна надзьмулася, абурана глянула на маці. Тая развяла рукамі.

— Я ведаю. Маці сказала, што гэта нешта неверагоднае.

— Пачакаеш. Не так хутка. Спатрэбілася значна больш часу, чым я думала.

Касі? Больш часу? Той, якая знаходзіць адказы, ледзь я адкрываю рот, каб задаць пытанні? Той Касі, што даводзіць да шаленства школьных настаўнікаў цытатамі з «разумных» кніжак?

Значыць, час не прыйшоў.

* * *

— Слухай. Надта патрэбна! Я проста ў дупе!

— Што за праблема?

Мой лепшы сябар, Міхей. Яго праблемы — мае праблемы.

— Мне патрэбна эсэ. Тэрмінова!

— Эсэ? Вазьмі ў нэце.

— Не, патрэбна жыццёвае. Неспісанае.

— Ты ж геній! Пішы.

— Дзякуй за давер, але ты ж ведаеш: я геній пераказваць. У мяне такіх матэрыялаў — процьма. Мяне звольняць, калі гэта не будзе… па-сапраўднаму. Ратуй! Знайдзі чалавека!

— Заўтра, Міхей. Заўтра.

— Сёння! Учора!!! Мне хана! Ты што, не разумееш?

Міхей любіў перабольшваць, але я так часта карыстаўся яго кватэрай вядома для чаго, калі ён вымушаны быў — дзеля мяне — хадзіць цэлую ноч вакол дома ці дзе яшчэ.

— Добра. Чакай.

Але такую праблему вырашыць было няпроста. Знайсці ў адзін момант чалавека, які ананімна пагодзіцца небанальна напісаць пра тое, каго і як вучыць. Прынамсі, так сфармуляваў задачу Міхей. Тэма акурат для першага верасня. Толькі ўсе будуць пісаць пра ідэальнага настаўніка і ідэальнага вучня і запэўніваць, што яны існуюць насамрэч. Такіх матэрыялаў будзе ледзь не ў кожным выданні… А трэба нешта іншае.

Ужо з офіса я зрабіў колькі званкоў у пошуках геніяльнага вар'ята, але — нічога. Урэшце патэлефанаваў той самай Наташы, з якой некалі сышоў з вечара былых аднакласнікаў. Прынамсі, яна мела знаёмствы ледзь не ва ўсіх сферах культурнага жыцця сталіцы.

Праз пятнаццаць хвілін яна ўжо дала мне адказ.

— З цябе — сняданак і кветкі. Будзь а сёмай у кавярні насупраць свайго офіса. Будзе табе чалавек. Не спазняйся.

— А з кім сняданак?

— Дурань, са мной, канечне.

А сёмай я сядзеў у кавярні і чакаў. У нейкі момант мне цюкнула, што я нават не спытаў, хто прыйдзе, як выглядае. Каго чакаць? Таму вырашыў патурбаваць Наташку яшчэ раз. Хоць не хацелася. Але не паспеў.

— Выбачай. Спазнілася.

— Прывітанне… Маша.

Маша?! Чаму яна? Адкуль? Што ёй казаць? Колькі аддаць?

— Што будзеш?

— Каву. З малаком. І цукрам. І адразу апішы праблему.

Я хутка распавёў, у чым справа. Крыху драматызаваў: маўляў, жыццё майго сябра — а калі не жыццё, дык кар'ера — залежыць ад гэтага эсэ і г. д. Магчыма, так і было.

— Колькі ёсць часу?

— Ноч.

Усміхнулася.

— На ноч у мяне свае планы. Ноўт ёсць?

— Тут.

— Уключай. Замаўляй каву і салодкае. Абавязкова. Можаш пайсці. Вернешся пазней. Я не збягу.

Яна дыктавала правілы, авалодала маёй уласнасцю — новым букам, набытым за неверагодныя сродкі, — і паглыбілася ў нейкі свой свет.

Я не сышоў. Нешта не давала. Я сеў за столік, што стаяў у куце, замовіў што-нішто паесці і пракляў Міхея за гэтую — напятую, як струна — гадзіну.

Па праўдзе, я не верыў: як за той час, што я з'ем сваё мясное сатэ і салянку, а магчыма, яшчэ вып'ю якога добрага віна, гэтая дзяўчынка (якая дзяўчынка? Мы з ёй аднагодкі!) напіша геніяльнае эсэ — хоць і не надта разгорнутае, але такое, за якое Міхея зробяць галоўным аўтарам яшчэ на год?

Праз гадзіну з нечым яна сама падышла да мяне.

— Тэкст на працоўным стале. Калі не задавальняе, у вас ёсць яшчэ ноч, каб напісаць новы.

— Колькі я табе вінен?

— Заплаці за каву. А я пабегла.

Так дорага мне яшчэ не абыходзілася ніводная праблема. Я быў так ашаломлены, што яшчэ доўга не мог нават устаць. Не тое, што знайсці словы, дагнаць, зрабіць што-небудзь.

* * *

— Ну, як?

— Ты геній!

— Я?!

— Ты чытаў?

— Не.

— Крыху не мой стыль, але мне ўдалося пераканаць рэдактара, што таленавіты аўтар можа працаваць у розных стылях і жанрах. Ты зноў мяне выратаваў! Ну, ты…

— Але больш не прасі. Гэтая твая праблема абышлася мне надта дарага.

— Сняданак з даўганожкай? — Міхей хітра заўсміхаўся.

Ох, гэты сняданак! Ён не лез мне ў горла, але я сыграў сваю ролю як мае быць.

* * *

Пасля ў мяне доўга не выходзіла з галавы: як гэта — прыйсці (не, нават прыбегчы) па просьбе трэцяй асобы да малазнаёмага чалавека (хоць мы і вучыліся на паралелі, але не мелі з ёй аніякіх зносін усе гэтыя гады, ды і калі была тая школа!), атрымаць неверагоднае заданне ад яшчэ нейкай — зусім ужо незнаёмай — асобы, выканаць яго неймаверна проста і бліскуча, выратаваць, можна сказаць, жыццё (добра, не жыццё, але кар'еру дакладна) чалавеку і не папрасіць за гэта ніякай узнагароды?..

— Ведаеш, — не ў стане самастойна знайсці адказ, я вырашыў яшчэ раз сустрэцца з Наташкай. — А твая Маша нават нічога не папрасіла тады. Можа, яна чакае, што мы самі вырашым, колькі каштуе гэтая «паслуга» і…

— Супакойся. Праблема вырашана?

— На дзіва проста.

— Яна піша, як дыхае. Любыя тэксты: віншаванні, апісанні праектаў, школьныя сачыненні, прызнанні ў каханні… Аднойчы мне тэрмінова спатрэбіліся ўрачыстыя прамовы для вялікага начальства — надарылася магчымасць добра зарабіць. Аўтара не было. І часу.

— Напісала?

— Так. Я дала тры дні. Праз дзень у мяне ўжо былі тэксты. І — вось вам, калі ласка, працуйце далей. Праўда, ганарар за гэта яна атрымала. Усё як мае быць. Дык што тваё эсэ…

— Яна што — пісьменніца?

— Яна выкладчык вышэйшай матэматыкі.

* * *

— Ну, калі будзе гатова?

— Яшчэ не.

Кася хавала вочы. Кніга здавалася ўсё больш недасяжнай.

— А тваё?

— Што маё?

— Калі тваё будзе гатова? Калі мы пойдзем глядзець?

— Хутка. На наступным тыдні.

Ёй не цярпелася пабачыць маю кватэру. Зусім побач — толькі перайсці дарогу. Я набыў яе яшчэ год таму, але трэба было давесці да парадку. Потым — праект. Работы спыніліся. Зараз буду пацiху з'язджаць.

Што будзе тут, у маім пакоі? Ці застанецца ён маім? Ці захавае ўспаміны і адчуванне абароненасці, якім жыў я ў гэтыя гады? Ці будзе чакаць змяты ложак, каб паглынуць мяне з усімі грахамі і непрыстойнымі думкамі, што прынёс я з сабою?

У новай кватэры была толькі старая канапа, два крэслы і просты стол. У ёй яшчэ не было жыцця і ўспамінаў.

* * *

— Пакінь ключы.

— Навошта? Мяне не будзе ўсяго чатыры дні.

— А хто будзе паліваць кветкі?

— У мяне няма кветак.

— Цяпер ёсць.

Кася схапіла з падаконня вазон і працягнула мне.

— Вось, — я аддаў ключы. — Толькі ніякіх мерапрыемстваў з дзяўчатамі-хлопцамі. Бацькі мяне з'ядуць.

— Канечне, канечне. Ты самы лепшы!

Пасяджэнне было прызначана зноў у Стамбуле. Патлумачылі тым, што новыя спонсары маюць там свае зацікаўленасці. Так было прасцей. Я адчуваў там сябе сваім, але заставалася пачуццё, што нечага я не дасягнуў, што я ўжо пачаў жыць тым, што будзе там, у Афінах. Хто прыедзе, каго прызначаць кіраўніком праекта, што замовяць на традыцыйную развітальную вячэру…

Мы ехалі з Лявонам. Ён ужо чакаў сустрэчы з уладальніцай ідэальнага бюста і нават зваротны квіток ўзяў на два дні пазней. Няхай.

— А ты шукай новую. Паспееш. Чатыры дні.

— Дзякуй. На гэты раз я халасцяк.

* * *

За два дні да ад'езду я нарэшце перасяліўся. Можна было пачакаць. Але прыехалі родзічы дзядзькі Антося. Я вырашыў вызваліць пакой. Ды і было адчуванне, што лёс (ці нехта там яшчэ) штурхае мяне, падказвае, сігналізуе, бо сам я не магу крануцца з месца.

Новыя квадратныя метры аказаліся на дзіва светлымі. Фіранкі, якія набылі мама з Касяй, пакуль што не было нагоды павесіць. Таму здавалася, што свет — разгорнутая кніга, як і я — для тых, хто жыве насупраць. У кватэры было ціха. Але даносілася музыка і галасы недзе з вуліцы. Балкон быў адчынены. Я выйшаў. Так, гуляюць у суседнім пад'ездзе. Мне было відаць, як там, на балконе паверхам ніжэй, паляць. Я не чуў размовы — толькі музыка і нейкія шматкі слоў. Я затрымаўся. Чужыя галасы здаваліся вельмі блізкімі і стваралі ілюзію, што я не адзін.

І раптам мне здалося, што нехта з хлопцаў робіць мне знакі рукой. Я прыгледзеўся.

Антось?

* * *

У маёй гасцёўні, наўпрост на падлозе, я, Антось, яго спадарожніца Алеся, Маша і бутэлька віна. Шклянкі толькі дзве. З адной п'юць тыя, што насупраць, з другой — я і Маша.

Зямля квадратная. Жыццё на дзіва квадратнае. І вось на рагу свайго халасцяцкага жыцця я сустракаю яе. Іх. Але сёння я спадзяюся, што тыя, хто насупраць, сыдуць, а мы… мы — застанёмся.

Яны так і не сказалі, што прывяло іх у кватэру па суседстве. Але, калі вечарына скончылася, яны бесцырымонна прыйшлі да мяне. З віном і нейкімі прысмакамі.

Урэшце я сам папрасіў Антося сысці. Пакрыўдзіўся ён? Толькі ўсміхнуўся.

— Я таксама пайду. Будзе дождж.

— Адкуль?

— Я адчуваю.

«Я адчуваю»… Толькі не хапае каляровага парасона.

— Тады спатканне?

Усміхнулася.

— Чарговае дасягненне?

— Чаму? Ты мне падабаешся.

— З якога часу?

— З мінулай гадзіны. Напэўна…

— Я цябе добра ведаю. Не трэба.

Ведаеш? Адкуль? Мы не былі ніколі блізкімі. Мы ішлі па жыцці шляхамі, якія не мелі агульных скрыжаванняў.

— Ды ну? Ты не можаш ведаць мяне. Добра ведаць.

— Ты кладзеш дзве лыжкі цукру ў кубак кавы ці гарбаты. Ты не засынаеш, пакуль не адчыніш фортку, нават калі залева ці завіруха. Ты любіш прыходзіць раней і пазіраць здаля. Ты любіш высокіх даўганожак з пульхнымі вуснамі. І не дакранаешся да гарачага, пакуль не прынеслі свежы хлеб. Прынамсі, так было раней.

Я быў ашаломлены. Хто ёй сказаў усё гэта, хто ведаў такія дробязі, акрамя бацькоў і Касі?

Я закрыў дзверы спінай.

— Чакай. Адкуль ты гэта ведаеш?

Яна зноў усміхнулася.

— У мінулым жыцці ты быў маім вялікім каханнем, ідэалам і прыдуманай казкай. Той, хто кахае, жыве чужым жыццём. Але цяпер мы дарослыя людзі і нават можам пацалаваць адно аднаго на развітанне.

Яна зрабіла знак рукой, я крыху прысунуўся, яна пацалавала мяне ў скроню і адчыніла дзверы.

— Бывай здаровы. Звяртайся, калі што.

* * *

Тут было мора. Тут быў Гранд Базар — сусветны гармідар, Вавілон, у якім я мог знікнуць і забыць, што я — чалавек.

Тут быў горад, падзелены на дзве палавіны. Як і я.

Чатыры дні я жыў тым, што было звонку. Чатыры дні я кожны вечар напіваўся да чорцікаў, каб не думаць.

На пяты я вярнуўся.

На стале стаяла Касіна кветка. Побач ляжала «Кніга жыцця».

* * *

«Радасць — гэта калі ты ўсміхаешся. Калі ты адчуваеш, што здарылася нешта добрае.

Шчасце — гэта калі ты нібы ляціш і табе хочацца надзяліць гэтай здольнасцю ўсіх, хто пабач. Шчасце — калі мы ўсе разам, нават калі на розных кантынентах. Калі ты не думаеш пра дробязі, бо дробязі прымушаюць цябе вярнуцца на зямлю. А ты ляціш і табе лёгка. Табе не да зямлі…»

* * *

Там было пра боль, пра сум, пра адзіноту… І пра тое, як мы чакалі маці. Да кожнай старонкі былі фотаздымкі. Там, дзе мы. Там, дзе я. Там, дзе Кася. Такая, як яна адчувала — радасць, шчасце, боль, сум… Адзіноту?

Ёй чатырнаццаць. Яна ніколі не бывае адна. Яна не ўмее маўчаць і ўседзець на месцы. Вакол яе заўсёды сябры і сяброўкі, усе ёй захапляюцца і пераймаюць тое, што робіць яна.

Адзінота? Не. Тут была проста неабходнасць. Неабходнасць напісаць гэта для мяне — маленькага хлопчыка ў целе трыццацігадовага мужчыны.

* * *

Я вырашыў знайсці яе, бо адкрылася нейкая вялікая праўда, якую я яшчэ не зразумеў да канца, якая толькі паказала мне прамень, і мне ўжо не было іншай дарогі — толькі ісці на далёкае святло.

Знайсці? Як? Зноў Наташка? Зноў расплата — снеданак пасля халоднага ложка?

Абышлося прасцей. Толькі нязмушаная вячэра.

* * *

— Гэта раман.

— Раман? — паўза. — Ааа… Яшчэ адна паслуга?

— Нешта кшталту таго.

— Ты мне дорага абыходзішся.

— Усе выдаткі бяру на сябе.

— Сёння не атрымаецца. Колькі маем часу?

— Час ёсць. Я пачакаю.

— Пятніца. Сустрэнемся ў пятніцу.

* * *

— Ты падмануў мяне.

— Давялося.

— Цікавы ты чалавек.

— Ты ж мяне ведаеш. Сядзем?

— А можна без афіцыёзу?

— Можна.

Яна апусцілася на падлогу, паставіла поруч некрануты келіх віна і лягла на кілім. Я лёг таксама. Мы глядзелі на столь і глыталі цішыню.

— Хацеў спытаць: адкуль ты ведаеш пра дзве лыжкі цукру, адчыненую фортку, што прыходжу раней і люблю пульхныя вусны?

— Дзве апошнія пазіцыі я ведала яшчэ тады, у школе. Розныя вечарыны, школьныя спектаклі, у якіх удзельнічалі ледзь не ўсе вучні старэйшых класаў, алімпіяды… Памятаеш? Мы нават ехалі з табой разам у цягніку. Спаборніцтва маладых фізікаў ці нешта накшталт.

— Не. Іх было зашмат.

— А я памятаю кожнае. У мяне была сяброўка, якая жыла з табой у адным пад'ездзе. Я ледзь не штодня прыходзіла да яе, каб мець магчымасць выпадковай сустрэчы з табой.

— Смешна.

— Ага.

— А астатняе?

— Астатняе… Я ведаю тваю сястру.

— Касю?

— А ёсць яшчэ? — яна ўсміхнулася. — Касю. Яна і расказала. Яна любіць расказваць пра цябе.

— Адкуль ты ведаеш Касю?

— Яна замаўляе мне сачыненні.

Вось так раскрываюцца дзіцячыя таямніцы.

— Спадзяюся, ты будзеш добрым брацікам і не скажаш пра тое, што я яе выдала?

— Карысная інфармацыя для шантажу. Думаю, з часам я ёй скарыстаюся.

— Яна добрая дзяўчынка.

— Добрая. Але і знаходлівая. Ніколі пра цябе не расказвала.

— Гэта наша таямніца.

Яна была бліжэй, чым мне здавалася. Яна ўжо была ў прасторы майго жыцця, а я проста не мог разгледзець. Яна была ў маёй прасторы, пакуль я збягаў прэч.

Мне хацелася дакрануцца, адчуць мяккасць валасоў і цеплыню рук. Чарговае дасягненне? Не. Небанальны ідэал.

— Ведаеш, яна яшчэ расказвала, што ў дзяцінстве, калі вы вярталіся позна, яна прыкідвалася, што спіць, толькі каб ты занёс яе дадому на руках.

— Ну, Кася! Ну, хітруга! Я ёй гэта ўспомню.

— Не. Ты не можаш.

— Чаму?

— Бо ты не ведаеш гэтага. Гэта наша з ёй таямніца.

* * *

«Каханне — такое пачуццё, калі толькі пра яе і думаеш, марыш быць побач і робіш усё, каб яна была шчаслівай, нават калі гэта шчасце — не з табой. Табе здаецца — ты ляціш. Але не ведаеш — даляціш ці разаб'ешся?»

«Верыць — гэта не задаваць пытанняў, прымаць як бясспрэчнасць, ісці і нават не мець жадання азірнуцца».

* * *

— Толькі больш не падманвай мяне.

— Я вінен табе дзве гадзіны вольнага часу.

— Абавязкова імі скарыстаюся. Як здарыцца нагода.

— Можна без нагоды.

* * *

— Куды ўжо бяжыш?

Я зайшоў да бацькоў і сустрэў па дарозе Касю. Ужо некуды спяшалася.

— Да сяброўкі.

— Што за яна?

— Ты яе не ведаеш.

— Хоць пасядзі са мной.

— Сачыненне пісаць трэба. Выбачай.

— І што за тэма?

— Вольная.

— Пра што напішаш?

— Яшчэ не вызначылася. Абмяркуем з сяброўкай і будзем пісаць разам.

— Думаю, гэта будзе лепшае тваё сачыненне.

Кася з падазрэннем паглядзела мне ў вочы. Я не выдаў сябе.

— Ну, бяжы.

Навошта ёй замаўляць тое, што яна робіць і так добра? Навошта рабіць гэта чужымі рукамі? Пасля, шмат пазней, Кася сказала, што пісаць, як хочацца настаўнікам, вельмі складана: пачынаеш думаць, сумнявацца, перапісваць, чытаць чужое… І час, які можна было бавіць так, як хочацца толькі ў такія гады, губляецца незваротна.

Яна вызваляла час. Яна жыла. Яна адчувала.

* * *

— Добрая кватэра. Толькі не хапае… душы. Пакуль. Але мы гэта выправім.

Дзядзька Антось ужо рабіў накіды на галоўнай сцяне маёй гасцёўні. Мне падабалася. Паводле яго задумы, тут павінен быў вырасці горад — з людзьмі, трамваямі, старой архітэктурай. Уяўны горад, прыдуманы, з атмасферай пачатку мінулага стагоддзя. Гэта было грандыёзна. Так мне здавалася. Гэта мусіў быць уваход у іншую прастору, дзе б я мог стаць самім сабой.

Гэта быў праект на некалькі месяцаў, але варты таго. У гасцёўні я паставіў вулічныя ліхтары ў тым самым стылі і першыя дні ўважліва ўглядаўся ў кожнага чалавечка, што бег па маёй сцяне. На рагу кавярні і двухпавярховага цаглянага дома стаяла дзяўчынка. У ружовым паліто. З каляровым парасонам у руках.

Напэўна, яна адчувала: будзе дождж.

* * *

Цяпер у маім доме была душа. Добра, што над новым праектам працавалі тут, у Мінску. Я з нецярпеннем чакаў лютага. Ці будзе сустрэча?

Яна так і не скарысталася абяцанымі ёй дзвюма гадзінамі. Я не сустракаў яе на вуліцы, на транспартных прыпынках. Я шкадаваў, што не спытаў, дзе жыве.

І я вырашыў — ад безвыходнасці — распытаць Касю. Гэта было адчайна, бо малая магла раззлавацца — не столькі на мяне, колькі на Машу… Але мне надакучыла чакаць.

І адразу пасля працы я паехаў да бацькоў.

Калі ўвайшоў, у калідоры стаяла Кася і падавала паліто…

— Ой, Ромка, гэта…

— Я ведаю, хто гэта.

— Прывітанне.

— Здаецца, цяпер я вінен табе значна больш.

Вячэра была шумная. Дзядзька Антось вырашыў адзначыць удалы продаж сваіх палотнаў.

— Дзеці цяпер такія самастойныя, — усміхалася маці. — Нават самі знаходзяць сабе рэпетытараў.

— Мова-літаратура? — здзівіўся я.

— Матэматыка.

Так, яна ж пісьменнік з матэматычным тылам.

* * *

— Я ўсё яшчэ вінен табе дзве гадзіны вольнага часу.

— Я памятаю. Але не было нагоды скарыстацца.

— Чакай. Хадзем разам.

— Мне блізка. Дзякуй. Заставайся.

Касю чакаў допыт.

— Не ведаў, што ў цябе праблемы з матэматыкай.

— Новы настаўнік. Я не разумею яго манатонных лекцый.

— А Машу скуль ведаеш?

— А ты?

Ууу, хітрая!

— Мы з ёй вучыліся на паралелі. Цяпер твая чарга.

— Знайшла… Выпадкова…

— Ну, глядзі мне.

— Дарэчы, ты ж у мяне самы лепшы брат. Самы… шчодры!

— О-ё! Што яшчэ?

Амаль шэптам:

— Мы з Машай заўтра ўвечары, пасля заняткаў, пойдзем у кіно. Дай грошай.

— Што?

— Ну, пасля мінулага разу мама не дазваляе ісці з дзяўчатамі.

— Напэўна, кіно пра геніяльнага матэматыка?

— Як ты здагадаўся?

* * *

Я стаўся сведкам страшнай аварыі. Вяртаўся з офіса. Дарога перакрытая. Прапускаюць толькі па сустрэчнай паласе. Безліч тралейбусаў ужо безнадзейна захрасла па той бок дарогі. Я ехаў паволі, і мне здавалася, што я бачу нейкае замаруджанае movie, страшнае, ненатуральнае, бесчалавечнае.

Пустая дарога. На сустрэчнай паласе — «БМВ», амаль без пашкоджанняў. Пасярэдзіне дарогі — чорны байк, нібы кінуты тут часова. Шэранькае «рэно». Фура, што літаральна пад-

перла француза — яе тут не павінна быць, але кожны дзень такіх фур у гэтым месцы паркуецца цэлы караван. І чалавек… Цела, што дасталі з-пад разбітай машыны. Ледзь прыкрытае блакітнай прасцінай. І рукі, рукі, непакрытыя, сагнутыя ў локцях. Амаль жоўтыя.

Хуткая. Ратавальнікі. Дарожныя інспектары.

Дома я не мог супакоіцца. З галавы не выходзілі жоўтыя рукі памерлага байкера.

Ніхто не ведае, што будзе з табой заўтра, увечары ці праз гадзіну. Ён, напэўна ж, не ведаў. Ён дакладна меў нейкія іншыя планы. І вось…

Не паспееш. Можаш не паспець. І ўжо нават не здолееш шкадаваць, што не зрабіў.

Я выйшаў на балкон і нервова сціснуў келіх.

На балконе, у суседнім пад'ездзе, паверхам ніжэй, стаяла небанальная мара і мае дзве гадзіны вольнага часу. Яна была не адна. Я не паспеў.

* * *

Значыць, яна жыла тут. Значыць, гэта была яе кватэра. Значыць, гэта да яе прыходзілі госці ў той дзень. Ці ведала гэта Кася?

Вось чаму яна не дазволіла сябе праводзіць.

Яна сказала, што калі кахаеш, жывеш чужым жыццём. У мяне з'явілася адчуванне, што маё жыццё чакае мяне недзе на абочыне, а я спрабую знайсці сабе месца там, на яе балконе.

«Кніга адказаў» сцвярджала, што калі ты шчаслівы і кахаеш, здаецца, нібы ляціш. Я адчуваў, што зараз разаб'юся.

* * *

— Лявон! Дакументы!

Лявон пхае нагой дзверы, хапае з сакратарскага стала папкі і ледзь не падае перад куратарам.

— Sorry.

— Ok.

Я вырашыў згадзіцца на праект, які не абяцаў вялікіх перспектыў. Мне імпанавалі людзі, з якімі выпадала працаваць: адкрытыя, з нейкай светлай аўрай. Дзіўна, але Лявон перайшоў на мой бок і сам прапанаваў дапамогу. Праца была напружанай. Ад рання да позняга вечара я не выходзіў з офіса. На выходныя вярталіся ў Мінск, балазе Вільня — не Стамбул.

* * *

Скайп-званок. Кася.

— Слухай. А што ты прывязеш мне ў падарунак?

— Нешта прывязу.

— Я не хачу нешта. Я хачу нешта… асаблівае. У мяне дзень народзінаў! Ты што… памяць сваю ўжо выкінуў у сметніцу?

А-ё! Сапраўды, забыўся.

— Добра, што вы там з сяброўкамі прыдумалі?

— Ды нічога мы не прыдумалі…

— Шмат народу будзе?

— Ды мы ўсе разам — ты ж прыедзеш? — плюс Леся, Верка, Лёха, Міхей і Маша. А потым мы…

— Якая яшчэ Маша?

— Ну… мой рэпетытар.

Пачалося…

— Знайшла сяброўку!

— Здаецца, раней яна табе падабалася.

— Раней.

— Гэта мой дзень народзінаў. Запрашаю, каго хачу. Бацькі дазволілі.

* * *

Падарунак не быў праблемай. Праблемай стала для мяне вяртанне дадому. Лёс нібы адчуваў, што я не хачу ехаць, што я зноў хачу схавацца і не задаваць сабе пытанняў, на якія не атрымаю адказ.

І вось нас з Лявонам запрашаюць у суботу на вечарыну, якая абяцае быць надта цікавай. Я адмаўляюся, але па дарозе за квіткамі на цягнік блытаю аўтобус і еду не туды. Потым нейкае надзвычайнае здарэнне адбываецца на вакзале — перакрываюць уваходы.

Урэшце я вяртаюся ў свой пакой, без квіткоў, стомлены і з адзіным жаданнем — застацца тут назаўжды. Засынаю з думкай: «Ну вось, не паеду».

* * *

— Ромка, спіш?

— Сплю.

— Уставай. Едзем у Мінск.

— Не, не выпадае.

— Выпадае. Едзем на машыне. Для цябе яшчэ ёсць месца.

* * *

Лявон лёгка давярае свае і чужыя праблемы малазнаёмым людзям. Мы едзем з сямейнай парай — беларусы, што наведвалі родных недзе пад Вільняй, а цяпер вярталіся. Крыху зарабіць — чаму не? І вось мы сядзім у сціпленькім «гольфе», Лявон лапоча ўвесь час і частуе кабету featрознымі прысмакамі.

Час ад часу яны робяць музыку грамчэй і спяваюць. Вясёлыя людзі. Не тое, што я.

Але ніхто не звяртае на мяне ўвагі.

* * *

Мы ў Міхея. У зюзю п’яныя. Ляжым наўпрост на падлозе і ўяўляем, што столь — гэта зорнае неба.

— Ну, ты і…

— Маўчы.

— Маўчу.

…Кася была на сёмым небе. Яе аднакласнік прынёс ёй пятнаццаць руж. Такіх звычайных — для мяне. Такіх казачных — для яе. Таму мой падарунак быў пакінуты недзе на падаконні. Але

я не крыўдаваў. Мне падабалася глядзець, як нараджаецца першае сапраўднае пачуццё між Ёй і Ім.

Я спрабаваў успомніць сваё першае захапленне. Але не, не мог. Ці было яно? Ці гэта былі проста… гармоны?

Маша сядзела насупраць. О, яна ведала, што такое сапраўднае пачуццё, калі табе пятнаццаць. Магчыма, таму Кася і зблізілася з ёй.

— Шыкоўна выглядаеш. Дазволь, я правяду цябе.

— Не трэба. Дзякуй.

— Нам у адзін бок.

* * *

— І што?

— У яе нехта ёсць. Я ж казаў.

— Тое, што ты бачыў мужыка на яе балконе, нічога не азначае. Нават калі ён сустракае яе ўвечары, жыве разам з ёй, нават калі яны спяць на адным ложку…

— Не вярзі абы-чаго, Міхей.

— Э… Ты бачыш тое, што хочаш убачыць. Канечне, прасцей сказаць сабе: у яе нехта ёсць, а я тады пастаю ўбаку…

— Хто б казаў! Дзе тваё вялікае каханне? Пакінуў у інстытуце?

Гэта было брыдка з майго боку, але размова між намі ішла надта шчырая:

— Ты мае памылкі ў прыклад не стаў. Ты на іх вучыся. Давай пойдзем зараз. Уставай.

— Куды?

— Спытаем яе. Жыццё бяжыць. Можам спазніцца.

— Стой, дурань.

Ісці мы, канечне, не маглі. Нам было цяжка нават падняцца. Мы смяяліся і налівалі яшчэ. І тым ярчэй ажываў у маёй галаве вобраз, калі яна ішла са мной поруч. Я выпадкова крануўся яе рукі. Яна адкаснулася. «Дзякуй», — сказала на развітанне. — «Я табе ўсё яшчэ вінен». — «Я ўжо забылася. Пакінь сабе».

* * *

— А ведаеш, Леся ў цябе закаханая.

Зноў Кася спрабуе выцягнуць мяне з халасцяцкай адзіноты.

— Якая яшчэ Леся?

— Ну, мая аднакласніца.

— Ёй жа пятнаццаць.

— І што?

— Кася, я ўдвая…

— Узрост, брацік, не перашкода.

Яна смяялася.

— Кася, спадзяюся, я выпадкова не сустрэну тваю Лесю ў сваёй кватэры, калі вярнуся?

— Ну… такі план я яшчэ не абдумвала.

— Кася…

— Рома…

— …Тады я раскажу твайму… як яго? — Аляксею — што-нішто з тваіх таямніц.

— Гэта шантаж.
— А што рабіць?
— Леся ж прыгожая. І вельмі добрая. Ты дарма не звяртаеш на яе ўвагі.
— Кася! Ёй пятнаццаць!
— Мне таксама.
— Калі пабачу побач з табой такога ж старога дзядзьку, як я сам, заб'ю абодвух. Упэўнены, што яе брат зробіць тое самае.
— У Лесі няма брата.

* * *

— А што тая, малая?
— Якая?
— Ну, сяброўка тваёй Касі.
— Ёй пятнаццаць, Міхей!
— Вой, цяпер такія пятнаццацігадовыя…
— Ты скуль ведаеш?
— Ведаю… Яна прыгожая?
— Нішто сабе.
— Можа, я паспрабую?
— Ну, ты маньяк!
— Праўда, мне Кася твая падабаецца.
Я ажно ўсхапіўся.
— Ціха, ціха, — заўсміхаўся. Любіць паказытаць мне нервы. — Проста падабаецца. Я ж не…
— Глядзі мне.

* * *

Электронны ліст ад старасты нашага класа. Так яна заўсёды адпраўляе запрашэнні. Пятнаццаць гадоў. Юбілей, як-ніяк! Імкнуцца максімальна сабраць усіх.

Тут, у шэрым запыленым офісе з вокнамі на вежу Гедыміна, мне хацелася верыць, што сустрэча адбудзецца, што пачуцці акажуцца сапраўднымі, што мы насамрэч прагнем убачыць адно аднаго, абняць і падзяліцца тым, што было, ёсць і будзе.

Але верыць — значыць не задаваць пытанняў, не азірацца і прымаць як дадзенае.

Я не верыў. Таму ўпершыню сумняваўся.

Мой ліст быў кароткі. Выбачайце, так і так, я не ў Мінску. Прыехаць не магу.

* * *

Ліст ад старасты нашага класа. Пазначаны клічнікамі.

«Я тэлефанавала тваім бацькам. Маці сказала, што кожныя выходныя ты ў Мінску. Таму саскочыць не атрымаецца. Тым больш, калі не прыйдзеш ты, не прыйдзе Антось і яшчэ палова класа. Не прыйдуць яны — не прыйдзе ніхто. І больш сустрэч не будзе».

Гэтае пачуццё адказнасці… Гэтае няўменне адмаўляць людзям.

Цягнік. Вакзал. Таксі. Людзі…

…Людзі жывуць сваім жыццём на маёй сцяне, у прыдуманым горадзе.

* * *

У мяне была адна мара, якая жыла ў маёй галаве сваім адмысловым жыццём. Ёй было ўжо шмат гадоў, яна абрасла дэталямі, як ракавіна — глеем. Я перажыў яе — як сон, як фантазійную рэчаіснасць — сотні, тысячы разоў. І я прысніў яе. Які ўжо раз.

Я марыў, што некалі збяру разам у якім-небудзь непампезным месцы ўсіх тых, хто хоць аднойчы дапамог мне па жыцці. Дапамог — не значыць аплаціў рахунак ці за сто долараў паспрыяў афарміць машыну. Дапамог — значыць зрабіў дабро бескарысліва, у патрэбны момант з'явіўся на маім шляху і падставіў плячук. Гэта магла быць проста размова. Але такая, што паставіла мяне на месца, павярнула ў патрэбны бок, аберагла ад бяды.

Такіх людзей было не так і шмат. Некаторых я даўно не сустракаў і не ведаў іх лёс. Але ў маёй фантазіі яны збіраліся разам. І я дзякаваў ім і расказваў, як яны змянілі маё жыццё.

Сёння, калі я зноў падумаў пра такую сустрэчу, я выразна ўявіў, што сярод усіх там павінна з'явіцца і Маша.

Сустрэча аднакласнікаў была своеасаблівай псеўдазаменай. Мы бачыліся толькі раз на год. Кожны імкнуўся расказаць, што змянілася ў яго жыцці, пахваліцца дасягненнямі. Толькі гэта былі не тыя людзі, хто змяніў маё жыццё.

* * *

Дзядзька Антось (маці і Касю ў лік не бяру, бо яны — мая сутнасць — па крыві). Мастак ад бога (калі ён ёсць). Чалавек, які замяніў мне бацьку і стаў сябрам у тым узросце, калі хлопец становіцца дарослым і ў ім пачынае жыць мужчына.

Дзядзька Антось падтрымаў мяне, калі ў мяне з'явіўся першы замежны праект. Ён нават дамовіўся са сваім знаёмым скульптарам, які сустрэў мяне і дапамог тады, у Таронта…

Той, хто сышоў. Наш аднакласнік. Ён рос без бацькі і мала з кім гаварыў шчыра. Яго маці не верыла, што ён сам збег з дому. Мы не ведалі. Але пасля я так шмат думаў пра гэта, шукаў тых, хто ведаў яго па-за класам, каб знайсці прычыну. Толькі не. Ён застаўся для мяне пытаннем без адказу, але прымусіў быць больш уважлівым да тых, хто побач…

Міхей. Мы пазнаёміліся выпадкова. На летніх вакацыях. Мне было чатырнаццаць. Я памыліўся пад'ездам, калі ішоў да аднакласніка. І калі бег па лесвіцы, быў збіты хударлявым акулярыкам, які катаўся па прыступках на скейце. Гэта было проста жудасна. Я збіў рукі і калені, але акулярык так жаласна прасіў не выдаваць яго перад бацькамі, што… мы сталі разам эксперыментаваць са скейтам. Толькі ўжо не на лесвіцы, а на старым, зарослым травой школьным стадыёне.

Лявон. Мы не былі асабліва блізкімі сябрамі, але шмат працавалі разам. Галоўная яго праблема — прыгажуні. Ён губляў галаву — кожны раз так, што ехаў дах. Ён быў ласы на грошы — але і працаваў як мае быць. Калі я пагадзіўся на літоўскі праект, ніхто, акрамя двух учорашніх выпускнікоў ФПМа, не захацеў ісці ў маю каманду. А мне быў надта патрэбны вопытны супрацоўнік. Я шалеў. І вось прыходзіць Лявон — і сам прапануе сваю асобу. «Чаму?» — спытаў я. «Проста, — адказаў ён, — табе патрэбны чалавек, якога ты ведаеш. Мяне ты ведаеш лепш, чым каго ў гэтым офісе». Больш мы пра гэта не гаварылі, але дзякуючы Лявону праект атрымаўся. Не толькі праект, але і шматлікія праблемы — з паездкамі, сустрэчамі, тэхнікай — вырашаліся толькі дзякуючы яму.

Я мог пералічыць на пальцах тых, каго — у сваіх думках — ужо даўно запрасіў на ўяўную сустрэчу. Цяпер я пісаў запрашэнне Ёй.

* * *

Я выйшаў раней і завітаў да сваіх. Маці гатавала вячэру, дзядзька Антось з'ехаў у майстэрню. Я зазірнуў у Касін пакой.

— Якія людзі!

— О, ты не адна.

Поруч з ёй на канапе сядзела мілавідная Леся. Пульхныя вусны, кароткая спадніца. Яны перабіралі нейкія сукенкі.

— Збіраецеся куды?

— Будзе вечар у школе. Выбіраем, што апрануць.

Леся ўвесь час мне ўсміхалася. Яе шчокі зачырванеліся. Яна падабрала ногі пад сябе, і спадніца з'ехала зусім на клубы.

Вах-вах! Дзяўчынкі пасталелі.

— Добра, гуляйце. Я паехаў.

Дарога мне здавалася вечнасцю. Таксоўка безліч разоў спынялася на святлафорах, стаяла ў плыні гарадскога транспарту, і за пятнаццаць хвілін я паспеў успомніць усе школьныя гады і не толькі.

Усіх сустракала маці-гераіня, наша стараста Алена. Заўсёдная хатняя гаспадыня. Чацвёра дзетак, другі муж…

— Ты спазніўся, але месца табе пакінулі.

О, канечне! Маё месца — поруч з дзвюма кабетамі пяцьдзясят чацвёртага памеру. Абедзве чарнявыя, абедзве шчабятухі. Помніцца, мы называлі іх Лёлік і Болік, бо яны ўсюды хадзілі разам. І цяпер, калі і прыходзілі на нашы сустрэчы, то толькі ўдзвюх. Яны ўвесь час смяяліся, падкладалі мне на талерку розныя стравы, прамаўлялі тосты і запрашалі танцаваць.

Гледзячы на іх, я не мог не думаць пра тое, што яшчэ гадзіну таму мог завалодаць усёй існасцю дзяўчынкі, якая толькі нараджаецца як жанчына, ад якой пахне вясной і маладосцю. А цяпер вось падымаю келіх за новага мужа сакратаркі са стажам пяцьдзясят чацвёртага памеру, і мяне запрашае на зусім не белы танец яе блізніца.

Раптам я нібы прачнуўся. А дзе Яна? Яе — няма.

* * *

Маша ўвайшла, калі нехта з ужо падпітых хлопцаў прамаўляў грандыёзны спіч. Яна амаль незаўважна села поруч з Наташкай і нешта ёй пачала гаварыць. Мне было ўжо ўсё роўна, чаму яна адсутнічала гэтыя дзве гадзіны.

Мне было важна, што цяпер яна тут.

* * *

Разумею: п'яны. Але ў галаву ўвесь час лезлі думкі, што вось яна, Маша, і вось яна, Леся. Няхай не Леся, а іншая, але дзяўчынка. Хто з іх пераважыць, калі мужчына не здолее стрымацца (а стрымлівацца было ўсё больш складана)? Што — прыгажосць, маладосць, пульхныя вусны,

кароткая спадніца, гатовая закасацца яшчэ вышэй ад аднаго майго слова, — ці небанальны ідэал, які я не магу дастаць?

* * *

Цяжка. Святло ў вочы праз тонкія фіранкі. Чужая канапа на незнаёмай кухні… Свежае паветра з расчыненай форткі. Дзе я?

— А, прачнуўся. Добрай раніцы.

Я заплюшчыў ад сораму вочы.

— Маша…

— Ты, канечне, малайчына. Так напіцца, каб нічога не ўспомніць.

— Чаму я тут?

— Ніхто не ведаў, дзе ты жывеш. А засталося нас пяць чалавек. Хто ж павёз бы цябе такога? Усе па розных раёнах, у кожнага — сям'я.

— Няўжо ты мяне сюды дацягнула?

— Брат дапамог. Дзякуй яму. Бо дзверы ў сваю кватэру ты адчыняць адмовіўся, і ключы я не знайшла. — Паўза. — Каву?

— Не, дзякуй. Я зараз сыду.

— Дарогу знойдзеш?

— Паспрабую.

— Ну, тады… як пажадаеш.

Ну, вось я і разбіўся.

* * *

Значыць, яна жыве з братам. Значыць, яна не кінула мяне аднаго, п'янага ў зюзю, хоць магла. Значыць, цяпер я вінен ёй значна больш. І як я здолею аддаць ёй гэта? Як мне пераадолець сорам? І ці здолее яна глядзець на мяне цяпер прыязна, без агіды?

* * *

— Ты — мой сведка.

— Не зразумеў?

— Ну… на вяселлі.

— Ты што, жэнішся?

Навіна дык навіна!

— Ну… гэта… кшталту эксперымент.

— Нічога сабе эксперымент! Я яе ведаю?

— Не.

Лявон умее здзівіць. Праз два тыдні — вяселле, а я нават не здагадваўся, што ў яго нехта ёсць. Маю на ўвазе — нейкія сур'ёзныя адносіны.

Сведка — дык сведка. Лявон абяцаў без асаблівай пампезнасці. Я паверыў.

Але дурная традыцыя зводзіць нежанатых сведкаў не была забыта нават тут. З самага роспісу мяне ледзь не сілай штурхалі ў абдымкі прыгожанькай сястры новаспечанай жонкі Лявона. Я танцаваў толькі з ёй, карміў яе з лыжачкі, прылюдна цалаваў і стаяў перад ёй на каленях.

— Супакойся, — сказала яна мне, калі мы, нарэшце, выйшлі на паветра і засталіся сам-насам. — Я гэта цярпець не магу, але сястра хоча, «як у людзей». Патрываем яшчэ пару гадзін — і адзьё!

— А ты нічога. Мне ўжо нават пачынае падабацца.

— Выбачай. Я цяжарная. Толькі — тссс! Гэта сакрэт!

* * *

— Ты павінен пайсці са мной.

— Кася, мяне ўжо крыху ванітуе ад розных урачыстасцей. Мне праект закрываць.

— Ну, адзін раз толькі.

— З татам ідзі.

Надзьмулася.

— Добра. Адна ўмова.

— Згодна!

— Чакай. Ты не будзеш сватаць мне сваіх аднакласніц. Нават самых прыгожых.

— Угу.

— Гучыць не вельмі пераканальна. Але я паверу. І яшчэ…

— Э-э-э! Ты сказаў: адна ўмова, а не дзве!

— …Я буду наглядаць за тваім кавалерам. Лёха? Ці як там яго?

* * *

Юбілей школы. Вялікая ўрачыстасць. Новы дырэктар арганізаваў грандыёзнае мерапрыемства. Запрошаны лепшыя выпускнікі і вучні, былыя і сённяшнія настаўнікі, важныя госці, вялікае начальства і спонсары. Кася ўдзельнічае ў канцэртнай праграме. Будзе спяваць. Я настолькі захапіўся поруч з ёю, што нават сам павёз яе выбіраць святочную сукенку (праўда, нашы густы разышліся, але ўва мне перамог старэйшы брат, а не пажадлівы мужчына).

Я вітаў кожнага настаўніка — хоць збольшага іх не ведаў, — пакуль мы з Касяй ішлі поплеч у актавую залу.

Я не быў сярод лепшых. Я проста суправаджаў адну з лепшых. Магчыма, Кася і не супергеніяльная вучаніца, але ў самадзейнасці ёй не было роўных: яна і спявала, і выступала ў школьных спектаклях, і пісала сцэнарыі, і нават танцавала народныя танцы.

За дзве гадзіны афіцыйнай праграмы былі і нудныя спічы, і падарункі ад былых выпускнікоў, якія сталі «вялікімі і шаноўнымі», і кранальныя выступленні дзяцей і шмат чаго яшчэ.

Кася спявала напрыканцы. «Простыя словы». Так проста і добра. Мне хацелася падысці і абняць яе наўпрост на сцэне. Мая малая Каська так добра ведае і адчувае сапраўднае і шчырае.

Пасля была частка неафіцыйная. Танцы. Фуршэт.

«Гатэль «Каліфорнія». Божухна! Я ледзь не плакаў. Песня, старая, як свет. Нашы школьныя агеньчыкі не праходзілі без яе. Памятаю, мы выцягвалі, як фанты, імёны аднакласніц, з якімі будзем танцаваць…

Але які я ёлупень! Я раптам выхапіў з натоўпу вочы Касі — і што бачу? Яна зараз проста разравецца. Што за лухта?

Ага, вось ён, паскуднік! Лёха запрасіў нейкую мамзеліну, а не Касю. Гэта, канечне, было яго памылкай. Але такую памылку проста вырашыць.

— Дазвольце.




Ілюстрацыя Вікенція Пузанкевіча.

Я бяру Касіну руку, і мы танчым.

— Слухай. У старэйшых класах мы, хлопцы, амаль ніколі не запрашалі тых, хто нам падабаўся. Звычайна запрашалі іх сябровак. Гэтая мамзеліна сябруе з табой?

— Мы сядзім за адной партай.

— А ведаеш, як страшна запрасіць тую, каго насамрэч хочаш?

— Не мані.

— Хто-хто, а я ведаю. Таму кіслую міну схавай падалей. Бо тут усё ясна. Лёха па табе сохне.

— Ну ты, брацік, і скажаш.

Але Кася неяк прасвятлела.

— Паглядзі направа.

— Што там?

— Уважліва, каля нашай класнай.

Там стаяла Маша. Глядзела на нас і ўсміхалася.

— Спадзяюся, ты хоць свой вечар не прафукаеш?

— Я паспрабую, — і мне зноў стала так страшна, нібы я на школьнай вечарыне іду запрашаць тую, у каго закаханы.



Рагнед Малахоўскі

**нарадзіўся 5 верасня 1984 года ў пасёлку Сяймчан Магаданскай вобласці (Расія). Аўтар кніг «Беражніца» (2005), «У дзённай мітусні» (2012) і «Жыві!» (2014). Фатаграфуе пейзажы і дзяўчат, піша электронную музыку, займаецца лёгкай атлетыкай. Вырас на Нарачы, жыве ў Сіднеі (Аўстралія).**

# Інфармацыйны шум

## сістэмны збой

для размоў не знаходзяцца тэмы
пад нагамі ўспаміны валяюцца
гэта файлы сістэмы
абнаўляюцца

калі слова бясконца славіш
то дарога становіцца гладкаю

хачу ноўт з падсветкаю клавіш
развучыўся пісаць асадкаю

## чорная скрыня

слепіць вочы блакіт
у вушах новы хіт
на радары чыста
паветра празрыстае
ды месца гэта магніт
для тэрарыста

ні на полі цудаў
ні на што дзе калі
ні на мінным полі
ці проста ў полі
нават у алкаголі
не знайсці такога хэдлайнера
я чорная скрыня
на борце авіялайнера

## няма праблем

на пары
ты сядзіш на парце
і вышэй за цябе
толькі лектар-паркінсонік
спрабуе тлумачыць
праблемы ўзаемаадносін
жанчын і мужчын

жанчыны кахаюць вушамі
мужчыны баяцца прыгажосці

а я без праблем
назіраю цябе
з паралельнага свету
еду ў падводным трамваі
лавіць невядомую рыбу
якая таксама
не мае ніякіх праблем
акрамя мяне

## трыццацідвухгадовы

абяцаў табе паказаць парыж
чаравікі начысціў крэмам з воскам
але ты па-ранейшаму спіш
з тым багаценькім неданоскам

патанае ў гламуры
ні адняць ні дадаць
але дзеля цябе ні на што не гатовы
ну а я аніяк не магу прадаць
мэрсэдэс трыццацідвухгадовы

таму ты па-ранейшаму спіш
бо хацела жыцця бясклапотнага з лоскам
трыццаць два
а ўжо стаўлю крыж
чаравікі начышчаны крэмам з воскам

## эпоха спажывання

прачынаюся на золку
прасціны пахнуць сэкандхэндам
пачынаю адчуваць сябе
учарашнім днём
схаваным ад свету
пражытым
што ўжо быў ва ўжыванні

ужываю каву
ужываю пах свежай ружы
падараванай апошнім прыхільнікам
ужываю пару мацюкоў
калі акідваю вокам
ранішні беспарадак у пакоі

беспарадак у пакоі
беспарадак у свеце

беспарадак у галаве
схіляе да думкі
заняцца інтэрнэт-шопінгам
хутчэй бы і гэты дзень
стаў былым ва ўжыванні

## выпадкова

толькі адзін раз
бачыў цябе ў жыцці
калі прыязджала пажарная
ты бегла полымем па лісці

заканчэнне лета
не абяцала нічога новага
ты стала цяжарная
ад паэта
выпадковага

## шлях слязы

недарэчная сварка скінула маскі
агаліла нервы
загнала душу ў адзіны кут
пакуль не зняважаны брыдкаслоўем

навошта запавольваю злое імгненне
зацікаўлена ўзіраюся
у павуцінкі-зморшчынкі
ля тваіх насцярожаных вачэй

не жадаю чуць словы
не жадаю хавацца ад рухаў
падпарадкоўвацца хлусні

пытанні і адказы
яснасць і непаразуменне
мінулае і будучае
усё ў вачах
мітуслівых
узрушаных
непрадказальных

перапоўнены сасуд пачуццяў
надрыўна лопаецца
знясіленыя вочы
нараджаюць няпрошаную слязу

імгненне запаволена
але наперадзе яе непазбежная пагібель
сляза звар'яцела гарыць і таму апякае
яна ўпілася ў твар і нахабна дзярэ скуру
далонь цягнецца яе змахнуць
але ў хваляванні памыляецца
і дакранаецца да запаленых вуснаў

сляза жадае спакою
раўнавагі
упэўненасці
забудуцца прычыны і наступствы
паўстануць новыя муры чалавечых адносін
пераасэнсуем каштоўнасці

сляза настойліва знойдзе свой шлях
яна як лёс
як жыццё
як чалавек
хоць і не заўважаем
але рана ці позна
праходзім гэты горкі шлях
спрадвечны шлях слязы

## дабранач

няхай не засынае Бог
над гэтай акрываўленай зямлёй
няхай не знікне свет
у гуках калыханкі

няхай на ланцугу
ды хочацца так жыць
залізваць раны
выпіваць на свята

дачцэ спявае мама калыханку
а Ён глядзіць на іх
стомленымі соннымі вачыма
і запаўняе розум
думкамі аб вечным
абы толькі не заснуць

спытаць бы ў Яго
чаго чакаеш ад нас
неразумных
можна толькі здагадвацца
і верыць
Бог не хоча
нашага знікнення

німфеткі
выбух гарачай крыві
пераломам
прынёс пасля здрады кветкі
а якія ж былі німфеткі
што са мной падзяліліся
першым сваім цяплом

не верыў ва ўласныя словы
шукаў апраўданні
не народзіцца больш анічога
зрабіў такія высновы
пасміхалася зло
рознае было

## німфеткі

уначы напаўнялася цела агнём
удзень паміралі нервовыя клеткі

выбух гарачай крыві
эпілог
існаванне ад ночы да рання
мяне перамагло
ударам пад дых
самазнішчэнне кахання

## астрал

калі не стае шчырасці
і застацца з табой
азначае быць расстраляным
агрэставымі вачыма
у знак пратэсту супраць рэчаіснасці
устану з пакамечаных прасцін
і паспяшаюся выйсці
з перакрэсленай стомай пустыні
напрасткі ў сталіцу

напарстак раструшчанага сонца
перасцерагае ад настальгіі
што ў абрысах стагоддзяў
абрастае злоснымі наступствамі

часта ўяўляю сябе містычнай істотай
час такі самадастатковы

станцыя кастрычніцкая
найлепшае месца для расставанняў
і новых незапланаваных сустрэч
а на паверхні перамагае страх
і стогнуць праспекты
застаецца толькі выйсці
са скамянелага статку
і ўвайсці ў астрал

## рыфма

на скураной канапе
начнога фіялетавага клуба
пад градусам адзічэлай самоты
спрабую зрыфмаваць словы
што набрынялі водарам жываншы
і дрыжаць у шклянцы джэка дэніелса
яны нахабна працінаюць цела
і павуцінай цыгарэтнага дыму
пераплятаюцца
у дыяментавых хвалях паўзмроку
музыка
эротыка
яны нарадзіліся разам
на гэтай канапе
яны не памруць
пакуль існуе самота

## ідэя

напачатку была ідэя
ды ніхто не сказаў ёй
што ідэальных не бывае
яна пыхлівая і капрызлівая
пажадае падпарадкаваць сабе ўсё

сустрэнуцца ідэйныя людзі
прамовяцца высокія словы
з перайначанай ідэі
пачнецца ідэалогія
і захлынецца
у ідэалагічна правільным
ідыятызме





Сяргей Белаяр

**нарадзіўся 19 красавіка 1978 года ў Брэсце. У творчых планах — заканчэнне фантастычнага рамана-баевіка пра барацьбу Дабра і Зла, якая разгортваецца ў сучасным Брэсце. А сёння прапаноўваем вам разам з інспектарам Сарвам паглыбіцца ў расследаванні, наступная порцыя якіх чакае вас у будучых нумарах часопіса.**

# Расследаванні інспектара Сарвы

*Цыкл навукова-фантастычных апавяданняў*

## Таямнічае знікненне

Аксід жалеза надаваў Марсу бледна-чырвонае, амаль аранжавае адценне, праз што планета нагадвала баскетбольны мяч. Па меры набліжэння можна было добра адрозніць дэталі: ударныя кратары, даліны, Нікс Алімпіка, каньёны, палярныя шапкі. Па-свойму Марс быў нават прыгожы.

У дзверы пагрукалі.

— Заходзьце! — адарваўся ад ілюмінатара інспектар Дэпартамента пазазямных крымінальных расследаванняў Ратаўт Сарва.

— Праз гадзіну выходзім у кропку скідання, спадар інспектар! — сунуў галаву ў каюту Пётр Голін, памочнік капітана «Яна Гевелія». — Будзьце гатовыя!

— Зразумеў, дзякую! — зборы не адбіралі шмат часу. Мінімумам рэчаў Сарва абыходзіўся не толькі ў камандзіроўках.

Ангар быў поўны тэхнікаў: праводзілася перадстартавая падрыхтоўка бота. Нават самая малая няспраўнасць ставіла функцыянаванне калоніі пад пытанне.

— Укладвайце рэчы, спадар інспектар! Зараз вам дапамогуць апрануць скафандр! — паводле правілаў касмічнага флоту, скіданне бота з людзьмі дазвалялася толькі пасля таго, як капітан судна даваў згоду.

Са скафандрам Сарва мог справіцца і сам, але карабельны статут пісаўся не для таго, каб яго парушаць.

— Прышпіліцеся і расслабцеся! Астатняе зробіць аўтаматыка!

— Я і не хвалююся! Не ўпершыню! — невялікая шчыльнасць атмасферы Марса стварала спрыяльныя ўмовы для пасадкі. Нават пры вертыкальным балістычным уваходзе найбольшы каэфіцыент перагрузкі не перавышаў дзесяці адзінак, а шырыня калідора ў самым вузкім месцы складала трыста кіламетраў.

— Пасажырскі лайнер «Адысей» забярэ вас праз тыдзень. Паспрабуйце да гэтага часу скончыць расследаванне, інакш застаняцеся на Марсе яшчэ на чатыры з паловай месяцы, пакуль не прыйдзе «Касіяпея»! — папярэдзіў Бівоін Жыбартаў. — Будзе трохі трэсці!.. Поспехаў!

Тэхнікі задраілі люк, але пакутаваць ад чакання не давялося: таймер вёў зваротны адлік. Калі лічбы абнуліліся, спрацавала катапульта.

Перагрузка была амаль непрыкметная. За пяцьдзясят пяць кіламетраў ад паверхні на бот абрынуліся даволі моцныя парывы ветру. Спуск заняў больш за гадзіну. На ўзлётна-пасадачнай пляцоўцы — падмеценым ад камянёў кавалку паверхні памерамі з два футбольныя полі — бот ужо чакалі.

— З прыбыццём, спадар інспектар! Дазвольце прадставіцца — Міклаш Шаверда, намеснік кіраўніка калоніі. Мне даручана суправаджаць вас і аказваць усялякую дапамогу!.. Зараз мае людзі перагрузяць кантэйнеры ў прычэпы, і нам можна будзе адправіцца ў калонію.

— У вас заўсёды так ветрана, спадар Шаверда? — вецер узмацняўся на вачах.

— Большую частку года, спадар інспектар! Розніца тэмператур паміж паўночным і паўднёвым паўшар'ямі!.. Хлопцы, варушыцеся, набліжаецца пылавая бура!

Спадарожнікі Шаверды пачалі рухацца хутчэй. Калі б ціск атмасферы быў роўны зямному, правалтузіліся б даўжэй.

— А бот не перакуліць? — на пляцоўцы панавалі сапраўдныя пылавыя віхуры. Штуршкі ветру станавіліся ўсё больш адчувальнымі. Даводзілася прыкладаць пэўныя намаганні, каб выстаяць на адным месцы.

— У апорах — адмысловыя загваздкі! Не страшны ніякі ўраган!

Толькі цяпер Сарва звярнуў увагу на шматлікія дзіркі.

Калі разгрузачна-пагрузачныя работы скончыліся, мужчыны расселіся па ўсюдыходах, і калона ўзяла курс на «Эдгара Райса Бераўза». Раз-пораз машыны аб'язджалі тэктанічныя разломы, кратары і лававыя трубкі. Вецер падняў пясок, таму ехалі па прыборах.

— Вы не маглі б расказаць мне пра здарэнне, спадар Шаверда?

— Не жадаеце губляць час, спадар інспектар? Разумею!.. З чаго пачаць?

— З самага пачатку!

— Гэта здарылася дзесяць дзён таму. На пачатку адзінаццатай Віжкгаіл Багушэўскі адправіўся ў трэці лабараторны бокс: напярэдадні Фестар Юхноўскі прыцягнуў з геолагаразведвальнага рэйду даволі незвычайны кавалак пароды, і Багушэўскі хацеў з ім папрацаваць.

— Юхноўскі — гэта ваш галоўны геолаг? — падчас вымушанай бяздзейнасці Сарва азнаёміўся з матэрыяламі, дасланымі па Старнеце Каланізацыйнай службай.

— Ён самы! — кіўнуў Шаверда. — Боксы ў нас герметычныя, так што Багушэўскага хапіліся толькі на наступны дзень, на планёрцы.

— Гэта значыць, што амаль суткі ніхто не пацікавіўся, чаму Багушэўскі не выходзіць з лабараторнага бокса?

— Віжкгаіл за працай мог і забыцца пра час. Спачатку Кайша спрабавала змагацца з парушэннем дысцыпліны, але пасля махнула рукой.

— А чаму «быў»?.. Лічыце, што Багушэўскі мёртвы? — Сарва ўважліва сачыў за рэакцыяй Шаверды. Святлафільтр на пярэднім шчытку суразмоўцы быў узняты.

— Цела мы так і не знайшлі, хоць літаральна перакапалі цэлую калонію і абшукалі ўсё навокал у радыусе пяці кіламетраў.

— Багушэўскі не мог сысці?

— Куды?.. На сотні кіламетраў наша калонія — адзіная. На шлюзах — сканеры сістэмы бяспекі. Без пропуска, які выдаецца максімум на дванаццаць гадзін, не выйсці.

— А іншых выхадаў няма?

— Якія могуць быць іншыя выхады, спадар інспектар? Гэта ж — іншапланетная калонія!

— Так, сапраўды. Пропуск меў электронны код?

— Так. Лічбалітарны набор з васьмі знакаў.

— Код можна ўзламаць.

— Кожны пропуск — яшчэ і ключ! — Шаверда выцягнуў дзіўнага выгляду карту. — Бачыце гэтыя раўчукі і зубцы?.. Для кожнага шлюза — свая камбінацыя.

— Вы дазволіце?.. Даволі цяжкі!

— Матэрыял ключа — гэта спецыяльны сплаў, вырабіць які без адмысловага абсталявання проста немагчыма. Магніты замок зроблены з аналагічнага сплаву. На іншы метал ён не рэагуе. Космас занадта жорсткі, каб дапускаць выпадковасці, якія могуць усё разбурыць!.. Перш за ўсё мы праверылі дзяжурную часць: усе ключы засталіся на месцы. Не забывайце пра запас кіслароду, спадар інспектар! Балоны на строгім уліку і выдаюцца толькі пад канкрэтныя задачы.

— Балоны стандартныя?

— Так, на дваццаць чатыры гадзіны. Каб выжыць па-за сценамі калоніі дзесяць дзён, неабходна загрузіць балонамі цэлы ўсюдыход, нават улічваючы аварыйны запас у машыне. Неабгрунтаваны выезд усюдыхода строга забаронены. Дый не застанецца такое незаўважаным. Гэта ж не іголка ў стозе сена!.. А як схаваць габарытную шматтонную машыну ад даследчых дронаў? Бачаць яны на дзясяткі кіламетраў!

— Скажыце, спадар Шаверда, у Багушэўскага былі ворагі?

— Інакш кажучы, ці маглі яго забіць? — рушыў услед ківок Сарвы. — Багушэўскага ўсе паважалі.

— Павага не дае гарантыі даўгалецця. Ведалі б вы, спадар Шаверда, на што ідуць некаторыя праз банальную зайздрасць!

— Універсальны ключ ёсць толькі ў Кайшы! У староння га скарыстацца ім не атрымаецца — кантэйнер адкрываецца толькі пасля аналізу ДНК.

— Кроў?

— Так, прычым трайны аналіз з рознымі прамежкамі. Згусцелая кроў не падыдзе.

— Штучны ці натуральны растваральнік?

— Аналізатар настроены так, што выяўляе нават мільённыя долі працэнта чужога рэчыва.

— Багушэўскі мог адкрыць бокс знаёмаму.

— Кожнае адкрыццё бокса фіксуецца. З дзесяці гадзін чатырнаццаці хвілін пятага верасня да васьмі гадзін шасці хвілін шостага верасня дзверы ў трэці лабараторны бокс не адчыняліся.

— Што можаце сказаць наконт вентыляцыі?

— Разумею, куды вы гняце, спадар інспектар, аднак вымушаны вас расчараваць: пралезці па трубах не па сіле нават двухгадоваму дзіцяці. Да таго ж, яны ўсе за кратамі. Загартаваны метал на доўгіх металічных анкерах.

— Надзейна.

— Яшчэ як. Мы спрабавалі выдраць краты ўтрох. Нічога не атрымалася. Няма чаго і думаць пра тое, каб выцягнуць цела праз лабараторыю: калонія ў нас невялікая. Усё навідавоку.

На Марс апусцілася сапраўдная ноч.

— Ад цела можна пазбавіцца і ў самым боксе! Тыпавы інструментарый дазваляе не толькі раздзяліць труп, але і замесці сляды.

— Вы пра кіслату і печы, спадар інспектар?.. Мы праверылі — запасы кіслотаў некранутыя, печ не запальвалі. Бокс чысты!.. Вось мы і прыехалі!

Пра сябе Сарва абазваў калонію напаўраздушанай вінаграднай гронкай. Вецер валіў з ног — да знешніх створак дайшлі, трымаючыся за нацягнуты металічны трос. Для таго, каб адчыніць створкі, спатрэбіліся намаганні трох астранаўтаў.

— Вось вам яшчэ адзін аргумент на карысць таго, што Багушэўскі не мог сысці сам, спадар інспектар!

— Боксы забяспечаныя відэакамерамі?.. Што паказаў відэазапіс? — астранаўты па чарзе станавіліся пад іанізацыйны душ.

— Запіс не вёўся.

— Як? — асалапеў Сарва. — Гэта ж парушэнне інструкцый!

— Тэхніка можа ламацца, спадар інспектар. Прычым здараецца гэта, як правіла, у самы нязручны час!.. Скафандр можна павесіць сюды.

— А мог Багушэўскі здзейсніць самагубства? — працягнуў допыт Сарва, калі за астранаўтамі зачыніліся ўнутраныя створкі.

— Падстаў у Віжкгаіла не было.

— Вы ў гэтым упэўнены?

— Нам сюды!.. Ці ўпэўнены я? На сто працэнтаў. У невялікім калектыве, у замкнёнай прасторы захаваць таямніцу вельмі складана. Я б нават сказаў, немагчыма. А аптымізму Багушэўскага можна было пазайздросціць. Шчаслівы ў шлюбе, шмат сяброў, праз паўгода павінен быў атрымаць ступень доктара навук. Якое ўжо тут самагубства?

— Чалавечая душа — цёмны лес!

— Толькі не душа Віжкгаіла. Ён быў у нас другім няштатным псіхааналітыкам. Скажу вам па сакрэце, спадар інспектар, звярталіся да яго часцей, чым да Яцына.

— Містыка нейкая! Ёсць чалавек. І няма яго...

Варта было трапіць у зону дзеяння фотаэлемента, як адразу запальваліся лямпы, разганяючы паўзмрок дзяжурнага асвятлення.

Калідор скончыўся шэрагам дзвярэй, кожную з якіх пранумаравалі з дапамогай трафарэта і люмінесцэнтнай фарбы.

— Ваша жылая ячэйка, спадар інспектар! — памяшканне аказалася невялікім, але вельмі камфортным. — Ваш ключ!.. Пачакаеце абед ці паклапаціцца, каб ежу вам прынеслі?

— Патрываю! Калі вы не супраць, я хацеў бы агледзець бокс і пагаварыць з людзьмі!

— Якія могуць быць пярэчанні? Мы ж і выклікалі паліцэйскага інспектара менавіта дзеля таго, каб высветліць, што ўсё ж такі здарылася.

З сабой Сарва захапіў толькі чамаданчык з інструментамі і ноўтбук.

— Калі ласка, за мной!

Ісці давялося нядоўга.

— Адну хвіліну! — Сарва спыніў Шаверду, які збіраўся скарыстацца ключом. — Я павінен агледзець дзверы — der Teufel steckt im Detail! Адказ трэба шукаць у дробязях!

— Калі ласка!

Сарва паставіў чамаданчык на падлогу, пасля чаго выцягнуў з несэсэра магутную лупу і пачаў міліметр за міліметрам абследаваць шчыліну і замок.

— Можаце адчыняць!.. А вас я папрашу застацца за парогам!.. Тут нешта кранялі?

— Усё засталося так, як было паўтара тыдня таму... Гэта паліграф?

— Часам даводзіцца правяраць людзей на сумленнасць.

— І нас будзеце? — ні ценю страху ў вачах.

— Калі спатрэбіцца.

— Больш за шэсцьсот чалавек!

— Затое не трэба будзе думаць пра тое, чым заняць час да прылёту «Адысея»!.. Тут на здзіўленне чыста! — рэзюмаваў Сарва пасля таго, як некалькі хвілін лазіў на каленях па падлозе. — Проста стэрыльная чысціня.

Калі скончыў аглядаць падлогу, Сарва падсунуў крэсла да сцяны і з нагамі залез на яго.

— Краты вентыляцыі не кранялі... Калі ласка, спадар Шаверда, падайце адвёртку!.. Супадзенне ці?.. — неўзабаве відэакамера ляжала на стале. Сарва спрытна адкрыў яе і адразу выявіў згарэлы провад. — На першы погляд, усё натуральна...

— Можаце не праступкваць сцены — схаваных пустак у іх няма.

— А што пад намі?

— Калонія аднапавярховая, спадар інспектар. Ніякіх лакун!

— Справа становіцца вельмі цікавай!.. Гэта і ёсць той самы «даволі незвычайны кавалак пароды»? — Сарва схіліўся над кюветай. — Чаго ж у ім незвычайнага?

— Асноўны складнік грунту Марса — гэта крэменязём з высокай колькасцю шчолачаў, соляў магнію, натрыю і калію. Тут ёсць неабходныя элементы для ўзнікнення і падтрымання жыцця — як у мінулым, так і ў сучаснасці і будучыні... А гэты кавалак паводле свайго мінеральнага складу не мае нічога агульнага з марсіянскімі глебамі. Ён не проста чужародны, а кардынальна іншы!

— Кавалак мог трапіць на Марс разам з людзьмі, — пад лупай узор выглядаў як звычайны камень. — На Зямлі такіх мільярды!

— Калі толькі гэтыя людзі прыляцелі на Марс мільён гадоў таму, спадар інспектар! Уся справа ў тым, што ўзор быў выняты з глыбіні ў некалькі дзясяткаў метраў.

— А ён не можа быць абломкам метэарыта?

— Юхноўскі не знайшоў нічога, што пацвярджала б гэтую гіпотэзу.

— Зразумела, — яшчэ некаторы час Сарва разглядаў кавалак пароды, пасля чаго пераключыўся на працоўнае месца Багушэўскага. — Сляды барацьбы адсутнічаюць... Скажыце, спадар Шаверда, кубак Петры перакулілі ўжо пасля знікнення геолага?

— Па шчырасці, гэтага я не памятаю. Напэўна, пасля. Хаця...

— Кубак не прамаркіраваны. Не скажаце, што ў ім магло быць?

— У такія мы звычайна наліваем дыстыляваную ваду, — Шаверда кіўком паказаў на літровую бутэльку на ніжняй паліцы стала.

— А вось гэта ўжо цікава! — Сарва выняў з чамаданчыка ліхтар на эластычнай стужцы і начапіў яго на лоб, пасля чаго схіліўся над краем папяровага ліста з разлікамі, які тырчаў з папкі. — Скарыстаемся ультрафіялетам!.. Падобна на тое, што ў кубак сапраўды налівалі дыстыляваную ваду.

— Гэта мае нейкае значэнне?

— Пакуль не ведаю... Дзе мой газавы храматограф? — Шаверда з цікавасцю глядзеў на маніпуляцыі Сарвы. — Хм, сапраўды вада.

Здавалася, інспектар быў збянтэжаны.

— Што з гэтага вынікае?.. Кубак выпадкова перакулілі. Вада разлілася, кроплі трапілі на паперу. Што ж потым?

Сарва апусціўся на крэсла і паглыбіўся ў разважанні. Шаверда моўчкі чакаў. Паўза зацягнулася на чвэрць гадзіны.

— А калі ніякай сувязі няма?.. Ёсць толькі адзін спосаб праверкі — эмпірычны!.. Спадар Шаверда, мне патрэбная тэлескапічная штанга, пажадана як мага даўжэйшая!

— Трохметровай даўжыні хопіць?

— Так! — пакуль Шаверда адсутнічаў, Сарва набраў у чысты кубак Петры вады з бутэлькі. — Дзякую!.. А цяпер давайце станем за шчыт!

Тоўстая празрыстая сцяна не толькі дазваляла ўсё цудоўна бачыць, але і надзейна абараняла.

— Капнем на ўзор!

Варта было адзінокай кроплі ўпасці на кавалак пароды, як з тым адбылася імклівая метамарфоза.

— Д'ябал! — у руках Сарвы застаўся толькі варты жалю абломак штангі. Усё астатняе знікла без следу. Сфера зноў стала каменем. — Дазвольце пазнаёміць вас з забойцам Багушэўскага, спадар Шаверда!

## Забойства на горназдабываючым камбінаце № 3

Новае паведамленне прыйшло ў той момант, калі на інфармацыйным табло з'явіўся бягучы радок, які паведамляў пра пачатак пасадкі на рэйс «Месяц—Венера». Ратаўт Сарва, падхапіўшы свае рэчы, выцягнуў камунікатар і дакрануўся да піктаграмы на сэнсарным экране.

— Адпраўляйцеся на трэці горназдабываючы камбінат і высветліце абставіны гібелі інжынера Твірбута Сімагі.

Унізе стаяў подпіс камісара Айнбунда, начальніка Дэпартамента. Да паведамлення быў прымацаваны файл.

Сарва прабег позіркам па скупых радках справаздачы дырэктара камбіната, пасля чаго рушыў да касы, каб здаць квіток. Да новага загада інспектар паставіўся па-філасофску: за доўгія гады службы ў паліцыі ён паспеў прывыкнуць да рэзкай змены абставін. Праз гэта, праўда, даводзілася ахвяраваць асабістым жыццём. Але на што не пойдзеш дзеля любімага занятку?

Як толькі квіток быў ануляваны, Сарва накіраваўся на стаянку, дзе ўзяў усюдыход. Па зямных мерках, цэны «кусаліся». Цешыла тое, што плаціць за паездку будзе Дэпартамент. Для таго, каб пакінуць ахоўны купал, давялося апрануць скафандр.

— Прышпіліцеся! Праз чатыры гадзіны будзем на месцы! — шлях меўся быць няблізкім: касмадром і камбінат падзяляла амаль сто кіламетраў. З прычыны адсутнасці атмасферы на Месяцы перамяшчэнне пасажыраў і грузаў ажыццяўлялася выключна па паверхні. Выкарыстоўваць лятальныя апараты было прызнана немэтазгодным: спажыванне паліва на адзінку масы карыснага грузу аказалася занадта вялікім.

Дарогі не існавала, і кіроўца вёў усюдыход, аб'язджаючы ўдарныя кратары і буйныя кавалкі рэгаліту. Вакол, як кінуць вокам, ляжала пазбаўленая жыцця раўніна. Пануры шэры колер не маглі разбавіць нават яркія кубы і паўсферы жылых паселішчаў і навукова-даследчых станцый.

Расследаванне з'яўлялася чыстай фармальнасцю: забойца Сімагі быў затрыманы і пад вартай чакаў адпраўкі на Зямлю. Але без афіцыйнага засведчання зрабіць гэта не ўяўлялася магчымым.

З часу першага наведвання тут прыкметна пабольшала паселішчаў — каланізацыя ішла на ўсю моц. Час ад часу сустракаліся велізарныя грузавікі, якія сваімі абрысамі нагадвалі Scarabaeus sacer. Для паўнаты асацыяцыі не хапала толькі шароў з гною.

Пажылы кіроўца трапіўся негаваркі, за што Сарва быў яму ўдзячны: пасля пералёту з Венеры хацелася крыху адпачыць і сабрацца з думкамі. У інспектара нават атрымалася задрамаць.

Заліты агнём ліхтароў камбінат быў бачны здалёк і ўражваў сваімі памерамі — з горад сярэдняй велічыні. Праблема здабычы гелія-3 усё яшчэ заставалася нявырашанай: каб атрымаць тону ізатопу, даводзілася перапрацоўваць да ста мільёнаў тон грунту. Малая сіла прыцягнення дазваляла прамысловым блокам узвышацца на дзясяткі метраў. Адвалы ўтваралі сапраўдную горную граду. На некаторай адлегласці ад іх былі размешчаны батарэі рэйкатронаў, якія прызначаліся для абароны ад метэарытаў.

На стаянцы Сарву сустрэлі.

— Інспектар?.. Добры дзень! Мяне завуць Барсоба Дзерах. Я — галоўны інжынер і па сумяшчальніцтве — намеснік дырэктара. Трушэнка даручыў мне ўвесці вас у курс справы. З чаго пачнём?

— Я хацеў бы агледзець месца злачынства.

— Калі ласка, за мной!

Вакуум глушыў гукі. Магутнасць камбіната выдавала вібрацыя грунту.

— Забойства адбылося ўчора, у першай палове дня, — пачаў галоўны інжынер, як толькі скончылася шлюзаванне, — аднак труп знайшлі толькі на перазменцы: а восьмай гадзіне вечара... Рэчы можаце пакінуць тут!

У шлюзавай камеры стаяла некалькі шафаў са змешчанымі за металічнай сеткай ячэйкамі рознага памеру.

— Я так разумею, агляд цела Сімагі рабіў дзяжурны медык? — Сарва таксама зняў шлем. Па вушах адразу ж ударыў цяжкі металічны гул.

— Менавіта так, спадар інспектар. Смерць інжынера наступіла ў выніку глыбокага нажавога ранення ў ніз шыі, якое выклікала разрыў трахеі, гартані артэрыі і вялікую страту крыві. Удар быў нанесены ззаду, пад вуглом прыкладна сарака градусаў.

— Што можа сведчыць на карысць таго, што Сімага добра ведаў забойцу... А як атрымалася, што інжынера хапіліся толькі праз некалькі гадзін? — інспектар узяў з сабой чамаданчык з інструментамі, без якіх не абыходзілася ніводнае расследаванне.

— Карпарацыя не заахвочвае асабістыя кантакты паміж супрацоўнікамі ў рабочы час, спадар інспектар. Да таго ж, модуль кантролю цалкам аўтаматызаваны — аператар неабходны больш для падстрахоўкі камп'ютарных сістэм.

— Сімага працаваў у модулі адзін? — Сарва заносіў інфармацыю ў планшэтны персанальны камп'ютар.

— Так.

— Модуль замыкаецца знутры?

— Разумею, куды вы хіліце, спадар інспектар. Сімага меў харошую рэпутацыю, і адчыніць дзверы чужому мог толькі ў тым выпадку, калі гэтага патрабавала выкананне працоўных абавязкаў!.. Трэба апрануць камбінезон, спадар інспектар, месяцавы пыл усюдыісны! — камбінезонам аказаўся камплект з празрыстага палімернага матэрыялу, лёгкага і надзвычай моцнага. — І рэспіратар!.. Можаце не хвалявацца, спадар інспектар, усё аднаразовае і пасля выкарыстання адпраўляецца ў печ.

Шапачка шчыльна пакрывала галаву, пакідаючы адкрытым толькі твар.

Інспектар злавіў сябе на тым, што камбінезон забяспечвае выдатную абарону не толькі ад пылу, але і ад крыві. А яшчэ падумаў пра тое, як лёгка падмануць людзей, карыстаючыся службовым становішчам.

— Відэаназіранне што-небудзь паказала?

— Відэакамер ні ў модулі, ні ў калідоры, які да яго прымыкае, няма.

— Як? — адразу ўспомнілася некалькі відэакамер, пад якімі прайшлі Сарва і Дзерах.

— Іх там ніколі і не было.

— Прыкры недагляд! — на лічбавы запіс інспектар асабліва не разлічваў: што можа быць лягчэй, чым унесці карэктывы ў камп'ютар?

— Зменшчык заблакаваў дзверы сваім ключом і адразу ж падняў трывогу. Служба бяспекі прыбыла на месца праз тры хвіліны! — у голасе Дзераха прагучаў гонар. — Кімент Фрузін адразу ж трапіў пад падазрэнне: напярэдадні паміж ім і Сімагам адбылася буйная сварка, у якой тэхнік пагражаў інжынеру забойствам.

— А вось з гэтага месца папрашу больш падрабязнасцяў!

— Распавядаць тут асабліва няма чаго: Фрузін вельмі моцна пакрыўдзіўся на Сімагу праз тое, што той спакусіў яго жонку. Ужо не ведаю, наколькі там усё было сур'ёзна, аднак сябрамі пасля гэтага яны быць перасталі. Сведак — амаль палова камбіната.

— Тэхнік звяртаўся па дапамогу да псіхатэрапеўта? — без праваднікa Сарва даўно б заблытаўся ў сапраўдным лабірынце лесвіц і калідораў.

— Фрузін з той катэгорыі людзей, якія ніколі не выстаўляюць свае пачуцці напаказ.

— Гэта не перашкодзіла яму зладзіць скандал на вачах ва ўсіх!

— Нервовы зрыў, няйначай! Што я яшчэ магу адказаць, спадар інспектар?.. Трэба аддаць Фрузіну належнае — ён хутка прыйшоў у норму. Ужо на наступны дзень пачаў выконваць службовыя абавязкі.

— Затаіўся, каб нанесці ўдар... Нож застаўся ў ране або яго забралі?

— Нож выпадкова знайшоў сярод адвалаў адзін з кіроўцаў рудавозаў. Мяркуючы па ўсім, Фрузін спадзяваўся на тое, што перапрацаваны грунт дазволіць яму схаваць сляды злачынства.

— Павінен прызнаць — не самы лепшы спосаб пазбавіцца ад доказаў!.. А што дало вам падставы зрабіць выснову аб тым, быццам нож належаў менавіта Фрузіну?

— Іншага такога не знайсці: Целяшкевічус, які робіць іх на заказ, ніколі не паўтараецца. У мяне самога ёсць нож, выраблены слесарам. Практычная і прыгожая, скажу я вам, рэч!.. Мы прыйшлі.

Для таго, каб трапіць у модуль, Дзераху і Сарву давялося абмінуць масіўныя дзверы, над якімі быў выведзены пад трафарэт надпіс «Сектар ІІІ-В».

— І многія маюць допуск? — пацікавіўся інспектар пасля таго, як галоўны інжынер скарыстаўся электронным пропускам.

— Дзяжурная змена, начальнік сектара, служба бяспекі і наместнік дырэктара — гэта значыць я.

— Колькі людзей у дзяжурнай змене? — Сарва вырашыў не ўваходзіць у модуль, адкрыў чамаданчык, выцягнуў з несэсэра вялікую лупу і пачаў старанна аглядаць дзверы. Асаблівую ўвагу інспектар удзяліў замку.

— Трое: аператар модуля кантролю, інжынер-тэхнолаг і інжынер-энергетык... Што вы шукаеце, спадар інспектар?

— Der Teufel steckt im Detail! Д'ябал хаваецца ў дэталях!.. Я павінен пераканацца ў тым, што ўсё адбылося менавіта так, як напісана ў справаздачы. Аператарам быў Сімага, тэхнолагам — Фрузін, а энергетык хто?.. У справаздачы пра гэта не сказана ні слова! — так і не знайшоўшы нічога падазронага, Сарва дазволіў Дзераху адчыніць дзверы.

— Інга Цілі. Аднак яна мае жалезнае алібі: першую палову дня яна займалася праверкай трансфарматараў у цэхах, суседніх з III-B сектарам. Яе бачылі дзясяткі чалавек.

— А што наконт іншых?.. Ці мог нехта яшчэ, акрамя Фрузіна, пракрасціся ў модуль?.. О, Божухна! Сапраўдная бойня!

Апаратуру, сцены, падлогу і нават столь пакрывалі шматлікія бурыя плямы.

— Гройц і я прысутнічалі на нарадзе ў Трушэнкі, — Дзерах быў белы як палатно. Толькі сіла волі прымушала яго заставацца ў памяшканні. — Ніхто з супрацоўнікаў службы бяспекі, якія дзяжурылі ў той дзень, у сектары не з'яўляўся. Яны праводзілі вучэнні.

— У мітусні маглі і не заўважыць, што пропуск згубіўся, — Сарва парадаваўся таму, што на ім камбінезон. Не хацелася поўзаць па крыві на каленях. Пасля такога касцюм дакладна давядзецца аддаваць у хімчыстку.

— Выключана! Пропуск знаходзіцца ў дзяжурнага афіцэра і выдаецца толькі пасля дазволу начальнікам службы бяспекі.

— Наколькі цяжка скапіраваць пропуск? — інспектар нацягнуў хірургічныя пальчаткі, зноў узброіўся лупай і апусціўся на карачкі. Слабымі моташлівымі прыступамі нагадала пра сябе гідлівасць.

— Чатыры ступені абароны і змена лічбалітарнага кода доступу праз кожныя дзве гадзіны.

— Сто дваццаць хвілін — вельмі вялікі тэрмін! — Сарва пачаў рухацца па спіралі. Для таго, каб нічога не прапусціць, ён папрасіў Дзераха ўключыць асвятленне. Лямпы далі яркае святло.

— У адзіночку пропускам дазволена карыстацца толькі мне і начальніку сектара.

— А як жа надзвычайныя сітуацыі? — падлогу пакрываў тонкі слой пылу: пасля забойства ніхто ўнутр не заходзіў.

— На шчасце, такіх не здаралася.

Сарва адмовіўся ад развіцця тэмы — аніводная камп'ютарная праграма не магла пахваліцца абсалютна надзейнай абаронай ад узлому.

— Як там Фрузін? Не рабіў яшчэ чыстасардэчнага прызнання?

— Поўная апатыя.

Хоць гэта быў не самы прыемны занятак, аднак інспектар міліметр за міліметрам абследаваў падлогу. Стараннасць была ўзнагароджаная — праз чвэрць гадзіны Сарва выдаў пераможны вокліч і падняў пінцэтам волас.

— Ныркападобны фалікул... дамінантная колькасць феамеланіну... кутыкула не пашкоджаная... Скажыце, спадар Дзерах, у Цілі густая кучма кучаравых валасоў рудога колеру? — знаходка патрапіла ў пакет.

— А як вы здагадаліся? — не мог схаваць свайго здзіўлення галоўны інжынер.

— Па воласе... Як часта праводзіцца ўборка модуля?

— Два разы на суткі: а дзясятай нуль-нуль і васямнаццатай трыццаць.

— Значыць, Цілі ўсё ж такі заходзіла ў модуль, — Сарва схаваў пакет у чамаданшчык з намерам крыху пазней вывучыць волас з дапамогай электроннага мікраскопа.

— Пабойцеся Бога, спадар інспектар! — адмахнуўся Дзерах. — Сімага мог прынесці волас на вопратцы! З Цілі яны былі сябрамі.

— Вось як?.. Гэта многае тлумачыць!.. — больш не кажучы ні слова, інспектар зноў узяўся за агляд. Прыкладна праз гадзіну высветлілася, што іншых знаходак не прадбачыцца. За падлогай прыйшла чарга апаратуры і сцен. Аднак гэта нічога не дало.

— Мабыць, варта зірнуць на цела. Дзе вы яго захоўваеце?

— У дзявятым прамысловым халадзільніку! — пасвятлеў тварам галоўны інжынер. Яму відавочна не цярпелася хутчэй пакінуць модуль. — Тут недалёка!

— Я толькі змыю кроў з каленяў! — інспектар наблізіўся да рукамыйніка і ўзяў з яго губку. У наступны момант рука Сарвы застыла перад змяшальнікам. — А гэта яшчэ што такое?

Губка паляцела на падлогу, а ў руцэ інспектара зноў апынулася лупа. Сарва схіліўся над рукамыйнікам. Некалькі хвілін прайшло ў поўнай цішыні.

— Нейкае арганічнае рэчыва... — пакапаўшыся ў чамаданчыку, інспектар выцягнуў прыбор, у якім галоўны інжынер пазнаў апошнюю мадэль газавага храматографа. Сілікагелевы аловак не пакінуў на кафлі слядоў.

Вынік выклікаў у інспектара рэзкае ажыўленне.

— Грыбны міцэлій!.. Скажыце, спадар Дзерах, на камбінаце ёсць 3D-прынтар?

— Безумоўна. І не адзін!

— А дзе нож Фрузіна? — бачачы стан інспектара, галоўны інжынер палічыў, што яшчэ не час задаваць якія-небудзь пытанні.

Варта было Сарву атрымаць нож у сваё распараджэнне, як ён неадкладна апрацаваў клінок гідрафільным сарбентам.

— Ніводнага атама крыві!.. Вядзіце мяне да цела! Хутчэй!

Нябожчыка пакрываў тоўсты слой інею, што надавала яму выгляд прыцярушанага снегам бервяна. Інспектар абмацаў рану і ўнёс даныя ў свой камп’ютар, пасля чаго на працягу некалькіх хвілін працаваў з прыборам.

— Цілі сярэдняга росту?.. І ў свой час займалася лёгкай атлетыкай?

— Так... Вы што, знаёмыя?

— Звяжыцеся са службай бяспекі — мне спатрэбіцца іх дапамога.

— Дапамога ў чым? — Дзерах перастаў разумець інспектара.

— У затрыманні забойцы Сімагі!

Галоўнаму інжынеру спатрэбіўся час, каб усвядоміць сказанае.

— Вы лічыце...

— Усе тлумачэнні потым! Не будзем губляць часу — Цілі можа збегчы!

Супрацоўнікі службы бяспекі чакалі Сарву і Дзераха ў сектары жылых ячэек.

— Усе ўваходы і выхады перакрытыя! — падначаленыя пажылога асілка былі ўзброеныя пісталетамі. Зусім не лішняя засцярога, калі маеш справу з жорсткім забойцам.

— За мной!

З дзвярыма вырашылі не цырымоніцца — проста выбілі іх.

— Што адбываецца? — Цілі прыўзнялася на ложку, імкнучыся не рабіць рэзкіх рухаў.

— Я арыштоўваю вас на падставе абвінавачвання ў забойстве Твірбута Сімагі, спадарыня Цілі!

— Як вы здагадаліся? — зарыпела зубамі інжынер-энергетык.

— Для поўнага растварэння пакрытага цэлюлознай біяплёнкай грыбнога міцэлію трэба шмат вады. Вас падвяло веданне хіміі.

— Спадар інспектар, ці не прыйшоў час даць тлумачэнні?

— Усё вельмі проста: Цілі зняла копію з нажа Фрузіна і раздрукавала яе на 3D-прынтары. На падставе праверкі электрычных ланцугоў яна пракралася ў модуль кантролю, дзе і забіла Сімагу, папярэдне падкінуўшы нож у адвалы. Так, спадарыня Цілі?.. Маўчыце, значыць я маю рацыю!.. Вам варта было апусціць біялагічную копію ў праточную ваду, а не пакідаць яе пад цуркам водаправоднага крана, які выдае лімітаваныя порцыі… Чаму вы не нанеслі хаця б кроплю крыві на нож Фрузіна? Гэта адцягнула б увагу паліцыі. А волас?.. З вашага боку было вельмі неабачліва не схаваць валасы пад шапачку ці не абстрыгчы іх. Думаю, шукаць камбінезон няма патрэбы — ён даўно згарэў у печцы... Адно толькі мне незразумела. Які быў матыў?

— Занадта асабістае. Я захаваю гэта пад сакрэтам!

## Арыя сірэны

— Забойца інжынера Твірбута Сімагі інжынер-энергетык Інга Цілі затрыманая. Інжынер-тэхнолаг Кімент Фрузін вызвалены з-пад варты і перададзены пад назіранне штатнага медыка горназдабываючага камбіната нумар тры доктара медыцынскіх навук Салкірда Юхно. На гэтым лічу справу закрытай!

— Выдатная работа, інспектар! — пасля нядоўгай паўзы, выкліканай запазненнем радыёсігналу, сказаў камісар Дэпартамента Ейнар Айнбунд. — Вяртайцеся на касмадром і бліжэйшым рэйсам адпраўляйцеся на Венеру.

— Зразумеў вас! — Ратаўт Сарва дакрануўся да піктаграмы завяршэння размовы і прыбраў камунікатар. Падхапіўшы чамаданчык з інструментамі, інспектар рушыў да шлюзавай камеры, дзе забраў рэчы і апрануў скафандр. Усюдыход, які даставіў Сарву на трэці горназдабываючы камбінат, чакаў інспектара на абочыне — грузавікі рухаліся суцэльным патокам.

— Да «Новых гарызонтаў»? — удакладніў кіроўца.

Сарва кіўнуў, аддаючы належнае фантазіі месяцавых каланістаў. Бліжэйшы рэйс да Венеры быў праз дваццаць восем гадзін, так што інспектар яшчэ паспяваў на канферэнцыю. Да плюсоў кіроўцы прыбавілася і адсутнасць цікаўнасці — ён больш не задаваў аніякіх пытанняў. А вось Сарву шмат пра што хацелася спытаць Цілі.

Інспектар лёгка пазнаваў дарогу: месяцавы пыл выдатна захоўваў сляды колаў, паколькі складаўся з ідэальных для зліпання драбнюткіх часціц з вострымі гранямі. Здробненыя метэарытамі кварц і жалеза ўяўлялі сабой сур'ёзную праблему для абсталявання, тэхнікі і людзей. У якасці абароны колаў выкарыстоўвалася звышмоцная самааднаўляльная палімерная плёнка.

Сарва пачаў пісаць справаздачу. Зробленыя падчас расследавання паметы ў камп'ютары значна палегчылі працу і дазволілі сэканоміць час. Інспектар адчуваў незадавальненне: аб прычынах, якія штурхнулі Цілі на злачынства, заставалася толькі здагадвацца.

Прыкладна на палове шляху з рухальнага адсека сталі даносіцца глухія ўдары, пасля чаго ўсюдыход пачаў імкліва губляць хуткасць, пакуль зусім не спыніўся.

— Што здарылася? — спытаў Сарва.

— Зараз гляну! — кіроўца вылез вонкі. Пошук непаладкі заняў каля трыццаці хвілін. Яшчэ столькі ж адабралі бясплённыя спробы самастойна яе ліквідаваць. — Чортаў пыл! Ніводзін фільтр не дапамагае!.. Давядзецца выклікаць дапамогу.

Самае блізкае паселішча — «зародак» фабрыкі па ажыццяўленні фазавага пераходу гелія-3 у звышцякучы стан — размяшчалася за дваццаць шэсць кіламетраў ад месца паломкі. Месяц дыктаваў свае ўмовы: адсутнасць іанасферы, ад якой адбіваліся б радыёхвалі, дазваляла ажыццяўляць радыёсувязь толькі ў межах непасрэднай бачнасці. Для паўнавартаснага кантакту выкарыстоўвалася сотавая сувязь: сетка базавых станцый і спадарожнікі-рэтранслятары на селенацэнтрычнай арбіце.

Перасоўная аварыйна-рамонтная майстэрня прыбыла праз гадзіну, аднак паправіць рухавік усюдыхода самастойна каланісты былі не ў стане. Перад Сарвам паўстала дылема: буксіроўка на жорсткай счэпцы або выклік іншага ўсюдыхода. Аптымальным з'яўляўся другі варыянт, але гэта азначала дадатковыя выдаткі. Фінансаваму аддзелу Дэпартамента такое відавочна не спадабаецца.

— Колькі часу зойме рамонт?

— Гадзін восем. Наўрад ці больш! — запэўніў брыгадзір.

— У такім выпадку не будзем губляць час, спадарства! — Сарва вярнуўся ва ўсюдыход, і калона рушыла.

Работы пачаліся з размахам: будаўнікі выкарыстоўвалі ў якасці катлавана ўдарны кратар дыяметрам каля кіламетра. На пляцоўцы, якая нагадвала лабірынт Мінатаўра, панавала дзелавая мітусня.

Цягач адбуксіраваў усюдыход у рамонтны цэх, дзе машынай заняліся механікі. Кіроўца застаўся ў ангары, а інспектар накіраваўся да адміністрацыйнага корпуса з тым, каб афарміць дакументы. Па старой звычцы Сарва захапіў чамаданчык, у якім трымаў інструменты, неабходныя для правядзення расследавання.

Дайсці да дванаццаціпавярховага будынка эксперыментальнай архітэктуры не ўдалося: інспектара перанялі супрацоўнікі службы бяспекі.

— Я — паліцэйскі! — Сарва прадэманстраваў значок Дэпартамента.

— Прабачце, спадар інспектар, але праход закрыты — афіцыйная дэлегацыя! Вам давядзецца аб'ехаць! — супрацоўнік махнуў у бок, процілеглы таму, адкуль з'явілася шматлікая дэпутацыя. Сярод аранжавых і белых скафандраў вылучаўся серабрысты.

— І каго сустракаеце, калі не сакрэт? — натоўп затрымліваў увагу на будаўнічых аб'ектах і таму рухаўся вельмі павольна.

— Іяшыту Фудзімоту, кіраўніка транснацыянальнай карпарацыі «Робатыкс», — адказаў афіцэр, не спыняючы круціць галавой у шлеме, шукаючы патэнцыйную пагрозу. Сарва кіўнуў і рушыў у абыход, але ўжо праз некалькі секунд быў вымушаны спыніцца: у натоўпе пачалося хваляванне, якое прымусіла ахову адвесці Фудзімоту.

— Медыка! — выбухнулі навушнікі інспектара нечым нямым крыкам.

Ланцужок супрацоўнікаў разарваўся, і ў Сарвы атрымалася пабачыць, што там робіцца. Каля паддона з будаўнічымі матэрыяламі ляжаў мужчына. Яго міміка казала пра тое, што яму была патрэбна неадкладная дапамога.

— Медыка! — крычалі ўжо некалькі чалавек.

Прафесійны погляд інспектара не выявіў ніякіх вонкавых пашкоджанняў — ані скафандра, ані сістэмы падтрымкі жыццядзейнасці. Нічога не казала і пра няшчасны выпадак.

— Што з вамі? — Сарва апусціўся над мужчынам, спрабуючы зразумець, чым можа яму дапамагчы да прыходу медыка.

— Жудасны гук! — з цяжкасцю вымавіў каланіст, а затым абмяк.

— Толькі не страчвайце прытомнасць! Дапамога зараз будзе! — інспектар слаба патрос мужчыну, аднак вочы той не расплюшчыў.

— Прапусціце, я — доктар! — побач з інспектарам бухнуўся каленямі ў пыл медык. — Адыдзіце ўсе! Неадкладна!

— Не перашкаджайце! — супрацоўнікі хутка вярнулі парадак. Сарву давялося зноў дэманстраваць значок.

Чаканне расцягнулася.

— Я нічым не магу яму дапамагчы, — збіраючы партатыўны дыягнастычны прыбор, падняўся медык, — вострая сардэчная недастатковасць!

— Дык яму толькі дваццаць чатыры гады было! — пачулася з натоўпу. — Ніколі на сэрца не скардзіўся!

Медык развёў рукамі, а інспектар нечакана для самога сябе павёў позіркам па-над галовамі каланістаў, не разумеючы, што ж хоча ўбачыць. Першым, што трапілася на вочы, была мачта асвятлення, якая дамінавала над пляцоўкай.

— Прафесійная дэфармацыя! — Сарва страсянуў галавой і падахвоціўся дапамагчы. Насілкі супрацоўнікі службы бяспекі змайстравалі з падручных матэрыялаў.

З прычыны паніжанай сілы прыцягнення нябожчык разам са скафандрам важыў не больш за трыццаць пяць кілаграмаў, так што чатыром мужчынам у росквіце сіл было няцяжка данесці цела да медыцынскага пункта.

Працэдура шлюзавання, якая звычайна доўжылася тры хвіліны, расцягнулася да шасці. Большую яе частку заняў іанізаваны душ. Мяркуючы па ўсім, медык скарыстаўся закрытым каналам сувязі: у прыёмным пакоі была падрыхтаваная медыцынская каталка.

— Пабочных асобаў прашу выйсці! — распарадзіўся медык, зняў скафандр і нацягнуў аднаразовы камбінезон з поліпрапілену, выробленага па тэхналогіі «спанбонд». Асістэнты пачалі распранаць нябожчыка.

— З вашага дазволу, я застануся! — медык нездаволена паглядзеў на значок, але пярэчыць не стаў. А вось апрануць камбінезон прымусіў.

— Усё адно давядзецца складаць справаздачу для паліцыі!

Цела даставілі ў празектарскую — любое буйное прамысловае прадпрыемства па-за Зямлёй валодала ўласнай спецыялізаванай секцыяй: за экспансію даводзілася плаціць крывёю.

Другі, больш дэталёвы агляд, пацвердзіў першапачатковы дыягназ — смерць з прычыны зніжэння скарачальнай здольнасці міякарда.

Медык вывеў на дысплэй медыцынскую карту.

— Пацыент Скірн Жымайла, дваццаць чатыры гады. Зваротаў з нагоды стану здароўя не зарэгістравана. Планавыя агляды паталогіі не выявілі. Ступень рызыкі ў сувязі з рабочай спецыяльнасцю — мінімальная.

— Гэта значыць, у Жымайлы не мелася ніякіх падставаў для таго, каб памерці ад інфаркту?

— Цалкам дакладна, спадар інспектар! Выпадак вельмі цікавы, яму наканавана трапіць у аналы медыцыны! — мяркуючы па бляску вачэй, медык бачыў сябе лаўрэатам якой-небудзь вядомай прэміі ў галіне медыцыны.

— Перад смерцю Жымайла згадваў жудасны гук. Што б гэта магло значыць?

— Слыхавыя галюцынацыі — адны з самых распаўсюджаных перад смерцю. Калі паслабляецца прыток кіслароду да тканін галаўнога мозгу, пачынаецца гіпаксія нервовых клетак, і як рэакцыя на яе — фантастычны перадсмяротны сон розуму... Вы цудоўна ведаеце, спадар інспектар, што для распаўсюджвання гуку трэба матэрыяльнае асяроддзе, якое падтрымлівае сінхронныя ваганні атамаў рэчыва адносна стану раўнавагі. У вакууме гук распаўсюджвацца не можа проста таму, што матэрыяльнага асяроддзя ў ім няма... Праблема можа быць і ў няспраўнасці навушнікаў — экранаванне не заўсёды добра гасіць сонечны вецер.

У словах медыка мелася рацыя, аднак нейкая падсвядомая стрэмка не давала Сарву спакою.

— Афармляйце дакументы! Я яшчэ зайду да вас! — ніякіх падстаў для правядзення расследавання не мелася, тым не менш, інспектар вырашыў не ігнараваць інтуіцыю. А яна працягвала нашэптваць: «Нешта тут не так!»

Перш за ўсё Сарва скрупулёзна агледзеў скафандр газавіка, надаў пры гэтым асаблівую ўвагу навушнікам. Яны былі спраўнымі.

Апрануўшы скафандр, інспектар пакінуў медыцынскі пункт і накіраваўся да месца здарэння. З прычыны адсутнасці якой-небудзь агароджы па перыметры пляцоўкі, Сарва зрабіў выснову, што служба бяспекі відавочна палічыла смяротны зыход натуральным.

Наяўнасць мноства слядоў выключала ўсякую магчымасць аднаўлення ходу падзей, але інспектар выдаткаваў больш за гадзіну на тое, каб абследаваць паверхню. Нічога, не лічачы пылу і дробных кавалкаў рэгаліту.

— Падобна на тое, што ніякага злачынства не было, — погляд Сарвы слізгануў па краі кратара і спыніўся на мачце асвятлення. Некаторы час інспектар моўчкі разглядаў, а затым рашуча накіраваўся да яе. — Дурное: ніхто не стане забіваць звычайнага газавіка. А вось кіраўніка карпарацыі...

Мозг Сарвы запрацаваў з падвоенай сілай.

Пад'ём заняў амаль дзве гадзіны: інспектар палічыў сваім абавязкам абследаваць кожную прыступку з дапамогай магутнай лупы. На іх былі заўважныя свежыя сляды: зусім нядаўна па лесвіцы падымаліся і апускаліся. Гэта магло нічога і не значыць.

— Der Teufel steckt im Detail! — нагадаў сабе Сарва.

Пломба на замку размеркавальнага шчыта была новай. Напэўна, яе памяняў манцёр па рамонце і абслугоўванні электраабсталявання. Пасля яго засталіся і свежыя драпіны на страховачнай агароджы.

— А вось гэта ўжо цікава! — інспектар скарыстаўся газавым храматографам для аналізу невялікага мазка. — П'езаэлектрык... Даволі нетыпова для манцёра!

Падказку варта было шукаць у службе бяспекі.

Знайсці штаб аказалася няпроста. У модулі знаходзіўся толькі дзяжурны афіцэр.

— Чым магу дапамагчы, спадар інспектар?

— Мне трэба атрымаць даведку аб вашым электратэхнічным персанале.

— Калі ласка! — супрацоўнік вывеў на дысплэй даныя: імёны, прозвішчы, пасады, змены, графікі, групы допуску.

— А цяпер пакажыце, дзе працавалі вось гэты, гэты і гэты чалавек раней!.. Хм... Не палічыце за назойлівасць — перакіньце інфармацыю на мой камп'ютар!.. Дзякуй!

Прадчуванні паступова набывалі яснасць. Інспектар адправіўся да службовых модуляў.

— Вам каго? — запытаўся майстар, як толькі завяршылася працэдура шлюзавання і Сарва трапіў унутр.

— Я хацеў бы бачыць Рымшу Каўрыгіна.

— Блок чатыры-цэ, спадар інспектар!.. Прама, направа і зноў прама.

Сарва падзякаваў майстру і пайшоў калідорам, шырыня якога дазваляла транспартаваць па ім габарытныя механізмы і грузы.

— Заходзьце! — даляцела з-за дзвярэй пасля таго, як інспектар пагрукаў.

— Добры дзень! Інспектар Дэпартамента пазазямных крымінальных расследаванняў Ратаўт Сарва! Я хацеў бы задаць вам некалькі пытанняў, спадар Каўрыгін!

У наступнае імгненне манцёр кінуўся да дзвярэй. Аднак спроба праўвацца пацярпела фіяска: інспектар быў напагатове. Прыём самба — і Каўрыгін расцягнуўся на падлозе з заламанымі за спінай рукамі.

Сарва зашчоўкнуў на запясцях манцёра фіксатары кайданкоў і падняўся, задумаўшыся пра тое, што магло справакаваць агрэсію. Пошукі былі нядоўгімі.

— Акустычная гармата... Але які ад яе сэнс у вакууме? — канструкцыя прылады аказалася незвычайнай: генератар гукавога пучка заканчваўся плексігласавай скрынкай, у якой знаходзіліся крышталі. Інспектар правёў па іх сілікагелевым алоўкам. — Дыгідрафасфат калію... Збіраліся забіць Фудзімоту?

— Я не разумею, пра што вы кажаце!

— Вы ж раней працавалі на «Электрычныя тэхналогіі», ці не так, спадар Каўрыгін?

— І што?

— «Электрычныя тэхналогіі» з'яўляюцца даччыным прадпрыемствам «Электроннай карпарацыі», якая канкурыруе з «Робатыкс». А фабрыка па ажыццяўленні фазавага пераходу гелію-тры ў звышцякучы стан — кавалак панадны: кантракты на дзясяткі, а то і сотні мільярдаў, перспектыва росту, прэстыж!.. Пасля смерці Іяшыты Фудзімоты ні пра які кантракт з «Робатыкс» не магло ісці і гаворкі.

— Я — звычайны манцёр! — агрэсіўны выкрык павінен быў адцягнуць увагу Сарвы. Але Каўрыгін пралічыўся — інспектар своечасова заўважыў маніпуляцыі з кайданкамі і паспеў выбіць канцылярскую сашчэпку.

— І дзе гэта «звычайны манцёр» навучыўся адкрываць кайданкі?.. Я падазраю, што цэлілі вы ў Фудзімоту, а патрапілі ў Жымайлу! Сумная выпадковасць — відэакамеры ўсё яшчэ прайграюць чалавечым вачам! Дый час праходжання сігналу...

— Вы блюзніце!

— Раю вам ва ўсім шчыра прызнацца, спадар Каўрыгін. Толькі так вы здолееце пазбегнуць найвышэйшай меры пакарання… На дапамогу «Электроннай карпарацыі» можаце не разлічваць — яны адмовяцца ад вас, ледзь да іх дойдзе навіна пра ваш арышт. Нават не сумнявайцеся!

Псеўдаманцёр варухнуў жаўлакамі і беспаспяхова паспрабаваў разарваць кайданкі.

— На кон пастаўлена ваша жыццё, спадар Каўрыгін! Калі вы шануеце яго... Пра помсту з боку заказчыка забойства можаце не хвалявацца — пагадзіўшыся на супрацоўніцтва са следствам, вы падпадаеце пад дзеянне праграмы па абароне сведак.

Унутраная барацьба працягвалася нядоўга:

— Яны называюць гэта «вакуумнае тунэляванне фанонаў». Акустычная гармата працуе за кошт узаемадзеяння паміж гукавымі хвалямі ў крышталі і электрычным полем. Ваганні крышталічнай рашоткі ствараюць на паверхні крышталя своеасаблівыя зменныя электрычныя палі, якія ўздзейнічаюць на сэрца і ў выніку змяняюць частату яго біцця... Смерць васьмідзесяцігадовага Фудзімоты ні ў каго не павінна была выклікаць падазрэнняў. А з прычыны таго, што спадчынніка ён не пакінуў, перад «Робатыкс» востра паўстала б праблема выбару новага кіраўніка карпарацыі. Прэтэндэнтаў на пасаду Фудзімоты набярэцца з добры тузін. І ніводзін з іх не пагадзіцца капітуляваць без бою...

## Молат Тора

На канферэнцыю Ратаўт Сарва ўсё ж такі паспеў: навукова-даследчаму судну «Ферэкід Сіроскі», які стартаваў з месяцавага касмадрома «Новыя гарызонты», спатрэбілася ўсяго восем гадзін руху ў гіперпрасторы для таго, каб дасягнуць Венеры. Аргкамітэт пайшоў інспектару насустрач і дазволіў выступіць, нягледзячы на парушэнне рэгламенту. Тэзісны даклад Сарвы выклікаў бурныя дэбаты.

Калі канферэнцыя скончылася, інспектар накіраваўся ў гасцінічны нумар, збіраючыся азнаёміцца з матэрыяламі, ласкава прадстаўленымі яму аргкамітэтам. Але планы на вечар былі парушаныя — нагадаў пра сябе камунікатар. З упэўненасцю ў тым, што прыйшло чарговае паведамленне ад камісара Айнбунда, Сарва дакрануўся да піктаграмы на сэнсарным экране.

— Хм... Кірстаўт Немер... Ратаўт, патрэбна твая дапамога. Прыязджай!.. І што такога ў яго магло здарыцца? — у бліжэйшай перспектыве новых расследаванняў не прадбачылася, так што інспектар мог правесці час з сябрам.

Універсітэцкі музей, у якім працаваў галоўным захавальнікам Немер, знаходзіўся ў суседняй калоніі, названай у гонар заснавальніка Ліліянтальскай абсерваторыі Іагана Іераніма Шротэра.

— Дзвесце пяцьдзясят адзін кіламетр. Падобна на тое, што мяне чакае цікавае падарожжа!

Ведаючы, што Немер ніколі не будзе разыгрываць яго і турбаваць па дробязях, Сарва сабраў рэчы і накіраваўся ў ангар. Дзякуючы шчасліваму збегу абставін, да «Іагана Іераніма Шротэра» адпраўлялася калона. Пасля непрацяглых перамоваў яе старшы даў згоду ўзяць інспектара ў якасці пасажыра.

Зямля Афрадыты — адзін з двух асноўных горных рэгіёнаў Венеры — уяўляла сабой практычна цалкам пакрытую застылай базальтавай лавай паверхню, якую ў многіх месцах перасякалі складкі, расколіны, каньёны і кальцавыя структуры. Усюдыходы рухаліся з чарапашай хуткасцю. На Венеры Сарва быў неаднойчы, таму яе краявіды цікавасці ў яго не выклікалі.

«Іаган Іеранім Шротэр» нічым не адрозніваўся ад тыпавой іншапланетнай калоніі — мінімальныя памеры і максімальны прагматызм.

Як толькі скончылася шлюзаванне, інспектар накіраваўся да таварыша, якога наведваў неаднойчы. Музей сустрэў Сарву дзелавой мітуснёй, і з рэплік служачых інспектар зразумеў, што фонды папоўніліся новымі экспанатамі, якія патрабавалі каталагізацыі.

Галоўнага захавальніка на месцы не аказалася.

— Не падкажаце, дзе мне знайсці Кірстаўта Немера?

— У шостай зале! — кінуў на хаду адзін з музейных работнікаў, нават не зірнуўшы на Сарву.

Зала № 6 была літаральна завалена кантэйнерамі розных памераў і колераў. Маркіроўка падказвала, што груз прыбыў з Нептуна, Урана, Меркурыя, Сатурна і Марса.

— Кірстаўт?

— Ратаўт! Рады цябе бачыць! — галоўны захавальнік абняў інспектара. — Дзякуй, што прыехаў! Нам не абысціся без тваіх прафесійных якасцяў!.. Два дні таму музей атрымаў з Нептуна бясцэнны артэфакт — «Молат Тора». Ты мог чуць пра яго — артэфакт знайшла археалагічная экспедыцыя прафесара Юлія Екеля тры з паловай месяцы таму падчас раскопак на паўднёвым полюсе ледзянога гіганта.

— Так, нешта такое прыгадваю! — кіўнуў Сарва.

— Спачатку Екель нават вырашыў, што гэта містыфікацыя: прафесар ніяк не чакаў, што сустрэне на Нептуне рэч, якая будзе мець ярка выражаны тэхнагенны характар... Чатырнаццаць дзён таму прафесар прыняў рашэнне асабіста перадаць «Молат Тора» Музею касмічнай экспансіі.

— Хіба артэфакт не ўяўляе навуковага інтарэсу? — здзівіўся інспектар.

— «Молат Тора» бясцэнны ўжо таму, што яго стварыла пазаземная цывілізацыя, якая стаіць на высокім узроўні тэхнічнага развіцця. Пра гэта сведчыць і склад сплаву... На жаль, прарыву ў тэхналогіі дзякуючы артэфакту не дасягнуць. У прынцыпе, «Молат Тора» — гэта ўсяго толькі па-майстэрску апрацаваная металічная даўбешка!.. Раскопкі на Нептуне скончыліся, таму разам з прафесарам Екелем на Венеру вяртаўся і ўвесь склад экспедыцыі. На выхадзе з гіперпрасторавага калідора адбылася аварыя, якая прывяла да гібелі археолагаў...

Сарва тактоўна чакаў працягу. Праз нейкі час Немер цяжка ўздыхнуў і вярнуўся да аповеду:

— Ад «Марка Тэрэнцыя Варона» засталіся толькі абломкі, а «Молат Тора» нейкім цудам ацалеў, — галоўны захавальнік адкрыў адзін з кантэйнераў.

— Гэта і ёсць той самы артэфакт? — кавалак металу дзіўна правільнай формы са слядамі ад агню ляжаў на падушцы з эластычнага пенаполіўрэтану.

— Так. Артэфакт назвалі «Молатам Тора» з прычыны таго, што ён падобны да Мьёльніра з саг старажытных германцаў і скандынаваў. Згодна з іх вераваннямі, молат для бога-грамабоя Тора быў выраблены цвергамі Брокам і Сіндры, калі яны спрачаліся з Локі пра майстэрства кавалёў. Кароткае дзяржальна — гэта вынік спробы Локі-ашуканца перашкодзіць вырабу молата... Згодна з афіцыйнай версіяй, выбух гіперпрывода адбыўся ў выніку таго, што гексафтарыд серы патрапіў у актыўную зону рэактара і актывацыя сістэмы аварыйнай абароны была запозненай... Няшчасны выпадак.

— Артэфакт на месцы. Расследаванне абставін аварыі праведзена... Кірстаўт, я не разумею, у дапамозе якога кшталту ты маеш патрэбу!

— Я падазраю, што «Молат Тора» — падробка!

— Дазволь пацікавіцца, якія падставы ў твайго перакanання? — інспектар прыняў словы галоўнага захавальніка з усёй сур'ёзнасцю.

— Наўрад ці я здолею рацыянальна ўсё аргументаваць, Ратаўт. Лічы гэта голасам падсвядомасці!

— Баюся, камісару Айнбунду для дазволу пачаць расследаванне аднаго толькі голасу падсвядомасці, хай і навукоўца з сусветным імем, будзе недастаткова. Вось калі б у мяне меліся падставы аспрэчыць заключэнне Камісіі...

— Я павінен звярнуцца з заявай?

— Такі парадак, Кірстаўт! Выключэнне складаюць выпадкі, калі злачынства адбылося на вачах дэтэктыва. Разгляд можа заняць пэўны час. Будзе лепш, калі я звярнуся да начальніка Дэпартамента асабіста! — Сарва дастаў камунікатар і адправіў паведамленне камісару. — Мне могуць спатрэбіцца ўсе матэрыялы, якія датычацца артэфакта.

— Даных мала: вялікая частка інфармацыі была страчаная падчас аварыі «Марка Тэрэнцыя Варона».

— Абсталяванне для сістэмнага аналізу ў музеі ёсць?

— Ва ўніверсітэцкіх лабараторыях маецца ўсё неабходнае. Цяпер — канікулы, так што перашкаджаць ніхто не будзе... Ты мне вельмі дапаможаш, Ратаўт! — Немер адчуў палёгку.

Інспектар акуратна выцягнуў «Молат Тора» і пачаў разглядаць яго з дапамогай вялікай лупы.

— Тонкая работа! Якасць выканання кажа пра тое, што артэфакт відавочна выраблены прамысловым спосабам... Вось і сляды ад формы! Агульны стан «Молата Тора» сведчыць пра тое, што ён на працягу доўгага часу знаходзіўся ва ўмовах агрэсіўнага асяроддзя, а затым быў пахаваны пад тоўстым слоем грунту.

— Артэфакт знайшлі выпадкова — адна са сцен шурфа абвалілася пасля таго, як непадалёк ад раскопак праехаў шматтонны ўсюдыход. «Молат Тора» быў пахаваны на глыбіні васьмі метраў.

— Значыцца, артэфакту больш за тысячу гадоў?.. Не такі ўжо ён і старажытны!

— Насамрэч нашмат старэйшы: прафесар Екель ацаніў яго ўзрост у тры мільёны гадоў!

— І за гэты час артэфакт не згубіў сваёй формы? Адна толькі эрозія, выкліканая надзвычай дынамічнай сістэмай штормаў, павінна была ператварыць «Молат Тора» ў пыл.

— Кансервацыі спрыяла высокая доля лёду на паверхні Нептуна. Нездарма ж планету адносяць да асобнай катэгорыі «ледзяных гігантаў».

Сарва працягваў агляд да таго часу, пакуль не прыйшло паведамленне ад Айнбунда.

— Дазвол атрыманы!.. Вядзі ў лабараторыю!

Па дарозе Немер пабываў у рэктараце, дзе заручыўся пісьмовай згодай рэктара.

Лабараторыя была абсталяваная самай сучаснай тэхнікай: мецэнаты і прыватныя карпарацыі грошай на навуку не шкадавалі. Галоўны захавальнік адвёў інспектара ў кабінет загадчыка.

— Знаёмцеся, спадары! Піктурн Галанец! Ратаўт Сарва!.. Інспектару неабходна скарыстацца вашым абсталяваннем, Піктурн Вішутавіч! Вось дакумент!

Галанец прабег па тэксце вачыма, пасля чаго зрабіў запрашальны жэст.

— Вымушаны цябе пакінуць, Ратаўт!

Інспектар узяўся за справу грунтоўна: радыевугляродны аналіз, абсарбцыйная спектраскапія, тэрмагравіметрыя. Немера чакала расчараванне: Сарва не знайшоў нічога, што пацвярджала б версію галоўнага захавальніка.

Каб пераканацца ў тым, што нічога не прапусціў, інспектар звязаўся з паліцэйскім участкам, супрацоўнікі якога праводзілі расследаванне абставін гібелі «Марка Тэрэнцыя Варона», і запытаў матэрыялы справы.

— Выходзіць, я дарэмна хваляваўся? — на твары Немера з’явілася палёгка. Аповед Сарвы дазволіў яму нарэшце расслабіцца.

— Мне здаецца, што справа тут зусім не ў артэфакце, а ў хранічнай стомленасці разам з горыччу страты калегі і сябра, Кірстаўт! Падсвядома ты не хочаш змірыцца з новай рэальнасцю.

— Напэўна, ты маеш рацыю, Ратаўт!.. Прабач, што патурбаваў!

— Прашу прабачэння! — інспектар дакрануўся да піктаграмы прыёму выкліку. — Сарва слухае!.. Так, вядома, дасылайце!.. Адбылася памылка пры перадачы аднаго з файлаў, Кірстаўт! Дзе тут камп'ютар з выхадам у Старнет?

Галоўны захавальнік паказаў інспектару тэрмінал, а сам зноў пайшоў — працы Немеру хапала.

Файл аказаўся невялікім і змяшчаў у сабе лічбавыя копіі рэдкіх ацалелых лістоў з нататніка прафесара Екеля. Сінтэтычная папера дэфармавалася, таму ў тэксце мелася мноства лакун.

Сарва ў думках падзякаваў рэктару паліцэйскай акадэміі, у якой вучыўся, за тое, што той увёў у праграму навучання курс палеаграфіі. Дарэчы прыйшліся і веды судовага почырказнаўства.

Праз паўтары гадзіны інспектар памяняў сваё меркаванне. Каб выключыць памылку, Сарва зноў адкрыў файлы з матэрыяламі расследавання. Даных аказалася недастаткова, і інспектару давялося адпраўляць запыт у дыспетчарскую службу сектара, у зону адказнасці якой уваходзіў Нептун.

Адказ прыйшоў праз дзевяць гадзін.

— Усё сыходзіцца! — Сарва звязаўся з Немерам. — Ты маеш рацыю, Кірстаўт! «Молат Тора» — сапраўды фальшыўка!

— Бягу! — не прайшло і хвіліны, як галоўны захавальнік паўстаў перад інспектарам. — Расказвай!

— Сплаў іншапланетнага паходжання. Складаецца з нікелю, графену, карбіду вальфраму, хрому, кобальту і монакрышталічнага сапфіру з дамешкам палімерных матрыц. Ён атрымаў назву «Молат Тора», быў знойдзены на Нептуне, хоць насамрэч яго адлілі на Сатурне!

Немер асалапеў. Здольнасць гаварыць вярнулася да яго толькі праз некаторы час.

— З чаго гэта ты вырашыў?

— Прааналізаваўшы склад сплаву, я прыйшоў да высновы, што яго адлівалі пры сіле цяжару, роўнай адной цэлай трынаццаці сотым, у той час як сіла цяжару на Нептуне складае адну цэлую чатырнаццаць сотых. Прафесар Екель і члены археалагічнай экспедыцыі ведалі гэта, а вось той, хто падмяніў «Молат Тора», — не!

— Рана ці позна падмена ўсё роўна б адкрылася! Такое немагчыма захаваць пад сакрэтам!

— Чаму ж, Кірстаўт?.. Ты ж сам сцвярджаў, што навуковага інтарэсу артэфакт не ўяўляе. Ніхто не возьмецца вывучаць металічную даўбешку, а лепшага сховішча, чым музейны фонд, адшукаць нельга!

— Але прафесар Екель...

— Екель даведаўся пра артэфакт усё, што яго цікавіла. Навошта прафесару праводзіць паўторныя аналізы? У выпадку неабходнасці ён заўсёды мог бы звярнуцца да вучня, якому давяраў больш, чым самому сабе... Выбух гіперпрывода зблытаў табе ўсе планы, Кірстаўт, і таму давялося імправізаваць: ты выклікаў мяне для таго, каб я зрабіў афіцыйную выснову аб сапраўднасці «Молата Тора». За адсутнасцю прафесара Екеля гэта зняло б усе пытанні. Аднак... Der Teufel steckt im Detail!.. Адкуль табе было ведаць пра паходжанне сплаву? Екель даверыў гэтую інфармацыю толькі свайму нататніку, паколькі не быў упэўнены ў правільнасці работы палявога абсталявання.

— Ратаўт, ты вінаваціш мяне ў падмене? — вочы Немера зрабіліся круглымі.

— Не толькі ў падмене прадмета, які мае гістарычную каштоўнасць, але і ў продажы яго прыватнаму калекцыянеру. Калі моцна захацець, зусім няцяжка аднавіць лакатар URL... Толькі не кажы, што ты проста цікавішся прадметамі мастацтва, якія выстаўляюцца на закрытых сусветных аўкцыёнах, Кірстаўт!

— Менавіта так!

— Аб'ём адпраўленай інфармацыі большы за той, што павінен быць пры звычайным пошуку. Ты загружаў на сайт фатаграфіі артэфакта!.. На сваю бяду, прафесар Екель падзяліўся з табой чарцяжамі і данымі пра склад сплаву. Ты вырабіў дакладную копію артэфакта і з дапамогай саўдзельніка са складу археалагічнай экспедыцыі падмяніў ёю арыгінал, які разам з іншым бартавым смеццем быў выкінуты пры старце «Марка Тэрэнцыя Варона» з арбіты Нептуна. Дыспетчарская служба зафіксавала пазапланавае скіданне і змяненне ў рабоце аднаго з экіпажаў службы ўтылізацыі... У граберы знаходзіўся твой чалавек, Кірстаўт?

— Я нават не буду каментаваць усё гэтае трызненне, Ратаўт! — фыркнуў Немер. — Нясмешна!

— І не думаў жартаваць, Кірстаўт! За выкраданне артэфакта цябе чакае вялікі тэрмін. З канфіскацыяй. Без права на амністыю. А арбітальныя турмы Хаўмеі — не самае лепшае месца ў Сонечнай сістэме! Але калі ты пагодзішся супрацоўнічаць са следствам...

Павісла доўгая паўза — інспектар даў галоўнаму захавальніку магчымасць усвядоміць сказанае. І зрабіць правільны выбар.

— Я не ў стане вярнуць «Молат Тора»!..

— Гэтым зоймемся мы, Кірстаўт! Ты проста расказвай!

## Маяк

Даныя, атрыманыя дзякуючы растраваму электроннаму мікраскопу, дазволілі Ратаўту Сарву прыйсці да адназначнага заключэння, што смерць астрафізіка Люторга Артамянкова няшчасным выпадкам лічыцца не можа, паколькі структура металу, з якога быў выраблены карабін страхавачнага фала, была зменена на субмалекулярным узроўні.

— А апаратура для гэтага мелася ў распараджэнні толькі аднаго чалавека — Драгіі Радзевіч.

Інжынер-металазнаўца выклікала ў інспектара інстынктыўную антыпатыю, як толькі Сарва ступіў на борт міжнароднай касмічнай станцыі «П'ер Шарль ле Маньер». Занадта моцна Радзевіч падкрэслівала сваю харызматычнасць, праз што пакутавалі астатнія члены экіпажа.

— Цяпер засталося высветліць, што ёй рухала, — у любым расследаванні выяўленне матываў злачынцы з'яўлялася адной з самых складаных задач. Гатовы папрацаваць з сабранымі матэрыяламі, Сарва ўзброіўся стылом, аднак скончыць справу інспектару не далі: у дзверы пагрукалі.

— Спадар Сарва, начальнік станцыі просіць вас як мага хутчэй прайсці на мосцік, — на адным дыханні выпаліў бортінжынер Грытаўт Усеня, памочнік Вітаўта Ярэмы.

— Нешта здарылася?

— Радыёграма з Зямлі.

— Іду! — ніколькі не сумняваючыся ў тым, што паступіла новае распараджэнне ад камісара Айнбунда, інспектар сунуў свой камп'ютар у чахол на сцягне, замкнуў дзверы каюты і накіраваўся ў цэнтральны адсек.

Сарва меў рацыю.

— Вам загадана адправіцца ў трынаццатую кропку Лагранжа, на «Leidarstjarna». Гэта маяк паміж Уранам і Нептунам, які служыць арыенцірам для караблёў, якія вывучаюць транснептунавыя аб'екты, — начальнік станцыі працягнуў інспектару радыёграму. — Ад вас патрабуюць высветліць прычыну збою ў рабоце маяка.

Сарва прабег па тэксце вачыма. «Пуцяводная зорка» спыніла карэктную працу тры гадзіны таму. Нягледзячы на спраўнасць радыёперадатчыка, звязацца з маяком так і не ўдалося.

— «Арыстарх Самоскі» прыбудзе праз шэсць гадзін... Які ваш канчатковы вердыкт, спадар Сарва?

— Забойства, інсцэніраванае пад няшчасны выпадак.

Ярэма нахмурыўся і некалькі імгненняў моўчкі глядзеў на Сарву, нібы спадзяваючыся на тое, што інспектар жартуе. Начальніку станцыі адказ Сарвы спадабацца не мог.

— І хто ж забойца?

— Тайна следства, спадар Ярэма. Да майго вяртання я папрашу вас нікога з экіпажа са станцыі не адпускаць. Ні ў якім разе!

Іншых пытанняў начальнік «П'ера Шарля ле Маньера» задаваць не стаў.

Інспектар вярнуўся да сябе і сабраў рэчы. Бесперабойная праца маяка гарантавала правільнасць курсаў падчас апускання ў гіперпрастору. Нават самая маленькая памылка ў разліках магла скончыцца катастрофай.

Грузавое судна, якое вымушана змяніла курс, прыбыла са спазненнем на дзве гадзіны: навігатар вывеў «Арыстарха Самоскага» занадта далёка ад МКС. Інспектар перайшоў на борт, і карабель зноў задзейнічаў гіперпрывод.

Не жадаючы губляць часу, Сарва скарыстаўся пошукавай сістэмай Старнету, каб сабраць інфармацыю пра «Пуцяводную зорку», а таксама скончыць папярэднюю справу. Схіліўшыся над камп'ютарам, інспектар пачаў перабіраць версіі:

— Асабістая непрыязнасць?.. Падстаў для таго, каб лічыць гэта матывам злачынства, няма. Радзевіч ставілася да калег аднолькава карэктна. Сутычак з Артамянковым у яе не было... Помста? У асабістай справе інжынера-металазнаўцы адсутнічалі запісы пра тое, што Радзевіч і Артамянкоў калі-небудзь перасякаліся ў мінулым. Не мелі кантактаў і іх сваякі. Спроба падседзець?.. Мела б сэнс, калі б астрафізік з'яўляўся яе начальнікам...

Супрацьперагрузачны кокан дазваляў нівеліраваць усе наступствы апускання ў гіперпрастору.

— Канкурэнцыя?.. Сферы інтарэсаў абодвух не перасякаліся... Радзевіч не прымала ўдзелу ў дзейнасці экстрэмісцкіх груповак... Не прытрымлівалася радыкальных поглядаў... Псіхічны стан стабільны. Траўмаў, здольных парушыць работу мозгу, не атрымлівала. Рэўнасць?.. Калі дапусціць тое, што інжынер-металазнаўца была закаханая ў астрафізіка, навошта ёй забіваць яго? Неўзаемнае каханне? — некалькі імгненняў Сарва задуменна пакусваў кончык стыла, пасля чаго зрабіў памету ў сваім камп'ютары: па вяртанні на станцыю надаць больш увагі адносінам паміж Радзевіч і Артамянковым. — І ці няма тут саперніцы?

Заспеўшы аб'ект кахання ў ложку з іншай жанчынай, Радзевіч магла асмеліцца на забойства… Пасля нядоўгага роздуму інспектар прыйшоў да высновы, што інжынер-металазнаўца не стала б спакушаць лёс. Занадта вялікая рызыка. Што яшчэ?

Сарва задумаўся над адноўленай на падставе паказанняў сведак і даследаванняў месца злачынства карцінай. Задача астрафізіка была простай — руцінная праверка сканера спектральнага аналізу, нацэленага на Бетэльгейзе. Артамянкоў прышпіліўся з дапамогай страхавачнага троса і паплыў да прыбора, устаноўленага на апоры, вышыня якой складала трыццаць пяць метраў. Пасля дзвюх трацін адлегласці карабін фала не вытрымаў нагрузкі, і астрафізіка пачало выносіць у адкрыты космас. Сітуацыя ўскладнялася тым, што Артамянкоў у паніцы зблытаў кнопкі рэактыўнага ранца, чаму атрымаў дадатковае паскарэнне. Манеўраныя

рэактыўныя рухавікі МКС на амаль трохсотметровы спуск з арбіты разлічаны не былі, і, апусціўшыся, «П'ер Шарль ле Маньер» ніколі б больш ужо не падняўся. У начальніка станцыі не мелася іншага выйсця, як адмовіцца ад небяспечнага манеўру.

Ахвяраваць адным дзеля сотні іншых... Космас дыктаваў свае правілы этыкі. Амаль заўсёды з дзвюх бед даводзілася выбіраць меншую. Інспектар прызнаў дзеянні Ярэмы правамернымі. Хоць наўрад ці забарона выхаду са станцыі добраахвотнікаў-ратавальнікаў сведчыць на яго карысць...

Далей за сто пяцьдзясят метраў ні страховачныя тросы, ні ранцы не працавалі. Самы блізкі да «П'ера Шарля ле Маньера» касмічны карабель прыйсці на дапамогу не паспяваў, а акрамя даследчых зондаў іншых спускальных апаратаў на станцыі не мелася.

Ход думак Сарвы парушыў сінтэзаваны жаночы голас:

— Выхад з гіперпрасторы праз трыццаць хвілін.

Інспектар схаваў камп'ютар і падабраўся. «Арыстарх Самоскі» перасек нябачную мяжу: спыніліся вібрацыі корпуса і ўключыліся насавыя тармазныя рухавікі.

Грузавое судна выйшла з гіперпрасторы за дваццаць тысяч кіламетраў ад «Пуцяводнай зоркі». Шарападобная форма дазваляла маяку заставацца нерухомым адносна Урана і Нептуна. Пілот на мінімальнай хуткасці павёў да маяка грузавое судна: даў магчымасць уволю ім налюбавацца.

У цэнтральным адсеку інспектара сустрэў сам капітан «Арыстарха Самоскага».

— Спадар Сарва, аддаю ў ваша распараджэнне найлепшага свайго спецыяліста — Іза Рывеса.

— Дзякую! — кіўнуў інспектар, машынальна адзначыўшы, што на твары Голга Драка не было і ценю незадавальнення. Фрахт грузавога судна падлягаў кампенсацыі ў двухразовым памеры сабекошту пералёту. — Загадайце задзейнічаць трансфакатар на максімальнае набліжэнне.

— Слухаюся, спадар Сарва!

Звернуты да «Арыстарха Самоскага» бок «Пуцяводнай зоркі» вонкавых пашкоджанняў не меў. Не плавалі абломкі і вакол маяка. На жаль, грузавое судна не мела спецыялізаваных сканераў, якія моцна спрасцілі б Сарву задачу.

— Рыхтуйце бот, спадар Драка! — ацаніць стан адваротнага боку Сарва мог толькі візуальна.

Бот выглядаў настолькі старым, што інспектар мімаволі западозрыў капітана ў карыстанні даўно спісаным маламерным суднам. Быццам у насмешку на борце бота красаваўся зроблены пад трафарэт люмінесцэнтнай фарбай надпіс «Імклівы».

— Ён хоць даляціць?

— Не трэба хвалявацца, спадар Сарва! Яшчэ як даляціць!

Капітан не падмануў: бот паспяхова пераадолеў адлегласць паміж грузавым суднам ды маяком і зрабіў віток вакол «Пуцяводнай зоркі». Інспектар пераканаўся ў тым, што герметычнасць корпуса маяка парушаная не была.

— Стыкуйцеся, спадар Рывес!

Зближэнне «Пуцяводнай зоркі» і «Імклівага» прайшло паспяхова: Рывес з першага разу дакрануўся падушкамі электрамагнітных захватаў да паўночнага стыковачнага вузла. Сарва ўвёў код доступу, пасля чаго аўтаматыка адкрыла пераходны люк.

Калі працэдура шлюзавання завяршылася, апранутыя ў скафандры інспектар і тэхнік апынуліся ўнутры маяка. Сарва скарыстаўся газааналізатарам. Нягледзячы на тое, што паветра «Пуцяводнай зоркі» падыходзіла для дыхання, яны вырашылі шлемы не здымаць.

амерыканца і быў вельмі ўсхваляваны. Прамоўлена было гэта трыццаць гадоў таму, а мана яшчэ жыве, і, напэўна, будзе жыць. У спакойным стане Карлайл мо і не грашыў хлуснёй, але дайце яму дастаткова амерыканцаў і адпаведна камянёў для іх, ён змог бы даць мне фору ў тых трынаццаці спаборніцтвах.

Але вернемся да таго знакамітага выпадку, калі Джордж Вашынгтан сказаў праўду. На гэты конт я б хацеў сказаць пару словаў. Гэты выпадак стаў найпрыгажэйшай жамчужынай у кароне Амерыкі, і, зразумела, што мы хочам ацаніць яго па заслугах, як сказаў Мілтан у «Песні апошняга менестрэля». Тая прадуманая праўда прагучала якраз у час. Я б і сам так сказаў, калі б апынуўся ў падобных абставінах. Але тут я хачу ўдакладніць. Тое была магутная і высакародная праўда, бы моцная і непрыступная вежа. І здаецца мне, дарма было адцягваць увагу ад яе велічнасці яшчэ адной, у чатырнаццаць разоў вышэйшай. Я маю на ўвазе ягоную фразу, што ён «не можа падманваць». Гэтую хлусню не задумваючыся праглынулі хіба толькі дзеці ці Карлайл: гэта якраз у ягоным стылі. Вашынгтан змог бы стаць першакласным хлусам на любых Еўрапейскіх спаборніцтвах, ягоны талент заўважылі б і ў Чыкага. Але Бацьку нашай нацыі можна зразумець: ён быў моцна ўсхваляваны. Я сам быў у такіх абставінах і магу сабе ўявіць.

Не магу сказаць, што Вашынгтан не мае рацыі. Думаю, на яго не находзіла часовае натхненне, і ягоная прамова была загадзя падрыхтаваная. Маючы ваеннае мысленне, ён, мабыць, спачатку вырашыў сказаць бацькам, што дрэўца зламаў ягоны брат Эдвард, але раптам пабачыў добрыя перспектывы і сам скарыстаўся імі: ён скажа праўду, бацька моцна здзівіцца, раскажа суседзям, суседзі разнясуць па ўсёй ваколіцы, і ён стане Прэзідэнтам, больш за тое — Першым Прэзідэнтам. Так, хлопец меў далёкасяжныя планы і мог, відавочна, усё пралічыць. Таму, на маю думку, ён апраўдаў свае дзеянні. Што не скажаш пра другую Вежу праўды. Памылка, відаць. Хоць я для сябе яшчэ не вырашыў: можа і не было гэта памылкай. Бо зразумела, што каб не тая, другая вежа, то на першую маглі б з часам і забыцца. Калі б ён не сказаў: «Я не магу падманваць», нішто не скаланулася б. Напраўду ж, гэта было сапраўдным землятрусам. Гэты выраз будзе жыць вечна, а факты, звязаныя з ім, змогуць падзяліць ягоную бессмяротнасць.

Наогул, па сутнасці я задаволены тым, як усё адбываецца. Пакуль што, вядома, засталіся негатыўныя адносіны да хлусні вербальнай, але ўсе астатнія віды даволі добра прыжыліся ў грамадстве. Да таго ж, дзякуючы аналізу і матэматычным падлікам, я змог высветліць, прапорцыя вербальнай хлусні да іншых відаў складае 1:22894. З гэтага вынікае, што вербальная хлусня не ўяўляе сабою вялікай важнасці і зусім не варта раздуваць яе небяспечнасць. Закідваць камянямі асуджэння трэба маўклівую хлусню ў нацыянальных маштабах, якая з'яўляецца хаўруснікам тыраніі, бессаромства, няроўнасці і несправядлівасці, ад чаго пакутуе чалавек. Але пакінем іншым маліцца за гэтую праблему і закідваць хлусаў цэглай.

Больш за тое… Але я моцна адышоўся ад майго аповеду. Дык як я выкруціўся са сваёй другой маны? Думаю, даволі высакародна, хоць не зусім упэўнены, бо было гэта даўно, а як я ўжо казаў, памяць мая стала бы сіта. Помню толькі, што мяне павярнулі адваротным ад твару бокам, паклалі на калена і… Шчыра кажучы, хоць забі, не помню, што здарылася потым. Здаецца, гучала музыка. Але цяпер усё сцерлася з часам, а засталіся толькі фантазіі старога чалавека.

*Пераклад з англійскай Дар'і Станцэль*
*Падрыхтавала да друку Вольга Марозава*

# A Telephonic Conversation

# Тэлефонная размова

Думаю, што тэлефонная размова (калі вы проста седзіце побач і не прымаеце ў гутарцы ўдзелу) адна з самых значных дзівостак сучаснага жыцця. Учора, пакуль я пісаў сур'ёзны артыкул на нейкую ўзвышаную філасофскую тэму, у пакоі якраз праходзіла такая гутарка. Я заўважыў, што значна лепей пішацца, калі хто-небудзь побач размаўляе па тэлефоне. І вось як усё пачалося. У пакой увайшоў адзін з членаў нашай сям'і і папрасіў мяне злучыць наш нумар з нумарам Баглеяў. Я заўважыў, што шмат у якіх гарадах жанчыны пазбягаюць таго, каб самім тэлефанаваць на цэнтральную станцыю. Не ведаю чаму, але так атрымоўваецца. Ну вось я ўзяў слухаўку і пачалася такая размова:

**Цэнтральная (груба):** Слухаю!
**Я:** Гэта Цэнтральная?
**Ц:** Ну вядома. Што вам патрэбна?
**Я:** Злучыце мяне, калі ласка, з Баглеямі.
**Ц:** Добра. Не вешайце слухаўку.

Затым я пачуў ШЧОЎК, ШЧОООЎК, ШШЧОЎК, ШЧОЎК-ШЧОЎК-ШЧОЎК! Пасля гук, падобны да скрыгату зубоў і ўрэшце пісклявы жаночы голас: Та-а-а-к? (становіцца гучней) Вы хацелі са мной пагутарыць?

Я не адказваю, перадаю слухаўку і вяртаюся на сваё месца. І пачынаецца самае дзіўнае з усіх дзіўных рэчаў на свеце — размова, калі чуваць толькі аднаго ўдзельніка гутаркі. Вы чуеце пытанне, але не ведаеце адказ. Вы чуеце запрашэнне, але не чуеце пасля падзякі. У выніку вы час ад часу слухаеце зусім недарэчныя і неапраўданыя выгукі здзіўлення, шкадавання ці роспачы. І вы не разумееце сэнсу гутаркі, бо ніколі не ведаеце, што адказвае чалавек на тым канцы праваду. На гэты раз я стаў сведкам аднаго з бакоў такой размовы і ўсё на павышаных тонах, бо жанчын нельга пераканаць спакойна размаўляць па тэлефоне:

— Так? А ГЭТА як здарылася?
Цішыня.
— Што?
Цішыня.
— О, не, не думаю.
Цішыня.
— Не, не! Вы не ТАК зразумелі. Я казала класці, калі закіпіць. Ці якраз ПЕРАД кіпеннем.
Цішыня.
— ШТО?
Цішыня.
— Я грунтоўна абшыла яе бейкай па кругу.
Цішыня.
— Так, мне таксама падабаецца. Але, здаецца, лепей пааблямоўваць валансьенам ці бамбазінам, ці нечым такім. Так выглядае нашмат лепш і прыцягне погляды.

Цішыня.

— Гэта сорак дзевятая «Паўторанага Закону», ад шэсцьдзясят чацвёртага да дзевяноста сёмага ўключна. Я думаю, мы ўсе мусім перачытваць іх.

Цішыня.

— Мабыць і так. Я часцей выкарыстоўваю шпільку.

Цішыня.

— Што вы сказалі? (убок) Дзеці, цішэй!

Цішыня.

— Ах! «Сі-бемоль», а мне падалося вы сказалі «нота соль».

Цішыня.

— З якога часу?

Цішыня.

— Дарэчы, я ніколі пра гэта не чула.

Цішыня.

— Вось дзіва! Гэта ж зусім немагчыма!

Цішыня.

— ХТО зрабіў?

Цішыня.

— Ах, Божухна!

Цішыня.

— І куды толькі каціцца гэты свет? І вось так проста ў ЦАРКВЕ?

Цішыня.

— І яе МАЦІ там была?

Цішыня.

— Вы што, місіс Баглей, я б памерла з сораму! А што яны?

Цішыня доўжылася больш.

— Я не зусім упэўнена, бо не маю нот побач, але там нешта па-тыпу: тра-ля-ля, ла-ло-ло-лоо, О тооля-ля-ЛЯЯ-ЛІ-ЛІ-ЛЯ! Ну, і рэпрыза пасля.

Цішыня.

— Так, я думаю, гэта добра і ўрачыста, калі вытрымаць аданціна і піянісіма.

Цішыня.

— Ах, ледзянцы! Але я заўсёды забараняла ім есці паласатыя цукеркі. Ну і, вядома, не атрымаецца, пакуль у іх няма зубоў.

Цішыня.

— ШТО?

Цішыня.

— Ах, не, што вы. Ён тут, піша. І мы яму зусім не перашкаджаем.

Цішыня.

— Добра, калі атрымаецца, я прыйду. (убок) Ну і ну, у мяне ўжо рука забалела трымаць слухаўку! Шкада, што…

Цішыня.

— Не, зусім не! Я люблю пагутарыць, толькі баюся, што затрымліваю вас.

Цішыня.

— Госці?

Цішыня.

— Не, мы ніколі не ямо іх з маслам.

Цішыня.

— Так, гэта добры варыянт. Але ва ўсіх кулінарных кнігах напісана, што яны вельмі шкодныя для здароўя, калі ўжо не сезон. І ЁН не любіць іх, асабліва, кансерваваныя.

Цішыня.

— Думаю, гэта надта дорага для іх. Мы ніколі не плацілі больш за пяцьдзясят цэнтаў за пучок.

Цішыня.

— Вам трэба ісці? Тады да пабачэння.

Цішыня.

— Так, думаю, так. Да пабачэння.

Цішыня.

— А чацвёртай? Я паспею. Да пабачэння.

Цішыня.

— Вялікі вам дзякуй. Да пабачэння.

Цішыня.

— Ах, ну якія клопаты! Якая? Ах, я рада гэта чуць ад вас. Да пабачэння.

(Вешае слухаўку і кажа: «Як жа стамілася рука!»)

Мужчына сказаў бы сваё суворае «Да пабачэння» і на гэтым скончыў. Але слабы пол не такі, я кажу гэта ім у гонар. Яны не выносяць рэзкасці.

*Пераклад з англійскай Мацея Бенько*
*Падрыхтавала да друку Вольга Марозава*

## Curing a cold

## Як лячыць прастуду

Пісаць дзеля забавы чытача, магчыма, добра, але шмат высакародней пісаць для яго навучання і на яго карысць, сапраўдную і адчувальную. Выключна дзеля апошняй быў напісаны гэты артыкул. Калі хоць аднаму самотнаму пакутніку з роду чалавечага ён дапаможа вярнуць здароўе і яшчэ раз запаліць святло надзеі і радасці ў памутнелых вачах ці прымусіць застылае сэрца паранейшаму хутка і моцна біцца, гэта будзе маёй узнагародай за старанне. І душу маю наскрозь прасякне ўзнёслая? праведная? асалода, якую хрысціянін адчувае пасля добрага бескарыслівага ўчынку.

Я пражыў бязгрэшнае і бездакорнае жыццё, і таму ўпэўнены у тым, што ніхто з маіх знаёмых не зможа назваць хлуснёй парады, якія я неўзабаве зраблю. Няхай чытач сам прачытае пра мой досвед лячэння прастуды, пра які тут будзе ісці гаворка, і затым возьме з мяне прыклад.

Калі здарыўся пажар у гатэлі «Белы Дом», што ў Вірджынія-Сіці, я згубіў прытулак, шчасце, здароўе і свой чамадан. Страце прытулку і шчасця я не надаў вялікага значэння. Якая карысць у доме, калі ў ім няма ані маці, ані сястры, ані юнай далёкай сваячкі, каб прыбраць за табой нясвежую бялізну ці зняць абутак з каміну, нагадваючы, што існуюць людзі, якія думаюць і клапоцяцца пра цябе. І мяне мала турбавала страчанае шчасце, бо я не паэт і меланхолія не ў маіх

звычках. Але нашмат горш было згубіць здароўе, якое было добрым, і чамадан, які быў яшчэ лепшым. У дзень, калі адбыўся пажар, мой арганізм пацярпеў ад цяжкай прастуды, выкліканай празмернымі высілкамі што-небудзь зрабіць. Пакутаваў я, да таго ж, ні за што, бо пачаў так дэталёва распрацоўваць план выратавання гатэля ад пажару, што скончыў яго толькі ў наступную сераду.

Калі я стаў чхаць, адзін сябар падказаў папарыць ногі ў гарачай вадзе і легчы спаць. Я так і зрабіў. Неўзабаве другі сябар параіў вылезці з ложка і прыняць халодны душ. Я так і зрабіў. Не прайшло і гадзіны, як ужо іншы сябар запэўніваў мяне, што найлепшым спосабам будзе «падсілкаваць прастуду і замарыць голадам гарачку». У мяне было і тое, і другое. Таму я палічыў, што ад прастуды варта наесціся да адвалу, а потым залегчы ў цёмным пакоі і даць гарачцы трохі пагаладаць.

У такіх сітуацыях я рэдка раблю нешта напаўсілы. Я шчодра падсілкаваўся, расказаўшы пра сваю звычку незнаёмцу, які раніцай толькі-толькі адкрыў свой рэстаран. Гаспадар паважна маўчаў побач, пакуль я не падмацаваў сваё недамаганне, і спытаў, ці шмат жыхары Вірджынія-Сіці хварэюць на прастуду. Я адказаў, што, здаецца, так і ёсць. Пасля чаго ён выйшаў на вуліцу і зняў з рэстарана шыльду.

Я скіраваўся ў напрамку офіса і па дарозе сустрэў яшчэ аднаго блізкага сябра, які параіў выпіць кварту цёплай салёнай вады, бо лепшага ратунку ад прастуды не знайсці ва ўсім свеце. Я сумняваўся, ці ўлезе ў мяне яшчэ і вада, але ўсё ж паспытаў і гэта. Вынік быў неверагодны. Мяне ванітавала так, што я баяўся незнарок разлучыцца са сваім бессмяротным духам.

Я распавядаю пра свой досвед толькі каб дапамагчы тым, хто пакутуе ад апісанай мной хваробы. Я раю ніколі не прымаць тое, што не прынесла мне палёгкі, і з усёй упэўненасцю папярэджваю: ні ў якім выпадку не лячыцеся цёплай салёнай вадой. Яна, можа, і някепскае лякарства, але, на маю думку, занадта суровае. Калі б я зноў схапіў насмарк і прыйшлося б выбіраць паміж землятрусам і квартай цёплай салёнай вады, я б рызыкнуў і выбраў землятрус.

Шторм, што бушаваў у страўніку, урэшце сціх, добрыя самарыцяне мне больш не трапляліся. І я як нічога ніякага працягваў, як і ў самым пачатку хваробы, пазычаць насоўкі і звыкла смаркацца ў іх да дзірак, пакуль не сустрэў лэдзі, якая толькі што прыехала з-за раўнін. Яна заявіла, што там, дзе яна жыла раней, дактароў было няшмат, і таму яна па неабходнасці налаўчылася лячыць простыя «сямейныя балячкі». Я паверыў у яе спрактыкаванасць, бо выглядала лэдзі не менш чым на сто пяцьдзясят гадоў.

Яна змяшала зелле з мелесу, канцэнтраванай азотнай кіслаты, шкіпінару і іншых лекаў і загадала прымаць поўны келіх настою кожныя пятнаццаць хвілін. Я выпіў толькі адзін, але і гэтага аказалася дастаткова. Зелле пазбавіла мяне ўсіх маральных прынцыпаў і абудзіла кожнае ганебнае памкненне маёй натуры. Пад яго згубным уплывам у душы прачнулася неверагодная подласць, але арганізм занадта саслабеў, каб ажыццявіць яе. Калі б мае сілы ў той час не былі падарваныя надзейнымі лекамі ад прастуды, я немінуча паспрабаваў бы абрабаваць могілкі. Як і ўсе людзі, я нярэдка бываю злым і паводжу сябе адпаведна, але ніколі раней, пакуль не выпіў гэтае лякарства, я не атрымліваў асалоду ад такой фенаменальнай распусты, і больш за тое, ніколі не змог бы гэтым ганарыцца. Прайшло два дні, і я ўжо зноў быў гатовы лячыцца. Я прыняў яшчэ колькі надзейных лекаў і ўрэшце дабіўся таго, што з галавы хвароба перайшла ў лёгкія.

Я стаў кашляць без перапынку, і голас мой упаў ніжэй за нуль. Я размаўляў аглушальным басам, на дзве актавы ніжэй, чым звычайна, і мог засынаць ноччу толькі закашляўшы сябе да стану поўнага знясілення. Але я пачынаў размаўляць у сне, і гукі майго разладжанага голасу будзілі мяне ізноў.

Справы мае горшалі, што ні дзень. Быў парэкамендаваны джын без дабавак. Я выпіў. Потым — джын з мелесам. Я і гэта выпіў. Потым — джын з цыбуляй. Я змяшаў джын, мелес і цыбулю і выпіў усё разам. Аднак адзіным адметным вынікам такога лячэння стала тое, што ад майго подыху пачалі вянуць кветкі.

Я падумаў, што палепшыць здароўе дапаможа падарожжа, і адправіўся на возера Біглер разам з таварышам-карэспандэнтам Уілсанам. Я з асалодай успамінаю пра тое, што падарожнічалі мы з густам. Мы паехалі на цягніку, і мой сябар захапіў з сабою ўсе свае пажыткі: дзве выдатныя шоўкавыя насоўкі і дагератып сваёй бабулі. Мы праплавалі, прапалявалі, прарыбачылі і пратанцавалі ўвесь дзень, а кашаль я лячыў усю ноч. Так лячыцца мне падабалася шмат больш. Але рабілася толькі горай.

Тады мяне навучылі абгарнуцца прасцінамі. Я яшчэ не адмаўляўся ні ад аднаго лякарства, і было ўжо позна пачынаць. Таму я вырашыў абгарнуцца прасцінамі, нягледзячы на тое, што не меў аніякага ўяўлення, што гэта такое. Здарылася ўсё ў поўнач, на дварэ быў моцны мароз. Мае грудзі і спіну агалілі, і неймаверна доўгай прасцінай, намочанай у ледзяной вадзе, абгарнулі мяне, пакуль я не стаў нагадваць агромністы шомпал для гарматы.

Гэта бязлітасны сродак. Дотык сцюдзёнай тканіны да гарачай скуры прымушае люта скаланууцца і пачаць хапаць ротам паветра, акурат як у апошняй агоніі. Прасціна прамарозіла мяне да мозгу касцей, сэрца спынілася, і я падумаў, што вось і прыйшоў мой час.

Юны Уілсан сказаў, што сітуацыя нагадала яму выпадак, што здарыўся з адным неграм, калі яго хрысцілі: святар выпадкова яго ўпусціў, і той ледзь не патануў. Аднак, крыху пабоўтаўшыся, ён падняўся з вады, амаль задушаны і злы як чорт, і напрасткі скіраваўся да берага, вывяргаючы, нібы кіт, струмені вады, сурова адзначыўшы, што «аднойчы нечы негр чаго добрага і загіне праз такое глупства».

Ніколі не рабіце абгортванняў — ніколі! Адчуванне амаль такое ж ніякаватае, як калі знаёмая дзяўчына, па прычыне адной ёй вядомай, не заўважае цябе, калі глядзіць проста табе ў вочы, і не пазнае цябе, нават калі заўважыла.

Але, як я ўжо сказаў, калі гэтая працэдура не дапамагла вылечыць кашаль, знаёмая параіла наляпіць гарчычнік на грудзі. Падазраю, што гэты дзейсны сродак паставіў бы мяне на ногі, калі б не юны Уілсан. Я лёг у ложак і прыладзіў гарчычнік — раскошную рэч, у якой было цэлых васямнаццаць квадратных цаляў, — туды, адкуль змагу, пры патрэбе, яго зняць. Але ўначы юны Уілсан прагаладаўся — уявіце сабе, які гурман!

Правёўшы тыдзень на возеры Біглер, я скіраваўся да Сцімбат Спрынгс, дзе, акрамя таго, што папарыўся ў лазні, прыняў яшчэ багата самых гідкіх лекаў, якія толькі можна выдумаць. І вылечыўся б, калі б не прыйшлося вяртацца ў Вірджынія-Сіці, дзе, нягледзячы на вялікую колькасць новых пілюль і мікстур, якія я глытаў штодня, толькі абцяжарыў хваробу праз нядбайнасць і празмерныя высілкі.

Урэшце я паехаў у Сан-Францыска, і ў першы ж мой дзень у горадзе жанчына ў гасцініцы параіла піць па кварце віскі кожныя дваццаць чатыры гадзіны. Тое самае параіў і сябар, які жыў на ўскраіне горада. Кварта ды кварта — ужо паўгалона. Я ўсё гэта выпіў — і ўсё яшчэ жывы.

Я, з найлепшымі намерамі ва ўсім сусвеце, выношу на меркаванне змучаных хваробамі пацыентаў разнастайны курс лячэння, які не так даўно скончыў. Можаце паспрабаваць: калі не папраўіць здароўе, то ўсяго толькі заб'яце.

*Пераклад з англійскай Лізаветы Васілевіч*
*Падрыхтавала да друку Вольга Марозава*

# Paris Notes

# Нататкі з Парыжа

Парыжанін вандруе толькі зрэдзьчасу, з усіх моў ён ведае толькі сваю, з усіх літаратур чытае выключна сваю — і ў выніку ён робіцца досыць вузкалобым і досыць самадастатковым чалавекам. Але не будзем стрыгчы ўсіх пад адзін грэбень: існуюць жа і такія французы, што не толькі сваю мову ведаюць — і гэта афіцыянты.

З усёй рэшты моў яны знаёмыя з англійскай, але валодаюць яны ёй на еўрапейскі манер: гаварыць гавораць, а разумець — не разумеюць.

Іх-то зразумець лёгка, а вось самому ўжо падабраць словы так, каб зразумелі цябе, ужо немагчыма. Яны думаюць, што ўсё разабралі, ці, прынамсі, робяць такі выгляд, але ўсё якраз наадварот. Вось размова, што адбылася паміж мной і адным з гэтых людскіх стварэнняў — я адразу ж тады яе запісаў, каб потым не зманіць.

Я: Файныя апельсіны. Адкуль прывезлі?

Ён: Прынесці? Добра, я прынясу яшчэ.

Я: Не, не трэба болей, я толькі хацеў спытаць, адкуль яны, дзе выраслі.

Ён: Так? (з абыякавай мінай і пытальнай інтанацыяй)

Я: Так. Вы можаце мне сказаць, з якой яны краіны?

Ён: Так? (ветліва, з пытальнай інтанацыяй)

Я: (без усялякай надзеі) Добрыя апельсіны.

Ён: Добрага вечара. (Кланяецца і сыходзіць, досыць сабой задаволены).

Гэты маладзён мог бы быць выдатным знаўцам англійскай мовы, калі б як след над ёй папрацаваў, але ён француз, а ў іх так не водзіцца. Іншая справа — нашы людзі: яны не абмінаюць аніводнай магчымасці. Ёсць у Парыжы нібыта пратэстанты, якія пабудавалі ладную цэркаўку на адным з шырокіх праспектаў, што адыходзяць ад Трыумфальнай аркі. Яны хацелі, каб там слухалі правільныя думкі ў правільных казанях на іх сэрцу дарагой французскай мове і з усяго гэтага цешыліся.

Але іх план праваліўся. Што нядзелю нашы людзі прыходзяць туды раней за французаў і займаюць усе месцы. І толькі святар збіраецца пачаць сваю пропаведзь, як заўважае, што царква яго спрэс набітая пабожнымі замежнікамі. Усе як адзін яны паслухмяна чакаюць яго пропаведзь, у кожнага ў руках малая кніжка — відаць, Біблія ў скураным пераплёце. Але так толькі здаецца, бо насамрэч яны трымаюць цудоўныя кішэнныя выданні поўнага французска-англійскага слоўніка Бэлаўза, якое і пераплётам і памерам акурат нагадвае Біблію, а ўсе гэтыя людзі прыйшлі сюды вывучаць французскую. Будынак празвалі «Царквой дармавых заняткаў французскай».

Магчыма, гэтыя вучні хутчэй вывучаць новыя словы, чым зразумеюць пропаведзь, бо мне расказвалі, што французская казань нічым не адрозніваецца ад французскай прамовы. А там ніколі не называюць гістарычных падзей, толькі даты, і калі вы з імі не ў ладах, застаецца толькі вачыма лыпаць. Французская прамова гучыць прыкладна так:

«Таварышы, грамадзяне, браты, найлепшыя прадстаўнікі найвялікшай дзяржавы ў свеце! Не забудзьма, што 21 студзеня[1] пазбавіла нас кайданоў, што 10 жніўня[2] вызваліла нас ад ганьбы

[1] 21 студзеня 1793 г. быў пакараны смерцю кароль Францыі Людовік XVI.

[2] Паўстанне 10 жніўня — адна з асноўных дат Французскай рэвалюцыі 1792 г.

замежнага шпіянажу, што 5 верасня[3] апраўдала нас перад Богам і людзьмі, што 18 брумэра[4] было пачаткам нашага пакарання, што 14 ліпеня[5] магутны голас Свабоды абвясціў нашае адраджэнне, пачатак новай эпохі, заклікаючы прыгнечаных людзей усяго свету накіраваць свае позіркі на боскі твар Францыі і жыць з новай надзеяй. І няхай мы тут жа засведчым наш вечны праклён чалавеку 2 снежня[6] і грамавым голасам, гэтым спрадвечным голасам Францыі, абвесцім, што без яго ў нашай гісторыі не было б ні 17 сакавіка[7], ні 12 кастрычніка, ні 19 студзеня, ні 22 красавіка, ні 16 лістапада, ні 30 верасня, ні 2 ліпеня, ні 14 лютага, ні 28 чэрвеня, ні 15 жніўня, ні 13 траўня, што без яго ў нашай Францыі, у Чыстай, Велічнай, Непараўнальнай Францыі, быў бы сёння ціхамірны і пусты каляндар!»

Мне аднойчы давялося чуць, як французскую пропаведзь закончылі вось гэткім дзіўным, але ўсё ж красамоўным чынам:

«Дарагія прыхаджане, мы маем сумную нагоду помніць Чалавека 13 студзеня. Наступствы велізарнага злачынства 13 студзеня былі суразмернымі маштабу яго абставін. Але каб не гэтае злачынства, не было б і 30 лістапада — горкае відовішча! Каб не яно, не было б тады і Чалавека 16 чэрвеня з яго агідным учынкам, а толькі з-за яго і адбылося 3 верасня, як потым і пагібельнае 12 кастрычніка. Ці можам жа мы тады быць удзячнымі за 13 студзеня, з усім тым цяжарам смерці, якое яно прынесла нам з вамі і ўсяму жывому на Зямлі? Так, сябры мае, бо толькі яно прынесла нам яшчэ і тое, што без яго не адбылося б, бо толькі з-за яго яно і магло адбыцца — дабраславёнае 25 снежня».

Магчыма, сёе-тое трэба патлумачыць, хоць многія мае чытачы і так бы ўсё зразумелі. Чалавек 13 студзеня — гэта Адам, злачынства, якое адбылося ў гэты дзень — спажыванне забароненага яблыка, горкае відовішча 30 лістапада — гэта выгнанне з Раю, агідны ўчынак 16 чэрвеня — гэта забойства Авеля, 3 верасня — пачатак выгнання Каіна, 12 кастрычніка пад вадою Сусветнага патопу схаваліся апошнія вяршыні гор. Калі вы збіраецеся наведаць французскую царкву, вазьміце з сабой царкоўны каляндар — з каментарамі.

(1880)

*Пераклад з англійскай Іаанны Владыка*
*Падрыхтавала да друку Вольга Марозава*

---

3 5 верасня 1793 г. Французскі нацыянальны кангрэс устанавіў Рэжым Тэрору дзеля абароны Рэвалюцыі.

4 Брумэ́р (па-французску: ***brumaire***, паводле лац. ***Brume — туман***) — 2-гі месяц (22/23 кастрычніка — 20/21 лістапада) французскага рэспубліканскага календара, які дзейнічаў з кастрычніка 1793-га па 1 студзеня 1806 г. 18 брумэра 8 года Рэспублікі Напалеон здзейсніў дзяржаўны пераварот і ўзяў уладу ў свае рукі.

5 14 ліпеня — Дзень узяцця Бастыліі (1793 г.).

6 2 снежня 1851 г. адбыўся дзяржаўны пераварот, у выніку каторага прэзідэнт Луі Напалеон Банапарт аднавіў манархію ў Францыі — Другую імперыю (1852—1870) і абвясціў сябе імператарам.

7 Тут і далей — выпадковыя даты.

*Рубрыка кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ*

**Таццяна Арлова**

# Беларуская драматургія новага часу

**У літаратуры як у народнай казцы: ёсць дзеці паспяховыя, а ёсць тыя, да каго фартуна няласкавая. Проза і паэзія заўсёды навідавоку. Драматургія ж нагадвае Папялушку. Яна залежыць ад выпадку ці збегу акалічнасцей. На балі прыгожай славеснасці, дзе выдаюцца кнігі, пішуцца рэцэнзіі, раздаюцца ўзнагароды, яе заўважаюць рэдка. Хто з нас сёння па ўласным жаданні, а не з-за прафесійнай неабходнасці чытае п'есы?**

Тэатр па сваёй структуры не можа пакуль абысціся без драматургічнай асновы і дзеючых у ёй асоб. Гэтыя сутнасныя складнікі прывучылі нас да пэўнага ўспрымання таго, што дэманструецца са сцэны. Польскі рэжысёр Ежы Гратоўскі нават прасіў прабачэння ў публікі за тое, што змушаны прытрымлівацца еўрапейскай традыцыі, бо без літаратурнай асновы, сюжэта і слова цяжка быць зразумелым.

Для беларуса гэта звыклы спосаб трансляцыі і ўспрымання сэнсаў, хоць увесь еўрапейскі тэатр і еўрапейская драматургія ўвесь час патрабуюць новых формаў, выпрабоўваюць іх і дэкларуюць сваю рэвалюцыйнасць. Беларускі тэатр развіваўся ў рэчышчы ўсёй еўрапейскай культуры, пры гэтым бязлітасна адставаў ад новых павеваў, але потым імкліва наганяў упушчанае. Часцей за ўсё дзякуючы рэжысёру, сцэнографу і значна радзей дзякуючы драматургу. У апошнія гады ў беларускай драматургіі адбылася змена пакаленняў і прыярытэтаў. Можна з поўным правам казаць пра новы этап у жыцці гэтага віду літаратуры.

Сёння тэатр запатрабаваў прынцыпова новую драматургію. Ужо не хвалююць калгасныя, завадскія і ўвогуле дзяржаўныя справы. Знакамітыя «дацкія» творы сышлі ў тыраж. Больш за тое, спатрэбілася ў літаратурных тэкстах ўзняцца на новы звышсэнсавы і надтэкстуальны ўзровень. Мне думаецца, што беларуская драматургія з гэтым справілася, хоць шмат што са зробленага не атрымала падтрымкі і працягу. Перш за ўсё, таму што ад напісанага тэксту да яго асэнсавання тэатрам — вялікая дыстанцыя. Бо п'есы пішуцца, каб іх ставілі. Сёння драматургі не пішуць п'есы для чытання. Але на шляху ад пісьмовага стала да глядзельнай залы — тысячы бар'ераў. Мала хто паспяхова іх пераадольвае. Многія сыходзяць з дыстанцыі і падаюцца ў прозу. Іншыя імкнуцца апублікаваць п'есы, каб зафіксаваць свае намаганні, ніяк не разлічваючы на іх пастаноўку. Іншыя дужа крыўдзяцца і змагаюцца за «дзіця» да апошняга. Але гэта — самае бесперспектыўнае.

Хочацца гаварыць пра выключнае — плённыя наватарскія распрацоўкі, перш за ўсё звязаныя з досведам і магчымасцямі вербальнага мастацтва. Хочацца забыцца пра вечную канфліктную і знішчальную для крохкай творчай асобы сітуацыю, калі з дыстанцыі сыходзяць таленавітыя і прарываюцца наперад больш спрытныя, а хтосьці чакае трывушчы свайго часу. Для развіцця мастацтва чыйсьці поспех альбо правал зусім нязначныя, і толькі слабыя духам могуць цешыць сябе прызавымі месцамі. Страціўшы цікавасць да былога зместу тэатральнага спектакля, тэатр і публіка да гэтага часу па інерцыі адкідаюць беларускую драматургію як нудную. Нават напоўненыя гумарам і вострай сатырай камедыі Кандрата Крапівы і Андрэя Макаёнка пакуль не могуць вярнуцца ў тэатр і атрымаць новае прачытанне з прычыны тэндэнцыйнага стаўлення да іх як да надта сацыяльных. Такім чынам, новыя аўтары, якія прыйшлі са сваімі творамі, павінны былі рашуча абнавіць увагу да сябе.

## Абсурднае пісьмо

Наша публіка выхоўвалася на традыцыях тэатра, у якім тэкст быў вельмі важны. У аснове спектакля ляжала якасная п'еса пра жыццё людзей, а тэатр быў надзелены асаблівай цеплынёй, бо паміж сцэнай і гледачом узнікала жывое ўзаемаразуменне. Больш за тое, заўсёды шанаваўся тэатр псіхалагічны, які апавядаў даходліва і пачуццёва пра чалавечыя лёсы.

Літаратурны тэкст у тэатры, альбо драма, у апошнія паўстагоддзя адчувае сапраўдны крызіс. Антычны Арыстоцель заклаў класічныя каноны, дзе час цячэ лінейна, абавязкова прысутнічае сюжэт. Усё пабудавана на межасабовых адносінах герояў, іх дыялогах і маналогах. І раптам у постмадэрнісцкую

эпоху ўсё распалася. Авангард расхістаў усе былыя сэнсы, матывіроўкі, логіку паводзін, разам з гэтым і ўспрыманне часу, які зараз можа пераносіцца з «сёння» ва «ўчора», «заўтра», у нерэальнасць сну.

Як усё гэта ўспрымае глядач? Спачатку — рэзка негатыўна, насцярожана, потым — са здзіўленнем і жаданнем зразумець, нарэшце — з яўным адабрэннем. Усе новыя формы заўсёды праходзяць праз гэтыя стадыі. Дарэчы, ломка звыклых уяўленняў закранула іншыя віды мастацтва. Тэатр крыху адстаў, але быў вымушаны навёрстваць страчанае, асвойваючы за кароткі час тое, на што іншыя трацілі дзесяцігоддзі.

Характэрны прыклад. У Беларусь авангардысцкая драма дайшла недзе ў канцы 1980-х — 1990-х. Яна была экзатычнай птушкай, якую трымалі ў клетцы і баяліся выпусціць на волю. Часткова прарыў узнік з адзінкавымі пастаноўкамі п'ес Славаміра Мрожэка, Сэмюэля Бэкета, Эжэна Іанэска.

Цёмны, невыразны, з песімістычным прагнозамі час канца 1980-х — пачатку 1990-х спрыяў з'яўленню адпаведнай літаратуры ў нашай краіне. Адразу ж «стрэльнулі» некалькі беларускіх аўтараў, якія знайшлі разуменне ў маладым тэатры «Вольная сцэна». Цалкам натуральна, што цікавасць да ўсяго новага, непазнанага, эксперыментальнага праявіла моладзь. Тэатр сурова крытыкаваўся. Так, у зборніку «Беларускі тэатр — 99» было заяўлена: «Дзейнасць Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі неаднойчы ставілася пад сумненне. Падставы для яго выказваліся розныя. У прыватнасці, сцвярджалася, што мастацкага ўзроўню гэтай самай драматургіі няма, спектаклі будуць з'яўляцца непаўнацэннымі, дамарошчаныя і тэатр мусіць патануць пад напорам суцэльнае крытыкі. Сёння колішняе ўяўнае заключэнне адпала, затое паўстала небяспека таго, што хутка і абмяркоўваць не будзе чаго. У 1999 годзе ў тэатры адбылася толькі адна прэм'ера — "Стомлены д'ябал" С. Кавалёва».

Аднак гэта не перашкодзіла менавіта гэтаму тэатру даць сцэнічнае жыццё многім п'есам новай хвалі. Цікавыя назіранні Пятра Васючэнкі, выкладзеныя ў кнізе «Сучасная беларуская драматургія»: «Эксперыментальны пачатак беларускай драматургіі 1980—1990-х гадоў непасрэдна звязаны з досведам еўрапейскага "тэатра абсурду", "тэатра парадоксу".

Эстэтыка бяссэнсіцы існавала ў літаратуры здаўна. Яе вытокі знаходзяцца ў фальклоры. Асабліва шмат абсурднага, алагічнага ў народных анекдотах, якія распавядаюць пра дзівакоў, блазнаў, дурняў і г. д. Бяссэнсіца ў творы — не проста блазнаванне, але парадаксальны спосаб спасціжэння свету, яго асваенне, часам сатырычнае. Каб зразумець складаную з'яву, яе раскладаюць на простыя, прымітыўныя састаўныя з дапамогай прыёму "ачужэння". Для аспрэчвання недарэчнасці яе даводзяць да абсурду. Такі прыём скарыстоўвалі сатырыкі ад Петронія, Бранта, Рабле да Свіфта, Салтыкова-Шчадрына, Булгакава, Платонава.

Здаўна вядомы і "чорны гумар" — даволі зласесны, але ўражлівы. Прыклад "чорнага гумару" ў беларускім фальклоры вядомы анекдот "Ці была ў бацюшкі галава"».

Справядліва ўказваючы на карані з'явы, Пятро Васючэнка звязвае «абсурднае пісьмо» са станам грамадства таго часу, у якім нарасталі праблемы адзіноты, бессэнсоўнасці чалавечага жыцця. Гэтыя думкі часцяком наведвалі мастакоў пяра. Васючэнка адзначае: «Аўтараў трывожыць праблема камунікацыі, узаемаразумення паміж людзьмі. Але яны з пэўным скепсісам ставяцца да мовы як сродку вырашэння чалавечых канфліктаў. Яны раптоўна заўважаюць, што чым больш людзі гавораць, тым менш разумеюць адзін аднаго.

З'яўленне драмы абсурду ў беларускай літаратуры — не проста даніна літаратурнай модзе або спроба аўтараў запоўніць пэўны жанравы прагал у драматургічным працэсе. Літаратуразнавец І. Шаблоўская адзначае элементы паэтыкі абсурду ў беларускай камедыяграфіі, асабліва ў п'есах "Тутэйшыя" Я. Купалы, "Брама неўміручасці" К. Крапівы, камедыях "Зацюканы апостал", "Кашмар", "Дыхайце ашчадна" А. Макаёнка».

Першымі ластаўкамі ў падобнай драматургіі Беларусі былі непастаўленая п'еса Алеся Асташонка «Драматургічныя тэксты», а на сцэне — «Галава» Ігара Сідарука. У гэтай камедыі абсурду,

Авангард расхістаў усе былыя сэнсы, матывіроўкі, логіку паводзін, разам з гэтым і ўспрыманне часу, які зараз можа пераносіцца з «сёння» ва «ўчора», «заўтра», у нерэальнасць сну

якая з поспехам ішла на «Вольнай сцэне», усё было засяроджана на вобразе Галавы. Яго функцыя — уладарыць над істотамі-фантомамі, весці іх «да шчасця». Праз гэты вобраз найвыразней прачытваюцца намёкі на сацыяльныя, гістарычныя рэаліі, звязаныя з нараджэннем, росквітам і заняпадам таталітарнага рэжыму. Даволі празрыстая акалічнасць — тры «іпастасі» Галавы. Жалезная Галава, напэўна, увасабляе сабой дыктатуру, папяровая — бюракратычны рэжым, гумовая — намёк на дэмакратыю і адначасова гумовую дубінку, «дэмакратызатар».

Далей з'явіліся п'есы «Султан Брунея» Анатоля Дзялендзіка, «АС-Лінія» Галіны Багданавай, на жаль, не пастаўленыя. Пашанцавала драматургу Мікалаю Арахоўскаму з п'есамі «Ку-ку» і «Лабірынт». Найбольш яскрава прадоўжыў дух авангардызму А. Шурпін у п'есе «Хто пакахае мадам». Экзістэнцыялісцкія эксперыменты беларускіх драматургаў у духу Г. Пінтэра, С. Бэкета, Э. Іанэска неўзабаве завяршыліся з прыходам новых аўтараў, якія былі больш цвяроза нацэлены на сацыяльныя драмы грамадства. Такімі сталі А. Курэйчык, С. Гіргель, М. Рудкоўскі, А. Шчуцкі, К. Сцешык, М. Клімковіч, П. Пражко, П. Расолька. У кагосьці быў разавы поспех, хтосьці стаў запатрабаваным у Расіі і за мяжой, хтосьці атрымоўваў прэстыжныя прэміі, але беларускія тэатры не зацікавіў.

У ІІІ Міжнародным конкурсе драматургаў (Расія, 2004) удзельнічалі Мікалай Халезін («Дзень падзякі»), Андрэй Курэйчык («Тэатральная п'еса»), Д. Балыка («Белы анёл з чорнымі крыламі, або Марная надзея»), К. Сцешык («Мужчына — жанчына — пісталет»), А. Шчуцкі («Белыя парасоны»). Лаўрэатамі сталі К. Сцешык і А. Курэйчык. М. Срэдзін — лаўрэат прэміі «Дэбют». На конкурсе «Еўразія» (2003) перамаглі А. Курэйчык («Тры Жызэлі»), М. Халезін («Я прыйшоў») і П. Пражко («Серпанцін»). Г. Цісецкі стаў лаўрэатам прэстыжнай нямецкай прэміі «Драма Дэ», а яго аднаактовая п'еса «Нямы паэт» была прызнана ў 2003 годзе лепшым драматургічным творам краін Усходняй Еўропы.

Пераходная культурная эпоха сур'ёзна абнавіла драматургічнае пісьмо, яго форму і мову.

## Слова стала гульнёй

Адбыліся імклівыя змены самой сучаснай драматургіі, якая ўжо не можа быць замкнёнай нерухомай сістэмай. Служыць яна мэтам чыста палітычным, альбо біблейскаму іншасказанню, альбо зададзенай дзяржавай надзённай тэме, у любым выпадку тэатр увесь час патрабуе новых формаў і новай мовы. Былой бядой беларускай драматургіі была катастрафічная адсутнасць сцэнічнасці, публіцыстычнасць, шматслоўная гаварлівасць. У выпадку, калі тэатру і рэжысёру не надта ўжо дазвалялася ўмешвацца ў аўтарскі тэкст і яго перайначваць, млявая статуарнасць беларускай драматургіі адпалохвала гледача. Сёння тэатр здабыў волю і права на ўласнае бачанне пэўнага літаратурнага твора, і рэжысура робіць з драматургічнага тэксту булачкі, піражкі, торцікі, захоўваючы толькі аўтарскую рэцэптуру. Больш дакладна можна сказаць так: слова вырвалася з ранейшых псіхалагічных рамак у бязмежную прастору гульні, якую для яго вызначаюць рэжысёр, сцэнограф і акцёр. Слова патрабуе пластычнага і інтанацыйнага эквіваленту. Гэта цікавіць сучаснага гледача, бо адпавядае яго новай сістэме ўспрымання свету і людзей праз гульню. Аўтары, якія заявілі пра сябе ў 90-х гадах ХХ стагоддзя, як правіла, маюць філалагічную або тэхнічную адукацыю, часам скончылі два ВНУ, часам працуюць у бізнесе і слаба звязаны з тэатральнай культурай. Яны не праходзілі «свае ўніверсітэты» ў сценах тэатра і маюць аб ім вельмі павярхоўнае ўяўленне. Што прыцягвае іх да літаратурнай формы дыялогаў і маналогаў, да зачаравальнага святла рампы? Адзінага адказу ніхто з іх не хоча даць, і мала каго пераканае меркаванне пра тое, што тэатр — магутная трыбуна для самавыяўлення. У многіх проста ўзнікае жаданне паведаміць аб набалелым, і тады, магчыма, нараджаецца дыялог з самім сабой альбо спавядальны маналог. Па нявопытнасці ён выліваецца ў форму п'есы, і аўтар нясе яе ў тэатр. Калі балючая тэма кранае рэжысёра і акцёраў падчас чыткі, тады пачынаецца праца з аўтарам. Мастак, настаўнік, медык, прадпрымальнік, акцёр, журналіст — вось заўсёдныя заняткі сённяшніх новых беларускіх драматургаў. Драматург — няма такой працы. Толькі выбраныя могуць дазволіць сабе не сумяшчаць напісанне п'ес са штодзённай хаднёй на працу. У актыве — адна-дзве пастаўленыя п'есы. Ігар Сідарук, Мікалай Арэхаўскі, Максім Клімковіч, Міхась Казачонак, Уладзімір Рудаў, Сяргей Кандрашоў, Зміцер Бойка, Леанід Вашко, Міраслаў Адамчык… У драматургіі яны працавалі на ўзроўні

інтуіцыі, абсалютна не кан'юнктурныя. Тэмы выбіраюць абапіраючыся выключна на ўласны досвед. Гэта тэма можа супасці з грамадскім настроем, а можа апынуцца учарашнім днём. Яны ўмелі перадаць настрой і выпісаць героя. Амаль заўсёды ў іх — змрочная свядомасць і няўпэўненасць у шчаслівым фінале. Зазіраючы ў гісторыю, перачытваючы легенды ці асэнсоўваючы падзеі сённяшняга дня, яны напаўнялі п'есу абсурдысцкімі фантасмагорыямі, якія дражнілі класічную эстэтыку. Іх інтэлектуальны выплеск не меў працягу і ціха замкнуўся на іншых жыццёвых занятках. Але гэта ўжо пэўная сіла, хоць і без афіцыйнай падтрымкі і сяброўскай рукі калег. Яны адзінокія ваўкі, хоць, можа, хто-небудзь з іх і праб'ецца ў зграю. Мікалай Рудкоўскі, аўтар з дзвюма вышэйшымі адукацыямі, толькі ў 2001 годзе ўбачыў пастаўленымі сваіх «Жанчын Бергмана». П'есу рэпеціравалі ў тэатры імя Янкі Купалы і Рускім тэатры імя Горкага, але да канца справу не давялі. Спектаклем па п'есе Рудкоўскага адкрыў тэатральны сезон Валерый Анісенка ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі і атрымаў мноства прэстыжных прэмій.

## З чым прыйшлі новыя?

Што хочуць бачыць людзі ў тэатры сёння? У рыначных умовах, здабыўшы свабоду, тэатр ўсё ж такі не да канца вольны ў сваім выбары. Нялёгка захоўваць баланс паміж свабодным волевыяўленнем мастака і густам гледачоў. Каб выжыць, тэатр змушаны ставіць так званыя «касавыя п'есы». Гэта камедыі, мюзіклы, часцей за ўсё лёгкія замежныя. Пасмяяліся і неўзабаве забылі. Беларуская п'еса, хоць і падтрыманая дзяржаўнай палітыкай, такім лёгкім відовішчам не з'яўляецца. Між тым, глядач ужо насыціўся класікай і буржуазнай прадукцыяй. Ён прагне размовы пра свае праблемы і чакае сучасную п'есу. Менавіта з сучасным матэрыялам прыходзіць у драматургію пакаленне XXI стагоддзя. Калі артыст РТБД Зміцер Бойка напісаў п'есу «Крывавая Мэры», яе ў адзін міг узяў тэатр імя Янкі Купалы. Спектакль ішоў доўга, меў поспех, але Бойка не працягнуў заняткі драматургіяй. Зламаўся на другой, трэцяй спробе. Таксама не з'явіліся на сцэне новыя п'есы А. Шурпіна, А. Шчуцкага, С. Гіргеля, А. Ахметшына, А. Ждана, В. Бутрамеева, А. Федарэнкі, С. Кандрашова. Асабліва крыўдна, што перастаў сябраваць з тэатрам таленавіцейшы Ігар Сідарук.

На шчасце, з'явіліся новыя аўтары. Каб прыцягнуць іх да тэатра і стымуляваць цікавасць, Міністэрства культуры амаль штогод арганізоўвала конкурсы п'ес. У некаторыя гады дасылалі да 80—90 твораў. На базе тэатра ў Бабруйску быў задуманы і пачаў праводзіцца фестываль Нацыянальнай драматургіі імя В. Дуніна-Марцінкевіча. У мінулым, 2015 годзе, фестываль паказаў, што з'явілася новая генерацыя драматургаў — прадстаўнікі так званай «новай драмы». Калі забыцца, што ўсё новае — гэта добра забытае старое, то прадстаўнікі «новай драмы» з ранейшай драматургіяй дрэнна знаёмыя і часцяком нанова вынаходзяць порах і веласіпед. На жаль, яны малаадукаваныя. На шчасце, добра ведаюць жыццё і імкнуцца пракрычаць пра тое, што іх па-сапраўднаму хвалюе. Яны адштурхнулі ад сябе частку публікі шчодрым выкарыстоўваннем ненарматыўнай лексікі. З іншага боку, «новая драма» разлічана на новае маладое пакаленне. Як вядома, сучасная моладзь з ненарматыўнай лексікай сябруе. Людзі тэатра счытваюць тэксты з рэчаіснасці, ловяць іх мастацкі сэнс і надаюць яму вобразнасці. У гэтым добра праяўляецца культурная інтуіцыя і сацыяльнае чуццё сапраўдных мастакоў. Сёння мы назіраем выключную для мінулых часоў пластычнасць, гнуткасць, рухомасць, якія абапіраюцца на сучасныя (з дапамогай развітой лічбавай тэхнікі) візуальныя магчымасці чалавека. Тэхнакратычны характар навукі і інтэрактыўная інфармацыя пачынаюць ствараць пагрозу працэсу творчасці, і гэтаму ў немалой ступені спрыяе постмадэрнісцкі стыль, што разбурае духоўныя каштоўнасці і маральны імператыў. Некрытычнае тлумачэнне многіх насцярожваючых тэндэнцый мастацтва апраўдвае скажэнне нормаў і стандартаў паводзін, сярод якіх асабліва балючымі для мастацтва і культуры становяцца запазычанні (часта названыя цытаваннем), прысваенні і адкрыты плагіят. Прававая сістэма аўтарскага права ў нашай краіне пасіўная і нядзейсная. Яна не здольная абараніць унікальную асобу, індывідуальнасць і часта каціцца да размытых тлумачэнняў.

У гісторыі чалавечай культуры быў перыяд бессаромнага прысваення чужых адкрыццяў — старажытнарымская эпоха, якая абапіралася на

бязмежнае права заваёўніка. Эпоха пасляхова завяршылася перамогай народнай каранёвай культуры. Яшчэ аднойчы мазаіка з чужых кавалачкаў шкла ўзнікла ў сярэдзіне XX стагоддзя ў эпоху канструктывізму. Яго гісторыка-часовы перыяд быў нядоўгім, нават па-свойму плённым у сферы архітэктуры, і пакінуў грамадству цікавыя помнікі, але не занадта захапіў свядомасць людзей. Масавая запатрабаванасць мастацтва, якая назіраецца сёння, патрабуе ўсё большай змены ўражанняў і памяркоўнага стаўлення да прысваення чужых ідэй, што, безумоўна, падмацоўваецца і магчымасцямі запазычанняў з інтэрнэту.

## Імпарт, экспарт

Наш крытычны цэх ў рэспубліканскім маштабе даўно ўжо не аналізуе стан сучаснай драматургіі і не вылучае яе найбольш удалае сцэнічнае ўвасабленне. Між тым, на гэтым полі здарыліся глабальныя змены. Практычна замоўклі старэйшае і сярэдняе пакаленні драматургаў. З'явілася шмат маладых, у якіх не атрымліваецца прабіцца на сцэны рэпертуарных тэатраў краіны, але якіх добра ведаюць за межамі Беларусі.

Беларусы па паходжанні і менталітэту, яны часцей за ўсё пішуць на рускай мове і прабіваюцца «ў людзі» на расійскіх конкурсах «Літа Драма», «Любімаўка», «Залатая Маска», «Травеньскія чытанні» ў Тальяці, маскоўскі «Театр.DOC», шорт-ліст «Еўразія 0187, на фэстах у Польшчы. Толькі зусім нядаўна да гэтых каштоўных пляцовак далучыліся айчынныя Цэнтр беларускай драматургіі пад кіраўніцтвам Аляксандра Марчанкі і Цэнтр эксперыментальнай рэжысуры пад кіраўніцтвам Таццяны Траяновіч.

Паказальны творчы лёс беларускага драматурга Паўла Пражко, аднаго з самых абмяркоўваемых прадстаўнікоў «новай драмы». Чалавек надзвычай некамунікабельны, які пазбягае інтэрв'ю і піяр тэхналогій, шырока вядомы ў вузкіх колах. Таленавіты і іранічны, з пагардлівым стаўленнем да традыцый і правілаў стварэння п'есы, ён імкнецца бачыць тэатр аналагам жыцця. Яго лепшая п'еса «Ураджай» не так даўно была ўпершыню пастаўлена ў дзяржаўным тэатры горада Брэста. Даследчык яго творчасці С. Ганчарова-Грабоўская лічыць, што гэтая п'еса была напісана ў кантэксце еўрапейскай драмы абсурду. Не магу з ёй пагадзіцца. Гэта тыповая «новая драма» з яе парушэннем прычынна-выніковых сувязяў, універсальнасцю жыццёвых сітуацый, паглыбленнем у соцыум і насычанасцю мацяршчынай. Пражко выдатна малюе «пафігізм» пэўнай часткі маладога пакалення, жорсткае і спажывецкае стаўленне да традыцыйных каштоўнасцей. Не дзіва, што яго творчасць не знайшла шлях на сцэны рэпертуарных тэатраў нашай краіны.

Зусім па-іншаму склаўся лёс другога нашага аўтара, самага перспектыўнага на сёння — Дзмітрыя Багаслаўскага.

## Фатальныя абставіны

Некаторыя п'есы прымушаюць разважаць над праблемай, ці можна за зло плаціць злом. Парушэнне законаў, нормаў чалавечага інтэрната і маральнасці не ў п'есах Шэкспіра, а ў сціплых опусах сучасных драматургаў выходзяць за межы побыту, ўжывання алкаголю і наркотыкаў. Зло замахваецца на чалавечае жыццё. Гэта жыццё адымаецца не на вайне і нікога не робіць героем. Жыццё адбіраецца гвалтоўна, ад безвыходнасці. Аказваецца, што вельмі цяжка судзіць ахвяру і ката. Акалічнасці давялі. Аднак акалічнасці немагчыма змяніць.

Артыст Маладзёжнага тэатра Дзмітрый Багаслаўскі некалькі гадоў назад напісаў п'есу «Любоў людзей». П'есу жахлівую, таму пра яе шмат спрачаліся і ставіць на сцэне не спяшаліся. У Беларусі п'есу не ўхвалілі, затое ў Расіі назвалі падзеяй, яна перамагла ў некалькіх конкурсах і ў 2012 годзе была пастаўлена Маскоўскім акадэмічным тэатрам імя У. Маякоўскага.

Някемлівых беларусаў прысаромілі, і Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі паказаў прэм'еру.

Чамусьці мне здаецца, што жанравае вызначэнне трагедыя дакладна адпавядае нацыянальнаму менталітэту. Для беларуса расчляненне цела забітага — выдумка. Забіць — магла. Расправіцца так, каб скарміць свінням,— наўрад ці. Для гераіні п'есы, рускай жанчыны, якая перажыла блакаду, голад, рэпрэсіі, жорсткая расправа на ўзроўні вар'яцтва цалкам магчымая.

Еўрапейскі тэатр сёння вельмі хутка асэнсоўвае палітычныя і сацыяльныя падзеі, якія адбываюцца ў свеце. Ён адразу ж выдае спектакль, нават калі

ў яго няма адпаведнай п’есы. Працэс ідзе адначасова — рэпеціруюць і пішуць тэкст. У нас не так. Мы няспешна паварочваемся, моцна тармозім, чакаем, азіраемся і пабойваемся памыліцца. Да таго ж, беларускі тэатр сёння настроены выключна на забаўкі. У яго і няма актуальных сучасных спектакляў. Ён свайго роду сфера абслугоўвання. Пажадана, каб пры гэтым было весела і смешна, хоць у жыцці бывае і па-іншаму. Пра гэтае іншае і напісаў Багаслаўскі. Гэта як быццам пацямнелае і растрэсканае люстэрка нашага грамадства.

Сяргей — сумленны справядлівы ўчастковы маленькага пасёлка. Добра ведае закон і трымаецца яго. Па-чалавечы можа зразумець выключныя абставіны. Як усё можа выпіць з сябрам. Змучаная п’янствам і пабоямі мужа гераіня п’есы Люська забівае свайго Мікалая, разбірае цела на часткі і скормлівае свінням. Нават трупа не застаецца. Пасёлак думае, што загуляў мужык і знік. Люська сумленна і неяк стомлена прызнаецца сябру дзяцінства ўчастковаму Сяргею і просіць ратаваць яе. Той усё яшчэ памятае іх школьнае каханне. Захаваўшы тайну, яны спадзяюцца новай любоўю сцерці ў свядомасці сляды злачынства. Вяселле. Дні шчасця. Люсьчын хлопчык Сяргею як сын. Потым мінулае пачынае перамалёўваць сучаснае толькі чорнымі фарбамі. Усё паўтараецца. Так, п’юць. Так, дзяруцца. Так, ходзяць ад жонак налева. Так, мацюкаюцца. Пры гэтым працягваюць трымаць гаспадарку, сеяць, будаваць, гадаваць дзяцей, марыць аб прыгожым жыцці, якое паказваюць па тэлевізары. Акалічнасці складваюцца так, што Сяргей забівае сваю Люську і сам канчае жыццё самагубствам. З пункту гледжання закона безупынныя правапарушэнні, крымінал. З пункту гледжання жыццёвай логікі ў пасёлку, дзе ўсе пра ўсіх усё ведаюць, бязвыхадная трагічная сітуацыя. Што прымусіла Сяргея задушыць каханую жанчыну? Ці мог ён жыць пасля гэтага? Колькі мог захоўваць страшную тайну? І гэтыя ўчынкі здзяйсняе міліцыянер, вартавы парадку? Мы павінны яго зненавідзець. Аднак ён выклікае спачуванне. Як гэта растлумачыць?

А памятаеце па падручніках гісторыі Старажытнага свету аповед пра жанчыну царскай крыві Медэю? Крыўда на мужа, які здрадзіў ёй, прымусіла яе забіць іх дзяцей. Сотні актрыс гралі на сцэне Медэю і знаходзілі матывы, каб апраўдаць яе, ва ўсякім разе, хоць бы выклікаць спачуванне. Вось яна, сіла мастацтва. Любоў прымушае забыцца на ўсё, нават на самае святое. У грэчаскай міфалогіі закладзены асноўныя лініі развіцця еўрапейскай гісторыі і культуры, сфармуляваны асноўныя сюжэты еўрапейскай драмы. У п’есе Багаслаўскага мне бачацца водбліскі грэчэскіх трагедый, у якіх пакута павінна ачысціць і ўсяліць надзею.

Як годна існаваць у акалічнасцях анархіі? Як пераадольваць штодзённую прыніжальную экстрэмальную сітуацыю ў сям’і? На вайне закрыеш амбразуру кулямёта і навек станеш героем. У мірны час кулямёт працягвае страчыць. Стаў зверам ад пабояў і прыніжэння, падымеш рукі на блізкага чалавека і станеш злачынцам. Магчыма, такія думкі наведваюць рэжысёраў і акцёраў, якія граюць п’есу Багаслаўскага.

Драматург распавёў пра тое, што часта, вельмі часта сустракаецца ў жыцці і ставіць у тупік пошукі выйсця са становішча. Як вольны мастак Багаслаўскі прыдумляе сваё жахлівае вырашэнне праблемы. Нам жа, гледачам, прыйдзецца думаць, спрачацца, пагаджацца, супраціўляцца. Так бывае.

## Што заўтра?

Вельмі зацікаўленая размова пра сённяшні дзень беларускай драматургіі упершыню пасля доўгага перапынку адбылася напярэдадні бабруйскага фестывалю 2015 года, на самім мерапрыемстве і пасля яго. Услед маладым і ўжо сталым аўтарам А. Курэйчыку, М. Рудкоўскаму, Д. Багаслаўскаму, К. Сцешыку, П. Расолька ідуць Максім Дасько, Віктар Красоўскі, Віталь Каралёў, якія ствараюць п’есы не паводле лінейнага ланцужка слоў з адзіным сэнсам, а спрабуюць знайсці сябе ў шматмернай прасторы, дзе спрачаюцца паміж сабой розныя віды пісьма. У іх творах з’явіўся ўжо не панылы і расчараваны герой, а асоба, якая супраціўляецца неспрыяльным абставінам. Не, ён не герой, але фігура самадастатковая ў сваім жаданні жыць па праўдзе, не падаць на дно, заставацца верным сваёй чалавечай годнасці.

Усялякая яркая творчасць у выніку выгадная грамадству, таму што яна ставіць дыягназ яго духоўнаму стану. Хай не выглядае манілаўшчынай мара ўбачыць беларускую драматургію на кантынентальным узроўні. Беларускі тэатр ужо пакідае свой след у краінах блізкага замежжа. Тых, хто кіруе культурай, гэта павінна радаваць.

**Уладзімір Гніламёдаў,**

**Мікола Мікуліч**

# Шчодрасць таленту

*Да 120-годдзя Кандрата Крапівы*

У снежні 1922 года, на самым пачатку свайго творчага шляху, Кандрат Крапіва напісаў цікавы алегарычны верш «Крапіва», які адразу стаў папулярным сярод чытачоў. Даследчыкі называюць яго паэтычнай дэкларацыяй, праграмным творам пісьменніка. Верш раскрываў змест псеўданіма аўтара і абгрунтоўваў сатырычную стратэгію мастацкай творчасці:

Я ў мастацкім агародзе
Толькі марная трава.
А якая? — смех, дый годзе:
Я — пякучка-крапіва.

Я расту вось тут пад плотам
І не так даўно ўзышла,
А ўжо многім абармотам
Рукі-ногі папякла.

Хто палез за агуркамі,
Хай той носіць пухіры —
Мяне голымі рукамі
Асцярожна, брат, бяры.

Хто сустрэўся быў са мною,
Дакрануўся раз ці два,
Дык той ведае ўжо, хто я:
Я — пякучка-крапіва.

Тады на слыху былі псеўданімы: Чарот, Пушча, Дудар, Вольны, Чырвоны, Чорны, Галодны і г. д. На пытанне пра тое, чаму ён абраў псеўданім Крапіва, Кандрат Кандратавіч адказваў: «Матывы былі розныя. Па-першае, я не лічыў свае творы таго часу сапраўды мастацкімі і саромеўся падпісваць іх сваім прозвішчам. Па-другое, маё прозвішча — Атраховіч — нязручнае для вымаўлення і нялёгкае для запамінання. Па-трэцяе, сатырычны характар маіх твораў, у якіх часам называліся і сапраўдныя імёны, патрабаваў нейкага прыкрыцця хоць бы ў выглядзе псеўданіма. У адпаведнасці з характарам жанру я і выбраў “Крапіву”».

І псеўданім, і аўтарскі каментар да яго ў пэўнай ступені выяўляюць галоўны структурны стрыжань творчай індывідуальнасці Кандрата Атраховіча. Стрыжань гэты — асветніцтва

І псеўданім, і аўтарскі каментар да яго ў пэўнай ступені выяўляюць галоўны структурны стрыжань творчай індывідуальнасці Кандрата Атраховіча. Стрыжань гэты — асветніцтва.

Ён адначасова мастак і асветнік, прычым маральна-этычны пафас у Кандрата Крапівы часта нават пераважаў над эстэтычным. Гэту акалічнасць, на наш погляд, і варта перш за ўсё ўлічваць падчас даследавання пытання аб арыгінальнасці пісьменніка і яго ўзаемадачыненняў з беларускай літаратурай. Ён — з плеяды беларускіх пісьменнікаў-асветнікаў. Але гэта асветнік новага часу, адзін з заснавальнікаў беларускай савецкай літаратуры. У той час у савецкай літаратуры тварылі розныя майстры: Уладзімір Маякоўскі, Дзям’ян Бедны, Міхаіл Булгакаў, Міхаіл Зошчанка, Вячаслаў Шышкоў... Сатырычны струмень гэтай літаратуры быў моцны. Кандрат Крапіва знайшоў належнае месца ў адзначаным шэрагу, але быў бліжэй да нацыянальнай мастацкай традыцыі, да жанру «гутаркі», распаўсюджаным у беларускай дарэвалюцыйнай літаратуры. Пра гэта сведчаць такія яго творы, як «Людзі — суседзі!», «Што я бачыў на “Трэку”», «Гульня ў жмуркі», «Каго мне ўзяць за кума?», «Год Сцяпана-лайдака», якім уласціва вастрыня сацыяльна-бытавой праблематыкі, сюжэтнасць, сказавасць інтанацыі. Аўтар, відавочна, ухіляўся ад звышнавацый, усялякіх эксперыментальных празмернасцяў, характэрных для многіх літаратараў 1920-х гадоў. Прастата і даступнасць вылучалі Кандрата Крапіву на гэтым фоне. І, як ні дзіўна, у яго не было пераймальнікаў — пісьменнік стаяў неяк асабняком, дарэчы, добра гэта ўсведамляючы.

Але глыбокая ўнутраная сувязь з нацыянальнай культурай, несумненна, была. Маюць рацыю тыя даследчыкі, якія бачаць у яго з’яўленні на беларускай літаратурнай «ніве» факт заканамерны, сацыяльна абумоўлены. У плане маральна-эстэтычным Крапіва-сатырык вырас з таго, што

літаратуразнаўцы называюць «народнай смехавай творчасцю» (выраз Міхаіла Бахціна). Беларускі фальклор і літаратура ў паказе сваіх герояў не пазбягалі ні шаржу, ні кпінаў, ні парадзіравання і скамароства. Байкі Крапівы — прамое і непасрэднае, амаль не апасродкаванае нейкімі прыватнааднаразовымі, асабовымі сітуацыямі выяўленне сацыяльных і маральных асаблівасцяў народнага жыцця. Пачуццё гумару не пакідала беларускі народ у самыя цяжкія часы. Гэта і знайшло сваё ўвасабленне ў творах Кандрата Крапівы, набыўшы там пэўную накіраванасць, узмацніўшыся да вострай сатыры, а нярэдка і да сарказму.

У 1920-я малады сатырык высмейваў адмоўныя рысы ў свядомасці людзей, адсталасць старой вёскі, рэлігійныя вераванні, бескультур'е («Ціт заводзіць новы быт», «Будуйце лазні!», «Мы не паклонімся богу» і іншыя творы) і рабіў гэта з выразных асветніцкіх пазіцый. «З вёскі змываць дакастрычніцкі бруд — задача мая ўдарная» — вось крэда пісьменніка. Дастаецца ад яго і знешнім ворагам: «Да ноты Керзана», «Сава, Асёл ды Сонца», «Жаба ў каляіне»...

Адзін з самых ранніх твораў Кандрата Крапівы — верш «Грышча». Прадметам мастацкага асэнсавання ў ім з'яўляецца звычайная вясковая вечарынка. Прыняць удзел у скоках ці проста паглядзець на іх у хату да Агаты «сышлася вёска ўся», ад малога да старога. «Тут сынок, ды тут і тата, Тут унучак, тут і дзед», — кажа паэт. «Сцёпка ціскае гармонік, Той пішчыць, як парася».

А пад піск той сярод хаты
Дык аж стогнуць, бы аруць,
Скачуць хлопцы і дзяўчаты —
Вобуй бацькаўскі дзяруць.

Аж сапуць, абліты потам,
Як улетку ў сенакос;
Як каторы тупне ботам —
Здэцца, зломіцца памост.

Паэт выяўляе сваё непрынянцце старых форм грамадска-культурнага жыцця на сяле, асуджае абмежаванасць інтарэсаў, прымітыўнасць адпачынку моладзі, бескультур'е і нявыхаванасць. На першых ролях у вячэрніх скоках выступаюць тыя з вяскоўцаў, хто не дужа падкі да працы днём. «Як ідзе ж Паўлінін Тодар, Дык ад дзівяцца ўжо ўсе, — чытаем у вершы, — Да работы, здэцца, лодар, Тут, як чорт яго нясе». Як лёгка заўважыць, тонкай іроніяй, сатырычным высмейваннем напоўнены аўтарскія параўнанні і характарыстыкі, у якіх стома ад скокаў суадносіцца са стомай ад цяжкой сялянскай працы. Паэт сцвярджае думку аб тым, што на месца такіх форм адпачынку на вёсцы, як бязладнае грышча з яго распушчанасцю нораваў, шумам-гоманам, крыкам, лаянкай і «дзікім Градам адборных мацюкоў» павінны прыйсці сістэмная культурна-асветная праца і самаадукацыя, звязаныя з духоўнасцю, кнігамі, імкненнем да ведаў. Красамоўныя заключныя строфы верша «Грышча»:

Бела-сіні, надта горкі
Лезе ў вочы, есць да слёз,
Душыць горла дым махоркі,
Самагон зрывае нос.

Вось — забава для вялікіх,
Вось — навука для малых:
Ў самагонцы, скоках дзікіх,
Ў мацюках замест кніг.

Неяк незаслужана абыдзена ўвагай даследчыкаў цікавая і павучальная байка Кандрата Крапівы «Каршун і Цецярук», якая прысвечана выкрыццю абыякавасці і баязлівасці, падхалімства і ўгодніцтва. Стары Каршун раптам «стаў хваліцца на ўвесь лес, Што ён — спявак вялікі». Гэтую амбіцыйную і беспадстаўную прэтэнзію на мастацтва асуджаюць іншыя лясныя птушкі, у прыватнасці, галкі і сіваграк, аднак толькі шэптам, «на вушка», «бо той каршун стары Начальствам быў у іх, І ведалі даволі ўсе наўкола, Што хоць пагіны меў ён голас, Ну дык затое ж кіпцюры!» Асяроддзе страху, маўчання і прыніжанасці становіцца спрыяльнай глебай для развіцця негатыўных

Беларускі фальклор і літаратура ў паказе сваіх герояў не пазбягалі ні шаржу, ні кпінаў, ні парадзіравання і скамароства. Байкі Крапівы — прамое і непасрэднае выяўленне сацыяльных і маральных асаблівасцяў народнага жыцця

Неяк незаслужана абыдзена ўвагай даследчыкаў цікавая і павучальная байка Кандрата Крапівы «Каршун і Цецярук», якая прысвечана выкрыццю абыякавасці і баязлівасці, падхалімства і ўгодніцтва

якасцяў, самасцвярджэння непрыстойных асоб. У ім спакваля выспявае амаральны ўчынак Цецерука, які, каб узвысіцца над іншымі, крывадушна абвяшчае Каршуна выдатным спеваком, сапраўдным мастаком. «Няма на свеце прыямнейшай рэчы, як слухаць песні Каршуна», — безапеляцыйна сцвярджае ён. Паэт удала выкарыстоўвае прыём адваротнасці. З дапамогай гэтага прыёму ён робіць акцэнт на ўчынку і асобе Цецерука, нарошчвае яе адмоўную характарыстыку і сатырычнае высмейванне. Імкнучыся дагадзіць свайму начальніку, Цецярук адмаўляе ў таленце спевака нават такому агульнапрызнанаму майстру, як Салавей і, наадварот, беспадстаўна ўзвышае зусім няздатную да мастацтва Варону, якая, на яго думку, «мацней і за Шпака, і за Грака». «Але найлепш за ўсіх — шаноўны старшыня», — акцэнтавана падагульняе свае разважанні бязмерна ўгодлівы Цецярук. Зразумела, змадэляванае на аснове стасункаў і ўзаемаадносін у птушыным асяроддзі Кандрат Крапіва праецыраваў на сацыяльную сферу, чалавечае грамадства. Страх і падхалімства, адхіленне ад маральных норм і законаў, прынцыпаў праўды і справядлівасці вядуць да ўсёдазволенасці, узурпацыі ўлады і дыктатуры. У канцы твора аўтар прадугледжвае, што ўгодлівасць Цецерука будзе належна ацэненая Каршуном:

За што ж бы Цецярук хваліў так Каршуна?
Перш-наперш, ён быў глух,
Чаго б нікому я не зычыў,
А па-другое, Каршуну
Дык ён тут проста… ну…
Каля хваста казыча,
У Каршуна каб быць у ласцы.
Яму, напэўна, гэта ўдасца,
Бо шмат здарэнняў і падзей
Такіх я бачыў між людзей.

Пазней будуць і Уладзімір Корбан, і Міхась Скрыпка, і Эдуард Валасевіч, і іншыя байкапісцы-сатырыкі, але што аб'ядноўвае іх з Крапівой? Хіба што толькі праца ў пэўным жанры. Крапіва — непаўторны.

Вялікае месца ў творчасці Кандрата Крапівы даваеннага перыяду належыць заходнебеларускай тэматыцы. Пісьменнік уважліва сачыў за тым, як разгортваліся падзеі па той бок Рыжскай мяжы, актыўна адгукаўся на іх, выступаючы палымяным абаронцам сваіх прыгнечаных і занядбаных заходніх братоў. Вершы «На "Крэсах Усходніх"», «Польскаму пану ў дзень стварэння Беларускай дывізіі», «Не да "бжуху" страва», «Праметэй», «Балабонь да пары, балабонь!», «Кат у няміласці», «З фашыстоўскай падваротні», «Ад пачосткі ныюць косткі», «Некралог» і іншыя сведчаць пра тое, што ён выступаў супраць палітыкі дэнацыяналізацыі беларускага этнасу, якую праводзілі польскія ўлады на «крэсах усходніх», супраць абмежавання сацыяльных правоў і свабод беларусаў.

Верш «Не да "бжуху" страва» прысвечаны самому факту падзелу Беларусі ў адпаведнасці з Рыжскай мірнай дамовай 1921 года і яго вынікам:

Кускі смачныя цалком
Пан глытае век-вяком, —
Так жа вось вайной мінулай
Польшча «Крэсы» праглынула.
Толькі гэтакі кусок
Каб не вылез ёй праз бок…

«Праглынуўшы» Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну, Польшча цяжка захварэла, сцвярджае аўтар.

З ёю дрэнна нешта справа
(Не да «бжуху», мусіць, страва), —
Дактароў усіх рэцэпты
І бабулек розных шэпты
Не памоцны хворай тут,
Не памог і пан Тугут.
Ужо каркаюць вароны…
Шчыра просячы «аброны»…

Паны спадзяюцца на тое, што «Можа бог дасць, пранясе» і хворая неўзабаве паправіцца, ачуняе, прагноз жа самога аўтара несуцяшальны: «Але Польшчы, як здаецца, Пастагнаць тут давядзецца». Верш характарызуецца натуральнасцю лірыка-апавядальнага дыскурсу, прадметна-пачуццёвай канкрэтнасцю і выразнасцю, яскравым вобраз-

ным малюнкам. Вастрыня сацыяльнага погляду лірычнага героя спалучаецца ў ім з дакладным рэалістычным адлюстраваннем, непасрэднасць выяўлення думкі і пачуцця пераплятаецца з публіцыстычна-сатырычнай завостранасцю.

У 1922 годзе ў выніку падрыхтоўкі да выбараў у вышэйшы заканадаўчы орган дзяржавы Сойм актывізавалася грамадска-культурная і палітычная дзейнасць нацыянальных меншасцяў Польскай Рэспублікі. Для падрыхтоўкі да выбараў быў створаны выбарчы блок беларусаў, украінцаў, яўрэяў і немцаў, асобна паўстаў таксама Беларускі выбарчы камітэт у Вільні. Як вядома, у 1922 годзе ў польскі Сойм і Сенат прайшло чатырнаццаць беларускіх паслоў, і гэта было вялікае дасягненне нашых суайчыннікаў. Пасля выбараў паслы ад нацыянальных меншасцяў аб'ядналіся ў асобны дэпутацкі блок, а таксама былі створаны іх самастойныя соймавыя фракцыі, у тым ліку і Беларускі пасольскі клуб на чале з Б. Тарашкевічам. Зразумела, што з гэтай сілай вымушаны былі лічыцца кіраўнічыя колы, уладныя структуры ўсіх узроўняў. Выступаючы з гадавой справаздачай аб дзейнасці ўрада на пленарным пасяджэнні Сойма, прэм'ер-міністр Польшчы У. Сікорскі не шкадаваў кампліментаў для нацыянальных меншасцяў, называў іх неад'емнай часткай польскага грамадства, адзначаў, што дзяржава будзе выконваць свае абавязкі перад беларусамі і ўкраінцамі, агавораныя ў Версальскім і Рыжскім трактатах, гарантаваў захаванне іх сацыяльных і нацыянальных правоў, абяцаў падтрымку ўсіх грамадска-культурных ініцыятыў і пачынанняў. Прамова У. Сікорскага стала прадметам з'едлівай іроніі і сатырычнага асмяяння ў вершы Кандрата Крапівы «На “Крэсах Усходніх”»:

Пан клапоціцца на «Крэсах».  
Аб чыіх жа інтарэсах?  
Можна бачыць і сляпому —  
Не аб нашых жа, вядома.

Элементы апавядальнасці, рэалістычнай аб'ектыўнасці мастацкага выяўлення спалучаюцца тут з драматызмам лірычных пачуццяў, адзнакі актыўнага і дзейснага аўтарскага гуманізму, узвышанасці духоўна-маральнага свету героя дапаўняюцца і ўзмацняюцца вастрынёй яго ідэйна-эмацыянальных характарыстык і ацэнак, выразным сацыяльна-выкрывальным пафасам:

Воўчы зуб не памагае,  
Дык палітыка другая  
У яго як бач паспела —  
Хвост пусціць лісіны ў дзела…  
………………………………  
«Мы вас любім, мы вам рады,  
То чыноўнікі ўсё, гады,  
Вас там крыўдзілі дагэтуль —  
Мы пакажам ім за гэта.  
Вось вам цацак (папяровых),  
Вось вам школы, вось вам мовы…»

У канцы верша паэт падкрэслівае, што «Ходзіць пан лісой-хітрушкай Перад крэсаваю птушкай» нездарма:

Беларус, глядзі не каркай,  
Бо адчуеш сваім каркам,  
Чаму пан такі стаў добры:  
Кось-кось-кось — пакуль ў аглоблі,  
Потым па баку дугою  
Ды ў жывот яшчэ нагою.

У сваім даследаванні «Пытанні літаратуры і эстэтыкі» М. Бахцін адзначаў, што «міфалагічнае і мастацкае мысленне лакалізуе ў мінулым такія катэгорыі, як мэта, ідэал, справядлівасць, дасканаласць, гарманічны стан чалавека і грамадства». Вершам «Праметэй» Кандрат Крапіва адгукнуўся на разгром польскімі ўладамі Беларускай сялянска-работніцкай грамады, у прыватнасці, на заключны судовы працэс над яе кіраўнікамі, які адбыўся ў лютым — маі 1928 года ў Вільні. Народ Заходняй Беларусі асацыяваўся ў свядомасці паэта са старажытнагрэчаскім тытанам Праметэем. Як і прыкуты да скалы за перадачу агню людзям Праметэй, «Рукою панскаю прыкуты» заходнебеларускі народ таксама церпіць страшныя мукі, пакутуе пад польскім сацыяльным і нацыянальным прыгнётам:

Крывёй абліты ён, зняможан!  
Маўчыць халодная скала.  
Крамсае цела «бялы ожэл» —  
Сваяк «двухглавага арла».

Ён сэрца рве. Ён шчыпле печань.  
Ён п'яны выглядам крыві…  
Крывавы баль, аднак, не вечны,  
Калі ў грудзях агонь жывы.

Верш вызначаецца скандэнсаванасцю і ёмістасцю, напружанасцю драматычнага зместу і дыхае моцнай духоўна-грамадзянскай энергетыкай. Аўтарскі маналог арганічна спалучае думку і эмоцыю, ён прасякнуты сцвярджэннем героікі народнага духу і волі і насычаны яркімі, пластычна-выяўленчымі штрыхамі і дэталямі. Лірычны герой паэта спадзяецца на годную адплату працоўных Заходняй Беларусі, якім верш прысвечаны, сваім прыгнятальнікам:

І прагну аднаго цяпер я:
Каб мне прыждаць хвіліны тэй,
Калі паганай птушкі пер'е
Па ветры пусціць Праметэй.

Творчасць Кандрата Крапівы развівалася ў рэчышчы авангардных ідэйных тэндэнцый беларускай савецкай літаратуры. Бязлітасным асуджэннем апанентаў поўняцца вершы паэта «Балабонь да пары, балабонь!», «Кат у няміласці», «З фашыстоўскай падваротні» і іншыя, у якіх падвергнуты знішчальнай крытыцы канкрэтныя гістарычныя асобы, перыядычныя выданні і г. д.

Трэба сказаць, сатырычна-выкрывальны талент Кандрата Крапівы добра клаўся на грамадска-сацыяльную глебу Заходняй Беларусі, яго творы карысталіся вялікай папулярнасцю ў шырокім працоўным асяроддзі краю, якое любіла вострае, дасціпнае, арыгінальнае слова пісьменніка. «Імя і вершы Крапівы, — дасведчана пісаў В.Таўлай, — настолькі зрадніліся з шырокімі чытацкімі коламі Заходняй Беларусі і былі настолькі сугучнымі тагачасным настроям, што заходні беларус без асаблівага роздуму залічаў аўтара ў землякі-заходнікі.

Але трэба прызнаць, што ў гэтай сімпатычнай памылцы была значная віна рэдакцыі "Маланкі", якая з мэтай "акліматызацыі" Крапівы самастойна ўводзіла некаторыя тэрміналагічныя змены ў яго вершы, а таксама шляхам дапісання прысвячальных дапісак звязвала іх з канкрэтнымі асобамі і падзеямі заходнебеларускага палітычнага жыцця…

Творы Крапівы білі з гнеўнай сілай па панскай рэчаіснасці.

У гэтым — галоўная прычына шырокай папулярнасці Крапівы ў былой Заходняй Беларусі. Вершы і байкі сатырыка часта дэкламаваліся з аматарскай сцэны, а раз пачутыя — глыбока западалі ў памяць».

Асаблівым попытам сярод заходнебеларускіх чытачоў карысталася паэма Кандрата Крапівы «Біблія», якая, па словах П. Пестрака, «пераходзіла з вёскі ў вёску ў рукапісным выглядзе — на школьных сшытках "у клетачку", каб гусцей можна было напісаць, каб больш змясцілася. У такім выглядзе яе пранеслі і ў турму. Я сам пазнаёміўся з "Бібляй" у пружанскай турме. Помню, як цяпер, пасля паверкі садзіліся ўсе ўкруг за стол, і я хлопцам чытаў "Біблію". Чытаць яе было цяжка, бо не паспееш ты прачытаць страфы, як выбухае такі грамовы смех, што аж вераб'і з падаконнікаў фыркаюць са спалоху.

Калі хто-небудзь з хлопцаў адседжваў свой тэрмін, яму клалася на дарогу "Біблія" ў халяву, зашывалася і такім чынам выносілася на волю, даходзіла ў тыя куткі, дзе яе яшчэ не было.

Праводзячы такога хлопца з "Бібляй", казалі: "Нясі бацьку, няхай пачытае"».

Дарэчы, папулярнасць твораў Кандрата Крапівы ў Заходняй Беларусі, тое, што яны распаўсюджваліся там сярод чытачоў у мностве рукапісных экзэмпляраў, аднойчы дапамагло маладому Максіму Танку пазбегнуць турэмнага зняволення. Баронячыся ў судзе ў снежні 1934 года пасля паўторнага арышту і абвінавачвання ў напісанні знойдзеных у турэмнай камеры на Лукішках антырэлігійных і рэвалюцыйных вершаў, а таксама першамайскай адозвы, Максім Танк даводзіў, што гэта вершы беларускага савецкага паэта Кандрата Крапівы. «Няхай мне даруе наш выдатны сатырык за тое, што я прыпісаў яму свае бездапаможныя раешнікі… Але гэта тады памагло мне падважыць абвінавачанне суддзі-следчага і выйсці на свабоду…» — разважаў паэт падчас гутаркі з адным з аўтараў артыкула ў маі 1995 года.

Прыцягвалі Кандрата Крапіву і літаратурна-палітычныя спрэчкі і барацьба таго часу. На жаль, не даследавана ў нас тэма «Крапіва і Купала». Сатырычны верш Крапівы «Янкавы казкі» (1923) — празмерна аўтарытарны ў дачыненні да Янкі Купалы, які ў той час не падзяляў аптымізму маладнякоўцаў у адносінах да новай тагачаснай явы. Аднак і сам Крапіва не пайшоў за бальшавікамі па шляху татальнага пераўтварэння быцця, звязанага з рэалізацыяй усіх планаў наступу на прыроду. У ім заўсёды быў моцны здаровы сэнс. Нават да згаданых «Янкавых казак» ён праз пэўны час палічыў патрэбным зрабіць своеасаблівы пастскрыптум:

Выбачай жа, Янка, брат, —
Памыліўся я, ды рад,
Што сляпыя ўсе калекі
Адчынілі ўжо павекі.
Праўду кажуць-такі ў нас,
Што найлепшы доктар — час.

Пісаць вершы і байкі Кандрат Крапіва не пакідаў да канца свайго жыцця, аднак, як бачым, яго праблемна-тэматычныя і жанрава-стылёвыя пошукі былі досыць шырокія ўжо на раннім этапе творчасці. «Байкі і сатырычныя творы Крапівы, — абгрунтавана падкрэсліваў І. Навуменка, — адразу атрымалі ў літаратуры сталую “прапіску”, сталі творамі хрэстаматыйнымі, па якіх вучыцца глядзець на жыццё ўжо каторае пакаленне школьнікаў… Самыя сучасныя ідэі паэт “апрануў” у народныя вопраткі, на падзеі сучаснасці глядзеў праз прызму народнага светабачання, светаадчування, і гэта забяспечыла яго творам зайздроснае даўгалецце…

Калі б Кандрат Крапіва нават не напісаў сваіх драм і сатырычных камедый, рамана “Мядзведзічы”, то аднымі толькі сваімі байкамі, сатырычнымі вершамі ён заняў бы адно з першых месц у беларускай літаратуры».

Ягоныя апавяданні 1920-х гадоў нагадваюць творы Міхаіла Зошчанкі, хоць у іх першым часам пераважае сатырычна-прыкладны, асветніцкі пачатак («Людзі — суседзі», «Снег ідзе», «Вайна» і інш.). З цягам часу, аднак, Кандрат Крапіва імкнуўся глыбей раскрыць унутраны свет чалавека і стаў вопытным майстрам псіхалагічнай прозы. На мяжы 1920—1930-х ён стварыў сацыяльна-бытавы раман «Мядзведзічы», у якім намаляваў карціну беларускай вёскі 1920-х, пераднавальнічную атмасферу напярэдадні калектывізацыі. Раман не страціў свайго гісторыка-мастацкага значэння да цяперашняга часу. Яго цэнтральны герой Юзік Верамейчык — тыповая фігура маладога чалавека 1920-х, у мінулым удзельніка Грамадзянскай вайны, які вяртаецца ў роднае сяло з намерам зрабіць крок да новага жыцця... Асноўная, выніковая думка пісьменніка — мужык не можа існаваць па-за турботамі пра зямлю, пра сваю работу на ёй — не страціла сваёй філасафічнасці і актуальнасці і сёння.

І вобразамі сваімі, і сітуацыямі, і праблемамі «Мядзведзічы» тыпалагічна суадносяцца з іншымі беларускімі раманамі пачатку 1930-х гадоў — Міхася Зарэцкага, Платона Галавача, Сымона Баранавых, Рыгора Мурашкі...

У творах канца 1920 — пачатку 1930-х гадоў і больш позніх дамінавала не толькі сатыра. Пісьменнік не пакідаў па-за ўвагаю і іншыя матывы — лірычныя, гераічныя і нават трагічныя, як, напрыклад, у тым жа рамане «Мядзведзічы», у многіх п’есах. Кандрата Крапіву ўсё больш цікавіў чалавек, складанасць яго ўнутранага свету, маральнае самаадчуванне ў новых абставінах жыцця. Гэты свой інтарэс ён імкнуўся рэалізаваць у драматычных творах. Мысленне Крапівы-драматурга, несумненна, выспявала ў «баечна-гутаркавым» перыядзе яго творчасці. Многія ягоныя тагачасныя сатырычныя творы пабудаваны ў форме дыялогу («Гаагская “Каробачка”», «Калядная размова», «Дзве кумы» і інш.). У персанажах ужо выяўляліся «зерні» сцэнічных характараў. На шляху да сцэны шмат у чым яму дапамагла руская літаратура, у першую чаргу драматургія Аляксандра Астроўскага.

Першая п’еса «Канец дружбы» была напісана ў 1933 годзе. У ёй разглядаецца праблема сяброўства і абавязку, складанасць чалавечых адносін падчас рэвалюцыі, Грамадзянскай вайны, напружаных класавых канфліктаў. Сёння мы, вядома, па-іншаму разумеем канфлікт Карнейчыка і Лютынскага, але п’еса застаецца дакументам таго часу.

Гераічная драма «Партызаны» (1937) стаіць у адным шэрагу з такімі творамі савецкай драматургіі, як «Любоў Яравая» Канстанціна Транёва, «Браняпоезд 14-69» Усевалада Іванова, «Разлом» Барыса Лаўранёва, «Шторм» Уладзіміра Біль-Белацаркоўскага. Аўтар узнавіў карціны Грамадзянскай вайны ў Беларусі, вывеў на сцэну народ, які ўсвядоміў сябе рухавіком гісторыі.

А славутая камедыя «Хто смяецца апошнім», створаная ў 1939 годзе, па сіле абагульнення, мастацкай дасканаласці, сцэнічнасці з’явілася адной з вяршыняў савецкай драматургіі 1930-х гадоў. Здзіўляе мастацкая пераканальнасць яе персанажаў. Вобразы Тулягі, Гарлахвацкага, Зёлкіна і іншых герояў сталі тыповымі і абагульняльнымі.

У 1939 годзе Кандрат Крапіва — былы штабс-паручнік — удзельнічаў у паходзе за вызваленне Заходняй Беларусі ў якасці камандзіра стралковай роты. Потым ваяваў на «лініі Манергейма» ў Фінляндыі. «Праз год, — успомніць ён паз-

ней, — мне зноў давялося апрануць шынель, каб удзельнічаць у чацвёртай “маёй” вайне, якая прынесла незлічоныя бедствы маёй роднай Беларусі і ўсёй Савецкай краіне». Пісьменнік працаваў у франтавой газеце «Красноармейская правда» — той самай, у якой упершыню выступіў у друку. Вайна зрабіла актуальнымі ранейшыя формы сатыры — памфлет, фельетон, эпіграму, гутарку.

Яго напружаная работа ў гады вайны ў перыядычных выданнях набліжала перамогу. Не забываў ён і пра драматургію. У гэты перыяд напісаны п’есы «Проба агнём» і «Мілы чалавек». Апошняя — зноў жа сатырычная камедыя, у якой таленавіта выстаўлены «напаказ», на асмейванне адмоўныя з’явы тагачаснага жыцця.

Плённа працаваў Кандрат Крапіва ў розных жанрах драматургіі і пазней. Вельмі цікавы, напрыклад, ягоны тэарэтычны артыкул «Канфлікт — аснова п’есы». Мастак імкнуўся рэалізаваць усю шматграннасць свайго таленту і светаўспрымання. Гэтую яго рысу добра падмеціў Іван Шамякін.

«Крапіва ў сваёй творчасці, — пісаў І. Шамякін, — і гісторык, і філосаф, і сацыёлаг. Драматургія — разведка новых асноў быцця. Драматургі першымі адчуваюць новыя канфліктныя сітуацыі, супярэчнасці. Добра ведаючы, разумеючы мінулае, яны пільна ўглядаюцца ў будучае. Часам Крапіва звяртаўся да працэсаў, вынік якіх было цяжка прадказаць (таму не ўсе адразу яго разумелі), да працэсаў, якія мелі тэндэнцыю да развіцця ці, наадварот, да адмірання, нягледзячы на іх уяўную жыццяздольнасць. Крапіва паказваў шлях наступнаму пакаленню не толькі драматургаў — усім беларускім пісьменнікам».

У 1970-я гады Кандрат Крапіва стварыў сваю «фантастычную камедыю» «Брама неўміручасці» (1973), якая, на нашу думку, дае падставы меркаваць, што славуты асветнік пад канец жыцця ў пэўнай ступені зняверыўся ў ідэях і ў ідэалогіях — у іх здольнасці ахапіць цэласную карціну быцця, карэнным чынам змяніць чалавечую прыроду. Калі ўважліва прачытаць п’есу, то можна прыйсці да высновы, што аўтару «Брамы неўміручасці» ідэі, нават самыя маштабныя, здаюцца абстрактнымі. У гэтым сваім творы ён набліжаецца да шырокай панарамы жыцця.

Уражвае духоўная насычанасць п’есы, вострая пастаноўка пытання пра сэнс чалавечага быцця, месца чалавека на зямлі. Аўтар зыходзіць з нераўнамернасці развіцця навукова-тэхнічнага і маральнага прагрэсу, закранаючы розныя аспекты гэтай праблемы — сацыяльна-эканамічныя, біялагічныя, маральна-этычныя і філасофскія. У камедыі створаны тыповыя сатырычныя характары. Герантолаг Дабрыян адкрыў закон неўміручасці. Плёнам гэтага яго адкрыцця спяшаюцца пакарыстацца Дажывалаў, Караўкін, Шусцік, Скараспей, Застрамілава і іншыя, якія хацелі б быць неўміручымі, «вечнымі». Перад веліччу вечнасці драматург, паводле яго слоў, паказвае «звычайных людзей, добрых і дрэнных, з іх характарамі, грамадскімі і асабістымі інтарэсамі і маральнымі якасцямі».

Гэтыя «звычайныя» людзі часам здзіўляюць сваёй нахабнасцю, цынізмам, адсутнасцю элементарнай чалавечай прыстойнасці. Гэта і ёсць рэальныя людзі ў рэальным жыцці. Такімі зрабіла іх прырода і ўмовы грамадскага іспавання, і яны не хочуць стаць лепшымі. Славуты гумар драматурга часам набывае саркастычную афарбоўку. Уражанне такое, што гарлахвацкія і зёлкіны добра прыжыліся ў чалавечым грамадстве. «Фантастычная камедыя» прымушае задумацца над складаным жыццём і яго супярэчнасцямі, дазваляе бліжэй зразумець духоўны свет сучасніка, яго погляды і інтарэсы, адносіны да будучыні.

Драматургія Кандрата Крапівы — галерэя тыпаў. У старажытнага аўтара Феафраста ёсць кніга «Характары», у якой ён апісвае розныя чалавечыя тыпы — найперш адмоўныя. Такое даследаванне можна было б зрабіць на матэрыяле камедый Крапівы. Мяркуем, што з цягам часу нашы крытыкі, сацыёлагі, маралісты гэтым зоймуцца. Цікавая праца можа атрымацца…

«Крапіва, безумоўна, вялікі майстар байкі і камедыі, але ён і добры лірычны паэт і цудоўны бытапісец, — падкрэсліваў П. Глебка. — Дыяпазон яго творчасці вельмі шырокі, таму што пісьменнік шырока глядзіць на жыццё і глыбока пранікае ў яго тайнікі: ён бачыць у ім і гераічнае, і трагічнае, і смешнае». Багатая спадчына класіка беларускай літаратуры, урокі яго творчасці, ідэі і вобразы, несумненна, спатрэбяцца ў будучым, яны будуць карысныя для наступных пакаленняў беларускіх пісьменнікаў і дзеячаў культуры. І не толькі для іх — для ўсіх.

**Наталля Заяц**

# Часавыя вымярэнні паэзіі Васіля Зуёнка

*(на матэрыяле пакуль не выдадзеных кніг)*

Для выбітнага мастака слова Васіля Зуёнка бягучы год, як і мінулы, калі ён адзначыў васьмідзесяцігоддзе, таксама юбілейны. Паўвека таму, у 1966-м, пабачыла свет яго першая кніга «Крэсіва», засведчыўшы з'яўленне новай зоркі ў слаўнай пісьменніцкай плеядзе, што пазней назавуць філалагічным пакаленнем. Лірычны зборнік выявіў несумненны талент, арыгінальнасць светаўспрымання яшчэ маладога аўтара і ўжо сфарміраваную манеру пісьма. Наступныя кнігі толькі замацоўвалі ўражанне пра В. Зуёнка як пра неардынарнага і самабытнага творцу. І сёння Васіля Васільевіча не пакідае паэтычнае натхненне. На жаль, выдавецкая практыка не паспявае за актыўным творчым працэсам: вершы, напісаныя ў XXI стагоддзі, за выключэннем часопісных публікацый, пакуль яшчэ не вядомыя чытачу (а за больш чым пятнаццаць гадоў новага веку іх назбіралася на некалькі вялікіх тамоў!). Адсутнасць кніг, аднак, не адмяняе факта існавання паэзіі, якая ілюструе новы этап творчасці сучаснага класіка, многае расказвае пра асобу аўтара, пра час і пра эпоху.

У лірыцы 2000-х гадоў В. Зуёнак шмат увагі надае мастацкаму даследаванню такой складанай і няўлоўнай катэгорыі, як час. Сталы чалавек і вопытны майстра падсумоўвае зробленае за паўстагоддзя, яшчэ больш засяроджваючыся на традыцыйных для яго паэзіі «вечных» пытаннях, што не ўяўляецца магчымым без апеляцыі да паняцця час. Катэгорыя часу неаддзельная ад іншай базавай філасофскай катэгорыі — прастора. (Заснавальнік фенаменалогіі прасторы і часу ў літаратуразнаўстве М.М. Бахцін прапанаваў для гэтага двуадзінства спецыяльны тэрмін «хранатоп».) Сфармуляваны ў вершы «Не адолець смерці тугу…» паэтычны тэзіс — «А час без прасторы — пусты, / Як прастора без часу — мёртвая…» — знаходзіць пацвярджэнне ў вялікім корпусе лірычных тэкстаў. Прасторава-часавы кантынуум паэзіі В. Зуёнка адмысловы: лірычнаму герою побач з моцнай эмацыянальнай прывязанасцю да мясцін маленства ўласціва глабальнае самаадчуванне сябе як часцінкі сусвету. Таму прасторавыя маркеры не зводзяцца толькі да зямной тапанімікі (найбольш прадстаўнічая трыяда Нача — Мачулішча — Халопенічы), а пашыраюцца за кошт касмічнай сферы. Каардынатамі касмічнай прасторы ў лірыцы выступаюць зоркі, планеты, іх арбіты, галактыкі, Млечны шлях. Прычым актуалізацыя тых ці іншых элементаў сусвету залежыць ад мастацкай задачы. Напрыклад, у вершах «Душа» і «Над вячэрняй гарадской смугой…» паўстае вобраз планеты Марс, семантыка якога ўбірае замацаванае ў еўрапейскай культуры ўспрыманне: «Бог вайны — злавесна вестку шле» («Над вячэрняй гарадской смугой…»). У спалучэнні з вобразам вечара гэта стварае своеасаблівую эмацыянальную атмасферу, перадае неспакой і ўстрывожанасць лірычнага героя не толькі ў канкрэтны момант сузірання прыроднай з'явы (неба на захадзе сонца), але і ў больш шырокім сэнсе: трывога за лёс чалавецтва, заўтрашні дзень (як і ў вершы «Душа»).

Традыцыйна творы В. Зуёнка адпавядаюць класічнай міфалагічнай схеме: хаосу і разбурэнню супрацьстаіць гармонія і ўладкаванасць. У вершы «Над вячэрняй гарадской смугой…» функцыя гарманізацыі належыць яшчэ аднаму касмічнаму аб'екту — вобразу месяца: «Ды ўзнімаўся месяц да нябёс — / І аблічам з вышыні яснеў. / І душу зямлі крывавы лёс / Абмінаў у летаргічным сне…». Паказальна таксама, што ў мастацкай сістэме згаданых твораў канцэптуальнае значэнне мае вобраз душы, якая паўстае натуральным элементам бясконцых прасторы і часу. Катэгорыю часу паэт разумее неадназначна, прызнаючы суіснаванне дзвюх узаемавыключальных характарыстык — канечнасці і бясконцасці: «Прастора — маё жыццё / Ў часе маім кароткім. / Хацелі б, ды больш не дасцё / Вы мне, — ні нашчадкі, ні продкі. / Бясконцасць — яна для ўсіх, / А кожнаму паасобку / Вечнасць — як ускалых / Дыхання ў хадзе таропкай» («Прастора — маё жыццё…»).

У многіх творах мяжы тысячагоддзяў узнікае апазіцыя «час — вечнасць», першы складнік якой суадносіцца з фізічным існаваннем чалавека, другі нярэдка атаясамліваецца з паняццем «смерць»: «смерць — гэта вечнасць» («Скупая»), «смерць — як вечнасці запас» («Зерне»), «смерць — гэта і ёсць вечнасць», «вечнасць — гэта і ёсць смерць» («Смерць — гэта і ёсць вечнасць…»), «Смерць разрывае прастору. <…> / Ад вечнасці не адгародзішся» («Свет калапсуецца ў вечнасць…»). У гэтай сувязі можна гаварыць пра рэалізацыю ў

паэтычным свеце В. Зуёнка так званай мадэлі нулявога мастацкага часу, якую вылучаюць некаторыя літаратуразнаўцы, называючы яе нерухомай, вечнай, у якой паняцці час і прастора страчваюць сэнс. «Нулявы час» мае дачыненне найперш да твораў, дзе аўтар спрабуе зазірнуць у нябыт: «Пытаешся ў жыцця: дзе ў вечнасць дзверы… — / “Не знаю,— кажа, — разам крыж нясём…” / Нікому Бог той тайны не даверыў,— / Спытайся ў смерці: гэта знае ўсё…» («Пытаешся ў жыцця…»).

Іншы элемент апазіцыі — «час»— звязваецца з працягласцю жыцця, у некаторых выпадках нават прыраўноўваецца да чалавека: «За часам не вернешся наўздагон, — / Час — ён двайнік наш сустрэчны. / Час — гэта я, гэта ты, гэта ён, / А ўсё, што без нас, — гэта вечнасць…» («І хто намаліўся, і хто награшыў…»). Набліжэнне непазбежнага фіналу абумоўлівае ўзнікненне вобраза часу, жорсткага ў адносінах да людзей: «А час грызе, грызе гадоў скарынку — / І мізарнее з кожным днём запас, — / Які няўмольны і бяздушны час: / Ні здрады, ні спагады, ні супынку…» («На кожную травінку…»); «Равеснікі, якіх даўно не бачыў, / Не сустракаў амаль што цэлы век, / Як на сябе, гляджу на вас — і плачу: / О страшны час! Які ты чыніш здзек!..» («Равеснікі, якіх даўно не бачыў…»). Метафізічнае пытанне пра сутнасць часу і вечнасці даследуецца ў многіх вершах («Навагодняе», «Дні», «Калі Усявышнім ценем…», «Праўдзівы жыццём…», «Прастора — ты бясконцасць ці нішто?..» і інш.), нярэдка застаючыся без адказу: «Загадка: прастора і час. / Разгадка? Нямое пытанне… / А што калі нас не стане? — / Якая прастора без нас? / А ў вечнасці — час які, / Калі: ні канца, ні пачатку?.. / Стаяць шкалярамі перад загадкай / Бясконцасць і вёрсты, дні і вякі…» («Загадка: прастора і час…»).

Абодва элементы апазіцыі напаўняцца перыферыйнымі сэнсамі: паняцце «вечнасць» атрымлівае мастацкае ўвасабленне ў вобразах смерці, сусвету, паэзіі; час можа ўспрымацца як нешта варожае, суадносіцца з жыццём чалавека, увасабляцца ў вобразе жартаўніка і інш. Вечнасць, па В. Зуёнку, — статычная і бясконцая, час — заўсёды рухомы і канечны: «У вечнасці / Няма часу — / Яна не рухаецца / Ні назад, ні наперад, / Яна з сабою / Вечна сам-насам: / Сама для сябе / І ўлоў і нерат. / І шляху не мае — / Шлях у нас: / Прамы, / Дзе нараджэнне і смерць — / Дзве супярэчнасці. / Вечнасць вечная. / А час — / Гэта мы: / Нявечныя / Ў гэтай вечнасці…» («У вечнасці…»). Пры гэтым разгортванне жыцця ў часе адбываецца па так званай лінейнай схеме, з выразна абазначанымі кропкамі адліку (нараджэнне) і фіналу (смерць).

Як вядома, катэгорыі часу ў рэцэпцыі многіх культур прыпісваюцца два варыянты разгортвання — лінейны і цыклічны. Цыклічная мадэль больш ранняя, узыходзіць да архаічнага светапогляду і грунтуецца на натуральных прыродных з’явах — паўтаральная змена пораў года, дня і ночы. Лінейнасць звязваецца з хрысціянскім светаўспрыманнем: час мае «пачатак» і «канец», ён аднанакіраваны і неўзнаўляльны, падзеі суадносяцца або з мінулым, або з сучаснасцю, або з будучыняй. У творах В. Зуёнка знаходзяць увасабленне дзве гэтыя мадэлі. Напрыклад, у вершы «Душа» спалучаюцца лінейная (праяўленасць мінулага, цяперашняга і будучыні) і цыклічная формы разгортвання часу (звязаная з пераемнасцю пакаленняў, верай у незнікаемасць чалавечай душы): «Будзе праўнук зорныя сюжэты / На касмічных выдмішчах шукаць / І не здагадаецца пры гэтым, / Хто яго наважыўся гукаць. / Падкажу — няхай сабе адзначыць: / Гэта голас-абярог імкне / Той хлапчук з душой багоў надначных, / Што падобны крышку на мяне…». Працытаваныя радкі, якія ўяўляюць сабой так званую праспекцыю (забяганне наперад), сведчаць пра дэфармацыю лінейнага часу, як і разгортванне мінулага ў цяперашнім («Чую, як з магільнага пагорка / Жытнім полем шэпчуць галасы, — / А пра што ў дзядоў ідзе гаворка, / Я не знаю, і не знае сын»). Ускладненасць часавай мадэлі, сінтэз лінейнасці і цыклічнасці выступаюць тут прыватнай праявай зуёнкаўскага складанага метаду пазнання свету — своеасаблівага касмаганізму, калі быццё ўспрымаецца ва ўсёй неадназначнасці і складанасці, першасна-пачуццёвая, амаль паганская рэцэпцыя неаддзельная ад рэлігійнай і навуковай.

Літаратура дастаткова вольна абыходзіцца з катэгорыяй тэмпаральнасці — адной з уласцівасцей мастацкага часу з’яўляецца яго ўмоўнасць. У паэзіі XXI стагоддзя В. Зуёнак нярэдка з аб’ектыўнага часу пераносіцца ў мінулае. Дэфармацыі лінейнай схемы шляхам рэтраспекцый рэалізуюцца ў вершах «Незваротнае», «Развітанне з вальсам» і інш. «Лета зялёнаю хмаркай плыве, / Сцеле мурог пад каляднын астольнік. / З Богам у згодзе дзяцінства жыве, / І не памрэ яшчэ тата ніколі. <…> / Мама не стала ўдавою яшчэ… / Мама-заступніца, мама жывая… / …Тысячагоддзяў сустрэчу сячэ / Сёння дарога мая крыжавая» («Незваротнае»). Актуалізуецца і такая асаблівасць мастацкага часу, у вялікай ступені ўласцівая лірыцы, як дыскрэтнасць,

перарывістасць. Лірычны герой шэрагу тэкстаў існуе як бы ў розных часавых вымярэннях і, адпаведна, паўстае адразу ў дзвюх іпастасях — дарослы і дзіця (вершы «Толькі дзяцінства…», «Конь маленства начлежным іржаннем…», «Май, не пакінуўшы слядоў…», «Прышласць тоіцца мудрым сфінксам…», «А ці гэта прыснілася мне…»). Для абазначэння прыналежнасці да розных храналагічных адрэзкаў і абумоўленай гэтым душэўнай раздвоенасці ў адным з вершаў аўтар выкарыстоўвае адмысловы трапны вобраз: «хлапчук з сівою галавой». Дзяцінства заўсёды ідэалізуецца, з адлегласці бачыцца бесклапотным і шчаслівым, эмацыянальна сілкуе і супакойвае: «Калі час да сценкі прыцісне, / Спосаб ёсць пазбыцца журы: / Азірніцеся на дзяцінства — / І глыніце жывой вады» («Дзень пражыты — нібыта вечнасць…»). Лейтматывам шматлікіх твораў-апеляцый да мінулага выступае моцнае пачуццё настальгіі, спалучанае з усведамленнем аднанакіраванасці, незваротнасці часу, як, напрыклад, у вершы «Усё яно...»: «Гукае, гукае дзяцінства, / Вяртае, вяртае дзяцінства... / Іду ўсё жыццё туды, — / Ды ў іншым кірунку сляды...».

Да цыклічнай мадэлі маюць дачыненне лірычныя тэксты, у якіх ствараюцца вобразы пор года і часу сутак. У прыватнасці, у найноўшай лірыцы знаходзіць увасабленне традыцыйная для сусветнай літаратуры інтэрпрэтацыя вобраза вясны, якая, згодна з універсальнай аналогіяй паміж чалавечым жыццём і прыродным цыклам, суадносіцца з маладосцю («Калісьці…», «Прыгожая, таму што маладая…», «Май, не пакінуўшы слядоў…», «Самому сабе: адказ пытаннем на пытанне», «Мінулых дзён мінулыя хвіліны…», інш.). Прадстаўнічы ў гэтых адносінах верш «Вясну не прыдумаеш…»: «Вясну не прыдумаеш у інтэрнэце, — / Каб раптам зямля апранулася ў квецень. / Вясну не прызначыш і не замовіш, / Вясну, як птушку ў сіло, не зловіш. / Яна прыходзіць толькі сама. / І праходзіць… Іншых няма».

Лірычны герой твора «Фантазія гадавога чыну» паўстае дэміургам-жартаўніком, які гуляе з гадавым цыклам і стварае сваё ўласнае тэмпаральнае кола, што пачынаецца з восені, за ім ідуць лета, зіма і вясна. (Дарэчы, В. Зуёнак даволі часта выкарыстоўвае прыём гульні: у вершы «Мінулага няма…» гуляе з граматычнай формай дзеяслова «быць» («Як зразумець: “было”, “была”, “былі”?.. / А “ёсць” і “быў”?.. — усё жыццё дваяка / Асуджаны глядзець: ты на зямлі / Пакінуты мінулае аплакаць…»); абыгрыванне слоў («зараз» і «цяпер», «збудзецца — не збудзецца…»), філалагічнае смакаванне сэнсаў і іх нюансаў кладзе ў аснову вершаў «Лячу ў невымернасці часу…», «Збудзішча».)

Вобразы частак сутак у адпаведнасці з ідэйна-эстэтычнымі ўстаноўкамі аўтараў розных вершах набываюць розныя сэнсы. Так, у творах грамадзянскай лірыкі паэт, выкарыстоўваючы алюзіі на купалаўскую адраджэнскую лірыку, стварае вобраз ночы, што сімвалізуе сон беларусаў: «Мой народ — непакліканы — / Ноч праспаў, спіць і ў дзень…» («Між народаў адзначаны…»). У пачатку новага тысячагоддзя, як і ў часы Купалы, беларусы не спяшаюцца выходзіць з нацыянальнай летаргіі — В. Зуёнак абвастрае па-ранейшаму актуальную праблему беларускай інертнасці і непраяўленасці. Нават у цёмныя гадзіны ён спеліць хоць і слабую, але надзею на абуджэнне народа, якая часта разбіваецца аб рэальнасць: «А над лесам усход ружавее… / Ноч не вечная — цемра міне… / І нясуць, і нясуць снегавеі / Над краінай нязбытнай мяне… / І наўздоўжкі, і ўпоперак ходзіць / За сцяною завейная ноч. / Гул — як плач аб заснуўшым народзе, / Непрабудным, ад шчасця наўзбоч…» («А над лесам усход ружавее…»).

У іншых выпадках ноч выступае сінонімам небыцця, вечнага сну, з якім заканчваецца зямное існаванне («Як Сцікс, калі пачнуць перапраўляць…»). Ноч у мастацкім свеце В. Зуёнка — гэта і перыяд супакаення, судачынення з космасам, мыслення ва ўнісон з прыродай: «А ноччу — далёка засвецяцца зоры, / А я — быццам побач, ля самых асноў. / І ўсё тады мовай знаёмай гаворыць — / Усё разумею, не знаючы слоў…» («Сонечны дзень расхінае пакровы…»). Лірычны герой паўстае мудрацом і мысліцелем, які дзеліцца геніяльнымі ў сваёй простасці назіраннямі: «У лугах блукае чэрвень. / Вечарэе. / Змрок ружовым хмаркам чэрніць / Падчарэўе… / Не жахайцеся, што з неба / Сонца ўпала / Альбо намі дзень пагрэбваў — / Ноч настала. / Гэта мудры час агледзін / У прыродзе. / Гэта значыць: сонца недзе — / Узыходзіць!» («Супакаенне»).

…Шматлікія вершы XXI стагоддзя сведчаць пра невычарпальнасць паэтычнага натхнення, дасканалае літаратурнае майстэрства В. Зуёнка, якое ў спалучэнні з прыродным дарам даюць выдатны плён.

Ёсць спадзяванне, што ў найбліжэйшым часе новыя лірычныя творы аформяцца ў выглядзе кнігі і знойдуць свайго чытача.

Ёсць упэўненасць, што паэзія В. Зуёнка ўжо знайшла шлях у вечнасць.

**Алена Дзенісенка**

# Тэатральны мастак-дэкаратар Ліпа Кроль і яго кнігазбор

*Праца мастака — гэта духоўны хлеб,*
*які не прыядаецца ніколі.*

**Ліпа Юльевіч Кроль належыць да пакалення беларускіх мастакоў, чые творчыя біяграфіі пачыналіся на рубяжы 1920—1930-х гадоў. Асноўным напрамкам яго дзейнасці з'явілася тэатральна-дэкарацыйнае мастацтва і плакатны жывапіс. Створаныя пры яго ўдзеле музейныя экспазіцыі сталі прыкметнымі вехамі ў развіцці беларускага афарміцельскага мастацтва. Вялікай цікавасцю да гісторыі прасякнута прыналежная пэндзлю мастака жывапісная хроніка культурных падзей таго часу.**

Кароткія біяграфічныя звесткі пра Л.Ю. Кроля змешчаны ў 3-м томе пяцітомніка «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі» (Мінск, 1986). Літаральна: «Кроль Ліпа Юльевіч [18.4(1.5).1909, Мінск — 24.6.1977), беларускі сав. мастак тэатра, плакатыст. Удзельнік Вял. Айч. вайны. Удзельнічаў у маст. выстаўках з 1954. Аформіў спектаклі: "Канец дружбы" К. Крапівы (1934) у тэатры імя Я. Купалы; "Настаўнік танцаў" Лопэ дэ Вэгі (1952), "Несцерка" В. Вольскага (1941), "Ноч памылак" О. Голдсміта і "У бэзавым садзе" Ц. Саладара (абодва 1954) у тэатры імя Я. Коласа; "Блудны сын" Э. Ранета (1958) у Дзярж. рус. тэатры БССР. Сярод плакатаў: "Рэлігія — цемра" (1958), "Будзем пільнымі" (1961), "Дружба сілу нам дае" (1968), трыпціх "Улада — Саветам!", "Мір — народам!", "Зямля — сялянам!" (1966), серыя плакатаў "Урокі гісторыі" (1973)».

Больш падрабязныя звесткі пра жыццё мастака былі апублікаваны ў артыкуле Кірыла Зелянога (скончыў філфак Ленінградскага дзяржаўнага ўніверсітэта і Акадэмію мастацтва імя І. Рэпіна) ў часопісе Беларускага аб'яднання яўрэйскіх арганізацый «Мишпоха» (2000 г, № 8(8)) — у перакладзе з яўрэйскай на беларускую мову — «Сям'я», выдаецца ў Віцебску.




Шэкспір. Дванаццатая ноч. Ленінград., 1938.

Дзяцінства мастака прайшло ў дарэвалюцыйным Мінску. Бацька — рахункавод, маці — хатняя гаспадыня, дзяцей у сям'і было пяцёра. Бацькі з любоўю і пяшчотай адносіліся да дзяцей. Пазней, праз шмат гадоў, помнік на магілцы сваёй матулі Ліпа Юльевіч упрыгожыць простым, але такім іскрыстым арнаментам, у якім беларуская бярозка лёгка перапляталася з пернікавымі яўрэйскімі літарамі.

У тыя цяжкія для краіны часы ў Мінску не было дзіцячай мастацкай школы. Утвараліся гурткі, некаторыя з іх давалі грунтоўнае навучанне таленавітым падлеткам, асабліва там, дзе кіравалі прафесійныя мастакі. Адным з такіх гурткоў кіраваў Якаў Маркавіч Кругер, перакананы перадзвіжнік, паслядоўны і строгі рэаліст. Яго сімпатыі да працоўных былі вядомыя ўсім у Мінску. Кругер выкладаў маляванне ў школе № 10. Сярод яго

вучняў апынуўся Ліпа Кроль. Другім настаўнікам стаў педагог зусім іншага склада — знаўца і прыхільнік найноўшых тэндэнцый у еўрапейскім мастацтве ад імпрэсіянізму да наватараў сённяшняга дня, — Арон Рыгоравіч Касцялянскі. Ён быў кіраўніком гуртка ў прафтэхшколе, калі там некаторы час вучыўся Ліпа.

Праз некаторы час Кроль пачаў працаваць у маладзёжных тэатральных калектывах Мінска. Кожнаму клубу патрэбны былі плакаты, дэкарацыі, сцэнічныя касцюмы. Следам за першай спробай пэндзлю рушылі, адна за другою, новыя пастаноўкі. Падзякай за добрую якасную працу была паездка ў Маскву.

У 1926 годзе разам з тэатрам у Мінск прыехаў мастак Натан Ісаевіч Альтман. Пасля знаёмства з Кролем вядомы мастак прапанаваў яму паехаць у Адэсу аформіць спектакль. Кроль аформіў выпускны спектакль Адэскага Муздраміна і так пасябраваў з калектывам, што разам з курсам адправіўся ў якасці мастака-асістэнта ў Харкаў. Ён працаваў з вядомымі майстрамі — Д. Штэрэнбергам, А. Тышлерам, Н. Шыфрыным, І. Рабіновічам. У тыя ж часы Кроль паставіў свой першы спектакль на прафесійнай сцэне — п’есу А. Кушнерава «Гірш Лекерт». Спектакль быў паказаны ў Маскве, прысутнічаў сам Маякоўскі. Вядомы паэт ацаніў Кроля як прыроджанага тэатральнага мастака, якога не раз запрашалі працаваць у Віцебскім драматычным тэатры, Беларускім тэатры оперы і балета, Яўрэйскім тэатры БССР.

Вярнуўшыся ў Мінск, мастак акунуўся з галавой у кіпучае жыццё горада. Па яго эскізах будаваліся трыбуны да дэманстрацый. І не толькі трыбуны — убранне вуліц, плошчаў, афармленне калон нараджалася раптоўна і хутка ўваходзіла ў імклівы паток жыцця. Кроль прыняў удзел у арганізацыі карнавала памяці загінуўшых у Першую сусветную вайну, падрыхтаваў выстаўку да з’езду медыцынскіх работнікаў. Агітацыйна-масавае мастацтва стала яго прызваннем. Значны ўклад Кроля ў арганізацыю Першай Усебеларускай сельскагаспадарчай і прамысловай выстаўкі 1930 года. Па яго праекце пабудавалі «Павільён друку». Раней мастак ствараў эскізы кіёскаў для кніжных кірмашоў у гарадскім скверы. Будучы гарачым аматарам і знаўцам кнігі, ён усебакова разумеў запатрабаванні чытачоў. Праектаванне інтэр’ераў бібліятэкі Дома ўрада — гэта таксама праца таленавітых рук мастака. З гэтага часу пачалося супрацоўніцтва архітэктара І.Р. Лангбарда і Л.Ю. Кроля. У 1934 годзе Лангбард запрасіў мастака аформіць інтэр’еры Дома Чырвонай Арміі (цяпер Дом афіцэраў). Так у напружанай працы праходзілі даваенныя гады — гады маладосці Ліпы Кроля.

В 1939 годзе ў Мінску адбылася пастаноўка оперы беларускага кампазітара А. Туранкова «Кветка шчасця». Дзесяць мастакоў прынялі ўдзел у конкурсе. Выйграў яго Ліпа Кроль. Застаўся задаволены дэкарацыямі і касцюмамі пастаноўшчык оперы І. Шлепянаў, сам калісьці быў тэатральным мастаком. Оперу таксама паказалі ў Маскве (1940), у час дэкады беларускага мастацтва. Маскоўскія газеты змясцілі справаздачу аб дэкадзе. Кампазітар І. Дзяржынскі ў газеце «Известия» (1940 г, 9 чэрвеня) напісаў: «Оформление спектакля осуществлено в виде объёмных декораций в лепной раме, выполненной под деревянную резьбу. Своеобра-




Экслібрыс Ліпы Юльевіча Кроля.

зие этого оформления и прекрасно подобранные костюмы в значительной мере способствовали успеху этого хорошего спектакля». На старонках газеты «Советская Белоруссия» (1940 г, 9 чэрвеня) кампазітар Д. Кабалеўскі напісаў рэцэнзію на спектакль: «Очень смело и талантливо сделано оформление художником Кролем, особенно хороши третий акт и занавесы». За гэтую пастаноўку мастака ўзнагародзілі ордэнам «Знак пашаны». А праз год былі пастаноўкі У. Вольскага «Несцерка» ў Віцебску, М. Лермантава «Іспанцы» ў Беластоку.

Ліпу Кролю было трыццаць два гады, калі пачалася вайна. Быў ранены, узнагароджаны медалямі і ордэнамі. У час вайны загінулі яго жонка і тры малалетніх сыны. Згінулі пры пажары яго дом, бібліятэка, пісьмы, папкі з малюнкамі.

Пасля дэмабілізацыі Ліпа Кроль вярнуўся ў Мінск. Ён прыняў удзел у аднаўленні разбуранага горада. Шмат часу пайшло на новае афармленне інтэр’ераў Урадавай бібліятэкі імя А.М. Горкага. Найбольш капітальнай афарміцельскай справай быў павільён БССР на Усесаюзнай выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі (1952). У 1961 годзе Кроль быў прызначаны галоўным мастаком беларускага аддзела Усесаюзнай мастацкай выстаўкі.

Мастак працягваў афармляць спектаклі, сярод іншых: «Ноч памылак» О. Гольдсміта, «Настаўнік танцаў» Лопэ дэ Вега, «Гаспадыня гасцініцы» К. Гальдоні. Рускі рэпертуар прадстаўлены ў яго творчасці М. Лермантавым, А. Астроўскім, М. Горкім. Ліпа Кроль удзельнічаў таксама ў пастаноўцы п’ес беларускіх аўтараў — К. Крапівы, П. Глебкі. Этапнай пастаноўкай на сцэне беларускага тэатра стаў «Несцерка». Яго пастаноўка прайшла таксама ў Маскве «на біс». Народны артыст СССР М. Зубаў у сваёй нататцы (газета «Правда» ад 19 лютага 1955 г.) адзначыў: «Художник Л. Кроль не увлекается чисто этнографическими бытовыми мотивами оформления. Он очень удачно, остроумно находит ту меру условной стилизации, которая придает сценическому представлению и праздничность, и художественную изящность, и в то же время сохраняет верность бытового колорита». За дасягненні ў галіне афарміцельскага мастацтва Л.Ю. Кроль быў узнагароджаны граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР.

Кроль карпатліва вывучаў народнае мастацтва. На сцэне з’явіліся матывы разьбы па дрэве, прылады працы селяніна. Каўшы, міскі, берасцяныя кашы, кошыкі склалі свайго роду відовішчны акампанемент да дзеяння. Пачуццё стылю абавязала мастака наблізіць элементы пейзажу да нацыянальнага арнаменту.

З часам мастак звярнуўся да плаката. Сярод значных твораў гэтага жанру плакаты з назвай «Будзем пільныя», «Не дазволім» (1961), «Жадаем поспеху» (1962), «На варце міру» (1965), «Уручаем табе, моладзь» і інш. У 1958 і 1960 гадах на конкурсах палітычных плакатаў ён удастойваўся I і II прэмій.

Найлепшыя плакаты былы франтавік прысвяціў разгрому фашызму. У архіўных дзённіках Ліпы Кроля зроблены запіс: «…Постепенно стало ясно, что нужна серия плакатов. И вот готовлю серию из 4 листов, которую я решил показать на 2-й Всебелорусской выставке плаката (1972): «Первый крест поставил Брест», «Крест второй — под Москвой», «Третий крест фашистским гадам был поставлен Сталинградом», «Крест последний вогнан клином над поверженным Берлином». Позже добавил финальный, пятый плакат: «Воинов наших славят народы, мы помогли им добиться свободы». Торжество победившего народа — и кровь, которой народ заплатил за победу. Соединение двух этих начал и определило художественный смысл военной симфонии в пяти листах».

У сямідзясятыя гады выйшаў у свет капітальны альбом з працамі беларускіх тэатральных мастакоў, у тым ліку і Кроля, але поспеху ў чытачоў ён не меў. Хто звяртае ўвагу на аўтара плаката? Вось такім чынам незаўважным, ужо пры жыцці забытым, хоць і вельмі патрэбным грамадству мастаком, дажываў свой век Ліпа Юльевіч Кроль. Як і раней, мастак не прапускаў ніводнай выстаўкі, удзельнічаў у абмеркаваннях, ездзіў у Маскву пабачыць сяброў маладосці, пісаў лісты аднапалчанам і атрымліваў весткі ад іх. Пабываў у Польшчы, дзе шмат працаваў у бібліятэках. Сабраў вялікі кнігазбор, які потым завяшчаў Акадэміі навук БССР.

Пасля яго смерці ўдава Зінаіда Сяргееўна Кроль-Сяргеева звярнулася з просьбай да адміністрацыі Фундаментальнай бібліятэкі Акадэміі навук БССР (цяпер Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Я. Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, далей ЦНБ імя Я. Коласа НАН Беларусі) прыняць у дар кнігазбор яе нябожчыка мужа. У шафах

Л.Ю. Кроля захоўваліся манаграфіі пра любімых жывапісцаў, народную творчасць, альбомы са здымкамі найбуйнейшых карцінных галерэй свету і «малых» музеяў, папкі з кітайскімі гравюрамі, кнігі па архітэктуры, гісторыі тэатра, касцюма, шрыфтоў і г. д. Усяго каля тысячы экзэмпляраў.

У той час віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук БССР акадэмік К.К. Атраховіч (Кандрат Крапіва) выказаў падзяку ўдаве мастака за гэты добры ўчынак і запэўніў, што бібліятэка Л.Ю. Кроля будзе служыць важнай справе развіцця беларускай навукі і культуры.

З 1978 года ўласны кнігазбор мастака захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа НАН Беларусі. У кнігазборы шмат альбомаў, прысвечаных розным відам графікі, якая адлюстроўвае накід з натуры алоўкам; паліграфічны фотаплакат, які звязвае малюнак з тэкстам; фірмовы або геральдычны знак; гравюра разцом, якая аднаўляе маляўнічы арыгінал; малюнак шрыфта, прызначаны для набору; кніжная ілюстрацыя. На форзацы амаль што кожнага альбома калекцыі змешчаны ўладальніцкі экслібрыс Кроля. На жаль, мы не ведаем, хто яго аўтар. Магчыма, гэта праца самога мастака?

Кнігазбор Кроля — гэта выданні XX стагоддзя, часу росквіту графікі. Палова кніг бібліятэкі — замежная літаратура: альбомы, выдадзеныя ў Германіі, Венгрыі, Кітаі, Польшчы, Чэхаславакіі, Францыі і г. д. Найбольш ўсяго альбомаў нямецкай графікі XX стагоддзя з ілюстрацыямі мастакоў 1950—1970-х гадоў: П. Акермана, Г. Бэмэра, А. Вэбэра, Г. Краца, А. Крэдэля, Г. Мюлера, Х. Яра і інш. Больш падрабязную інфармацыю можна знайсці ў службовай картатэцы аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў, дзе ёсць звесткі пра выданні знакамітага Лейпцыгскага дома друку (VEB Leipziger Druckhaus), народнага прадпрыемства «Паліграфічныя майстэрні» (VEB Graphische Werkstätten) у Лейпцыгу. Найстарэйшае выдавецтва ў Лейпцыгу «Інзэль» (Insel-Verlag) А. Кіпэнберга ў бібліятэцы майстра прадстаўлена серыяй «Бібліятэчка Інзэль» (Insel Bücherei), дзе друкаваліся, апрача іншых, творы рускіх пісьменнікаў — Ф. Дастаеўскага, Л. Лявонава, М. Горкага і інш.

У кнігазборы шмат выданняў знакамітага бярлінскага дома друку «Дзітц Фэрлаг» (Dietz

На форзацы амаль што кожнага альбома калекцыі змешчаны ўладальніцкі экслібрыс Кроля. На жаль, мы не ведаем, хто яго аўтар. Магчыма, гэта праца самога мастака?

Verlag), які славіцца сваімі дасягненнямі ў галіне мастацкага афармлення. Выдавецтва пачало сваю дзейнасць у 1945 годзе, было названа ў гонар першага нямецкага сацыял-дэмакратычнага выдавецтва, якое заснаваў у Штутгарце І.Г.В. Дзітц у 1881 годзе. Выдавецтва друкавала працы найбуйшэйшых дзеячаў нямецкага міжнароднага рабочага руху, літаратуру па філасофіі, палітэканоміі, гісторыі. Штогод выходзіла 250 новых выданняў і перавыданняў гэтага выдавецтва.

Багата і прадстаўніча аформлены кнігі іншых друкарняў: дрэздэнскага выдавецтва літаратуры па пытаннях мастацтва «Фэрлаг дэр Кунст» (Verlag der Kunst, заснавана ў 1952 годзе). Гэта выданні серый «Маленькія сшыткі па мастацтве», «Цвінгер Бюхер» (выданні па пытанням графікі), «Мастакі сучаснасці»; друкарняў «Сусветныя цэнтры мастацтва», «Італьянскі жывапіс», «Эдыцыён Лейпцыг» (Edition Leipzig, заснавана ў 1959 годзе).

Дэкаратыўным багаццем і вынаходлівасцю адрозніваецца афармленне нямецкай дзіцячай кнігі (К.-Х. Апельман, К. Гольц, Г. Госман і інш.) з выдавецтваў «Альфрэд Хольц Ферлаг» (Alfred Holz Verlag) і «Кіндэрбух Ферлаг» (Kinderbuchverlag). Серыйныя выданні «Кнігі маленькага трубача» і «Міжнароднай серыі для дзяцей» адрозніваюцца якасцю друка, багаццем і маляўнічасцю.

Графіка французскіх майстроў у кнігазборы Л.Ю. Кроля прысутнічае ў альбомах выдавецтваў «Изобразительное искусство», «Издательство иностранной литературы», «Искусство», «Советский художник». У альбомах гравюры французскіх мастакоў розных напрамкаў: А. Матіса, П. Пікаса, А. Сеганзака, Л.-А. Маро, Р. Дзюфі, Ж. Руо, М. Уламінка, М. Ларансэна, Э. Герга, Ж. Люрса, А. Варак'е, М. Грамэра. У 1960—1970-я гады маскоўскае выдавецтва «Искусство» друкавала серыю кніг «Жыццё ў мастацтве» пра творчасць французскіх мастакоўімпрэсіяністаў XIX—XX стагоддзяў — Ф. Тулуз-Латрэка, П. Рэнуара, А. Марке, А. Мадыльяні і інш.

У бібліятэцы налічваецца больш за пяцьдзясят альбомаў гэтага выдавецтва. У кнігазборы таксама ёсць некалькі альбомаў французскай графікі, выдадзеных у 1960-я гады ў Будапешце (выдавецтва «Корвіна»).

Значную частку калекцыі складае руская графіка. Яе прадстаўнікі — маладыя мастакі аб'яднання «Свет мастацтва» — гуртка вучняў пецярбургскай школы К. Мая на чале с А. Бенуа і К. Сомавым. Альбомы з ілюстрацыямі мастакоў гэтага аб'яднання асабліва аформленыя: у іх выкарыстоўваюцца старыя шрыфты з наборным арнаментам, рамкі, прапарцыянальныя прыёмы кнігі эпохі класіцызму.

У бібліятэцы выданні 1930—1940-х гадоў, выдадзеныя ў друкарнях таго часу: «Советский писатель» (Шекспир, В. Сонеты Шекспира в переводах С. Маршака / В. Шекспир; перевод С. Маршака, послесловие М. Морозова. Москва: Советский писатель, 1949. 198 с.), «Искусство» (Графика. Ленинградские художники: (альбом репродукций) / вступительная статья И.А. Бродского; редактор Л.Б. Фингерт. Ленинград; Москва: Искусство, 1947. 228 с.; Зотов, А. Карл Павлович Брюллов, 1799—1852 / А. Зотов. — Москва; Ленинград: Искусство, 1948. 32 с.; Зименко, В.М. Архип Иванович Куинджи, 1842—1910 / В.М. Зименко. Москва; Ленинград: Искусство, 1947. 32 с.), «Советский художник» (Шахбазян, Е.Д. Витольд Каэтанович Бялыницкий-Бируля / Е.Д. Шахбазян. Ленинград; Москва: Советский художник, 1949. [14] с., 25 л. ил.), в Государственном издательстве изобразительных искусств (Галушкина, А.С. К.С. Петров-Водкин: [жизнь и творчество] / А.С. Галушкина. Москва: Государственное издательство изобразительных искусств, 1936. 82 с., 6 л. ил.), издательстве Государственного музея изобразительного искусства им. А.С. Пушкина (Живова, О.А. С. Иванов. С. Коровин. Н. Касаткин. Москва: Издательство Государственного музея изобразительных искусств им. А.С. Пушкина, 1949. 40 с., 13 л. ил.), яны даюць «жывы» матэрыял для гісторыкаў і мастацтвазнаўцаў.

Альбомы 1950—1960-х гадоў адлюстроўваюць працы мастакоў-афарміцеляў, майстроў выдавецкай справы і паліграфіі. Першыя — выпускнікі факультэта графікі Маскоўскага дзяржаўнага акадэмічнага інстытута мастацтва імя В. Сурыкава (А. Васін, А. Галяхоўская, М. Клячко, Б. Маркевіч, А. Таран і інш.) і Маскоўскага паліграфічнага інстытута (А. Бялюкін, Д. Бісці, У. Наскоў, В. Дувідаў, У. Калтуноў, Б. Кыштымаў і інш.). Ілюстрацыйныя серыі ў гэтых альбомах раскрываюць творчасць знакамітых мастакоў Е. Кібрыка (Пушкин, А.С. Борис Годунов / А.С. Пушкин; иллюстрации Е. Кибрика. Москва: Детская литература, 1965. 159 с.: ил.), Д. Шмарынава (Шекспир, В. Ромео и Джульетта / В. Шекспир; перевод Т.Л. Щепкиной-Куперник; иллюстрации Д.А. Шмаринова. Москва: Детгиз, 1963. 189 с.: ил.), Кукрыніксаў (Шолохов, М.А. Судьба человека / М.А. Шолохов; иллюстрации: Кукрыниксы. [Москва: Художественная литература, 1964]. 67 с.: ил.) і інш. Гравюры ў альбомах выкананы ў так званых танальных тэхніках (вугаль, чорная акварэль, літаграфія). Таксама шмат выданняў з ілюстрацыямі майстра кніжнай гравюры У. Фаворскага (у тым ліку: Фаворский, В.А. Избранные произведения: альбом / В.А. Фаворский. Москва: Советский художник, 1959. [8] с., 16 л. ил.; Фаворский, В.А. Рассказы художника-гравера / В.А. Фаворский. Москва: Детская литература, 1965. 103 с.: ил.; Гравюры и литографии советских художников: альбом / автор-составитель В.Н. Докучаева. Москва: Советский художник, 1975. [8] с., 50 л. ил.).

У альбомах 1970-х гадоў малюнкі і гравюры мастакоў М. Папова, Ю. Перавязенцава, В. Піваварава, А. Косціна да твораў Ф. Дастаеўскага, М. Гогаля, Э.Т.А. Гофмана і інш.

Кнігі прыкладной графікі ўяўляюць альбомы рэкламных плакатаў, афіш, буклетаў, лістовак, на якіх адлюстраваны важныя падзеі эпохі; прапагандуюцца фільмы, спектаклі, выстаўкі прац мастакоў-плакатыстаў Я. Руклеўскага, С. Дацкевіча, М. Хазаноўскага, У. Конанава, М. Хейфіца, В. Каракашава, В. Астроўскага, Ю. Царова, В. Кундышава і іншых. У свой час вялікі ўклад у развіццё прыкладной графікі ўнеслі ленінградскія мастакі Г. Васільеў, П. Іўлеў, К. Казмін (Павлинская, А.П. Графика вокруг нас: о творчестве ленинградских мастеров промышленной графики: альбом / А.П. Павлинская. Ленинград: Художник РСФСР, 1962. 49 с., 8 л. ил.). Як адзначаў мастацтвавед В. Ляхаў у сваім даследаванні «Мастацтва кнігі: выбраныя гісторыка-тэарэтычныя і крытычныя работы» (1978): «…успехи, достигнутые ими в оформлении товаров широкого потребления, очевидны для каждого, кому довелось сравнивать оформление

товаров, выставленных в витринах ленинградских магазинов, с оформлением аналогичной продукции других городов».

У кнігазборы альбомы, тэматычна прысвечаныя гістарычным падзеям нашага жыцця. Напрыклад, адзін з іх прысвечаны фестывалю моладзі і студэнтаў, які праходзіў у Маскве ў 1957 годзе. У ім шмат фотаздымкаў з сімволікай VI Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў, у тым ліку фотаздымкі эмблемы фестывалю — кветка з пяццю лістамі, з подпісам «За мір і дружбу», што сімвалічна адзначае адзінства моладзі, аблічча голуба, а таксама сімвалы Масквы — Крэмль, стадыён у Лужніках, будынак Маскоўскага ўніверсітэта на Ленінскіх гарах. Гэта тэма «гучыць» у працах Э. Аронава, Г. Даумана, В. Шчапава і інш.

Усе кнігі беларускіх выданняў 1970—1980-х гадоў (выдавецтваў «Беларусь», «Вышэйшая школа», «Навука і тэхніка», «Дзяржаўнае вучэбна-педагагічнае выдавецтва БССР», «Дзяржаўнае выдавецтва БССР» (рэдакцыя мастацкай літаратуры), «Выдавецтва АН БССР» і інш.) з экслібрысам уладальніка бібліятэкі. Сярод іх тры альбома маюць даравальныя надпісы аўтараў Л.Ю. Кролю: «Песні вольных людзей» К. Пуроўскага (Мінск, 1961), «Гравюры Францыска Скарыны» (складальнік Л. Баразна; Мінск, 1972), «Народнае мастацкае ткацтва Случчыны» (складальнік М. Камсюк; Мінск, 1959). Але ёсць і раннія выданні пяцідзясятых гадоў : «Басни» І. Крылова (серыя «Школьная библиотека», Мінск, 1953), альбомы «Народнае мастацкае ткацтва Случчыны» (Мінск, 1959), «Тэатральна-дэкарацыйнае мастацтва Савецкай Беларусі» (Мінск, 1958) і інш.

У калекцыі Кроля захоўваюцца таксама дзве кнігі пра Беларусь, але выйшлі ў выдавецтвах Масквы і Ленінграда. Па-першае, адна з кніг на іўрыце — «Мінскае гета» Г. Смаляра (Масква, 1946) — вельмі рэдкае выданне. І другая кніга, якая датычыцца тэмы мастацтвазнаўства — «Мастацтва Беларускай ССР» (складальнік Л. Дробаў; Ленінград, 1972).

Значную цікавасць уяўляюць альбомы па тэатральна-афарміцельскім мастацтве і гісторыі беларускага тэатра (Беларускі савецкі тэатр / складальнікі: Т. Бушко, А. Ладыгіна, М. Герасімовіч. Мінск: Беларусь, 1974. 423 с.; Смольский, Б.С. Белорусский музыкальный театр / Б.С. Смольский; Институт искусствоведения, этнографии и фольклора Министерства культуры БССР. Минск: Наука и техника, 1963. 246 с.; Няфёд, У.І. Беларускі тэатр: нарыс гісторыі / У.І. Няфёд; Акадэмія навук БССР, Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Мінск: Выдавецтва АН БССР, 1959. 395 с.; Няфёд, У.І. Беларускі акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы / У.І. Няфёд; мастак В. Тарасаў. Мінск: Беларусь, 1970. 222 с.; Тэатральна-дэкарацыйнае мастацтва Савецкай Беларусі: альбом / Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР, Беларускае тэатральнае аб'яднанне; складальнік і аўтар тэксту Г.І. Барышаў; пад рэдакцыяй Н.В. Масленікава. Мінск: Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1958. 138 с.). Мабыць, увага да гэтых кніг была абумоўлена прафесійнымі інтарэсамі Л.Ю. Кроля як тэатральнага мастака-афарміцеля.

Для аматараў беларускай «малой» графікі — экслібрыса — прадстаўлена выданне «Беларускі кніжны знак» (Мінск, 1975). Складальнікі А. Тычына і В. Шматаў. Кніга прысвечана гісторыі і характэрным асаблівасцям беларускага экслібрыса, яго рознабаковай тэматыцы і тэхніцы выканання. У тэхніцы лінагравюры стваралі экслібрысы П. Герасімовіч, Г. Галубовіч, Г. Грак, Е. Красоўскі, Е. Кулік. У ксілаграфічнай тэхніцы працавалі А. Зайцаў, А. Кашкурэвіч, М. Лазавы, М. Ганчароў, М. Тарасікаў, А. Тычына, В. Шматаў: малявалі кніжныя знакі тушшу на паперы, а потым рэпрадукцыравалі цынкаграфічным спосабам.

Вядучай на многія гады ў беларускай графіцы была тэма Вялікай Айчыннай вайны. Альбомаў на гэтую тэму ў кнігазборы шмат. Юбілейная рэспубліканская мастацкая выстаўка 1967 года і выстаўка «На варце міру» 1968 года прадэманстравалі творчасць новага пакалення мастакоў. У альбомах калекцыі гэта працы М. Данцыга «Беларусь — маці партызанская», Л. Шчамялёва «У цяжкія гады», В. Грамыкі «Салдаты», М. Савіцкага «Віцебскія вароты» і «Партызанская мадонна». Тэмай вайны прасякнуты альбомы гэтай тэматыцы выдавецтваў «Беларусь», «Навука і тэхніка», Дзяржаўнага выдавецтва БССР («Усебеларуская мастацкая выстаўка: жывапіс, скульптура, графіка, работы мастакоў тэатра і кіно: ката-

Даследаванне «Жывапіс Беларусі XIX — пачатку XX ст.» цікава тым, што ў ім многія пытанні гучаць упершыню. Аўтар манаграфіі папоўніў шэраг прабелаў у беларускай мастацтвазнаўчай навуцы

лог» (Мінск, 1959), «Мастацтва Савецкай Беларусі» (Мінск, 1968), «Мастацтва мужнасці і гераізму» М. Ганчарова (Мінск, 1976), «Дзяржаўны мастацкі музей БССР» (Мінск, 1976).

Каштоўнае набыццё ў калекцыі — манаграфія Л. Дробава пад рэдакцыяй А. Мальдзіса «Жывапіс Беларусі XIX — пачатку XX ст.» (Мінск, 1974). Гэта першае ў беларускім мастацтвазнаўстве абагульняльнае даследаванне жывапісу Беларусі XIX — пачатку XX стагоддзя. У гэтай працы на фоне гістарычнага развіцця беларускага народа разглядваецца станаўленне яго побыту, а таксама гістарычнага, партрэтнага і пейзажнага жанраў жывапісу. Аналізуецца творчасць найбольш выдатных майстроў. На вялікім фактычным матэрыяле паказана роля Віленскай мастацкай школы, Пецярбургскай акадэміі мастацтва і іншых навучальных устаноў, дзе вучыліся беларускія мастакі. У манаграфіі багаты матэрыял пра творчасць выдатных майстроў выяўленчага мастацтва — Я. Дамеля, І. Аляшкевіча, В. Ваньковіча, Ф. Рушчыца, І. Хруцкага і інш. У кнізе больш за 250 малюнкаў беларускіх мастакоў. Многія з іх захоўваюцца ў музеях замежных краін. Даследаванне «Жывапіс Беларусі XIX — пачатку XX ст.» цікава тым, што ў ім многія пытанні гучаць упершыню. Аўтар манаграфіі папоўніў шэраг прабелаў у беларускай мастацтвазнаўчай навуцы. Даследаванне Л. Дробава складаецца з трох частак: «Жывапіс Беларусі першай паловы XIX ст.», «Жывапіс Беларусі 60-х — пачатку 90-х гг. XIX ст.», «Жывапіс Беларусі канца XIX — пачатку XX ст.». У аснову такой перыядызацыі пакладзена гістарычнае развіццё мастацтва Беларусі. У кнізе выкарыстоўваліся дакументы Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва Санкт-Пецярбурга, Цэнтральнага гістарычнага архіва Масквы, Дзяржаўнага гістарычнага архіва Літвы, Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі, Бібліятэкі Акадэміі навук Літвы, а таксама рукапісныя і архіўныя матэрыялы Траццякоўскай галерэі, Рускага музея, мастацкіх музеяў Вільнюса, Варшавы, Кракава, Вроцлава і інш.

Частка кніг у бібліятэцы Л.Ю. Кроля займае вучэбная літаратура і даследаванні па архітэктуры, тэорыі і гісторыі мастацтва, кнігазнаўстве (Брунов, Н.И. Пропорции античной и средневековой архитектуры / Н.И. Брунов. Москва: Издательство Всесоюзной академии архитектуры, 1935. 135 с.: ил.; Смелянов, М.С. Конгревное тиснение на переплетах / М.С. Смелянов. Ленинград; Москва, 1947. 92 с.: ил.; Ревалд, Дж. История импрессионизма / Дж. Ревалд; под редакцией А.Н. Изергиной. Москва; Ленинград: Искусство, 1959. 455 с., 23 л. ил.; Сыркина, Ф.Я. Русское театрально-декорационное искусство второй половины XIX века: очерки / Ф.Я. Сыркина. Москва: Искусство, 1956. 380 с.: ил.; Русское декоративное искусство: в 3-х т. / Академия художеств СССР; под редакцией А.И. Леонова. Москва: Издательство Академии художеств СССР, 1962—1965. 3 т.).

Трэба адзначыць шыкоўнае выданне XIX стагоддзя «Гісторыя мастацтваў» П. Гнедзіча (Санкт-Пецярбург, 1897), храналагічныя рамкі якога ахопліваюць так званы «дагістарычны перыяд» (старажытнахрысціянскі), эпоху Адраджэння і канец XIX стагоддзя. Таксама трэба звярнуць увагу на выданне А. Навіцкага «Гісторыя рускага мастацтва з найстаражытных часоў» (Масква, 1903). Але, на жаль, у калекцыі ёсць толькі першы том гэтага двухтомніка.

Л.Ю. Кроль пакінуў пасля сябе багатую бібліятэку, якая ўвабрала не толькі спецыяльную літаратуру. Натуральна, што пераважаюць альбомы і манаграфіі па мастацтву, народнай творчасці. Таксама шмат альбомаў з матэрыяламі карцінных галерэй свету, па архітэктуры, па гісторыі тэатра, касцюма.

Кніжнае мастацтва розных эпох пакінула нам бліскучыя помнікі, насычаныя духам свайго часу. У гэтым сэнсе калекцыя Л.Ю. Кроля з'яўляецца яркім прыкладам кніжнага мастацтва сваёй эпохі і, будзем спадзявацца, паслужыць яшчэ не аднаму пакаленню беларускіх мастакоў.

**Кацярына Шчасная**

# Дыяс? Дзіяз? Дзіяс!

## *Аб перадачы на беларускую мову замежных імён і прозвішчаў*

Замежныя імёны і прозвішчы ўваходзяць у наш лексікон дзякуючы актыўнаму згадванню тых ці іншых медыйных персанажаў, вядомых гістарычных і культурных асоб. Ды і ў сучасным беларускім анамастыконе заходнія і ўсходнія імёны па прычыне актыўных міграцыйных працэсаў — зусім не рэдкасць. Аднак часам адаптацыя імені на беларускую мову выклікае складанасці. Напрыклад, у прозвішчы *Diaz* узнікае ажно тры лінгвістычныя задачы: *Ды* ці *Дзі*, *ыя* ці *ія*, *с* ці *з*? Пытанняў дадае і адаптацыя замежных прозвішчаў праз рускую мову, у якой дзейнічаюць іншыя прынцыпы арфаграфіі і вымаўлення. Асабліва гэта праяўляецца ў прозвішчах з варыянтным напісаннем *е/э*.

Лінгвісты пры перадачы замежных імён, прозвішчаў і ўласных назваў карыстаюцца мінімум васьмю метадамі (паводле кнігі Д.І. Ермаловіча «Методика межъязыковой передачи имен собственных», Масква, 2009). Гэта прамы графічны перанос і метад эксплікацыі, калі напісанае «лацінкай» імя тлумачыцца катэгорыяй (фірма, марка і пад.) *<u>лінію адзення</u> от-куцюр* — ***Armani Prive***, *дырэктар <u>моднага дома</u>* ***Nina Ricci***. Пры перадачы замежнага імені на беларускую мову кірылічным алфавітам складанасці ўзнікаюць з-за ваганняў паміж трыма метадамі перадачы: транскрыпцыяй — адаптацыі замежнага вымаўлення (*T**ur**ner* — [tɜ:nə] — Цёрнер), транслітарацыяй, або палітарнай перадачай (*D**ou**glas* — *Д**у**глас*, а не *Д**а**глас* ад [dʌgləs]), практычнай транскрыпцый, калі перадаецца гучанне, але напісанне карэкціруецца, напрыклад, для мілагучнасці (***H**erm**io**n**e*** [hərmaiəni] — рус. ***Г**ерм**ио**на*, бел. ***Г**ерм**іё**на,* а не *Хермайні*). У адаптацыі імені *Герміёна* дзейнічае і наступны прынцып — марфаграматычнай мадыфікацыі, паводле якога імёны засвойваюцца і граматычна, у прыватнасці, да жаночых імён дадаецца канчатак *-а (-я)*. Праўда, імкнучыся да дакладнай перадачы гучання імені варта памятаць пра традыцыйнае напісанне, з якім гэтае або падобнае імя ўвайшло ў гісторыю: ***Ай**седора Д**у**нкан* ад ***I**sadora D**u**nkan*. Таксама для гістарычных прозвішчаў, мянушак або літаратурных персанажаў можа выкарыстоўвацца метад калькавання, функцыянальнай аналогіі, уласна пераклад матывуванага імені: *Jack **Sparrow*** — *Джэк **Верабей***. У літаратурных творах можа быць практыка аманімічнай замены або імем прымаючай мовы, або іншым замежным імем. Напрыклад, у казцы «Чараўнік смарагдавага горада» на аснове замежнага твора «Чараўнік краіны Оз» А. Волкаў выкарыстаў імя *Эллі* для галоўнай гераіні замест арыгінальнага *Дораці*.

Наступны метад — транспазіцыя або выкарыстанне імені прымаючай мовы, якое мае агульную этымалогію з арыгінальным іменем. Большасць еўрапейскіх хрысціянскіх імён мае агульнае паходжанне, але ў кожнай мове існуе ў сваёй фанетыка-арфаграфічнай варыяцыі. Нацыянальная форма імені выражае і нацыянальную прыналежнасць. Не толькі лінгвістычны, але ідэйны характар носіць міжславянская перадача імені. Так, пэўныя варыянты ўзнікаюць, калі трэба адаптаваць на рускую мову імёны беларускіх дзеячаў. Вось некаторыя прыклады з партала TUT.BY: *в честь Рыгора Бородулина,* але *юбилей Григория Ширмы, к памятнику Кириллы Туровского* (ад *Кірыла*) і *в храме святителя Кирилла Туровского* (ад *Кірыл*). У апошнія гады становіцца папулярным выкарыстоўваць у якасці публічных імён формы імені, якія ўзніклі «ў працэсе бытавання ў народнай мове»[1]: *Алесь, Зміцер, Наста*. Калі нацыянальныя імёны выступаюць аўтарскім «брэндам», яны ў такім выглядзе і павінны перадавацца на іншыя мовы. Зразумела, што ў юрыдычных сітуацыях будзе галоўнай пашпартная форма імені *Аляксандр* (*Аляксей*), *Дзмітрый*, *Анастасія*. У некаторай ступені перадачу беларускіх імён у дакументах формамі іншых славянскіх моў таксама можна лічыць траспазіцыяй. Параўнаем беларускую лацінку: *Siarhei, Volha* і лацінку з рускай мовы: *Siergei, Olga*, або польскае *Katarzyna* і беларускую лацінку *Katsiaryna*. Таксама ўжо сустракаецца фанетыка-арфаграфічная перадача ўкраінскіх імён па нацыянальным варыянце: *Андр**ы**й Данілка.* Нацыянальная транспазіцыя заслугоўвае шырокай дыскусіі і шматаспектных даследаванняў. Аднак у дадзеным артыкуле паспрабуем больш засяродзіцца на перадачы імён і прозвішчаў з моў, што выкарыстоўваюць лацінскі алфавіт.

[1] Паводле М.В. Бірылы. Бірыла, М.В. Беларуская антрапанімія. — Мінск, 1966.

Разгледзім перадачу найбольш складаных спалучэнняў галосных і зычных у замежных імёнах на беларускую мову.

## Перадача спалучэнняў галосных, а/о

Пры перадачы дадзеных спалучэнняў важна памятаць пра ўжыванне *о, ё* толькі пад націскам і адсутнасць *й* паміж галоснымі.

Паводле «Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (2008) спалучэнне *иа* абазначаецца на пісьме літарамі *ія(ыя)*, незалежна ад месца націску (§ 9). Таму будзем мець *R**i**hanna — Р**иа**нна — Р**ыя**на, Adr**ia**na Lima — Адр**иа**на Лима — Адр**ыя**на Ліма, Cameron D**ia**z — Ка/эмерон Д**иа**с — Кэмеран Дз**ія**с*, а *йа, йо* сцягваюцца ў адзін гук: *Jack R**ya**n — Джек Рай**а**н — Джэк Р**ая**н, Бр**ая**н, Л**ая**м*. Таксама ў *ія* будуць пераходзіць спалучэнні *ио* не пад націскам *Эл**ио**т — Эл**ія**т*. У канцы прозвішчаў гэтыя прынцыпы таксама дзейнічаюць: *Дзі Капр**ыа***. А вось у канцы імён неславянскага паходжання на *ио* вядомы мовазнаўца У.І. Куліковіч раіць наступную схему: у мужчынскіх імёнах перадаваць *-іа (-ыа)*, а ў жаночых — *-ія (-ыя)*: м. *Хуліа/* ж. *Хулія*, м. *Сільвіа/* ж. *Сільвія*, м. *Лючыа/* ж. *Лючыя*, м. *Марыа/* ж. *Марыя* (гл. Куліковіч, У.І. «Сучасная беларуская арфаграфія: правілы, трэніровачныя заданні…», Мінск, 2011). Параўнаем у рускай мове: м. *Сильвио /* ж. *Сильвия*.

Італьянскія імёны, дзе адзіночны канцавы а/о паказвае на пол асобы, пры перадачы на беларускую мову будуць аднолькавымі: *Франчэска Тоці* (мужчына, футбаліст) / Франчэска Ск'явон(е)[2] (жанчына, тэнісістка). Граматычна на пол асобы ўкажуць канчаткі ўскосных склонаў, дзе мужчынскія імёны будуць не скланяцца, а жаночыя — скланяцца: *«Рому» палюбіў дзякуючы Франчэска Тоці (bel.sputnik)/ У першым крузе Азаранка ўлёгкую прайшла **Франчэску Ск'явон(е)*** (http://zviazda.by, 06.08.2013).

Фактычна спалучэнне *іо* ў беларускай мове можа быць у пачатку слова пад націскам: ***Іо**сіф, **Іо**фэ, Кніга **Іо**ва*, націскное *йо* пяройдзе ў *ё*: *Скарлет **Ё**хансан, **Ё**зэф Блатэр, Карлес Пу**ё**ль, Бе**ё**нсэ*, спявачка *А**ё**ва* (англ. ***Io**wa*, рус. ***Айо**ва*). *Там [у Магілёве] мяне жартаўліва пачалі называць **Аёва*** (http://zviazda.by, 10.09.2014).

Адзіночныя літары *о, ё* ў замежных імёнах, відавочна, будуць толькі пад націскам: *Жак-Іў Кусто, **Э**лтан Дж**о**н, Луі В'ют**о**н, **О**зі **О**збарн, Марыас Варгас Ль**ё**са*, а таксама ***О**'Генры, **О**'Ніл*. Не пад націскам, як у пераднаціскным складзе, так і ў постпазіцыі будзе *а*: *Эрык Клэпт**а**н, Джарэд Лет**а***. Для *э, е* пераход у *а, я* менш уласцівы: *Паала Сар**э**нтына, Джэф Крон**э**нвет, Бэн Афл**е**к, Ал**е**хандра*, але *Па(у)ла Каэль**я***.

Паступова постпазіцыйнаму аканню паддаюцца прозвішчы з фінальнымі кампанентамі германскага паходжання *-сон* і *-эр*: *Эмі Уотсан, Браян Джонсан, Джэк Нікалсан, Туве Янсан, Дэвід Фінчар, Трэнт Рэзнар, Марцін Лютар*, а таксама імёны: *Пітэр/Пітар*. Паводле выдання «Беларуская антрапанімія» (Г.М. Мезенка [і інш.], Віцебск, 2009) гэтыя фарматы павінны запісвацца як *-сон, -эр*, не зважаючы на постпазіцыйнае аканне. Лінгвіст Уладзімір Куліковіч таксама не раіць змяняць фінальныя *-эр* у імёнах і прозвішчах (*Ландэр, Лютэр*). У некаторых імёнах і прозвішчах *-ар/-эр* ужываецца пад націскам, таму гэта фінальная частка застаецца нязменнай: *Дыс**а**р, Вальт**э**р, Іскандэр*, аналагічна *-сон* пад націскам: *Якабс**о**н*. Прасцей з ужываннем прозвішчаў на *-ер*, дзе няма *д, т*, зацвярдзелых зычных, і таму фанетыкаарфаграфічных змен тут не адбываецца: *Купер, Паркер, Мацкер, Фармер, Тайлер*.

Адзін з прыкладаў змены транслітарацыйных прыярытэтаў — гэта прозвішча амерыканскага акцёра Ashton Kutcher, якое ў рускім варыянце можна сустрэць у дзвюх формах: *Кутчер* (лічыцца больш правільным варыянтам ад [kʊtʃə] і пашырана ўжываецца апошнім часам) і *Катчер* [як прачытанне закрытага англійскага *u* праз **ʌ** (кароткае *а*)]. У запісах замежных трансляцый («*Teen Choise Awards*», 8.08.2011 і 15.08.2013, прэзентацыя фірмы *Lenovo*, 13.02.2015) былі сустрэты тры формы вымаўлення: [k**ɜː**tʃə] (1 раз), [kʊtʃə] (2 разы), [k**ʌ**tʃə] (1 раз). Паколькі ў беларускай мове яшчэ пад пытаннем знаходзіцца адаптацыя фінальных *-эр* у прозвішчах, таму прозвішча Kutcher на беларускамоўных інтэрнэт-старонках можна сустрэць аж у пяці варыяцыях: *К**а**тч**а**р, Катчэр, Кутчэр, Кутчар* і амаль «па-нашаму» *Кучар*. На сённяшні момант найбольш прымальным застаецца варыянт *Кутчэр*.

## Перадача *д/ дз*, т/ ц, д/ *дж*, ж

«Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (2008) рэкамендуюць ва ўласных імёнах і назвах зычныя *д, т* або *дз, ц* пісаць у адпаведнасці

[2] Літары, пададзеныя у дужках, могуць мець іншую арфаграфічную перадачу, але ў дадзеным выпадку падаюцца ідэнтычна тэксту СМІ.

з беларускім літаратурным вымаўленнем: *Дэфо, Дэтройт, Тэрэза, Гарыбальдзі, Кацюбінскі* (§ 17). Але зноў-такі паўстае пытанне пра пэўныя заканамернасці нарматыўнага вымаўлення. Так, у выпусках папулярнай музычнай тэлепраграмы АНТ «Легенды Live» вядучым Іванам Падрэзам было вымаўлена мякка *Эн[**дз'і**] Флэтчар, Мар[**ц'і**]н Лі Гор, Рыкі Мар[**ц'і**]н* і цвёрда: *[**Дэ**]йв, [**Дэ**]від, Уолт [**Ды**]снэй, Селін [**Ды**]ён, С[**ты**]нг* (2014—2015 гг.).

Паводле статыстыкі, атрыманай пры дапамозе пошукавіка Google з беларускіх інтэрнэт-старонак за 2010—2015 гг., у асноўным запазычаныя спалучэнні *t + i, d + i*[3] перадаюцца ў нашай мове праз *ці, дзі*: *Джас**ці**н* (100 %) ***Ці**мберлейк* (55 %, дзе *ці-* пішуць дзяржаўныя выданні «Звязда», «Культура» і інш.), *Крыш**ці**яну Раналду* (*60* %), ***Ці**маці* (100 %, у асноўным у дачыненні да расійскага рэпера, але ў некаторых выданнях сустракаецца імя даследчыка ***Ты**маты Снайдэра*), *Крыс**ці**на Агілера, Арнэла Му**ці**, Джэйн Ос**ці**н, Эдрыян Броў**дзі**, Томас Э**дзі**сан, Ву**дзі** Ален, Марлен **Дзі**трых, Боб **Дзі**лан, **Дзі**та фон **Ці**з*. У асноўным пішацца з цвёрдым *т* імя *Стывен, Стыў,* псеўданім папулярнага спевака *Стынг*. Таксама прозвішча амерыканскай актрысы *Cameron Diaz* у асноўным ужываецца ў цвёрдым варыянце *Кэмеран **Ды**яз/с,* аналагічна імя былога пасла Венесуэлы ў Беларусі — *Амерыка **Дыяс** Нуньес*. Прозвішча *Diaz* складанае яшчэ і таму, што тут тры фанетычныя пазіцыі, якія трэба перадаць *Di — ды* або *дзі, ia — ыя* або *ія, z — з* або *с*. Дарэчы, прозвішчы іспанскага паходжання *Дыяс, Лопес, Гомес* расійскі лінгвіст Р.А. Лідзін раіць перадаваць з канцавым *с*. Даведнік Р.А. Лідзіна *«Иностранные фамилии и личные имена. Написание и произношение. Практическая транскрипция на русский язык»* (Масква, 1998 і перавыданне 2006) з'яўляецца вельмі добрай падказкай для адаптацыі зычных і галосных у імёнах на рускую мову з 17 моў (!), уключаючы нават венгерскую, сербскую. Правілы практычнай транскрыпцыі ў дапаможніку распісаны для кожнай літары і спалучэнняў, а прыкладамі служаць тыповыя і вядомыя замежныя імёны і прозвішчы. Рэкамендацыі традыцыйнага напісання імёнгістарычных асоб і культурных дзеячаў з англамоўнай транскрыпцыяй, націскам (усё-такі *Г**а**ўдзі*, а не *Гаўдз**і***) сабраны ў даведніку Д.І. Ермаловіча «Англо-русский словарь персоналий» (Масква, 1999).

Прозвішча вядомага мадэльера Christian'а Dior'а таксама мае дзве пазіцыі, якія павінны падпарадкавацца беларускаму вымаўленню: згодна з разгледжанай тэндэнцыяй *di* пяройдзе ў *дзі*, а паводле правіл *io* — у *іё*, атрымліваем *Крысціян **Дзіё**р* (Мінская праўда, 21.01.2014). Але больш пашыраным выступае варыянт *Крысціян **Дыё**р* (Вікіпедыя і інш.), сустракаюцца варыянты *Крысціян **Дзіо**р* (Советская Белоруссия, 31.01.2009).

А вось *t + e, d + e* перадаюцца цвёрда: ***Тэ**йлар Лотн(е)р, **Тэ**а, Катрын **Дэ**нёў, **Дэ**мі Мур, Мэт **Дэ**йман, Джоні **Дэ**п*. Да адаптацыі запазычаных імённа *д, т* з цвёрдымі зычнымі падштурхоўвае тое, што агульныя запазычаныя назоўнікі на *д, т* і таксама вытворных ад іх, як правіла, так пішуцца: *дэманстрацыя, тыраж, пластык, апладысменты*. Усе замежныя імёны з *д, т* лінгвіст Л.В. Вікторка раіла перадаваць цвёрда: *Тыматы, Энды, Дыяна,* але *Мэцью* (гл. Вікторка Л.В. «Лінгвістычныя асновы перадачы англійскіх уласных асабовых імёнаў на беларускую мову». — Мінск: МДЛУ, 2003.). Аднак з улікам практыкі СМІ магчыма захаваць тэндэнцыю перадачы **ti, *di* праз мяккія спалучэнні *ці, дзі*. Акрамя таго, змякчэнне *цю, дзю*: *Вуа**цю**р — Voi**tu**re*, ***Дзю**пон — **Du**pont*, на думку маладога даследчыка П. Ламакі, найлепш перадае асаблівасці французскай фанетыкі. Іншыя нюансы адаптацыі на беларускую мову французскіх імёні прозвішчаў адлюстраваны ў артыкулах П. Ламакі ў «Весніку БДПУ»: №№ 2 (2013), №2 (2014), № 2 (2015).

Варта звярнуць увагу на розніцу ў перадачы лацінскіх літар *d, j, g*. З англійскай мовы *j* («джэй») перадаецца ва ўсіх спалучэннях з галоснымі як *дж*: ***J**amie Dornan — **Дж**эймі Дорнан* (паводле законаў англійскай арфаэпіі ў адкрытым складзе *a* перадаецца як *ei — эй*), ***J**ulia Roberts — **Дж**улія Робертс, **J**essica Alba — **Дж**эсіка Альба, **J**imi Hendrix — **Дж**ымі Х(е)ндрыкс*. Цікава, але вядомае еўрапейскае прозвішча *Jacobs* у большасці выпадкаў запісваецца як *Якабс*: кава «***Якабс***», *міністр па супрацоўніцтве ў галіне развіцця і гуманітарных пытанняў Люксембурга Мары-Жазэ **Якабс**, 30 гадоў супрацоўніцтва з Рэнэ **Якабсам*** (бельгійскі класічны спявак і рэжысёр), а прозвішча амерыканскага мадэльера і парфумера *Marc Jacobs* пішацца на англійскі манер — *Марк **Джэйкабс***. З італьянскай мовы спалучэнне *gi* перадаецца як *джы*, з французскай мовы *gi* — як *жы*: *Givency* —

[3] У дадзеным выпадку формула t + і носіць схематычны характар. Размова ідзе як пра арфаграфічнае напісанне, так і пра гукавую рэалізацыю [е], [і] рознай працягласці і блізкіх да іх гукаў.

*Жываншы*: *Рэчы, сабраныя <> часткова з архіваў* ***Жываншы*** *ў Парыжы, а таксама з прыватных калекцый* (www.tvr.by/bel, 13.03.2015). Таксама існуюць фанетычныя і арфаграфічныя варыянты імені *Jérémy* — калі гаворка ідзе пра асоб французскага паходжання — то імя гучыць як ***Жэрэмі***, напрыклад, ***Жэрэмі*** *Капон* (акцёр з моладзевага фільма «LOL»), а ў версіі англійскай мовы ўжо ***Джэйрэмі*** — *Джэйрэмі Айранс* (акцёр, «Цягнік да Лісабона»).

Напэўна, самым складаным з'яўляецца перадача *е* або *э* пасля шэрагу зычных, якія не з'яўляюцца зацвярдзелымі. Паводле «Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (2008) на канцы нязменных слоў, а таксама ва ўласных імёнах пасля зычных, акрамя *л*, *к* пішацца *э* (§3): *Праспер Меры**мэ**, Міраслаў Кла**зэ**, Марцін Скарсэ**зэ**, Жа**зэ** Маўрынью, Мікіта Кіё**сэ**, Данатэла Вярса**чэ**, Петра Ме**дэ**, Рэ**нэ** Зельвегер, Сільвестр Стало**нэ***, у тыповых у грузінскіх прозвішчах: *Канстанцін Мелад**зэ**, Тэнгіз Думбад**зэ**, Нані Брэгвад**зэ***, акрамя *л*, *к*: *Пе**ле**, Лайма Вайку**ле**, Энры**ке** Іглесіяс, Жанна Фрыс**ке**, Міхаэль Ханэ**ке***. Магчыма гэта правіла пашырыць на заднеязычныя гукі *г*, *х*: *браты Юн**ге**, Хор**хе***.

У сярэдзіне слоў перадача *е/э* можа вар'іравацца. Часцей *э* пішацца на месцы арфаграфічнага англійскага *а*, які рэалізуецца ў шырокім [æ], [ei]: *Мэрылін Манро* (*M**a**[æ]rilyn*), *Нік Мэйсан* (*M**a**[ei] son*), *Наомі Кэмпбел* (*Ca[æ]mpbell*). Астатнія замежныя прозвішчы з *м*, *н*, *б*, *п*, *в*, *х*, *л*, дзе ў пачатковым варыянце ёсць арфаграфічнае *е*, могуць мець варыяцыі ў беларускай мове, як у вымаўленні, так і напісанні. Звычайна выбар *е/э* ажыццяўляецца згодна з літаратурным вымаўленнем і вызначаецца па слоўніку: *сэрвіс / сервіз* («Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі», 2008, §3). З імёнамі і прозвішчамі ўзнікае аналагічная сітуацыя: мы вымаўляем і пішам іх або згодна з традыцыяй (напрыклад, прапанаванай СМІ) або кіруючыся ўласным чуццём. Аднак пры тэндэнцыі ўжываць мяккае напісанне праз *е*, арфаграфічная форма і фанетычныя не заўсёды супадаюць. Так, напрыклад, у агучаных замежных прозвішчах у эфіры праграмы «Легенды Live» супала вымаўленне і напісанне: цвёрдае — *Шварц[**нэ**]гер (Шварц**нэ**гер < Schwarze**ne**gger)*, мяккае — [***Л'***]*ені Кравіц* (***Ле****ні* < ***Le****nny*), *Лі(а)м Хоў*[***л'***]*ет* (*Хоў**ле**т* < *How**le**tt*), *Алан* **[М']***енкен* (***Ме****нкен* < ***Me****nken*). Таксама былі вымаўлены цвёрда зычныя ў словах, дзе на пісьме перадаецца літара *е*: *Дыс*[***нэ***]*й* (не супадае: *Дыс**не**й* < *Dis**ne**y*), [***Хэ***]*йтвілд* < ***He****tfield* (беларускае напісанне не трапілася). У некаторых выпадках напісанне яшчэ ўстанаўліваецца: *Фрэдзі М*[***э***]*рк'юры* (***Ме****рк'юры* і ***Мэ****рк'юры* < ***Me****rcury*), [***Вэ***] [***бэ***]*р* (***Вэбе****р* і ***Уэбе****р* < ***Webbe****r*).

Параўнаем, што ў рускай мове, праз якую пераважна ідзе адаптацыя замежных прозвішчаў, аддаецца перавага напісанню праз *е*, але вымаўляцца зычныя пры гэтым могуць цвёрда і мякка: *Мэтью* [***Б'е***]*лами*, *Одри* [***Хэ***]*п*[***бэ***]*рн* (у напісанні і *Хепбёрн* ад *Hepburn*), [***Сэ^е^***]*зария Эвора, Дженифер Ло*[***пэ***]*с, Селена Го*[***м'***]*ес, Фредди* [***Мэ***]*ркьюри, Энрике Иг*[***л'***]*есиас, Джастин Тим*[***б'***]*ер*[***лэ***]*йк, Эми*[***нэ***]*м* (з запісаў вымаўлення вядучага Аляксандра Алешкі ў выпусках праграмы «Точь-в-точь»).

Тут хутчэй ідзе гаворка аб пэўных традыцыях вымаўлення імені, а таксама асабістай «зручнасці» вымаўлення. Для беларускай мовы магчымае напісанне зычных у запазычаных імёнах мякка, з наступным *е*, але разам з тым важна, каб літарная і гукавая перадача разыходзіліся паміж сабой у меншай ступені.

## Перадача ў/ у

Пытанне перадачы *у* складовага або *ў* звычайна ўзнікае ў імёнах і прозвішчах з англійскай мовы, дзе ёсць літара *w*, якая па ўласным гучанні [w] нагадвае беларускае [ў]. У англійскім маўленні літара *w* можа таксама рэалізоўвацца ў гукі [ou], [au], нуль гука, што ў беларускай мове перадасца спалучэннямі з літарай *ў* або складовым *у*. Звычайна *ў* можа быць у сярэдзіне слова: *Джаан Р**оў**лінг* (Rowling [roulıŋ[4]]), *Джэніфер Л**оў**рэнс (Lawrence [lar(ə)ns]), Майкл О**ў**эн (Owen [əuən]), Роберт Даўні (Downey [dauni:]), Шэран Ст**оў**н* (*Stone* [stəun]), *Эма Ст**оў**н* (*Stone* [stəun]), параўнаем з агульнымі назоўнікамі: *аўра, даўн, маўзер, раўнд*. Нескладовае *ў* ужываецца нават у спалучэннях *-ус* (*-уз*): *Доктар Х**аў**с* (*House* [*haus*]), *Эмі Уайнх**аў**с* (*Winehouse* [*waınhaus*]), *Лілі-Р**оў**з Дэп (Rose* [rəuz]). Гэта разыходзіцца з напісаннем агульных назоўнікаў у «Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (2008), паводле якіх гук [у] не чаргуецца з [ў] у запазычаных словах, якія заканчваюцца на *-ус*, а таксама *-ум*: *прэзідыум*, *кансіліум*, *радыус*, *страус*, *соус* і вытворных ад іх (§ 15).

У пачатку слова пішацца складовае «*у*»: ***У****іл Сміт (Will), Сэмюэл* ***У****орцінгтан, Эндзі* ***У****орхал, Брус* ***У****іліс*. Прозвішча *Watson* адышло ад традыцыйнага

[4] Транскрыпцыя дадзеная паводле інтэрнэт-сэрвісу http://wooordhunt.ru.

напісання і адлюстравання пачатковага *W праз В* (успомнім памочніка Шэрлака Холмса доктара Ватсана — *Dr. Watson*) і стала передавацца паводле вымаўлення — *Уотсан*: *актрыса Эма* ***Уотсан***, *тэнісістка Хітэр* ***Уотсан***, *біёлаг Джэймс* ***Уотсан***. Зноў-такі, існуюць розныя фанетычныя варыянты аднаго імені або прозвішча, якое ад розных моў будзе перадавацца па-свойму: напрыклад, нямецкі варыянт *Walther — Вальтэр* (прозвішча заснавальніка вядомай кампаніі па выпуску зброі), англійскі варыянт *Walter — Уолтэр* (фільм «Неверагоднаё жыццё Уолтэра Міці»).

У запазычаных назоўніках, паводле «Правіл…» (2008), у канцы слова у не скарачаецца: *фрау, ток-шоу* і *Шоу, Ландау* — так, напрыклад, пішуцца прозвішчы сучасных акцёраў: Гвінет *П(е)*лтроу, *Джуд Лоу*.

Гук і літара *v* на канцы замежных імён перадаецца як *ў* і пры скланенні аднаўляецца ў *в*: *Ст****ыў*** *Джобс (Steve) — са Сты****в****ам Джобсам, І****ў*** *С(э)н-Ларан — І****в****а С(э)н-Ларана. У 2000 г. ён заваяваў давер моднага дому, дзе правёў тры месяцы, здымаючы фільм аб працэсе распрацоўкі новай калекцыі і штодзённым жыцці* ***Іва*** *Сэн-Ларана...* (http://www.listapad.com/by/news, 10.11.2014). Перад зычным *v* пераходзіць у *ў*: *Кіяну Ры****ў****з* (*Ree****v****es*), паміж галоснымі можа быць складаўтваральным *в*: *Аўрыл Лавінь (Avril Lavigne)*. Прозвішчы, утвораныя ад слова *Queen* ‘каралева’, передаюцца як *Куін*: *Лі Аляксандар Мак-Куін, Энтані Куін*. У прозвішчах на *-фт* захоўваецца *ф*.

## Перадача і скланенне замежных прозвішчаў на -скі/-цкі

Такія прозвішчы характэрныя для славянскага анамастыкону, у прыватнасці для беларускага і польскага, «лічацца тыпова польскімі»[5], аднак пры передачы прозвішчаў *-скі/-цкі* па схемах: польская — беларуская мова, польская — (неславянская мова) — беларуская мова, узнікаюць арфаграфічныя і граматычныя разыходжанні.

У беларускай мове прозвішчы на *-скі*, якія абазначаюць мужчыну-паляка, звычайна скланяюцца: *прэзентацыя новай кнігі Януша* ***Вішнеўскага****, партыя Яраслава* ***Качыньскага***. Аднак калі размова ідзе пра эмігрантаў або спадчыннікаў славянскіх прозвішчаў, прозвішчы не скланяюцца: *Улады Польшчы адмовілі ЗША ў экстрадыцыі Рамана* ***Паланскі*** (http://zviazda.by/be, 02.11.2014); *Таму пры ўсёй павазе да лонданцаў і Лукаша* ***Падольскі*** *гэты гол на 70% Свэна Моена і на 30% гульцоў Баварыі і Ноера* (http: by.tribuna.com, 12.03.2014). Нескланяльнасць можа распаўсюджвацца і на іншыя прозвішчы мужчынскага роду з канчаткам *-і(-ы)*. Так, у каментарыях да матча БАТЭ — «Рома» Павел Баранаў не скланяе прозвішча паляка, варатара італьянскага клуба «Рома»: «*Мяч не пераходзіць у вароты* ***Шчэнсны***» («Беларусь 2», 09.12.2015). Аналагічна ўжывае як нескланяльнае гэта прозвішча каментатар Уладзімір Навіцкі. Але ў польскіх СМІ гэтыя прозвішчы скланяюцца: *Na* ławce *znajdzie się miejsce dla weterana Lukasa* ***Podolskiego***… (http://www.rp.pl, 02.09.2015). *Trener Rudi Garcia za straconą bramkę skrytykował Wojciecha* ***Szczęsnego*** (http://www.rp.pl, 01.11.2015). Паколькі структурна і семантычна польскія мужчынскія прозвішчы на *-скі/-цкі, -і(-ы)* ідэнтычныя беларускім, іх можна скланяць (акрамя, верагодна, выпадкаў страты асобай славянскіх родавых і грамадскіх сувязей). Напрыклад, аб беларускіх каранях вядомага канадскага хакеіста *Уэна Грэцкі* стала вядома толькі ў апошнія гады. Ва ўсіх СМІ працяглы час яго прозвішча ўжываецца як нескланяльнае.

Жаночыя польскія прозвішчы апошнім часам падаюцца з аднаскладовым канчаткам, напрыклад, у літаратурных часопісах: *Марыянна Паўлоўска, Ольга Лаліч-Кравіцка, Віслава Шымборска*, але ёсць традыцыйныя формы з двухскладовым канчаткам: *Марыя Складоўская-Кюры, Марыя Канапніцкая*. Пры падобнасці польскіх прозвішчаў і беларускіх відавочна, што дакладная фанетычная перадача — *Эва Лінска*, а не *Ева Лінская*, больш адлюстроўвае нацыянальную спецыфіку імені. Пры гэтым жаночыя польскія прозвішчы ў тэкстах СМІ скланяюцца: *Віславе* ***Шымборскай*** *было 88 гадоў,* што стварае своеасаблівую парадыгму, дзе ў назоўным склоне ўжываецца аднаскладовы канчатак, ва ўскосных склонах — двухскладовы. Адназначна не скланяюцца жаночыя прозвішчы з фармантам мужчынскага роду *-скі*: *бацька Монікі Лявінскі, з Настассяй Кінскі.*

Такім чынам, пры перадачы замежных імён і прозвішчаў на беларускую мову важна ўлічваць першапачатковае гучанне онімаў, у тым ліку іх варыяцыі ў розных мовах, асаблівасці беларускай арфаэпіі і арфаграфіі, словазмянення. Важным для аднастайнасці перадачы застаецца і захаванне традыцыйных форм імені, якія гістарычна склаліся.

[5] Гл. Бірыла, М.В. Тыпалогія і геаграфія славянскіх прозвішчаў. — Мінск, 1988. — 67 с.

**Кірыл МЯЦЕЛІЦА**

# Кароль мімаволі

У ліпені 1572 года не стала караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта ІІ Аўгуста. З яго смерцю спынілася дынастыя Ягелонаў, і знаць Рэчы Паспалітай была пастаўлена перад неабходнасцю выбару новага кіраўніка. Яшчэ за два гады да скону Жыгімонта ліцвіны, занепакоеныя тым, што ў старэючага манарха няма спадчыннікаў, адправілі дэлегацыю да Івана Грознага. Паслы выказалі жаданне «выбраць сабе гаспадара са славянскага роду» і, на вялікую радасць цара, іх выбар паў менавіта на яго. Даведаўшыся пра гэта, Жыгімонт быў у роспачы ад думкі, што ў пераемнікі яму рыхтуюць заклятага ворага, і стаў падшукваць больш прыдатную кандыдатуру. У рэшце рэшт позірк яго спыніўся на малодшым браце французскага караля Карла IX прынцы Генрыху Валуа, якога ён і наказаў выбраць кіраўніком Рэчы Паспалітай пасля сваёй смерці.

Гэта быў даволі дзіўны выбар. Генрых Валуа нарадзіўся 19 верасня 1551 года. Яго бацькамі былі французскі кароль Генрых ІІ (той самы, чыю трагічную смерць прадказаў у адным са сваіх катрэнаў Настрадамус) і фларэнційка Кацярына Медзічы, якая па праву лічыцца адной з самых выбітных жанчын сваёй эпохі. Калі ад свайго даволі абмежаванага ва ўсіх адносінах бацькі прынц атрымаў у спадчыну толькі яго цягавітасць і моцны целасклад, то ад маці яму перадалася любоў да раскошы, каштоўнасцей, разнастайных забаў і яе італьянская элегантнасць. Генрых выдатна разбіраўся ў мастацтвах. Ён быў прыгожы і даволі разумны, аднак дзівацтвы прынца зводзілі на нішто ўсе яго вартасці. Яго паводзіны часцяком і сапраўды былі эксцэнтрычнымі. Генрых насіў у вушах завушніцы з буйнымі дыяментамі і часам, размаляваны як прастытутка, з'яўляўся на балях у жаночай сукенцы. На адзін з маскарадаў прынц заявіўся ў «касцюме амазонкі з агаленымі грудзьмі». Іспанскі пасол, які бачыў усё гэта на свае вочы, без ценю іроніі пісаў свайму каралю ў Мадрыд, што Генрых «вельмі мілая дзяўчына». Час ад часу Генрых пускаўся і ў іншую крайнасць: як бы каючыся за свае паводзіны, ён упадаў у рэлігійную экзальтацыю і бічаваў сябе на вачах у ашаломленых прыдворных.

Не дзіўна, што калі зямны шлях Жыгімонта скончыўся, эліта Рэчы Паспалітай не стала спяшацца з выкананнем апошняй волі нябожчыка. Акрамя Генрыха на вакантнае месца прэтэндавалі яшчэ некалькі чалавек, з якіх найбольш верагоднымі кандыдатамі былі Іван Грозны і сын імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі эрцгерцаг Эрнст Габсбург. Калі адыёзная фігура маскоўскага цара была адрынута амаль адразу, то варыянт з эрцгерцагам, якога падтрымліваў Папа Рымскі Рыгор XIII, быў найбольш прымальным для мясцовай каталіцкай партыі. Аднак Эрнст быў не даспадобы пратэстантам: яны не хацелі бачыць на троне Рэчы Паспалітай чалавека, які праславіўся жорсткімі ганеннямі на лютэранаў і кальвіністаў. Таму, калі Ян Замойскі, былы паж французскага караля Францыска ІІ, выказаўся за тое, каб усё ж такі перадаць трон Генрыху Валуа, многія ўспрынялі гэта як непажаданы, але ўсё ж кампраміс паміж варагуючымі групоўкамі.

У самой Францыі падобныя перспектывы выклікалі захапленне толькі ў двух чалавек — караля Карла IX, які марыў пазбавіцца ад герцага Анжуйскага (адзін з афіцыйных тытулаў Генрыха Валуа), і іх уладнай маці Кацярыны Медзічы, якая малявала ў сваім уяўленні перспектывы стварэння магутнай кааліцыі супраць ненавісных ёй Габсбургаў. Што да самога прэтэндэнта на прастол, то ён не адчуваў ніякага жадання правіць у далёкай і халоднай краіне, якую, на яго думку, засялялі адны п'яніцы і варвары. Сёння падобныя развагі герцага Анжуйскага могуць падацца нам абразлівымі, але ў тыя часы ў Заходняй Еўропе і сапраўды былі даволі невысокай думкі пра ўсходнееўрапейскія дзяржавы. Дзеля справядлівасці варта згадаць, што ва ўяўленні тагачасных французаў, іспанцаў і англічан нават немцы былі дзікаватай нацыяй. Так, французскі гісторык Філіп Эрланжэ пісаў, што яго суайчыннікі, якія жылі ў XVI стагоддзі, лічылі народ Рэчы Паспалітай «крыху менш варварскім, чым незлічоных маскавітаў, ад якіх ён аддзяляў заходні свет», а польска-літвінскую дзяржаву ўспрымалі як «своеасаблівае скрыжаванне культур, дзе фатальная памяць Тэўтонскага ордэна змешваецца з крывавай раскошай татарскіх ханаў».

Прыкладна таксама думаў і Генрых Валуа, які ўчыніў скандал свайму каранаванаму брату. Ён лічыў, што Карл IX, які не меў нашчадкаў мужчынскага полу, папросту хоча адсунуць яго далей ад французскага прастолу. Кароль быў раз'юшаны

падобнымі намёкамі і, атрымаўшы папярэдне адабрэнне маці, выклікаў Генрыха для сур'ёзнай размовы, падчас якой манарх крычаў і час ад часу хапаўся за кінжал, заклінаючы герцага Анжуйскага прыняць карону Рэчы Паспалітай. Убачыўшы, што ўсе настроены супраць яго, прынц неахвотна пагадзіўся.

Аднак для пачатку неабходна было канчаткова пераканаць польска-літвінскую знаць зацвердзіць кандыдатуру Генрыха Валуа. Для гэтых мэт 17 жніўня 1572 года ў Кракаў накіраваўся састарэлы Жан дэ Манлюк, біскуп Валанскі, які лічыўся самым дасведчаным французскім дыпламатам. Як толькі ён выехаў з Парыжа, няшчасны Генрых адправіўся ў царкву, дзе паставіў свечку, каб яго не выбралі. Аж да свайго абрання на трон Рэчы Паспалітай прынц штодня паўтараў гэтую працэдуру. Між тым, усяго праз тыдзень пасля ад'езду дэ Манлюка ў Францыі адбылася падзея, якая паставіла пад пагрозу магчымае панаванне герцага Анжуйскага. Гаворка ідзе пра Варфаламееўскую ноч, падчас якой каталіцкімі фанатыкамі было забіта некалькі дзясяткаў тысяч французскіх пратэстантаў. Нягледзячы на тое, што сам Генрых практычна не меў ніякага дачынення да таго, што здарылася, менавіта на яго людская пагалоска ўсклала асноўную адказнасць за гэтую крывавую разню.

Парадаксальна, але падобныя чуткі распаўсюджвала маці прынца Кацярына Медзічы, якая разлічвала на тое, што падобным чынам яе сын можа заслужыць рэпутацыю абаронцы каталіцызму. Трэба сказаць, што ў некаторай ступені ў яе гэта атрымалася. Сёння гэта можа падацца дзікім, але калі да Папы Рымскага Рыгора XIII дайшлі першыя звесткі пра масавыя забойствы гугенотаў у ноч святога Варфаламея, ён з радасці загадаў адслужыць падзячны малебен. У Францыі ж распачалася чарговая грамадзянская вайна, і кароль адправіў герцага Анжуйскага камандаваць войскамі, якія аблажылі цытадэль пратэстантаў Ла-Рашэль.

У гэты час на другім канцы Еўропы нарэшце дабраўся да Кракава дэ Манлюк, а разам з ім і навіны пра жахі Варфаламееўскай ночы. Прыхільнікі эрцгерцага Эрнста Габсбурга тут жа запоўнілі краіну памфлетамі, у якіх Генрых абвінавачваўся ва ўсіх смяротных грахах. Мясцовая пратэстанцкая шляхта была ў шоку, і, як здавалася, герцаг Анжуйскі назаўжды мог забыцца пра карону Рэчы Паспалітай, аднак французскага дыпламата падобны паварот падзей ані не збянтэжыў. На твары біскупа не зварухнуўся ніводны мускул, калі ён распавядаў ашаломленай шляхце пра тое, што Варфаламееўская ноч была не масавым забойствам, а ўсяго толькі аперацыяй па ліквідацыі некалькіх важакоў гугенотаў, абвінавачаных у дзяржаўнай здрадзе. Вядома, аднаго красамоўства дэ Манлюка было мала, таму на адкрытым у красавіку 1573 года сойме ён ад імя Генрыха абяцаў, што той будзе няўхільна выконваць правы палякаў і літвінаў, палітыку верацярпімасці і паслухмяна прытрымлівацца думкі сената. Магнаты вырывалі ў біскупа адну саступку за другой. Пры гэтым, каб біскуп не забываўся пра тое, хто тут гаспадар, пануры маршалак вялікі каронны Ян Фірлей нястомна паўтараў дэ Манлюку адну і тую ж фразу на латыні: Si non jurabis, non regnabis (калі не паклянешся — не будзеш уладарыць). Менавіта так і з'явіліся на свет у будучым фатальныя для Рэчы Паспалітай «Генрыкавы артыкулы» і «Pacta conventa». Гэтыя дакументы настолькі абмяжоўвалі каралеўскую ўладу, што ператваралі манарха ў чыста цырыманіяльную фігуру. Кароль не толькі пазбаўляўся права аб'яўляць вайну, заключаць мір і збіраць паспалітае рушэнне без згоды сойма, але і абавязваўся аддаваць чацвёртую частку даходаў з каралеўскіх зямель на ўтрыманне пастаяннага войска. Акрамя таго, шляхта атрымала права паўставаць супраць манарха са зброяй у руках, калі апошні замахнецца на шляхецкія вольнасці. Яшчэ адзін важны пункт абвяшчаў, што кароль можа толькі абірацца, а таму ні пра якую спадчыннасць трона і гаворкі быць не можа.

Дэ Манлюк, абыякавы да лёсу Рэчы Паспалітай, пагадзіўся на ўсе гэтыя ўмовы з лёгкім сэрцам. Каб канчаткова схіліць вагі на карысць свайго пратэжэ, ён падаў сойму адзін цікавы дакумент — заключаную пад эгідай Францыі дамову паміж Венецыяй і турэцкім султанам. Тым самым дыпламат намякаў на тое, што Парыж можа паспрыяць прымірэнню Асманскай імперыі і Рэчы Паспалітай. Перспектыва адкрыцця новых гандлёвых шляхоў і чарнаморскіх праліваў зрабіла на магнатаў фантастычны эфект. У выніку ўжо 5 красавіка 1573 года Генрых Валуа быў абраны каралём, а 20 мая Манлюк прысягнуў на Pacta Conventa і Articuli Henriciani. Толькі тады пад радасныя крыкі натоўпу Генрых Валуа быў афіцыйна абвешчаны каралём.

У самым пачатку чэрвеня каля сцен непрыступнай Ла-Рашэлі да ног герцага Анжуйскага ўпаў

запылены ганец, які паведаміў Генрыху непрыемную для яго навіну з Рэчы Паспалітай. Няшчасны прынц, думаючы пра тое, як пазбавіцца ад нежаданай кароны, накіраваўся ў Парыж, дзе яму належала чакаць паслоў ад яго новых падданых. Тут адбыўся адзін цікавы эпізод. Каб належным чынам сустрэць шляхецкую дэлегацыю, нейкі мастак-дэкаратар прапанаваў размаляваць сталічныя будынкі ў яркія колеры. Калі, пад'язджаючы да Парыжа, ваявода Альбрэхт Ласкі ўбачыў цёмна-чырвоныя гарадскія вароты, ён з уласцівым яму гумарам пацікавіўся, ці варта гэта разумець так, што каралеўскай уладзе сорамна.

У канцы жніўня паслы прад'явілі Генрыху для ратыфікацыі падпісаныя дэ Манлюкам Pacta Conventa і Articuli Henriciani. Герцаг Анжуйскі, выхаваны з усведамленнем таго, што воля манарха павінна быць беспярэчнай, быў непрыемна здзіўлены зместам гэтых дакументаў. Спатрэбіўся тыдзень цяжкіх перамоў з узаемнымі абразамі і ўрачыстая заява цяжка хворага Карла IX аб тым, што ў выпадку яго смерці Генрых зойме французскі трон, перш чым прынц вымавіў неабходную прысягу ў Саборы Парыжскай Божай Маці.

Калі ўсе юрыдычныя тонкасці былі нарэшце ўладжаны, Генрых у суправаджэнні світы з 1200 чалавек накіраваўся насустрач невядомасці. У сярэдзіне лютага 1574 года пампезны караван з футрам, пёрамі і бліскучым аксамітам дасягнуў Кракава. Генрых, убраны ў вышываную каштоўнымі камянямі вопратку, заехаў у горад на прыгожым белым кані, перад якім ляцеў ручны арол. Трэба сказаць, што спачатку ён некалькі змяніў сваё стаўленне да мясцовых жыхароў, якія аказалі яму даволі цёплы прыём. У лісце брату манарх пісаў: «Скажу Вам, што да пары, калі прыбыў сюды, я не меў асаблівых прычын хваліць Бога, што ён загнаў мяне ў падобнае каралеўства». Бясконцыя балі і пышныя цырымоніі некалькі ўціхамірылі караля. Чаго нельга сказаць пра яго французскіх спадарожнікаў, якіх раздражняў холад, непралазная гразь і цвёрдыя ложкі.

Панаванне Генрыха, якое ён пасля называў самым сумным эпізодам свайго жыцця, пачалося з добрага знаку: падчас праведзенай 20 лютага каранацыі ніхто не быў забіты. Аднак праз пару дзён пачаліся першыя непрыемнасці. У сутычцы паміж кланамі Збароўскіх і Цянчынскіх загінуў, спрабуючы іх супакоіць, шляхціч Вапоўскі. Генрых, не жадаючы прымаць чыйсьці бок, паспрабаваў дасягнуць кампрамісу паміж дзвюма варагуючымі групоўкамі і тым самым настроіў супраць сябе і адных, і другіх. У дадатак да ўсяго 28 лютага ў Кракаве ўспыхнуў пажар, які знішчыў частку горада, што толькі ўзмацніла сярод шляхты апакаліптычныя настроі з нагоды распачатага праўлення. Краіну імгненна запоўнілі памфлеты, у якіх высмейваўся новы кароль.

Генрыха зноў ахапіла меланхолія. Ён зусім не разумеў псіхалогіі сваіх падданых, традыцыі якіх здаваліся яму дзіўнымі. Кароль не адчуваў ніякага жадання авалодаць польскай мовай, а модная сярод шляхты латынь, на якой французскія арыстакраты даўно ўжо не размаўлялі, раз'юшвала яго. Погляды Генрыха на манархічную ўладу катэгарычна не супадалі з вольнасцямі і палітычнымі традыцыямі мясцовай шляхты, якая часцяком паводзіла сябе з ім даволі напышліва. Бюджэт караля скараціўся да такой ступені, што час ад часу ён адчуваў самую сапраўдную патрэбу ў грашах. Генрых пісаў сваёй маці пра грубасць і павальнае п'янства шляхты. Ён абставіў сваю рэзідэнцыю Вавель у французскім стылі і акружыў сябе французамі, якім час ад часу даводзілася назіраць шчымлівую карціну: кароль, стоячы на каленях перад распяццем, са слязамі на вачах прасіў Бога хутчэй пазбавіць яго ад гэтых пакут.

Самае страшнае чакала караля ў адным з пакояў Вавеля, дзе жыла Ганна Ягелонка — родная сястра нябожчыка Жыгімонта II Аўгуста. Эліта Рэчы Паспалітай лічыла, што шлюб паміж ёй і Генрыхам звяжа старую і новую дынастыю, аднак у планы апошняга гэта не ўваходзіла. Ганна была непрыгожая, насіла грубыя суконныя сукенкі і, у дадатак да ўсяго, была на цэлых 28 гадоў старэйшая за свайго мяркуемага жаніха. Яшчэ да прыезду Генрыха ў Рэч Паспалітую яна ўбачыла партрэт прынца і адразу ж закахалася. Час ад часу кароль наносіў ёй візіты ветлівасці, але рабіць прапанову рукі і сэрца не збіраўся, тым самым прымушаючы пакутаваць 50-гадовую дзяўчыну. Кажуць, што аднойчы ён выпадкова ўзяў яе за руку, пасля чаго ўзрадаваная Ганна цэлы вечар не магла дакрануцца да ежы. Кароль не хацеў прыносіць сябе ў ахвяру дынастычным інтарэсам, тым больш што ў Парыжы засталося яго даўняе каханне — чароўная Марыя Клеўская, якой ён пісаў з Вавеля гарачыя лісты, выкарыстоўваючы замест чарніла ўласную кроў.

Да найвялікшага абурэння шляхты, кароль па-ранейшаму стараўся ўсялякімі спосабамі адтэрмінаваць дату свайго шлюбу з Ганнай і адвёў

ад двара пратэстантаў, але пры гэтым ён стаў надаваць усё больш увагі знешняй палітыцы дзяржавы. Знаць Рэчы Паспалітай штурхала яго на вайну з маскоўцамі. Першапачаткова Генрых паставіўся да гэтай задумы са скепсісам, аднак пасля таго, як да яго прыбыло пасольства ад крымскага хана, які абяцаў выставіць у дапамогу фантастычную лічбу ў 200 000 тысяч коннікаў, кароль задумаўся. Яго падкупляла думка пра тое, што ён можа ўзяць на сябе ролю Аляксандра Македонскага, які заваёўвае Усход. Прадчуваючы свой хуткі трыумф, Генрых вырашыў правесці інспекцыйную паездку па пагранічных абласцях Рэчы Паспалітай, але тут у справу ўмяшаліся непрадбачаныя абставіны.

З Парыжа да Генрыха сталі пастурпаць трывожныя паведамленні аб тым, што яго брат Карл IX знаходзіцца пры смерці, кальвінскія правінцыі Францыі вось-вось абвесцяць незалежнасць, а сама краіна стаіць на мяжы вайны з магутнай Іспаніяй. Разумеючы, што неўзабаве ў яго з’явіцца магчымасць назаўжды пакінуць Рэч Паспалітую і займець французскі трон, кароль вырашыў на ўсялякі выпадак паслабіць пільнасць сваіх падданых. Раптам без дай прычыны Генрых стаў з’яўляцца перад імі ў традыцыйным польскім адзенні і нават абяцаў навучыцца піць піва і танцаваць паланэз. Самым камічным было тое, што кароль нават стаў аказваць знакі ўвагі Ганне Ягелонцы. Каб пераканаць у сваіх пачуццях не толькі прынцэсу, але і навакольных, манарх загадаў зладзіць з гэтай нагоды двухтыднёвыя гулянні з балямі, рыцарскімі турнірамі і грандыёзнымі банкетамі.

Раніцай 14 чэрвеня 1574 года Генрых атрымаў уласнаручную запіску імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Максіміліяна II, якая паведамляла яму пра тое, што яшчэ 30 мая Карл IX сканаў. Праз гадзіну пасля гэтага да яго ў пакоі прывялі стомленага да смерці шталмайстра Кацярыны Медзічы, які за два тыдні адолеў адлегласць ад Парыжа да Кракава. Ён даставіў каралю ліст ад маці, якая маліла яго як мага хутчэй вярнуцца ў Францыю. Адказ Генрыха ўвайшоў у гісторыю: «Францыя і Вы, матуля, важнейшыя за Польшчу». Каб супакоіць падданых, манарх заявіў ім, што нікуды не паедзе і прызначыць Кацярыну сваім рэгентам у Францыі, а сам стаў рыхтавацца да ўцёкаў.

Увечары 18 чэрвеня Генрых запрасіў ваяводаў і прыдворных на баль. Кароль быў як ніколі вясёлы і кожныя 10 хвілін заклікаў падданых выпіць за яго здароўе. Не было яшчэ і дванаццаці, калі ўсе вяльможы перапіліся так, што ляжалі пад сталом. Каб не парушаць прыдворны этыкет, манарх у суправаджэнні адправіўся ў свае пакоі і лёг у ложак. Дачакаўшыся, пакуль яго слуга закрые фіранкі і выйдзе з пакоя, Генрых адкінуў коўдру і ў суправаджэнні некалькіх французскіх прыдворных, прыхапіўшы з сабой брыльянты польскай кароны, пакінуў палац і накіраваўся да невялікай каплічкі, дзе змоўшчыкаў ужо чакалі асядланыя коні. Кароль накінуў на галаву чорны капюшон і, схаваўшы твар пад павязкай, прышпорыў кабылу, падораную яму адным з польскіх магнатаў. Па дарозе ўцекачы паспелі заблукаць у лесе. На сваё шчасце яны набрылі на хацінку дрывасека. Без асаблівых цырымоній адзін з саўдзельнікаў караля выламаў дзверы і, прыставіўшы кінжал да горла няшчаснага гаспадара дома, прымусіў таго правесці іх.

На гэты момант у Кракаве ўжо ведалі пра ўцёкі Генрыха. Раз’юшаная шляхта адправіла за ім пагоню з сотні татараў на чале з кашталянам Янам Цянчынскім. Гэты імправізаваны атрад ледзь не нагнаў французаў каля невялікага гарадка з сумна вядомай назвай Асвенцім, аднак тым усё ж удалося адарвацца. Цянчынскі дагнаў іх толькі ў пагранічным аўстрыйскім горадзе Плеса. Ён паваліўся перад насмерць перапалоханым каралём на калені і пачаў прасіць яго вярнуцца. Генрых упэўнена стаў пераконваць кашталяна ў тым, што зараз жыццёва неабходна яго прысутнасць у Парыжы. Маўляў, ён зусім не адракаецца ад польскага трона і неўзабаве абавязкова вернецца. Для большай пераканальнасці манарх падарыў Цянчынскаму адзін з выкрадзеных яго спадарожнікамі брыльянтаў. Гэты высакародны жэст настолькі расчуліў шляхціча, што той выпіў кроплю ўласнай крыві ў знак павагі да караля, пасля чаго паскакаў са сваімі татарамі назад у Кракаў.

Цяпер Генрых, якога чакала загадзя падрыхтаваная карэта, мог уздыхнуць свабодна. Яго, думкамі ўжо караля Францыі, чакаў Парыж і любімая Марыя Клеўская. У той момант ён нават не здагадваўся пра тое, што ўсе нягоды, што зваліліся на яго падчас 146-дзённага праўлення ў Рэчы Паспалітай, акажуцца нязначнай дробяззю ў параўнанні з тымі выпрабаваннямі, якія чакалі яго на радзіме. Генрыху III наканавана было стаць апошнім манархам з дынастыі Валуа на французскім троне і першым каралём Францыі, які загінуў ад рук сваіх падданых.

**Айцец Агапій (Голуб)**

# Што азначае верыць

**Чым адрозніваецца вера ў жыццё на Марсе ад веры, што «фізмат — гэта маё»? Вышэйшае дасягненне і выражэнне сталай веры — любоў, а справа хрысціян — не даказваць, але сведчыць.**



Размову я пачну са сцвярджэння, што няверуючых людзей не бывае. І жыццё наша мацуецца не толькі на ведах, але і на веры. Не згодны? Як мяркуеце, ці магу я ведаць, накіроўваючыся на маршрутцы ў Мінск, што дасягну месца назначэння? Хіба мала бывае аварый — і на трасе, і ў горадзе? Ну, дапускаючы ў тэорыі магчымасць ДТЗ, я ўсё ж упэўнены, што з аўтамабілем, які мяне вязе, гэтага не здарыцца, і гэта вера дазваляе мне сесці ў пасажырскі салон. І яшчэ — я давяраю кампетэнтнасці шафёра, хоць, можа быць, упершыню яго бачу. На чым грунтуецца гэта вера?

**1. На асабістым досведзе.** Я шмат разоў ездзіў у Мінск — у ДТЗ не трапляў, аўтамабіль не псаваўся. Гэты досвед і дае мне падставу для ўпэўненасці, што ўсё будзе добра і гэтым разам. Ну, а чалавек рэлігійны будзе яшчэ давяраць сябе Промыслу Божаму — я патрэбны ў Мінску, а пасля патрэбны тут, у Жыровічах, ці ў Сасноўцы, патрэбны людзям, мне трэба выконваць свае паслушэнствы, і пакуль я не завяршыў сваё прызначэнне або пакуль няма пераемніка для працягу маіх спраў, — я яшчэ буду жыць. А ў Ветхім Запавеце мы чытаем, што Бог неаднойчы ратаваў ізраільцян не за іх праведнасць, а дзеля Свайго імя, каб язычніцкія народы не сказалі: «Ізраільскі Бог не можа абараніць свой народ, а нашы багі — мацнейшыя». Таму хрысціяніна Бог можа берагчы не за асабістую праведнасць, а дзеля ўласнага імя, якое носіць і прапаведуе хрысціянін.

А цяпер пытанне на засыпку: што азначае верыць? Не ў сэнсе рэлігійнай веры, а веры як такой?

**2. На досведзе іншых.** Я мо і ўпершыню еду з гэтым шафёрам у маршрутцы, але я ніколі не чуў, каб слонімскія маршруткі траплялі ў сур'ёзныя аварыі ці «глохлі» на палове дарогі. Яны карыстаюцца папулярнасцю ўжо не першы год, і ў мяне няма падстаў не давяраць досведу пасажыраў, якія шмат разоў карысталіся паслугамі слонімскіх міжгародніх таксі.

Паездка ў Мінск — гэта толькі адзін з прыкладаў дзеянняў і ўчынкаў, якія здзяйсняюцца кожны дзень, заснаваныя на веры.

Асабіста я лічу, што нямала веры трэба праявіць, каб займацца фермерскай гаспадаркай. Бо ў XX стагоддзі хапала ахвотных калектывізаваць, сацыялізіраваць, экспрапрыіраваць, салідарызаваць або нацыяналізаваць прыватную гаспадарку. Памяць пра гэта адносна свежая. А раптам прыйдзе да ўлады чарговая партыя салідарыстаў і розных іншых аматараў «абшчын»? Аднак жа ёсць тыя, хто займаецца фермерствам, — у іх гэта атрымліваецца няблага, нягледзячы на падаткі і іншае.

А цяпер пытанне на засыпку: што азначае верыць? Не ў сэнсе рэлігійнай веры, а веры як такой?

Калі я задаваў гэта пытанне слухачам, звычайныя адказы сыходзіліся ў тым, што верыць — значыць быць перакананым у існаванні той ці іншай рэальнасці, даказаць якую аб'ектыўна, аднак, немагчыма.

Тады я задаю наступнае пытанне. Чым адрозніваецца вера ў жыццё на Марсе ад веры, што «фізмат — гэта маё»? Усё правільна. Было жыццё на Марсе ці не было яго там — пытанне, канечне, цікавае, але на маё жыццё ніяк не ўплывае. А вось вера ў тое, што быць фізікам — гэта маё прызванне, паўплывае на мае паводзіны і распарадак дня. На ўсё жыццё. Бо цяпер замест футбола ў мяне на першым месцы будзе падрыхтоўка да паступлення ў ВНУ. А там глядзіш — і прафесарам кафедры стану…

А калі я веру ў Бога — значыць я веру, што маё існаванне мае сэнс, што я адказны перад Ім за свае ўчынкі і нават унутраныя схільнасці, і што кожны крок у маім жыцці можа аказваць уплыў на якасць сустрэчы з Богам у Вечнасці. І значыць, я мяняю сваё жыццё ў адпаведнасці з засвоенай верай.

З гэтага прыгавору, мяркую, цяпер зразумела, што азначае верыць у Бога.

Значыцца, падсумуем.

1. Вера — гэта не проста прыняцце паведамленай інфармацыі, а рэакцыя на яе, жыццё ў адпаведнасці з адкрыццём. То бок, вера вызначаецца справамі і ўчынкамі.

2. Вера нараджаецца з асабістага досведу і/або з даверу да досведу іншых.

3. Вера можа падвяргацца выпрабаванням (крызісам), і для яе развіцця і ўмацавання мы часта маем патрэбу ў падтрымцы тых, хто ўжо мае досвед жыцця па веры. То бок, мы маем патрэбу ў калектыве аднаверцаў, якія ідуць у тым жа напрамку, што і мы.

Значыцца, рэлігійная вера — гэта рэакцыя на атрыманую вестку. Я не буду зіхацець ад радасці і абзвоньваць усіх знаёмых, калі мне нехта зараз паведаміць, што вынайдзены ўнікальны курс вывучэння мангольскай мовы. Ні я, ні мой асяродак з ёю ніяк не судакранаюцца.

А калі інфармацыя — пра Бога? Дакладней, пра Хрыста? Па-рознаму людзі рэагуюць. Нехта застаецца раўнадушным. Нават пропаведзь жывых сведак — апосталаў — кранала далёка не кожнага. А ў некім гэта ўнутры адгукнецца: «Для мяне гэта важна, я хачу, каб гэта было праўдай». Бо недзе ў глыбіні душы ягo ўжо жыла прага Вертыкалі. Выбар заўсёды застаецца, але затое ён цяпер, дзякуючы данесенай вестцы, ёсць. Чаму людзі па-рознаму прымаюць данесены да іх досвед веры — мы не ведаем. Гэта — тайна.

Як прыходзіць Добрая Вестка пра тое, што чалавек настолькі ўнікальны, што дзеля яго Сам Бог стаў чалавекам? Ад сведак (Новы Запавет, Айцы Царквы). Або — ад таго, хто цяпер сам жыве гэтай верай, і яна для яго ўтварае жывы досвед. Мне гэты досвед нечым адгукаецца, я давяраю яму, і нешта ў маёй свядомасці пачынае мяняцца. Пачынаюць мяняцца мае ўчынкі, мой лад жыцця. Іншымі словамі, я пачынаю жыць у згодзе з набытай верай — і дзякуючы гэтым унутраным зменам я сам раблюся гатовым да асабістай Сустрэчы з Аб'ектам маёй веры. І тады яна ператвараецца ў мой досвед. Досвед любові.

Нешта падобнае адбываецца пры стварэнні сям'і.

Як вы думаеце, хто перад вамі сядзіць? Святар Еўномій? Вы ў гэтым упэўнены? Вы можаце ведаць гэта дакладна? А раптам пад гэтай абалонкай хаваецца тэрмінатар — з другога фільма? У тым і справа, што, па сутнасці, вы мяне не бачыце. Я не магу бачыць чалавека ў яго сутнасці. Бо чалавек, складнік, які яго вызначае, — гэта асоба. А яна нябачная. Я бачу цела, колер валасоў і вачэй, адзенне. Па выбары адзення, якасці і зместу гаворкі, праз эмоцыі, якія выражаюцца інтанацыяй

А калі інфармацыя — пра Бога? Дакладней, пра Хрыста? Па-рознаму людзі рэагуюць. Нехта застаецца раўнадушным. Нават пропаведзь жывых сведак — апосталаў — кранала далёка не кожнага

Як вы думаеце, хто перад вамі сядзіць? Святар Еўномій? Вы ў гэтым упэўнены? Вы можаце ведаць гэта дакладна? А раптам пад гэтай абалонкай хаваецца тэрмінатар — з другога фільма?

голасу, па рухах і жэстах я магу вызначыць з нейкай доляй верагоднасці сацыяльны статус і адукацыйны цэнз, узровень культуры. Але калі я ўсё правільна вызначу — ці азначае гэта, што я буду ведаць гэтага чалавека як асобу?

Гэта ўсё важна зразумець, каб разабрацца, што значыць любіць іншага.

Будову чалавека можна ўявіць у выглядзе круга. У цэнтры яго будзе кропка — гэта асоба, «я» чалавека. Але яна ў цэнтры круга і таму не бачная знешне. Сам круг — гэта цела, адукацыя, характар, звычкі, адзенне, мова, міміка, паходка… Гэта тое, што бачна і паддаецца назіранням і вывучэнню. Любіць — гэта значыць рабіцца адным цэлым з асобай іншага чалавека. І тады два круга ператворацца ў адзін. Два ядры ў адным крузе. І, як выражэнне і падмацаванне гэтага адзінства, з'яўляецца блізкасць, паводле Пісання: «Будут двое в плоть едину». То бок, каханне — не столькі дадзенае (дадзеным можа быць закаханасць, сексуальная цяга), колькі зададзенае. Да шлюбу яно можа знаходзіцца толькі ў пачатку свайго развіцця, але расцвітае за гады сумеснага жыцця, праз усё болей глыбокае разуменне і адкрыццё іншага і перадоленне сябе ў штодзённым побыце. А спачатку была вера, што гэта сапраўды той чалавек, дзеля якога хочацца пераадольваць самога сябе — каб стаць з ім адным цэлым.

Любоў — вышэйшае дасягненне і выражэнне сталай веры. Калі любові не будзе — то або вера памрэ, або, з мэтай абароны ад сумненняў, што могуць яе разбурыць, чалавек ператворыцца ў фанатыка, які не церпіць вакол сябе іншадумства. Любоў ператварае веру ў досвед. Гэта любоў і рухала апосталамі і мучанікамі, якім не было патрэбы даказваць сапраўднасць сваёй веры — яны проста сведчылі пра сваю Сустрэчу. Яны не баяліся «выкрыцця» сваёй веры — бо яна сцвярджалася на тым, што вышэй за ўсялякія філасофскія, «навуковыя» доказы.

Але адсюль вынікае, што нельга прымусіць верыць — гэта тое самае, што прымусіць любіць. Нічога добрага такі «эксперымент» не дасць. Думаю, што калі іншага чалавека «прыперці да сценкі» аргументамі на карысць быцця Бога — нічога акрамя шкоды не будзе. Бо ён не верыў не таму, што адсутнічала інфармацыя, а таму, што не хацеў мяняць свой звыклы лад жыцця, іерархію каштоўнасцей, не хацеў выходзіць за межы свайго «панцыра». А мо не ўмеў і не хацеў вучыцца любіць і зямною любоўю — нават сям'ю, з'яўляючыся для сябе самога дастатковым індывідам. А мо ён увогуле сам сябе хацеў абагаўляць?

Ведаеце, у мяне адчуванне, што Ленін быў чалавекам веруючым, і нават больш, чым я. Ён не проста адмаўляў Бога. Хутчэй, ён баяўся, што Бог на самай справе ёсць, — і гэта нараджала ў дачыненні да Бога асабістую нянавісць. Адсюль і ўвесь гэты антырэлігійны тэрор — прапагандай і насіллем. Гэта была спроба знішчыць на зямлі любы напамін пра Бога. Ёсць такі анекдот.

Недзе ў 1930 гадах настаўніца, як і патрабавалася партыяй, правяла з класам антырэлігійны ўрок на тэму, што Бог — гэта прыдумка папоў і вера непісьменных бабулек. Дзеці пагаджаюцца, галовамі ківаюць: «Так, Марыя Іванаўна, мы ўсё зразумелі, хадзіць у царкву не будзем, слухаць малітвы нашых адсталых бабуль не будзем…» «Ну, дзеці, калі вы ўсё зразумелі, давайце замацуем урок і дружна ўзнімем да неба дулі.» Усе дзеці ўзнімаюць акрамя Вовачкі. Настаўніца пытаецца: «Вовачка, а ты чаму не паказваеш?» «Але ж, Марыя Іванаўна, калі Бога няма, то каму дулі паказваць?»

Так. Можна верыць — і ненавідзець, калі Бог — асабісты вораг. Той, каму паказваюць дулю і пагражаюць кулаком. Гэтаксама, як можна ведаць закон — і адмаўляць яго жыццём, бунтаваць. Таму — не варта, на маю думку, «прыпіраць да сценкі» «доказамі» веры — і зрабіць яе зместам свайго жыцця. Справа хрысціян — сведчыць, а не даказваць.

**Ала Майсяёнак**

# Першае месца

Сашок ішоў у школу па заснежанай сцежцы. Ён выйшаў з дому загадзя, але ўсё роўна так спяшаўся, быццам баяўся спазніцца, быццам нешта вельмі важнае магло адбыцца раптам без яго. Сёння ў іх урок фізкультуры. Фізрук Валерый Пятровіч папярэдзіў іх сёмы клас, што яны будуць здаваць бег на лыжах на дыстанцыю два кіламетры. Сама здача Сашка не трывожыла: ён някепска бегаў на лыжах, але…

Абапал сцежкі стаялі нерухома ў шэрані статныя бярозы, ды Сашок, здатны заўсёды падмячаць прыгажосць, думаў сёння аб сваім:

— Эх, як хочацца абысці гэтага задаваку Уладзіка!

Уладзік быў яго аднакласнікам, і жылі яны на адной вуліцы. Вельмі часта разам гулялі ў футбол. Але добрага сяброўства паміж імі не было. Уладзік заўсёды і ва ўсім хацеў быць лепшым, першым і, калі гэта ў яго атрымлівалася, што здаралася нярэдка, задзіраў свой канапаты нос так, што і вачэй відаць не было.

Сашок цэлы тыдзень нават трэніраваўся на ўласнай лыжні, замяраючы час па наручным гадзінніку.

Школа знаходзілася на канцы пасёлка, і лыжня, па якой хадзілі яны на ўроку, спачатку ішла праз поле, а потым закруглялася ў лес. Там яна спачатку бегла па рэдкім хмызняку з арэшнікам, а потым уваходзіла ў густы высокі ельнік, сцяна якога дзе-нідзе расступалася, каб адкрыць вачам іскрыстыя лясныя палянкі з маладымі елачкамі ды хвойкамі, якія патанулі гэтай зімой у снежных сумётах так, што ад некаторых заставаліся тырчаць адны толькі макушкі. Нарэшце лыжная траса выходзіла на край лесу, ідучы па якім, лыжнікі і вярталіся ў школу.

Гэта былі вельмі знаёмыя для Сашка мясціны. Летам ён часта сюды наведваўся з дзядулем у грыбы. Была ў яго тут і асабістая палянка — такая, на якой хлопчык любіў спыніцца проста так, каб павітацца з дрэвамі, як навучыў яго дзядуля, паслухаць іх жывую гаворку. Дрэвы тут былі асаблівыя (а можа, Сашку так здавалася): магутныя елкі абступалі палянку, з краю расла сямейка маладых бярозак, а пасярэдзіне — дуб. Вельмі незвычайны быў той дуб. Адзіны тоўсты ствол на вышыні раздвойваўся на два моцныя сукі, якія ішлі спачатку амаль роўна ўверх, а потым галінаваліся, ствараючы кожны самастойную крону, але кроны іх ядналіся і выглядалі здалёк, як адна. Сукі дуба вельмі нагадвалі Сашку рогі аленя. Хлопчык сам знайшоў аднойчы гэтае дзівоснае дрэва ў сваім лесе. Менавіта каля яго і любіў пастаяць проста так.

Сашок прыгадаў, як дома расказаў дзядулю пра Уладзіка-задаваку, пра тое, як хочацца яму, Сашку, абагнаць яго на лыжным кросе. Ён думаў, што знойдзе ў дзядулі спачуванне сваёй мары, але той на ўнукавы словы адрэагаваў нечакана — спачатку памаўчаў, а потым спытаў:

— Дык вы толькі ўдваіх з Уладзікам хочаце быць першымі? А можа, іншыя таксама хочуць? Ці хопіць на ўсіх першых месцаў?

Сашок не зусім зразумеў, пра што пытаўся дзядуля, і таму прапусціў тады ягоныя словы міма вушэй. Цяпер таксама толькі ўсміхнуўся ды пацiснуў плячыма. Ён не думаў пра іншых. З усіх аднакласнікаў на лыжні толькі адзін Уладзік быў для яго сур'ёзным сапернікам, якога хацелася перамагчы.

На уроку фізкультуры Санёк стартаваў у ліку першых. Уладзік выйшаў пазней. Лыжы ішлі па накатанай лыжні добра. Рухацца было лёгка. Сонца к чацвёртаму ўроку ўжо рашуча прыгравала. Заснежанае поле весела іскрылася. Амаль цэлы кіламетр трэба было бегчы па гэтай асляпляльнай белай роўнядзі. Далёка расцягнуўся па лыжні каляровы ланцужок з дзіцячых постацей, сярод якіх былі і Сашок, і Уладзік.

Весела было Сашку. Нічога яго не стрымлівала, нічога не перашкаджала ў руху да жаданай перамогі. Ён быў амаль упэўнены, што на гэты раз здолее паказаць лепшы вынік. Лепшы за ўсіх…

Хутка поле скончылася, і лыжня завярнула ў лес. Галінкі кустоў упрыгожвалі іглы іскрыстага інею, але Сашок толькі краем вока зачапіў гэтую прыгажосць, імкліва прабег міма. Лыжня ўваходзіла ў сапраўднае лясное царства, дзе яе з абодвух бакоў сцяной  абступалі магутныя елкі. Лес тут быў ужо адзіны гаспадар, і ўсюды панаваў яго царскі спакой. Сонца не паспела яшчэ пабываць у яловым гушчары. Густыя сінія цені, якія слаліся па замеценых снегам палянах і сцежках, берaглі марознае хараство ва ўсёй некранутасці. Сашок, які абышоў на лыжні ўжо многіх аднакласнікаў, крыху сцішыў бег. Ён з цікавасцю глядзеў то ў адзін бок, то ў другі, падымаючы вочы туды, дзе велічныя пасярэбраныя марозам макушкі дрэў упіраліся ў нябесную сінечу. Дзе-нідзе шчыльная сцяна елак і хвой радзела, і скрозь іх прасвечваліся ясныя залітыя сонцам палянкі. Хутка мільганула чыстай беллю і тая палянка, на якой стаяў даўні знаёмец Сашка — дуб-алень. Сашок, канешне ж, не стрымаўся, зірнуў у яе бок. Зараснікі маладых рослых хвоек мала што адкрывалі воку, але позірк Сашка выхапіў з гэтай суцэльнай карціны нешта такое, ад чаго ягонае сэрца аж зайшлося ў радасным захапленні. Яго дуб! Не, не увесь цалкам, а толькі нейкая частка яго магутнай кроны ў белым зіхаткім інеі высілася над калючым лясным зараснікам. Эх, як шкада, што нельга праз гэты зараснік убачыць дуб цалкам! Ніколі, ніколі не бачыў Сашок яго ў такой урачыстай зімовай прыгажосці.

Сонца прыгравала. З навакольных дрэў ужо пачалі асыпацца белыя іголачкі інею. Праз нейкія паўгадзіны нічога не застанецца ад усяго гэтага ранішняга марознага хараства. Сашок спатыкнуўся, зусім сцішыў хаду. «Цяпер ці ніколі!» — мільганула ў думках. У сцяне хвоек засвяціўся добры прагал. Хлопчык яшчэ нават нічога не рашыў, а яго нога ўжо скіравала лыжыну ў бок паляны. Сашок зусім сышоў з лыжні, пайшоў па прагале. За спінай на пакінутай ім лыжні прашаргацелі чыесьці лыжы. Хлопчык азірнуўся і злавіў здзіўлены прозірк Уладзіка, кінуты ў яго бок, — той праімчэў міма яго не спыніўшыся. Потым яшчэ нехта, яшчэ і яшчэ. Аднакласнікі імчалі міма Сашка па лыжні, а Сашок гэтага ўжо нават і не чуў, і не бачыў, таму што стаяў перад сваім дубам, не азіраючыся. Ён не думаў пра тое, як здзівіцца фізрук Валерый Пятровіч, калі будзе замяраць яго вынік на сваім секундамеры. Ён не думаў і пра Уладзіка з яго пераможнай, заўсёдна самазадаволенай усмешкай.

Дуб высіўся перад Сашком. Сапраўды, такога велічнага маўклівага хараства ён не бачыў яшчэ ніколі, а можа так здарыцца, больш і не ўбачыць. Зачараванымі шырока адкрытымі вачыма хлопчык глядзеў на дрэва, забыўшыся на ўсё астатняе, што было ў гэтым свеце. Цяпер, зімой, дуб яшчэ больш нагадваў аленя. Волат-алень быў адзіным гаспадаром на палянцы, а можа, і найпрыгажэйшым дрэвам ва ўсім лесе. Каржакаватыя сукі і галіны быццам пасылалі наваколлю іскрыстыя усмешкі. Ад ствала на бялюткі абрус паляны клаўся, шырачыся і разгаліноўваючыся, густы сіні цень.

З боку кустоў за спінай Сашка пачуўся раптам нейкі шолах, які адарваў яго ад чароўнага відовішча і прымусіў азірнуцца. Праз сумёты і заснежанае галлё, спатыкаючыся, пыхкаючы ад

Малюнак Алесі Жыткевіч

натугі, прабіраўся на паляну… Уладзік. Па снежнай цаліне, у якой танулі і блыталіся лыжы, ён наблізіўся да Сашка.

— Ты чаго? — зусім спакойна выгукнуў Уладзік, прыпыніўшыся побач, часта-часта дыхаючы. Яго погляд натыкнуўся раптам на дуб і застыў, не міргаючы. Больш ён нічога не гаварыў Сашку і ні пра што ў яго не пытаўся.

Хлопчыкі цяпер удваіх стаялі пад развесістым дубам з белымі галінамі ва ўрачыстым аняменні. Маленькія калючыя іскрынкі сыпаліся на твар. Нешта незвычайнае нараджалася ў гэты момант узаемнай цішыні ў іх душах, нейкая мяккая трапяткая хваля прайшлася па цяжкападатлівай нерушы хлапечай свядомасці.

Яны вярнуліся на лыжню, пабеглі, стараючыся, наколькі гэта цяпер было магчыма, навярстаць згублены час. Абодвум было вядома, што усе, нават самыя павольныя ў руху аднакласнікі ўжо здолелі іх абысці. Упершыню яны абодва нечакана для сябе аказаліся на бегавой сцежцы ў ліку апошніх. Ішлі амаль разам, не стараючыся абысці адзін аднаго: Уладзік — наперадзе, Сашок — на некалькі крокаў ззаду. Потым было тое, што і павінна было быць: трыумф таварышаў, непрыхаванае здзіўленне фізрука. Але тое, што адбылося з імі на лясной палянцы ля дуба, было больш важкім, больш каштоўным, чым усе гэтыя жыццёвыя дробязі. Нараджалася сяброўства, якое здолее хутка перарасці ў трывалую, моцную дружбу. І не перашкодзяць гэтаму больш ніякія недарэчныя акалічнасці.



